

Колькі спрыту, шчырай весялосці, заліхвацкасці ў кожным выступленні ансамбля песні і танца Беларускай ваеннай акругі. На гэты раз выконваўся салдацкі танец.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

## У НУМАРЫ




Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

**6 (100)**

Чэрвень.

1961.

Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск.

На вокладцы малюнак Ю. Архіпава **«Стаяць насмерць».**

Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8205. Цана 40 кап.

АТ 10035. Здадзена ў набор 28.IV.61 г. Падпісана да друку 31.V.61 г. Зак. 346.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



**Генадзь БУРАЎКІН**

# ПОЛАЦК. НАФТАБУД.

**Рэпартаж**

Я зноўку прыйшоў да цябе пакланіцца,
Мой даўні знаёмы,
мой кут незабыўны.
Твае беласнежныя камяніцы
Нямала вякоў
абмывалі ліўні.
Ты шмат расказаў бы мне,
друг старажытны,
Пра даўнія думы,
пра даўнія справы.
Але не аб гэтым прашу.
Раскажы ты
Пра новы свой лёс,
пра новую славу.
І ты
выдаеш мне
рабочую робу
І кажаш:
«Пабудзь на маім Нафтабудзе»,
І ты мяне садзіш у дрогкі аўтобус,
Дзе кураць,
смяюцца,
спрачаюцца людзі,
І — сосны мільгаюць
то злева,
то справа,

А побач
пра нафту хлопцы гавораць...
У заўтрашні дзень свой,
у новую славу
Вядзеш ты мяне,
старажытны мой горад...

## НА ПЯРЭДНІМ КРАІ

**Пярэдні край будаўнічых работ праходзіць цяпер каля былых фашысцкіх дотаў.**


ярэдні край...
Крык адзінокай сойкі,
Асколкі ў сэрцы кожнае сасны...
Тут ад крыві,
а не ад летняй спёкі
Чырвоны колер
у палян лясных.
І прывідны,
як даўні шлем тэўтонца,
Нязграбны,
як вялізны шэры крот.
Халоднымі байніцамі на сонца
Ашчэрыўся пакрыты плесняй дот.

Пярэдні край...
Тут на любой сцяжынцы
Збярэш свінцу і гільз дзесяткі тон.
Ды ад расплаты
не схаваў чужынца
Таўшчэзны, адшліфаваны бетон.

З карэннем экскаватар вырывае
Апошні след,
дзе быў фашыста бот.
Ідзе-гудзе азёрным, мірным краем,
Як кажуць тут,
шырокі фронт работ.

Пярэдні край
Не моўкне ўдзень і ўночы.
Глядзі і слухай,
абымшэлы дот,
Як сямігодка
пераможна крочыць,
Як зноў грыміць
Наш беларускі фронт...



## АПОШНЯЯ ПРЫКМЕТА СЛАБАДЫ


е хоча ён ніяк скарыцца студзеню,
Старэнькі адзінокі журавель,
Парыпвае над вымерзлаю студняю,
Матляецца у закруцці завей.

А ўсё бліжэй
ад елак зацярушаных
Кран падпаўзае
з пошумам вятроў.
І ён да крана цягне, цягне ўзрушана
Драўлянае счарнелае вядро.

Ён так хацеў бы даць яму напіцца,
Ды вымерзла і высахла вада.
Была калісьці у вядры вадзіца,
Была калісьці вёска Слабада.

І раптам
вёска,
нібы ў казцы,
знікла
І горад ззяе сотнямі агнёў.
І жураўлю старэнькаму нязвыкла,
Што на яго забыліся даўно.

І ён хацеў бы вельмі
ў звонкі ранак
Махнуць на ўсё —
на вецер і мароз,
Пайсці
і стаць паміж магутных кранаў,
Ды ён стары
і да зямлі прырос.
І хутка кран,
спакойны і вялікі,
Не цішачы упэўненай хады,
Зняце яго —
і назаўсёды знікне
Апошняя прыкмета Слабады.

## ДАРОГА КАЛЯ ЦЭЦ


аўно апрыклі шафёрам «дзівосы» —
Іх сёлета шмат прыпасла зіма, —
Не разбярэш,
дзе зіма, дзе восень.
Злуюцца хлопцы:
дарог няма.

Машыны
бензінам і маслам напоены,
Толькі б стралою на іх ляцець.
А тут,
уся у буграх, у выбоінах,
Змяёй
каляіна паўзе каля ЦЭЦ.
І вось
машына
знясіленым вязнем
Садзіцца, як кажуць, на ўсе масты
І ў каляіне размолатай гразне,
Падмяўшы пад колы
абочын кусты.

І калі трос пачынае лопацца
І валіць дым з выхлапной трубы,
Тады
скідаюць ватоўкі хлопцы,
Шапкамі выціраюць ілбы.

І падстаўляюць шырокія плечы,
Выносяць з гразі запацелы «ЗІЛ»,
Жартуюць:
— Без нашых сіл чалавечых
Не справіцца
тысячам конскіх сіл...

## САЛДАЦКАЯ СЛАВА

**Прысвячаецца брыгадзе камуніста Віктара Іванова, якая складаецца з былых выдатнікаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі і паказала небывалыя тэмпы, капаючы катлаван.**

У спісах пастаўлены даты,
Баян развітанне пяе.
Ідуць у запас салдаты,
Здаюць аўтаматы свае.

Іх заўтра вагон загушкае.
І ў першы цывільны дзень
Прысніцца дарога,
якая
У новую даль павядзе.

За вокнамі—
сосны і рэкі,
Дымка паравознага жмут.
На стыках сталёвыя рэйкі
Звіняць:
— Нафтабуд, Нафтабуд!..



Ім потым
уручаць рыдлёўкі —
А ну, паспявай нагружаць!..
Ад жвіру,
ад гліны глёўкай
З рыдлёвак сатрэцца іржа.
Па твары
пот ліпкі размазан,
У роце язык перасох.
І сыплецца ў дужыя «МАЗы»
Цяжкі,
з камянямі,
пясок.
Пад вечар
мазоль крывавы
Апаліць далоні ім...
Нялёгка салдацкая слава
Даецца салдатам былым.

## ЗЯМЛІ І НЯБЁС ДРУЖБАК

**Зваршчыку-верхалазу Ваграну Аляк'яну.**


растуджаны вецер галёкае,
Павекі мароз заімгліў...
— Ну, як там планеты далёкія?—
Пытаюцца хлопцы з зямлі.

А неба тут гэткае блізкае,
Хоць хмаркі рукой падгані.
Здаецца —
вось-вось
жвавай пліскаю
Мільгне спадарожнік зямны.

І ўспыхнуць вясёлкі адразу,
І Млечнага Шляху рака
Заззяе ля ног верхалаза —
Зямлі і нябёс дружбака.

Агонь
залацістымі пырскамі
Прывычна ляціць з-пад рукі.
Між воблачкаў
свецяцца прысакам
Ад зваркі яго светлякі.

Ён сыпле іх поўнаю жменяю
І верыць,
што ў цёплай начы
Засвецяць яны над Арменіяй,
Прывет ад Дзвіны несучы.

## НАФТАБУДАЎЦЫ СЛУХАЮЦЬ ШАХМАТНЫ ВЫПУСК «АПОШНІХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ»



Парыпваюць старыя елкі глуха,
Ля вокан ходзіць вецер баравы.
А інтэрнат стамлёны
прагна слухае
Сіняўскага з аснежанай Масквы.

Дым папяросны плавае пад столлю,
Гудуць хлапцы,
як летнія чмялі.
Стаяць паважна шахматы на століках,
Пад пільнай вартай пешак —
каралі.

Гросмайстарам заслужаным падказваюць
З цяжкіх цэйтнотаў самы хітры лаз
Балельшчык Петрасяна дужы мазавец
І друг Смыслова — ціхі верхалаз.

Іх дзень уходаў слотаю і працаю.
І заўтра
ляжа ўсё на плечы зноў.
Паспаць бы ім...
ды не —
цяжкімі пальцамі
Перастаўляюць коней і сланоў...

## СУБОТА Ў МАГАЗІНЕ



Яны прыбягаюць
проста з работы.
І дзівішся:
гэтак поўка
Сядзяць на дзяўчатах
кірзовыя боты
І просценькія спяцоўкі.
Ім хусткі ў гарошынку
вельмі да твару...
Ды сёння гурбой гаманлівай
Яны падлятаюць
да іншых тавараў —
Дзе яркіх шаўкоў пералівы

І стойваюць каля прылаўка дыханне.
І хочацца кожнай
абновы,
Каб выйсці да любага на спатканне
Прыгожай,
як ранак вясновы.

Ім хочацца,
каб у кругу карагодным
У кожнай радасна тупалі
Самыя новыя,
самыя модныя
На тонкім абцасіку
туфлі.

Яны заслужылі нялёгкаю працай
Вясёлую радасць нядзелі,
Каб самыя лепшыя хлопцы на танцах
На іх
з захапленнем
глядзелі.

## ПЕРШЫЯ З ДЫНАСТЫІ



Пад вечар у дзетсадзе —
дзверы насцеж.
І сыплецца да стомленых бацькоў
Крыклівая,
шчаслівая дынастыя
Мурзатых палачан-нафтавікоў.

І на двары з бацькамі разам тоўпіцца,
У рукавы ім тулячы насы...
Бялявая дзяўчынка —
у літоўца,
У армяніна—
чарнавокі сын.

У іх
ад снежак рукавічкі вымаклі,
Заледзянелі пальцы ад вятроў —
І грэюць ручкі
будучыя хімікі
У далонях маляроў і цесляроў.

Яны яшчэ не ведаюць,
віхрастыя,
Прывыклыя да лялек і свісткоў,
Што імі
пачынаецца дынастыя
Патомных палачан-нафтавікоў.

* * *



І вось я прыйшоў да цябе развітацца,
Мой кут незабыўны,
мой горад прыветны.
Наперадзе —
сотні раз'ездаў і станцый,
І новыя далі,
і новыя ветры.

Хай будзе мне лёгка,
хай цяжка мне будзе—
Ты ўсюды са мною,
мой даўні знаёмы.
Не,
я не гасціў на тваім «Нафтабудзе»,
Я быў там, як дома,
я жыў там, як дома.
Мажліва,
не так разабраўся у чым я
Або не заўважыў цікавую дробязь.
А ўсё ж
я пабачыў сваімі вачыма,
Як заўтрашні дзень наш
сучаснікі робяць,
Як ён узыходзіць над сонечным краем,
Расце
у працоўным
размераным гудзе...
А тым,
хто не верыць на слова,
я раю—
Пабудзьце у Полацку,
на Нафтабудзе...



Амаль не знойдзецца такога кутка ў нашай рэспубліцы, дзе б не пабываў я. Цудоўныя краявіды, хараство нашага жыцця заўсёды натхнялі мяне, давалі мне вобразы для нарысаў, паэм і вершаў. Творчая праца, подзвігі нашых сучаснікаў — вось мае асноўныя тэмы, крыніцы, з якіх чэрпаецца паэзія.

Салаўіны посвіст, птушыны звон напаўняюць лес і ўтульны светлы Дом творчасці імя Якуба Коласа ў Каралішчавічах. Тут вельмі добра працуецца. Тут, у асноўным, і напісана мною новая кніга паэзіі «Вясёлка над полем», якая выйшла нядаўна ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. У гэты зборнік увайшлі лірычныя вершы, паэма «Слова пра вернага друга» і вершаваныя фельетоны. Нядаўна я напісаў новыя вершы, якія і прапаную чытачам «Маладосці».

**Антон БЯЛЕВІЧ.**

**Антон БЯЛЕВІЧ**

# РАЗМОВА З БУСЛАМ


ерасекшы ў шляху рубяжы,
Прыляцеў ён у край у свой мілы.
Ты мне, бусел цыбаты, скажы,
Як жылося табе каля Ніла?

І клякоча, і клёкатам ён
Перадаць хоча ўсё да драбніцы:
Праляцеў многа міль, многа дзён,
Покі выбраўся з той заграніцы.

Бачыў шчодрасць палёў і лугоў
І алжырцаў бядоты, нягоды.
А ці бачыў, бацян, з ланцугоў
Ды з калючых дратоў загароды?

Хто за дротам пад спёкай нябёс,
Хто звініць і грыміць ланцугамі?
Ад чыіх напаўняецца слёз
Ніл шырокі, глыбокі вякамі?

І чаму горкім потам палёў,
Папялішчамі, дымам прапах ты?
А ці бачыў, бацян, каралёў
Цукру белага, чорнае нафты?

Гэта ў пекла загналі яны
Бедакоў-гарамык чарнаскурых.
Выкрасаюць яны перуны,
Раздзімаюць вялікія буры.

А ваенны галоўны іх бог —
Д'ябал жоўты струхлелага свету.
Бусел добры, скажы, а ці змог
Разглядзець, разгадаць усё гэта?

Ну, не змог — дык не змог.
Памаўчы.
Міжнароднік з цябе слабаваты.
Сам я ведаю добра, цыбаты:
Там рабы ланцугі на мячы
Перакоўваюць сёння заўзята.

Размятаючы хмары тугі,
Пазіраюць на нашу дзяржаву.
І калышуць, калышуць сцягі
Іх паход у свабоду і славу.

І мільёны парэпаных ног
Крочаць: пыл запыліў небасхілы.
Пралятаючы Афрыку, мог
Сам убачыць усё, чарнакрылы.

Не падкован палітыкай ты,
Міжнароднік з цябе слабаваты.
Чуеш, бусел: ідзе залаты
Лёс у Афрыкі бедныя хаты.

А з буслянкі клякоча мне ён.
Разумею яго, добра чую:
Пралятаў многа міль, многа дзён
На радзіму сваю дарагую.

І хістаўся на дужых вятрах,
Бляскам вочы маланка сляпіла.
У снягах, у халодных дажджах
Слаблі крылы, ягоная сіла.

Ды ўздымалася ў сэрцы любоў
Да бацькоўскага роднага краю.
Прыляцець бы да чорных дубоў,
Прыляцець бы да белага гаю...

А там — вёска. Старая сасна
На пясчаным узгорку, ля школы.
Далятае: — Дзень добры, вясна! —
Ды з буслянкі глядзіць навакола.

А па вуліцы дзеці бягом:
— Прыляцеў?
— Прыляцеў!
— Прывітанне!..
І птушынае сэрца яго
Ажно рвецца на тое спатканне.

Да вясёлай прывык дзетвары.
Ён іх ведае хаты, двары,
Каля вокан чарэшні, бярозкі.
Многа дум перадумаў стары
На чужыне пра гэтую вёску.



Тут з яйца прабіваўся і рос,
І да вёскі любоў сваю нёс
Ён у выраў, прыносіў вясною.
І навекі звязаў ціхі лёс
З добрай вёскай, старою сасною.

І маланкі, і ўсе перуны
Зноў узяць бы гатовы на крылы,
Каб у шолаху, гуле вясны
Край убачыць свой родны і мілы!

## НА ТАКАВІШЧЫ

омню: выбягаў я з хаты ўранку
Пагуляць на ўзлессе — за гумно.
Абступаў сасняк глухі палянку,
Пачарнелі пні на ёй даўно.

Зарасла ядлоўцам лесасека,
Ельнічкам густым. Пад ім лядок.
Там стаяў я доўга, недарэка,
Пад імжой туманнай доўга мок.

Я стаяў і слухаў: што грукоча?
Можа, ў бубны б'е свае вясна?
Мо' пад ельнічкам зялёным хоча
Лёд той раскалоць, разбіць яна?

Расхінаў калючыя галіны,
Не шкадуючы азяблых рук.
Я спыніў дыханне на хвіліну:
На калодзе чорнай цецярук!

Ходзіць па калодзе пад бярозкай,
У зацішку елачак, ляшчын.
А на шыі радугі палоска,
Над брывамі колер журавін.

Зухавата, весела такуе,
Выпінае грудку напаказ.
А за ім з арэшніку цікуе
Шэрая цяцёрка ў ранні час.

Толькі, сарамлівая, не хоча
Паказацца з кусціка яна.
Ён грыміць, балбоча ды грукоча,
Нібы ў бубны б'е сама вясна.

Вылятае звон з таго зацішку,
Уплятаецца ў сасновы шум.
А яго не радуюць ні шышкі,
Ні бярозаў цвёрдыя пупышкі, —
На птушыным сэрцы нейкі сум.

Спеў то раптам змоўкне, то пальецца,
То ў ім жальба, то вясны агонь.
І ў цяцеркі шэрай сэрца б'ецца:
Падляцела ціха да яго.

Падляцела. Села.
— Квох. Ну, годзе
Бушаваць, кранаць душу маю... —
Нездарма грымеў той на калодзе:
Ён знайшоў вясну, любоў сваю.

А вясна, здаецца, ў бубны біла, —
То грымеў ад песень кут лясны.
Зразумеў тады: ў каханні сіла,
Хараство знайду маёй вясны!

# ЯНЫ Ў СЭРЦЫ МАІМ



Гай дубовы пад дажджамі,
Быццам бы заплаканы,
Пачарнелымі сукамі,
Шурпатымі лапамі
Ў неба радугу ўздымае
Многакаляровую
Ды вясёлка абвівае
Галаву дубовую.

Глянулі бярозкі:—Дзіва!
Велікан у золаце!..
А ён важны і маўклівы,
Хмурнасць у тым волаце.

А бярэзнік аж бушуе:
Лісцічак да лісцічка.
Гай насупіўся: — Прашу я,
Супакойся, выскачка!

Перавабіў, беластволы,
Парачкі шпаковыя.
А я лысы, а я голы,
Стрэць іх не гатовы я.

Ты прывабіў, беластволы,
Птушак зелянінаю.
А як грымну навакола
Песняй салаўінаю, —
Дык ажно развесіш вушы,



Сэрца развяселіцца,
Ды з чарэмшыны і грушы
Цёплая мяцеліца
Па траве пасцелецца.

Салаўя свайго чакаю
З песняй-весялухаю.
Зелянею, расцвітаю,
Як яго паслухаю.

Расчыню шырока дзверы
Салаўю любімаму.
А сарокам я не веру,
Піску вераб'інаму...

Я ішоў у дзень вясновы
Паміж гаю голага.
Так і я прыняць гатовы
Ў сэрца, што мне дорага.

У ім тая, што кахаю,
Што мне лёсам дадзена.
І даўно вясне і маю
Сцежка ў ім пракладзена.



Юрась **СВІРКА**

## Я З ПАЛАТЫ ПАЧЫНАЎ ДАРОГУ

Рэзалі, калолі і ламалі,
Сіні шрам застаўся на плячы,
Мне жыццё у смерці вырывалі
Добрыя грузінскія ўрачы.

Я з палаты пачынаў дарогу
(Так хацеў на гэтым свеце жыць).
І сястра-грузінка,
Як малога,
Навучыла зноў мяне хадзіць.

Я папаў у Грузію не госцем,
Хоць цягнулі горныя хрыбты.
Цэлы месяц мне сціскалі косці
Мулкія бальнічныя бінты.

«Нібы мёртвы: болю ён не чуе», —
Чуў ад урачоў я і сясцёр.
А магчыма вытрымку такую
Я пазычыў у грузінскіх гор.

А было, што ступіш крок
І — цёмна,
Вочы забінтоўвала імгла...
Беларусь мая дала жыццё мне,
Грузія ад смерці зберагла.



Не віні мяне ты, край азёрны
(Я з табой і ў радасць і ў бяду),
Што не раз яшчэ краіне горнай
Песню сваю простую складу.

## САСНЯКІ МЯНЕ НЕ ПАЗНАЮЦЬ

З кожным днём раблюся я чужы
Кветкам палявым, лугам і росам.
Ад таго, што доўга там не жыў,
Ад таго, што не хаджу там босы.

Рэдка выпадае пагасціць.
Нават не паспееш часу выбраць
Выйсці муражныя пакасіць,
Пасачыць, як рыба б'ецца з выдрай.

Сасніякі мяне не пазнаюць,
Што пайшлі пасля вайны угору.
Перад імі я адзін стаю
І не знаю, што яны гавораць.

Падышоў да сосен баравых,
Што ў вайну нам аддавалі шаты.
Каб не трывожыць думак векавых —
Ціха за кару рукой пакратаў.

Сыпанулі залатых іглiц,
А парады я ад іх не чую.
Шапкамі нябёсы паднялі
І пясок карэннем паласуюць.

А сасняк паціснуўся ў лагі,
Адазваўся мне далёкім гудам.
Мусіць ён падумаў:
Лепш другі
Пра яго пазней раскажа людзям.

## У БЛАКІЦЕ ЖАЎРУК

Прылятае ён першы
З далёкага выраю.
Але людзі гавораць,
Што гэта не так:
Ён у норцы зімуе,
Што крот яму выры́е,
І жыве у крата, як вясёлы дружбак.

Не прасохла зямля,
Толькі зверху распарана.
У кустах і лагчынах
Залежаўся снег,
А жаўрук, як распяты,
Павіс над папарамі.
Толькі што перадаў сваю песню вясне.

У блакіце жаўрук.
Ён зрабіўся там гузічкам
І не бачыць узмежкаў
Ды крушань сівых.
Мне здаецца, што ён
Разаб'ецца на друзачкі,
Застанецца глухою блакітная высь.

Абарвалася песня,
Бы сонцам падпалена.
І не хоча ў высокім блакіце звінець.
Ён за новаю песняй
Ляціць на праталіны,
Бо не можа без песні
Да сонца ляцець.

## СЛАНЕЧНІК



Зямлі прысніўся дзіўны сон —
І не знайсці спакою:
Сланечнік — жоўты маладзён—
Схіляецца над ёю.

Зямля прачнулася,
Маўчыць:
Узрушана бясконца —
Такі малы і ўжо крычыць,
Што ён дастане сонца.

Дае зямля пажытак свой —
Няхай расце высокі,
Карэнне гладзіла рукой,
Паіла лепшым сокам.

І чуе раніцай —
Здаля
Сланечнік кажа бэзу:
—Навошта мне цяпер зямля,
Я сам да сонца ўзлезу.

Далёка сонца.
А палі
Ужо абходзіць восень.
І тут сланечнік у зямлі
Ізноў падтрымкі просіць...

Яго карэнні не жывуць:
Заціснуты травою.
І ён,
Схіліўшы галаву,
Стаіць па-над зямлёю.





**Язэп ПУШЧА**

## ЖЫТНІ КОЛАС



Гэтым летам, а не колісь,
Рос і вырас жытні колас
На радзімай ніве вольнай,
На шырокай, на раздольнай.

Красаваў і наліваўся,
Над зямлёю нахіляўся.
Сокамі зямля паіла,
І брадзіла ў зернях сіла.

Ядраны, цяжкі, як з бронзы,
Загарэў, прыкрыў барозны.
Не было такіх ніколі
На ўраджайным нашым полі.

Не было й нідзе на свеце,
Толькі ў нас у гэтым леце.
Дзіву дзівімся ды й годзе, —
Хай штогод так нівы родзяць.

І на яве, а не ў казцы.
Яшчэ казку трэба скласці
І расказваць на ўвесь голас
Пра цудоўны жытні колас.

Сонца грэе, колас спее,
Пошум жытні ў летнім спеве.
Каласіста-шумнай ніве
Нізка кланяецца жнівень.

Цешыць поле залатое.
Дзякуй, роднае, за тое,
Што ўрадзіла гэтак шчодра.
З хлебам жыць на свеце добра.

Праца сіл усіх не вып'е.
Колас зерня не асыпле.
Ураджай, як наша шчасце,
Дзень жніва яго пачаўся.

Не з сярпамі ў полі жнеі,
Не ў снапы кладуцца жмені,
А вядуць у наступ слаўны
Маладыя камбайнёркі
Самаходныя камбайны
Цераз долы і узгоркі.

І плывуць па жытнім моры,
Як мелодыі у хоры,
Ў залацiста-жытняй далі
Акунаюцца у хвалі.

Сыпле ураджай багаты
Залатым дажджом зярняты,
І шумяць імклівай рэчкай,
Гаварлівай, добрай спрэчкай.

Родны колас што ёсць сілы
Жалі, жалі, малацілі
І сабралі яго зерне
Дачыста ўсё на насенне.

## РАНА СОНЕЙКА УСТАЛА



Рана сонейка устала
  З песняю у сэрцы.
Каля млына, каля става,
  Ўмылася ў рэчцы

І пайшло на поплаў росны
  Часам раннім гэтым,
Села там яно за кросны
  Не з вясной, а з летам.

Тчэ квяцістыя абрусы,
  Сінія азёры,
Тчэ дзяўчатам Беларусі
  Дзіўныя узоры:

Паясы, што наша доля,
  Дываны ў гарошкі,
Засцілае імі долы,
  Сцежкі і дарожкі.

Чабарок, што тыя зоркі,
  Ў шумнай сенажаці,
Ім засланы ўсе узгоркі,
  Як сталы у хаце.



І спяваюць хорам птушкі
  У надрэчным гаі;
Славяць птушкі і пастушкі
  Лета ў родным краі.

Праплываюць шпарка хмаркі,
  Рэчку абмінаюць,
А на поплаве даяркі
  Сонца абнімаюць.

Весялух, ахвотніц любых,
  Прытуляе сонца
І цалуе ў шчокі, губы
  Гарачэй за хлопцаў.

Зарыкалі ўжо красулі
  Каля лозаў ніцых.
Не да песень, не да гуляў,
  А даі ў дайніцы.

Малако цурком ліецца,
  Пахне сырадоем.
У гарачых сэрцах б'ецца
  Шчасце маладое.

## МУЗЫКА ВЯСНЫ



Сваю красу вясна
У сонца узяла...
Адвеяла яна
Насенне ад зяла

І залатым такім
Насыпала сяўню,
І засявае ім
Сагрэтую зямлю.

Вясенні дождж зярнят
Гусцей мядовых рос.
Ў сяўбе і спор і лад,
І зарунее скрозь.

У сонечнай сяўні
Вясёлка скарб нясе,
І веснавыя дні
Ва ўсёй зямной красе.

У лузе, над ракой,
Дзень з песняю ідзе.
Я музыкі такой
Не чуў яшчэ нідзе.

Не мары, і не сны,
І не зялёны шум,
А музыка вясны
Нахлынула ў душу.



Рыгор НАБАТАЎ

# МОЙ СЯБРА ЛЮСЬЕН

## Аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага

Аднойчы супрацоўнікі па інстытуту, дзе я працую, папрасілі мяне падзяліцца ўспамінамі пра дзеянні савецкіх партызан у Францыі. Усе ведалі, што ў час другой сусветнай вайны я ўцёк з гітлераўскага палону і ўдзельнічаў у руху Супраціўлення.

Спачатку я быў радавым байцом, потым мяне паставілі на чале атрада, а ў жніўні 1944 года прызначылі камандзірам батальёна 1-га Савецкага партызанскага палка ў Францыі.

Каб сустрэча з маімі калегамі прайшла цікава, я парашыў перагарнуць старонкі дзённіка, які вёў у тыя гады. Старонка за старонкай, і ў маім уяўленні ўзнікалі краявіды паўднёвай Францыі: горныя хрыбты-волаты, магутныя лясы на схілах, імклівыя рэкі і бурныя вадаспады, прасторныя даліны ў садах і вінаградніках.

Кожны паспешлівы, няроўны запіс у дзённіку абуджаў успаміны пра баі, якія вялі мы тут разам з французскімі партызанамі супраць агульнага ворага — фашыстаў. Зноў ажывалі справы даўно мінулых дзён, прыходзілі на памяць імёны таварышаў, сяброў, іх бясстрашныя подзвігі.

У мяне ў альбоме былі фотаздымкі тых год, і сярод іх — адзін, асабліва дарагі мне. На ім сфатаграфаван парад нашага палка ў Німе, які быў наладжан у гонар 27-й гадавіны Савецкай Арміі. Побач

са мной, горда ўзняўшы галаву, крочыць французскі хлопчык у сінім берэце з чырвонай зорачкай.

Я глядзеў на паблеклы фотаздымак, дзе ўсе твары здаваліся цяпер падобнымі, і стараўся найлепш уявіць сабе аблічча хлопчыка. На гімнасцёрцы ў яго цьмяна свяціліся медныя гузікі, і я прыгадаў, як цяжка было нам падагнаць пад яго дзіцячы ўзрост параднае абмундзіраванне. А нам жа вельмі хацелася, каб юны партызан меў сапраўдны воінскі выгляд.

І вось ён, апрануты ў форму савецкага салдата, маршыруе побач са мной па галоўнай плошчы Німа — задаволены, з радаснай усмешкай.

Гэта — Люсьен, мой сувязны.

## 1. МАЦІ І СЫН

*«...29 красавіка 1944 года. Учора прыходзіла Жанета. Яна была не адна, а з хлопчыкам».*

*Запіс у дзённіку.*

1

У тую ноч я не спаў. Усё чакаў, калі з'явяцца разведчыкі, пасланыя на поўдзень, у гарадок Алес.

Яны вярнуліся на світанні — стомленыя горным пераходам і раззлаваныя. Прабрацца ў Алес не ўдалося. Непадалёку ад гарадской заставы партызаны натыкнуліся на дазоры — ледзь вынеслі ногі.

Я высветліў самае істотнае з іх паходу і адпусціў адпачываць. Ды і сам парашыў прылегчы на якую гадзінку ці дзве. Каб хутчэй заснуць, я нацягнуў коўдру на галаву. І толькі задрамаў, як пачуў ля самага вуха такі нясмелы, варкатлівы шэпт:

— Таварыш капітан... Таварыш капітан...

Прытварыўся, што сплю. Хтосьці лёгенька пакратаў мяне за плячо.

— Таварыш капітан... Таварыш...

— Хто гэта? Што там такое? — злосна запытаў я, бо здалося, што гэта хто-небудзь з разведчыкаў.

— Таварыш капітан,— голас гучаў усё больш настойліва.— На заставе затрымалі жанчыну з хлопчыкам. Да вас прыйшлі...

«Мусіць, Жанета»,— сцяміў я нарэшце. Сон развеяўся, нібы ён і не прыходзіў.

Затрыманых прывялі да мяне.

Сапраўды, гэта была Жанета — сувязная дэпартаменцкага камітэта Супраціўлення. Час ад часу яна наведвалася ў атрад, але заўсёды адна. На гэты раз прыйшла чамусьці з хлопчыкам.

— Сядайце, Жанета! — прапанаваў я французжанцы так, як прапануюць старой знаёмай.— А гэта хто? — кінуў вачыма на хлопчыка.

Жанета ўставілася на мяне шэрымі, з залацінкай вачыма. З іх праменілася мяккая ўсмешка.

— Хіба мы не падобныя?

Я глянуў на поўны, дабрадушны твар жанчыны, на яе тонкі, з невялічкай гарбацінкай нос, на белую пасму ў чорных, як смоль, валасах. Потым пагледзеў на хлопчыка.

У яго твар — худы, завостраны, валасы цёмна-каштанавыя, завіваюцца. А вочы — таксама шэрыя, з залацінкай, як і ў жанчыны. І губы такія ж, пухлыя. І нос таксама тонкі, з гарбацінкай.

Ён выдаваў яшчэ зусім дзіцем — вузкаплечы, з тоненькімі, што тыя кіёчкі, ручкамі і ножкамі. Колькі ж яму год? Дванаццаць, трынаццаць...





Вялікі ў зморшчынах лоб, задумлівы, не па-дзіцячаму сур'ёзны твар рабілі хлопчыка больш дарослым, і яму можна было даць, бадай, усе пятнаццаць.

Вочы з-пад доўгіх веек пазіралі журботна, нават са смуткам. Так глядзіць чалавек, што перажыў нейкае бязмежнае гора і не можа забыцца на той боль, які адчуў некалі.

Можа б я яшчэ нямаведама колькі разглядаў іх абоіх, але прыемным, мяккім, што той аксаміт, голасам Жанета растлумачыла:

— Гэта мой сын... Знаёмцеся! Люсьен, павітайся ж з капітанам.

Хлопчык стаў навыцяжку і моўчкі кіўнуў галавой.

— Што новага? — запытаў я ў сувязной, здагадваючыся, што яна прыйшла па нейкай важнай справе.

Жанета адкінула з твару пасмачку чорных валасоў і павяла вачыма на партызана, які прывёў яе ў штаб, даючы зразумець, што хоча гаварыць са мной з вока на вока.

Калі партызан выйшаў, сувязная паведаміла:

— Дэпартаменцкі камітэт парашыў наладзіць уцёкі ваеннапалонных у макі *.

Каму-каму, а мне было добра вядома, як цяжка савецкім людзям вырвацца з палону. Мала каму ўдавалася ўцячы адтуль аднаму. Іншая справа — арганізавана. Тут шанцы на поспех былі куды большыя.

— Што трэба ад нас? — пацікавіўся я, гатовы пачаць дзейнічаць адразу.

— Сустрэць уцекачоў і па-бацькоўску прыняць іх у сваю сям'ю.

— І гэта ўсё?

Задача, на першы погляд, здалася мне не такой ужо складанай. Але Жанета нібы чытала мае думкі.

— Не, не ўсё, капітан,— адказала яна.— Трэба яшчэ вылучыць на дапамогу Люсьену двух чалавек. Мой сын — толькі адзін з тых, каму даручана арганізаваць уцёкі практычна. Вашы байцы будуць дастаўляць яго данясенні. Ці магу я паведаміць камітэту, хто з ім пойдзе?

Я не спяшаўся адказваць, бо справа задумана сур'ёзная і, перш чым прызначыць памочнікаў Люсьена, варта было параіцца з камісарам.

Сувязная не падганяла мяне з адказам.

— Што ж, калі нельга адразу назваць гэтых таварышаў,— спакойна сказала яна, — дык Люсьен пачакае ў вас які дзянёк. Я думаю, хлопчык толькі рады будзе.

Яна, як відаць, заўважыла мой недаверлівы позірк, скіраваны на яе сына, і дадала:

— Люсьен — не малы. Ён франціpэр **. У яго на рахунку трое бо-

* «Уцёкі ў макі» азначала для французскіх патрыётаў — падацца ў лес, да партызан.

** Францірэр — вольны стралок. Так называліся байцы руху Супраціўлення.

шаў... А ў франціртэраў такі закон: калі ўмееш знішчаць бошаў — значыць, паўналетні... годны.

Жанчына сказала гэта з гонарам. І я разумеў яе, бо ў мяне самога былі дзеці.

Сувязная не часта бывала ў атрадзе. Але з кожным разам усё большала мая павага да францужанкі. Мне казалі, што нядаўна гестапаўцы забілі яе мужа. А яна прыйшла да нас з адзіным сынам, каб паслаць яго на небяспечнае заданне.

«Якую сілу волі трэба мець,— падумаў я,— каб так трымацца перад незнаёмымі і здолець утаіць ад іх хваляванне матчынага сэрца».

Размова аб справе закончылася, і Жанета спытала ў сына:

— Ты хочаш, мой хлопчык, застацца тут?

— Яшчэ пытаеш...

Сувязная павярнулася да мяне.

— Я збіралася, капітан, да вас адна і зусім не думала браць Люсьена, бо ў яго і ў горадзе хапае спраў... Але раптам мы пачулі па радыё з Масквы залпы салюта героям, якія вызвалілі Адэсу. Вы глянулі б, што рабілася з маім сынам! Ён радаваўся так, нібы вызвалілі ад бошаў родны Марсэль. «Памятаеш, мамачка,— казаў ён мне,— гэта з Адэсы прыходзілі да нас вялікія караблі...» І пачаў прасіцца: «Вазьмі мяне з сабой да рускіх!»

Люсьен уважліва выслухаў матчын расказ, потым хуценька расшпіліў верхнія гузікі вузенькай куртачкі, перашытай з бушлата, і паказаў мне якарчык, што вісеў у яго на грудзях.

— Падарунак рускага матроса,— з гонарам сказаў хлопчык.

Пасля таго, як мы ўдакладнілі з сувязной некаторыя дэталі задання, яна паднялася і пачала развітвацца. Жанета хацела пацалаваць сына, але той ухіліўся ад матчынай ласкі, каб падкрэсліць, што ён і сапраўды не малы. Як ні стрымліваў сябе хлопец, на твары відно было хваляванне, смутак. Па шчоках паплылі слязінкі, якія ён хуценька змахнуў далонню.

А маці, кіўнуўшы галавой, гэтак жа хуценька пайшла,— можа, каб схаваць ад мяне свае слёзы.

## 2

Увечары вярнуўся Раймон Жэрар — камісар нашага атрада. Ён хадзіў у горад Ізэс, каб наладзіць сувязь з мясцовымі франціртэрамі.

Я расказаў Жэрару пра сваю гутарку з сувязной, а ён слухаў мяне, не вымаючы люлькі з рота. Гэта азначала, што Жэрар думаў пра нешта сваё. Я ведаў, што ў такім выпадку лепш не чапаць яго — усё роўна ад камісара нічога не даб'ешся. Але на гэты раз Жэрар усё ж адазваўся і даволі хутка.

— Маладзец Луі! — пачуўся яго нізкі, хрыплаваты голас. — Здорава прыдумаў, сапраўды. Кацялок варыць...

Жэрар гаварыў пра свайго сябра, камуніста Луі Рабера, які ўзначаліў камітэт Супраціўлення ў дэпартаменце Лазар.

Камісар зацягнуўся некалькі разоў і прадаўжаў:

— А паслаць з хлопчыкам рэкамендую Балоніна і Вартанава. Чаму? — Ён узняў угару загарэлы твар. На правай шчацэ барвянеў шрам ад кулі.— Гэтыя хлопцы ўжо не раз хадзілі ў Манд. Балонін ведае французскую мову. Сам разумееш, як гэта важна... Не ведаю, як хлапчук, а нашы справяцца.

Сам я, шчыра кажучы, не быў яшчэ цвёрда ўпэўнены ў здольнасці Люсьена, хоць ён і стараўся быць падобны на бывалага франціртэра: прыкідваўся, што да ўсяго абыякавы, цыркаў сліну праз зубы і нават навучыўся хутка разбіраць і збіраць трафейную зброю. Пакуль я бачыў у ім толькі дзіця, у куртачцы і не па гадах кароткіх штоніках. «Ну, што можна ад яго чакаць?»

І ўсё ж, не ўтаю, хлопчык нечым кранаў мяне за жывое. Мне здалося, што ў яго на сэрцы, нібы цяжкі камень, ляжыць нейкі смутак. Я хацеў высветліць прычыну такога смутку, але разгаварыцца з Люсьенам было не так ужо і лёгка. Ён маўчаў, калі гаворка заходзіла пра яго мінулае, або ўхіляўся ад прамога адказу.

— О, гэта доўгая гісторыя, мой капітан...

Калі надышоў тэрмін, Люсьен у суправаджэнні двух партызан накіраваўся ў Манд.

Мінуў тыдзень, а вестак ад іх не было. Я ўстрывожыўся — невядомасць заўсёды хвалюе людзей. «Можа трэба было паслаць з хлопчыкам не байцоў, а вопытнага камандзіра?»

Я выказаў свае меркаванні Жэрару. Той нахмурыўся, доўга думаў і нарэшце сказаў:

— А хіба ад гэтага што-небудзь змянілася б? Давай, камандзір, больш давяраць людзям...— Камісар гаварыў не спяшаючыся, крыху расцягваючы словы.— Хочаш ведаць, чаму няма данясенняў? Хлопцам, мусіць, трапіў у рукі сакрэтны замок. Ключ да яго ніяк не падбяруць, вось і марудзяць...

Жэрар любіў часам гаварыць у пераносным сэнсе. Гэта прывычка падпольшчыка. Ён жа быў у Німе на падпольнай партыйнай рабоце. Яго ладная постаць, грубаваты твар з яснымі і разумнымі вачыма пад навіслымі калматымі бровамі, павольная манера гаварыць і хадзіць, — усё гэта на дзіва добра спалучалася ў ім з цвёрдым, разважлівым і спакойным характарам.

## 3

Першы з Манда вярнуўся Вартанаў. Прачытаўшы данясенне, я развёў рукамі. Дакумент быў карацей за вераб'іны нос: «Камандзір, павіншуйце. Люсьен».

— З чым вас павіншаваць? — запытаў я ў Вартанава.

— Не скажу, таварыш капітан. Чаго не ведаю, дык не ведаю, а хлусіць не буду,— гаварыў ён ціхім голасам, нібы прасіў прабачэння.— Мовы іхняй я не разумею, а хлапчанё не вельмі са мной шчырае.

— Можа ён прасіў перадаць што-небудзь вусна?

— Так, прасіў. Перадай, кажа, камандзіру, што праз тыдзень будзе Балонін. Ён ведае ўсё...

Рослы, атлетычнага складу, у маленькім берэце з дзіркай на макаўцы, Вартанаў стаяў з вінаватым выглядам на твары. Здарылася так, што дэпартаменцкі камітэт забараніў яму і Балоніну з'яўляцца ў горадзе, які наваднілі гестапаўцы і дарнанаўцы *.

Вартанаў крыўдліва сцяў тонкія губы.

— Пасадзілі нас, таварыш капітан, за станцыяй у вартаўнічы домік, што на водшыбе. Нікуды не выпускалі. Баяліся — схопяць...— Ён паглядзеў на нас, а мы знямелі, чакаючы нечага важнага.— Малы ваш таксама добрая цаца! Што праўда дык праўда — гэта ўжо я вам шчыра скажу... Люсьен усё шаптаўся з французамі, якія заходзілі ў вартаў-

* Паліцэйскія генерала Дарнана, які ў 1940 годзе разам з маршалам Петэнам здрадзіў Францыі.

нічы домік. А я страшна не люблю тых, хто ў маёй прысутнасці шэпчацца. Ну, кажы гучна, чаго тоішся? Усё адно вашу мову не разбіраю...

— Дык вось яно што...— сказаў Жэрар сур'ёзна, зводзячы губы ў затоеную ўсмешку. — Шапталіся, значыць...

— А як жа, таварыш камісар,— пацвердзіў Вартанаў.

Я глядзеў на гэтага здаравяку з адкрытым шчырым выразам твару, стараючыся выведаць у яго яшчэ што-небудзь.

— З кім жа вы звязаліся?

Вартанаў пастаяў колькі хвілін, прыпамінаючы нешта, і раптам ажывіўся.

— Аднойчы ў домік зайшла дзяўчына. Мары — завуць яе. Худзенькая такая, бялявая. Вельмі падобна на маю жонку... Толькі, мусіць, гадкоў на дзесяць маладзейшая. — Успомніўшы жонку, Вартанаў цяжка ўздыхнуў. — Зайшла, значыць, і пытае: «Хочаце паслухаць Маскву?» Мы, вядома, хорам: «Хочам! Хочам!». А яна далей кажа: «Я вывучыла рускую мову, каб слухаць Расію». І вось неўзабаве мы пачулі знаёмы голас: «Говорит Москва... Говорит Москва...»

— Якія навіны? — перапыніў я Вартанава.

— Нашы фарсіравалі Днестр.

Жэрар падышоў да карты савецка-германскага фронту, што вісела ў кутку, пасвяціў ліхтарыкам, каб адшукаць Днестр.

— О, гэта цудоўна!— пачулі мы яго голас.— Я пайду. Ёсць тэрміновая справа.

І тут жа знік, каб расказаць партызанам радасную вестку.

Вартанаў выцягнуў з-пад гімнасцёркі два экземпляры газеты «Советский патриот», што выдавалася ў Ліёне, і падаў мне.

— Люсьен паслаў. Для камісара.

— Добра, перадам. Схадзі на кухню. Павячэраеш — і спаць.

Праз тыдзень, дакладна, як папярэдзіў Люсьен, прыйшоў і Балонін.

— Данясенне прынёс?

— Не, таварыш капітан.

Ён нібы высякаў гэтыя словы, і ў такт ім выцвілыя бровы то сходзіліся ля пераносіцы, то разыходзіліся ў бакі, а сам ён, невысокага росту, нібы ўзнімаўся на пальчыках.

Убачыўшы расчараванне на маім твары, Балонін сказаў:

— Не трывожцеся, таварыш капітан! Люсьен хутка будзе сам. Прыйдзе, як піць даць, убачыце... Паслязаўтра Вартанаў сустрэне яго на круглай паляне. Так мы дамовіліся.

— Значыць, для ўцёкаў палонных усё гатова? — спытаў узрадаваны Жэрар.

— Як быццам, — асцярожна адказаў Балонін. — Заўтра ўночы высветліцца...

Мы выйшлі з бліндажа. Ранішняе сонца лізнула краёчак лесу, і першыя промні пачалі саграваць зямлю. Ад маладой руні несла моцным пахам вясны. На душы таксама была вясна. Я спадзяваўся тайком, што ўсё скончыцца ўдала.

Прызнацца шчыра, мне вельмі хацелася даведацца, што думае Балонін пра французскага хлопчыка, і я спытаў:

— А як хлопец, варты чаго?

— Хто? Люсьен?

Балонін глянуў, як над лесам усё вышэй узнімаецца сонца, ціхенька паківаў галавой і, усміхаючыся, адказаў:

— Хлопец — як трэба... Крэмень!

Жэрар не любіў, калі пры ім расхвальвалі людзей, якія яшчэ не выпрабаваны на цяжкіх заданнях. Нахмурыўшыся, ён заўважыў:



— Крэмень таксама бывае розны...

Балонін запярэчыў і нервова абцягнуў гімнасцёрку. Ён заўсёды імкнуўся быць падцягнутым.

— Вы не ведаеце, таварыш камісар, як Люсьен рыхтаваў уцёкі... Што ні кажыце, а хлопец — крэмень!

## 2. ДОМІК НА ВОДШЫБЕ

*«...15 мая 1944 года.*
*Балонін усю раніцу расказваў пра французскага хлопчыка. Тое, што мы даведаліся, вельмі здзівіла нас...»*
*Запіс у дзённіку.*

### 1

Яны прабраліся ў горад не адразу. Яшчэ здалёку, на паваротцы шашы, Люсьен асцярожна выглянуў і ўбачыў вартавых.

— Стоп! — выгукнуў хлопчык, і ўсе трое збочылі на бульбяное поле.

За гародамі была пустэча, заваленая рознымі адкідамі. Там капаліся галодныя сабакі. Далей віднеліся могілкі. Сюды Люсьен і прывёў сваіх спадарожнікаў.

Хлопчык адшукаў у сцяне пралом, і яны выбраліся на дарожку, што вяла ў горад.

Вось і галоўная вуліца. Люсьен спыніўся, азірнуўся. Вакол было пуста. Толькі ў кафэ Жоржа за завешанымі вокнаміківаліся высокія шапкі нямецкіх афіцэраў.

Мінулі кафэ. Каля гарадскога сквера спыніліся. Люсьен задумаўся. Тры дні таму назад, калі ён з маткай ішоў у атрад, на газонах цвілі кветкі, а цяпер іх няма. Усё здратавана начыста, нібы прамчаўся статак дзікоў.

У цэнтры сквера — слупы. На пярэчцы нізка вісіць чалавек. Вецер пагойдвае яго цела, нібы маятнік... Рукі ў павешанага складзены перад сабой і перавязаны дротам.

Люсьен скалануўся ад холаду і прытуліўся да Балоніна.

— Што з табой?

— Нічога, Нікаляй, — прашаптаў хлопчык, не зводзячы вачэй з шыбеніцы. — Пайшлі...

Яны хуценька абышлі сквер і апынуліся ў вузенькай вулачцы. Канец яе ўпіраўся ў двухпавярховы дом. А над домам—шпіль, падобны на штык.

Усе трое мігам узбеглі на другі паверх. Балонін чыркнуў на пляцоўцы запалку. Агеньчык выхапіў з цемрыва таблічку: «Правізар Альфрэд Піту».

Люсьен пазваніў два разы, потым яшчэ — даўжэй. Гэта азначала — свой.

Ціхенька павярнуўся ключ, і Жанета адчыніла дзверы.

— Уваходзьце хутчэй, — шэптам сказала яна. — Вас ніхто не бачыў?

— Не, ніхто... — Люсьен глядзеў на маці, нічога не разумеючы. — Што здарылася?

— Пакуль нічога страшнага, — супакоіла яго Жанета, абнімаючы і цалуючы. — Я так чакала цябе, так трывожылася...

Яна павяла гасцей у калідор, дзе чакаў мужчына, бледны, сівы, апрануты ў доўгае паліто. Гэта, мусіць, быў правізар Піту. Ён спало-



хана глянуў на незнаёмых, потым з трывогай на Жанету. Тая хуценька прамовіла:

— Аставацца тут нельга... У горадзе скрозь вобыскі. Бяруць не разбіраючыся... І вешаюць...

Перад вачамі Люсьена раптам узніклі слупы з пярэчкай на скверыку...

Матчын голас гучаў усё больш усхвалявана:

— Усё перамянілася, мой хлопчык. Трэба выбірацца адсюль!

— Куды, мамачка?

— Ёсць адно месцейка...

— Дзе?



— За станцыяй.

— У Мары?

— У яе бацькі, — удакладніла Жанета. — Там не страшна.

Праз некалькі хвілін, пакінуўшы явачную кватэру, цяпер ужо ўчацвярых, краліся яны вулачкамі і гародамі на ўскраіну Манда. Скрозь валяліся кавалкі цэглы, хрупасцела пад нагамі бітае шкло. З цэнтра даносіліся трывожныя свісткі. Зрэдку — стрэлы.

Жанета вяла сваіх спадарожнікаў незнаёмымі дварамі. Двойчы давялося пералазіць праз платы.

Калі перабягалі вуліцу насупраць вакзала, нехта стрэліў па іх. Жанета кінулася ўбок:

— За мной!

Яны беглі, не азіраючыся, ззаду станцыйных пабудоў, паўз вадакачку, багажны пакгауз. Крыху прабегшы яшчэ, азірнуліся — нікога не было.

Павярнулі направа і па вузкай сцяжынцы, што ішла ўздоўж чыгуначнага палатна, рушылі на пераезд.

Зніклі за павароткай агні семафора. Толькі цяпер, калі пайшлі крыху вальней, Люсьен спытаўся ў маці аб прычыне перапалоху ў горадзе.

— Пазаўчора ўвечары, — сказала Жанета, — эсэсаўцы ўчынілі ў кафэ Жоржа бойку. Нехта з прысутных запусціў у боша бутэлькай і пацэліў у скроню. Хто б мог падумаць, што так выйдзе! Гестапаўцы носяцца па горадзе, шукаюць...

Люсьен і яго таварышы не заўважылі, як непрыкметна падышлі да адзінокага доміка на водшыбе.

Домік на два акны, з невялікім садком, абгароджаным парканам. Жанета прасунула паміж парканінамі руку, адкінула зашчапку.

Ледзь толькі спадарожнікі ступілі на двор, як адчыніліся дзверы і на парозе вырас чалавек з ліхтаром і сігнальнымі сцяжкамі.

— Добры вечар, Жанета! — сказаў ён, свецячы на двор. — Хто з табой?

Сувязная пазнаёміла гаспадара з Балоніным і Вартанавым, а Люсьена ён ведаў раней. Прапускаючы гасцей наперад, гаспадар лёгенька паляпаў хлопчыка па плячы.

Сам гаспадар у домік не зайшоў, бо вось-вось павінен быў пайсці пасажырскі цягнік і вартаўнік накіраваўся аглядаць пуць.

Калі зайшлі ў памяшканне, Балонін адразу прыкмеціў на куце за столікам мажнога мужчыну сярэдняга веку. Той устаў і зрабіў некалькі крокаў насустрач Жанеце... Балонін разгледзеў яго пільней. Цёмны чыста паголены твар з прыгожым роўным носам і вялікімі добрымі вачыма. У валасах, падстрыжаных пад вожыка, — сівізна.

Луі Рабер — так звалі мужчыну, як відаць, чытаў газету, бо яна разгорнутая ляжала на стале. «L'Humanite» * — узрадаваўся Балонін.

Рабер спытаўся ў Жанеты, ці ведаюць таварышы, што робіцца ў горадзе.

— Я расказала ім. Праўда, коратка.

— А падрабязнасці ім і не патрэбны. Галоўнае, каб зразумелі абставіны, у якіх трэба будзе дзейнічаць...

«Значыць, усё астаецца без перамен», — падумаў Балонін. Ён заўважыў, як пры апошніх словах Рабера ў хлопчыка гарэзліва загарэліся вочы.

---

* «Юманітэ»

— Я хацеў бы паведаміць нешта новае, — гаварыў між тым Рабер. — Учора арыштавалі Поля Брэтона.

Балоніну гэта прозвішча нічога не гаварыла, і ён нахіліўся да Люсьена: «Хто гэта?»

— Ах, — спахапіўся Рабер, заўважыўшы, як варухнуўся Балонін. — Я забыўся, што вы не ведаеце пра Поля нічога... Бачыце, — павярнуўся ён да Балоніна і Вартанава, — мы даручылі наладзіць уцёкі палонных з лагера Полю Брэтону. Гэта — член нашага Камітэта. А памагаць яму павінен быў Люсьен... Цяпер, выходзіць, уцёкі трэба адкласці...

Люсьенавы вочы, што так весела былі загарэліся, раптам зноў сталі цьмяныя.

Счакаўшы трохі, Рабер сказаў нібы сам сабе:

— Вядома, калі б Люсьен быў крыху сталейшы...

Люсьен пакрыўдзіўся:

— Я і цяпер не маленькі.

— Ты не гневайся, хлопчык. Што праўда, дык праўда.

— Добра, дзядзька Рабер! Няхай я маленькі. Але хіба Гаўрош быў старэй за мяне? А яму ж ніхто не забараняў памагаць рэвалюцыі... Вы толькі скажыце, што зрабіць. А я зраблю ўсё, усё... Вось пабачыце.

Ён гаварыў так усхвалявана і шчыра, што нельга было яму не паверыць. Рабер, вядома, верыў Люсьену, але не адважваўся ўскласці на яго дзіцячыя, яшчэ кволыя плечы ўвесь той цяжар, які раней цягнуў вопытны канспіратар Поль Брэтон.

— Зразумей, сябра, — спрабаваў пераканаць хлопца Рабер. — Да таго часу, пакуль мы зноў не наладзім кантакт з ваеннапалоннымі, пра ўцёкі не можа быць і гаворкі. Адзінае, што камітэт можа цяпер табе даручыць — гэта прадоўжыць работу, якую пачаў Поль па-за лагерам. Нам трэба высветліць, як размешчаны вартавыя пасты, колькі іх, дзе ўстаноўлены кулямёты, у якім месцы лепш зрабіць падкоп. Я думаю, што з гэтым ты справішся...

Рабер глянуў на хлопчыка, які адразу павесялеў.

— Запомні, Люсьен! Твая справа — разведаць. А з ваеннапалоннымі звяжацца другі чалавек. У мяне ёсць такі таварыш...

— А хто гэта, дзядзька Рабер?

Кіраўнік камітэта зрабіў выгляд, што не пачуў хлопцавага пытання.

— Эх, Люсьен, — гаварыў ён далей, — калі б удалося падказаць рускім, адкуль ім лепш уцякаць... Поль гаварыў мне, як яны, няшчасныя, пакутуюць там, за калючым дротам. Клікні толькі — і яны не спыняцца ні перад чым. Яны разнясуць агарожу і... загінуць пад кулямётным агнём. Але ж каму гэта трэба... Уцёкі варта арганізаваць так, каб не было ніводнай дарэмнай ахвяры. Ты зразумеў, хлопчык?

— Так. Зразумеў, дзядзька Рабер.

— Тады можаш пачынаць дзейнічаць. А таварышы твае... — ён глянуў на Балоніна і Вартанава. — Няхай пажывуць пакуль у вартаўніка. Знойдзецца занятак і для іх.

## 2

Балонін прачнуўся, як звычайна, рана. Пацягнуўшыся, незнарок крануў локцем Вартанава (яны ляжалі на састаўленых крэслах). Але Вартанаў спаў і ціха пасопваў. Балонін устаў і босы падышоў да акна.



Світала. На ўсходзе, разарваная вяршыняй хрыбта, выступала зялёная палоска. Яна хутка разрасталася.

З клумбаў у садку ветліва ўсміхаліся кветкі. Іх было шмат — белых, чырвоных, жоўтых, ружовых, бэзава-блакітных. Балоніну здалося, што па садзе разлілося нейкае чароўнае возера.

Ён так захапіўся, што не пачуў, як да яго ззаду нехта падкраўся.

— Добрай раніцы, Нікаляй, — вітаў яго Люсьен, абняўшы за плечы.

— А ты чаго так рана?

— Не спіцца... — прызнаўся хлопчык. — Думкі розныя лезуць у галаву.

— Гані іх прэч!

— Спрабаваў, ды не слухаюцца... Ты ж памятаеш, Нікаляй, нашу гутарку з Раберам? Сам напрасіўся. А цяпер турбуе думка: «Што, калі падвяду?» І, наогул, не разумею, што са мной здарылася. Нейкая трывога не пакідае ні на хвіліну. Ніколі раней такога не было. Я нават не ведаў, што можа быць такое адчуванне. Вось нешта сядзіць у сярэдзіне і мучае...

— Ведаеш, браток, я сам некалі так трывожыўся. Пад Курскам было. Перад атакай... Я ляжаў побач з камандзірам аддзялення і ўсё рваўся падняцца, але сержант не адпускаў рукаво маёй гімнасцёркі і прыціскаў мяне да зямлі. «Не гарачыся, мілы, — казаў ён. — Не гарачыся! Не вырывайся наперад, не дачакаўшыся таварышаў! Хочаш паказаць, што ты смялейшы за ўсіх, што мора табе па калені...» А таго не ведаў сержант, што гарачыўся я са страху. Баяўся, каб не адстаць ад другіх. Надта было страшна...

— Ты думаеш, я баюся?

— Я, браток, не думаю, а ўпэўнен... Ты, Люсьен, яшчэ вельмі малады і ўсё ўяўляеш, як дзіця. Скрозь — прыгоды, небяспека. Вось і ўзнікае ў душы пачуццё трывогі.

— Можа і праўда, Нікаляй... — уздыхнуў Люсьен. — Усё можа быць. Можа, я і сапраўды баюся...

Дзверы пакоя, дзе спала Жанета, прачыніліся, і адтуль глянула не Люсьенава маці, а бялявая дзяўчынка з грыўкай. У яе аж зіхацелі, гарэлі завушнічкі. Балонін вельмі здзівіўся. А дзяўчынка ўжо прыкладала палец да маленькага роціка.

— Дзень добры, Мары!

Люсьен павітаўся ціха, але дзяўчынка спалохана замахала рукамі.

— Чш-ш... Пабудзіш усіх.

Мары на пальчыках падышла да акна і села паміж Люсьенам і Балонінам.

— Твая гаспадарка? — спытаўся хлопчык, паказаўшы рукой на клумбы.

— Мая, а што?

— У мяне ёсць просьба. Падрыхтуй, калі ласка, для мяне якіх пяць букетаў.

Мары ўсміхнулася:

— Ці не думаеш ты прадаваць кветкі?

— А што? Хіба хлопчыкам нельга? Паслухай, Мары, як у мяне будзе атрымлівацца: «Купіце фіялкі, за букет дзесяць су...» Добра, праўда?

Мары здзіўлена глядзела на хлопчыка. Яна ніколі яшчэ не бачыла яго такім узбуджаным і радасным. Дзяўчынка вярнулася ўвечары з горада вельмі позна і не ведала, што Люсьен атрымаў важнае заданне.

— Ты хочаш зарабіць крыху, га? — спыталася Мары сур'ёзна, гля-

нуўшы на залатаныя люсьенавы штонікі і зацыраваныя рукавы курточкі. — Прызнайся, Люсьен.

— Пляваць мне на грошы. Я табе іх аддам, або куплю на іх сувенір. Тут зусім іншае... Хутка сама даведаешся.

— Раскажы цяпер. Я прашу цябе, Люсьен.

— Не ўжо, лепш пасля. А цяпер, мадэмуазель Мары, спадзяюся на вашу дапамогу.

— Пастараюся, — адказала яна і, падняўшыся, пайшла да сябе ў пакой.

— Хто гэта? — спытаў Балонін, як толькі зачыніліся дзверы.

— Гаспадарова дачка... Яна таксама францірэр.

Крэслы на куце зарыпелі, і Вартанаў расплюшчыў вочы.

— Выспаўся? — пацікавіўся Балонін.

— Ох, Колька! Не кажы, як хораша...

У доміку паступова станавілася ўсё больш шумна. Неўзабаве паўставалі ўсе. Не было толькі Рабера, але ён падняўся яшчэ да світання.

Схапіўшы поўнае вядро вады і конаўку, Люсьен, Балонін і Вартанаў пайшлі на двор мыцца. Балонін паліваў беражліва — тонкім струменьчыкам.

— Лі, Коля, не шкадуй, — задаволена пырскаўся Вартанаў. — Калодзеж блізка.

— А ты адкуль ведаеш?

— Хадзіў туды ноччу на спатканне...

Мары прынесла ручнік і запрасіла ўсіх снедаць. Яны ўсе ўжо даўно прагаладаліся, але ніхто не хацеў прызнацца першы. Выручыў усіх Вартанаў, які агульнае жаданне выказаў жартам:

— Самы раз паспела. Есці во як хочацца. А ну, чыжы! Адпусціце рамяні... Шырэй нагу!

Пасля снедання Жанета перадала Балоніну і Вартанаву загад Рабера — нікуды з доміка не адлучацца.

Люсьен прыняў ад Мары кошык з кветкамі і пачаў развітвацца.

— Да вечара! — хлопчык абняў маці і ласкава прыхінуўся да яе шчакі.

Жанета глянула вільготнымі вачыма.

— Ну, мама... — папрасіў пяшчотна Люсьен.

— Ідзі, ідзі, мой любы. — усміхнулася маці праз слёзы. — Мой адзіны... Да вечара!

## 3. «КУПІЦЕ ФІЯЛКІ...»

*«...17 мая 1944 года.*
*Мы даведаліся ад Балоніна, што Люсьен не толькі настойлівы і кемлівы хлопчык. Ён яшчэ і смелы разведчык...»*
*Запіс у дзённіку.*

1

Люсьен ішоў па цеснай вулачцы паўднёвага гарадка, што прытуліўся ў вузкай даліне. Ішоў павольна, азіраючыся па баках. Зрэдку спыняўся ля якога-небудзь дома з нізкімі, востраверхімі дзвярыма і закругленымі балкончыкамі, што выступалі ледзь не на сярэдзіну вуліцы. Пастаіць колькі хвілін, падумае і пойдзе далей.



Нарэшце хлопчык выбраўся за горад.

Сонца паднялося ўжо высока над лясістым хрыбтом, але грэла яшчэ не так моцна.

У Люсьена быў добры настрой. Хлопчык быў нібы п'яны ад таго хвалюючага запалу, які спадарожнічае чалавеку, калі ён ідзе на рызыкоўную справу.

Вакол шапацелі лісцем каштаны, вабілі сваім вясновым далікатным водарам сады і вінаграднікі, якія доўгімі зялёнымі шнурочкамі ўзбіраліся на ўзвышшы, што абступалі горад, ахоўваючы яго ад ветру. А на ўзвышшах скрозь — лясы. Магутныя, цёмныя, яны цягнуліся аж у паднябессе. Там, у лясах, — партызаны.

Люсьен пайшоў шпарчэй, і неўзабаве амаль ушчыльную падышоў да лагера ваеннапалонных.

На плошчы перад лагернымі варотамі тоўпіліся мясцовыя жыхары. Адны збывалі з рук розныя рэчы, другія выменьвалі ў салдат прадукты на паношанае абмундзіраванне, а трэція гандлявалі, чым надарыцца: дзяшовымі цыгарэтамі, запалкамі і рознай непатрэбшчынай.

Люсьен увайшоў у натоўп і звонкім голасам пачаў прапанаваць свой тавар:

— Купіце фіялкі! Каму кветкі?

Хлопчык цярпліва чакаў, пакуль у яго купяць хоць адзін букет, а тым часам пільна назіраў за варотамі лагера. З форткі побач выходзілі салдаты. Пад пахай у іх — скруткі.

Часам ля прахадной спыняліся цывільныя. Паказвалі вартавому пасведчанне, той правяраў яго, адчыняў фортку і прапускаў чалавека на тэрыторыю лагера.

«Без дакумента не пройдзеш!» — падумаў Люсьен.

Прыкметна накульгваючы, да форткі падышоў чалавек у сінім камбінезоне. Ён стаў бокам да вартавога, і Люсьен ледзь не крыкнуў ад здзіўлення. «Гэта ж Кульгавы Жан!» Так жыхары Манда назвалі ўладальніка невялікай сталярнай майстэрні Жана Цімона.

Жан падаў дакумент, але перш чым прапусціць чалавека ў лагер, салдат дасканала агледзеў палатняную торбу, што вісела ў яго на плячы, нібы супрацьгаз.

«Што ён тут робіць? — падумаў Люсьен, праводзячы Кульгавага Жана падазроным позіркам, аж пакуль той не знік за баракам.

Люсьен зноў узяўся за сваё:

— Гэй, налятай! Каму кветкі? Купіце фіялкі!..

Але тавар яго не меў поспеху. Да абеду ён прадаў усяго толькі два букеты. Кветкі завялі і ўжо не вабілі вока.

Пад вечар з форткі выбег эсэсавец. Ён некуды спяшаўся, абцягваючы на хаду мундзір. «Мабыць, на спатканне», — падумаў Люсьен і паспрабаваў гітлераўцу збыць яшчэ адзін букет.

— Вазьміце, пан! Усяго два франкі.

Эсэсавец схапіў кветкі, кінуўшы на хаду паперку, і знік за вугал дома.

Назаўтра Люсьен зноў сабраўся ісці пад лагер з кветкамі.

— Навошта табе гэтулькі? — адгаварвала яго Мары. Яна даказвала, што лагер — нязручнае месца для добрага гандлю, але хлопчык настойваў на сваім.

— Я ўпэўнен, што прадам...

Раненька Люсьен заняў свой пост насупраць прахадной. Ох, як зайздросціў ён нахабным хлопчыкам, што шныпарылі вакол лагера і прадавалі цыгарэты! Яны, напэўна, ужо скрозь пабылі, а ён стаіць, як слуп, не сыходзячы з месца.

Апоўдні, калі народ разышоўся з плошчы хто куды, Люсьен пачаў пахаджваць уздоўж плота. Вочы яго аглядалі кожны кусток, ямінку, камень: хлопчык шукаў зручнае месца для падкопу.

Трэба было запомніць тое, што ён паспеў убачыць, бо Рабер забараніў яму што-небудзь запісваць. Люсьен спыніўся недалёка ад таго месца, дзе была лагерная кухня.

Хлопчык падрахаваў убачанае. Адзін пост — ля прахадной, без кулямёта. Чатыры вышкі па вуглах — усе з кулямётамі. Побач пражэктары. Яшчэ два адзіночныя пасты без кулямётаў: каля лазарэта і каля кухні, недалёка ад якой ён прытаіўся ў кустах.

Люсьен старанна абследаваў, як і дзе размешчана кухня. Гэта быў участак лесу, ачышчаны ад дрэваў і абнесены калючым дротам у два калы, метраў пяць-шэсць вышыні. Каля дроту — яма, куды ваеннапалонныя цягалі з кухні памыі.

Люсьен задумаўся, чаму тут адзіночны пост.

«Мусіць, бошы лічаць гэта месца не такім ужо небяспечным».

Прадаўжаючы вывучаць участак, хлопчык раптам выявіў метраў за пяцьдзесят-шэсцьдзесят ад ямы канаву. Яна была забэрсана пад плотам тонкім дротам.

Люсьен яшчэ пільней прыглядзеўся да канавы. І чым больш ён глядзеў на яе, тым відавочней станавілася яму, што іменна тут можна наладзіць уцёкі.

Хлопец разумеў, што не так ужо і проста падпаўзці сюды па канаве. Месца адкрытае, і вартавы адразу заўважыць, пачне страляць. Але навошта рабіць падкоп удзень?

Хлопчык зноў глянуў на канаву і на плот. «Можа зусім і не трэба рабіць той падкоп? Разбэрсаць пад плотам дрот — вось і будзе праход».

Адразу ўзнікла пытанне: дзе дастаць нажніцы і кусачкі, каму іх перадаць? Але гэта ўжо быў не люсьенаў клопат. Яго справа — толькі разведаць, — так сказаў Рабер.

2

«Бадай ці не пара вудачкі зматваць», — падумаў Люсьен. Ён падняўся, але незнарок крануў галавой галінку. І ў тую ж секунду пранозлівы свісток прымусіў яго стаць на калені. «Няўжо заўважылі?»

— Гэй, хлопшык, ха-а-льт! — крычаў вартавы па-нямецку. — Падыдзі сюды блізка.

«Што рабіць?» Люсьен ужо хацеў быў кінуцца бегчы, але нешта ўнутры стрымлівала яго. «Пабяжыш — падстрэляць, як зайца».

І схавацца ў кустах — таксама нельга: выпусцяць сабак і знойдуць, як піць даць...

Люсьен пайшоў да плота. Ён уабраў галаву ў плечы, увесь сціснуўся ў камячок, нібы чакаючы ўдару.

— Нашто хавальса? — спытаў салдат.

— Я, мсье, заблудзіўся. Шукаў дарогу. Прашу, мсье, даруйце мне.

Вартавы злосна агледзеў яго з ног да галавы.

— А што хаваль у кошык?

— Фіялкі, мсье. Я прадаю кветкі. Во... — І спрытна, як найлепшы жанглёр, хлопчык выцягнуў самы лепшы букет. — Вазьміце, мсье! Грошы не трэба... Прэзэнт!..

— А цыгарэт ты не маеш? А шнапс?

Люсьен глядзеў з-пад ілба на вартавога, услухоўваўся ў яго гаворку. Здаецца, што ён не памыляўся: салдат гаворыць па-нямецку, але акцэнт нейкі дзіўны.



— Не, няма ў мяне, мсье, цыгарэт. Але калі вы дазволіце, я заўтра прынясу.

Твар вартавога яшчэ больш пасуровеў.

— Сюды не можна. Прыцягні да варот. А цяпер правальвай. Хутка!

— Слухаюся, мсье.

Люсьен падаўся назад. Яму не верылася, што ён выбрабіўся так лёгка. Варта пабегчы — і ён стрэліць у спіну. «А я не пабягу».

Ён набраўся храбрасці і, павярнуўшыся, паволі паплёўся дамоў.

— Ідзі, ідзі, хлопшык, — пачуў ён раптам за сваёй спіной.

— Орэвуар, мсье... — зашаптаў Люсьен і, азірнуўшыся, пайшоў хутчэй.

Каля лагерных варот ён павярнуў на дарогу і накіраваўся ў горад.

Праз гадзіну хлопчык быў дома.

Сустрэча з вартавым усхвалявала яго. Ён адчуў патрэбу расказаць каму-небудзь пра яе.

Рабера дома не было — ён пайшоў, як сказала Мары, у Алес і вернецца позна ўвечары. А маці накіравалася па заданню камітэта ў суседні дэпартамент.

Мары заўважыла ў люсьенавых вачах незвычайную ўзрушанасць.

— Што-небудзь здарылася? — спытала дзяўчынка.

— Нічога асаблівага. — Ён трымаўся з Мары вельмі строга. «Усё ж такі дзяўчо».

— Не хочаш казаць, не трэба, — ціха прамовіла яна, адвёўшы вочы ўбок, і выбегла з дому.

Хлопчык выйшаў на двор. Балонін і Вартанаў пілавалі за хлевам дровы. Піла, мусіць, была ржавая, бо так вішчэла, нібы парася, ушчэмленае ў плоце.

— Нікаляй, скора вы кончыце? — спытаў Люсьен, згараючы ад нецярпення пагаварыць з ім.

— Скора перакурым. Пачакай крышку.

Пакуль Вартанаў складаў распілаваныя дровы, Люсьен паспеў расказаць Балоніну пра сваю сустрэчу з вартавым.

— Далібог, не магу ўцяміць, — пацiснуў плячыма Балонін, — чаму ён цябе адпусціў. Ён павінен быў цябе затрымаць.

— А за што? Я ж нічога такога не рабіў... Прадаваў кветкі...

— Але ж ты хаваўся ў кустах?

— Салдат не бачыў, — расхрабрыўся Люсьен. — Каб не гэтая праклятая галінка, дык і не ўбачыў бы...

— Памыляешся, браток. Галінка тут не вінавата. Вартавы цябе прыкмеціў яшчэ раней.

— Чаму ж ён тады маўчаў?

— Вось тут і загваздка.

Балонін зноў паціснуў плячыма і сказаў няпэўна:

— Але-е-е... Справы-справункі...

Раптам партызан пасур'ёзнеў і пільна глянуў на хлопчыка.

— Слухай, Люсьен. Я, здаецца, пачынаю здагадвацца... Гэты салдат, мусіць, антыфашыст. Я ведаў аднаго такога немца, таксама з аховы. Ён памагаў нам... У Пулавах гэта было. У Польшчы.

У вячэрняй сіняве неба запаліліся першыя зоркі. Узышоў месяц, і цемната памякчэла, стала празрыстай. Густы, волкі туман спакваля поўз ад ракі, нібы памагаў ночы, што надыходзіла, хутчэй накрыць домік цёмным покрывам.

Дыхнула халадком.

— Закурыць, ці што? — сказаў Балонін і, выняўшы з растрыбушанага пачка цыгарэту, не спяшаючыся прыкурыў.

Бразнула ў фортцы засаўка. Варотцы адчыніліся, і ў двор увайшоў Рабер. Ён павітаўся і, не затрымліваючыся, стомленай хадой падаўся ў дом. Балонін і Люсьен — следам за ім.

Мары адразу пайшла ў свой пакой. Рабер моўчкі ўлёгся на канапу. Люсьену здалося, што ён нечым устрывожаны. Паляжаўшы, Рабер ціха паклікаў Люсьена.

— Што чуваць, хлопчык?

Люсьен паведаміў, што знайшоў недалёка ад памыйнай ямы ў лагеры канаву, якая выходзіць пад плот.

— Калі перарэзаць у гэтым месцы дрот, можна выбрацца з лагера і без падкопу.

— А вартавыя?

— Ля канавы няма паста.— Люсьен пачаў маляваць схему пастоў.— Але канава відна вартавому, які стаіць ля кухні. Між іншым, дзядзька Рабер, я размаўляў з вартавым.

— Пра што?

— Так... Ні пра што.

Люсьен расказаў, як вартавы затрымаў яго, а потым прагнаў прэч.

— Скажы, хлопчык, мне вось што: салдат не пытаў, хто ты, дзе жывеш?

— Не, не пытаў.

— І нічога табе не паабяцаў? Ну, грошы ці падарунак.

Хлопчык глядзеў на Рабера здзіўленымі вачыма.

— Не, не абяцаў... Наадварот, ён прасіў прынесці яму цыгарэт.

Кіраўнік дэпартаменцкага камітэта хацеў пераканацца, што Люсьена не абхітрылі. Ён ведаў, што хлопчык хоць і кемлівы, але ўсё яшчэ дзіця.

— Дзіўна... Вельмі нават дзіўна, — сказаў Рабер, прыгладжваючы свае густыя валасы. — І што ж ты парашыў рабіць?

— Прынесці цыгарэты,— адрэзаў Люсьен.

— Абавязкова, хлопчык, — параіў Рабер. — І прыгледзься да яго добра. Толькі не выдавай, што ты ім цікавішся...

Рабер паляжаў яшчэ трохі, прыплюшчыўшы вочы.

— Ды яшчэ вось што... Можа быць так, што салдат спытае ў цябе, ці не ведаеш ты каго з францірэраў. Дык парай яму ў суботу вечарам зайсці ў кафэ Жоржа. Я даручу аднаму чалавеку заняцца гэтым салдатам.

* * *

З раніцы Мары не ўдалося знайсці ў горадзе дзяшовых цыгарэт. Абяцалі дастаць толькі пад вечар. Люсьену прыйшлося перанесці свой паход у лагер на суткі.

Праз дзень ён зноў стаяў насупраць лагерных варот, выкрыкваючы сваё:

— Каму фіялкі? Купляйце цыгарэты.

Хлопчык не зводзіў вачэй з прахадной, чакаючы з хвіліны на хвіліну таго салдата. Але ён не паказваўся. І наогул у той дзень з раніцы чамусьці не відаць было аховы.

— Гэй, прыяцель! — паклікаў Люсьена ўвесь у вяснушках хлопчык. — Падарыў бы букецік.

— На, бяры!.. Толькі адчапіся,— падаў Люсьен букет фіялак, не глянуўшы нават на хлопца.

— Чаго ты баішся? Я не кусаюся...



— Зусім і не баюся. Ты мне скажы лепш, куды падзяваліся бошы?

— Яны на занятках.

Пасля абеду гандаль пайшоў байчэй. З пятнаццаці пачак у Люсьена асталося пяць. Дзве ён збіраўся прадаць, а тры схаваў, каб аддаць заказчыку.

Цяжка адрозніць аднаго салдата ад другога, асабліва, калі яны ў касках. Але Люсьен запомніў таго вартавога па вачах — яны былі ў яго крыху прыжмураныя.

— Бонжур, мсье!—крыкнуў хлопчык, калі салдат наблізіўся да яго.

— Дзень добры, прадавец,— спакойна адказаў салдат.— Ну што, прынёс?

Люсьен нагнуўся і хацеў ужо дастаць цыгарэты, як пачуў над вухам:

— Не спяшайся... Нам трэба пагаварыць.

Хлопчык успомніў папярэджанне Рабера. «Пачынаецца»,— падумаў ён.

— Чаму не прышоль учора? — спытаў салдат.

— Мама захварэла,— першае, што прыйшло ў галаву, адказаў Люсьен, абы толькі не маўчаць.

— А што робіць твая мама?

— Мая мама шые...

— Я таксама быў кравец,— ціха сказаў салдат.— Раней... А цяпер няма нічога... Крыг. Вайна...

Ён азірнуўся і гарачым шэптам выпаліў:

— Мне трэба бачыць добрага чалавека... француза... Памажы, хлопчык!

— Н-не ведаю, мьсе... Не ведаю.

— Ты не бойся, хлопчык. Я свой... Чэх. Я... Францішак Гук... Хачу гаварыць з табой дома. Тут няможна...

Раздумваць было некалі. Францішак чакаў адказу.

— Не ведаю, мсье, як быць. Можа прыйдзеце ў суботу вечарам у кафэ Жоржа? Я там буду...

Гук аддаў хлопчыку грошы, забраў цыгарэты і, матнуўшы галавой, пабег у прахадную. Яшчэ хвіліна — і яго крыху згорбленая постаць знікла за баракам.

Францішак Гук быў акуратны салдат. Ён прыйшоў у суботу вечарам у кафэ Жоржа раней за ўсіх, хто туды прыходзіў.

Гаспадар быў папярэджан.

— Што жадаеце, пан?

— Мне б кухаль піва,— адказаў салдат.

— Прашу, вас, пане, прайдзіце, калі ласка, у салон.

У невялікім круглым пакоі з выцвілымі шпалерамі і запаснымі дзвярыма ў двор Гук убачыў, што за мармуровым столікам побач з Люсьенам... сядзеў лагерны цясляр, Кульгавы Жан.

— Вось мы і сустрэліся, Францішак,— усхвалявана выгукнуў Люсьен, ускочыўшы з крэсла.— Сядайце! Пагутарым!..— Ён паказаў рукой на Кульгавага Жана.— Знаёмцеся! Гэта мой дзядзька...

Пра што яны гутарылі ўтрох у той вечар, ведалі адны сцены салона.

## 3

З Кульгавым Жанам у лагеры быў знаёмы толькі Бено Сцепанян. Ён узначальваў бюро падпольнай антыфашысцкай арганізацыі.

Праз яго Жан перадаваў заданні, пасылаў літаратуру, лістоўкі. Пры дапамозе падпольных арганізацый Французскай камуністычнай партыі Ваенны камітэт савецкіх патрыётаў у Францыі выдаваў для ваеннапа-

лонных газету, брашуры і адозвы на рускай, армянскай, грузінскай і азербайджанскай мовах.

Падпольшчыкі не адразу напалі на след Кульгавага Жана. Пасля арышту Поля Брэтона, які працаваў у лагеры водаправодчыкам, у канюшні сабраліся члены бюро. На варце стаяў ездавы Вано Нінашвілі.

— Парвалася нітка... Як цяпер паведаміць пра нас камітэту? —пытаўся ў таварышаў Сцепанян.

— Памятаеш, Бено, Пулаву?

Гэта сказаў Аляксандр Заран. Ён ускочыў з месца, прыслухаўся і хуценька сеў зноў ля самага ўваходу.

Даўнія сябры Сцепанян і Заран разумелі адзін аднаго з першага слова. За тры гады лагернага жыцця яны здружыліся, як браты. Іх звязала барацьба за волю, і кожны з іх быў гатовы ў тую ж хвіліну аддаць сваё жыццё за таварыша.

Сцепанян добра памятаў Пулаву. Аднойчы польскі селянін, які вазіў у лагер са станцыі прадукты, памог падпольшчыкам наладзіць кантакт з камандзірам польскага партызанскага атрада.

— Я маю на ўвазе Пулаву, — адказаў Сцепанян свайму сябру. — Прыглядаюся да французаў, якія абслугоўваюць лагер. Але... Яны вельмі асцярожныя сталі пасля арышту Поля.

Члены бюро яшчэ не ведалі, што камітэт Супраціўлення таксама шукаў магчымасці, каб устанавіць кантакты з ваеннапалоннымі. Гэта стала вядома толькі праз некалькі дзён пасля пасяджэння бюро ў канюшні.

Цясляр-француз падганяў у бараку дзверы, каб яны шчыльна зачыняліся. Улучыўшы момант, калі поблізу нікога не было з аховы, Сцепанян падышоў да цесляра і папрасіў у яго прыкурыць.

— Калі ласка, пане! — француз запаліў сярнічку і пільна глядзеў у вочы прысадзістаму чалавеку, які так добра сыпаў па-французску.

— Вы, пане, рускі?

— Не, армянін. Але я ваш сябра...

Цясляр нічога не адказаў і зноў узяўся часаць дзверы.

Дарэмна Сцепанян намагаўся даведацца ў француза, хто ён такі і дзе працаваў да лагера. Таўсташчокі брунет адказваў з ухмылкай: «Не можна гаварыць, пане».

Назаўтра Сцепанян зноў сустрэўся з ім, прыбіраючы смецце. Цясляр мяняў у вокнах рамы і, стоячы на падаконніку, папрасіў ваеннапалоннага падаць сякеру.

Сцепанян, наблізіўшыся, ціхенька прамовіў:

— Vive Paris!

Гэта быў пароль, які ўстанавіў Поль Брэтон для сувязі з дэпартаменцкім камітэтам.

— Vive Stalingrad! — адказаў цясляр таксама ціха, беручы з рук Сцепаняна сякеру.

За дзвярыма пачуліся крокі, і Сцепанян кінуўся з вядром на выхад.

Мінуў яшчэ дзень. Цясляр працаваў, як звычайна, не звяртаючы ні на кога ўвагі. І толькі пад вечар, збіраючыся дамоў, шапнуў Сцепаняну, які прыбіраў памяшканне:

— Забяжы на хвілінку ў туалет.

Жан перадаў Сцепаняну заданне падрыхтаваць групу ваеннапалонных да ўцёкаў. Месца ўцёкаў — канава ля памыйнай ямы за кухняй.

— Наш чалавек разведаў. Гэта самы ціхі ўчастак. Нажніцы і кусачкі я прынясу заўтра...

Позна ўвечары Сцепанян сабраў членаў бюро. Паведаміўшы пра заданне Ваеннага камітэта, ён горача гаварыў сваім аднадумцам:



— Сябры мае! Надыходзіць час вызвалення. Мы так чакалі яго... Паклянёмся ж, што будзем і далей верныя маці-Айчыне!

Гэта слова рэдка калі ўжывалася ў размовах між ваеннапалоннымі, але яно ўвесь час жыло ў сэрцы кожнага з іх. Цяпер гэта слова гучала неяк асабліва моцна, урачыста.

І рукі сяброў злучыліся ў моцным поціску.

— Клянёмся!

* * *

Нізкія хмары, што навіслі з вечара над Мандам, паказвалі на дождж. І вось ён зашумеў. Вада, адліваючы цёмнай жаўцізной, ручаямі хлынула ў канаву, па якой да агарожы паўзлі ваеннапалонныя.

Вартавы зрэдку высоўваўся з-пад невысокага грыба, але яму цяжка было што разабраць: святло адзінай лямпы, што вісела ля кухні, цьмяна расплывалася ў дажджавой імгле. А тут яшчэ вецер так разгушкваў лямпу, што яна тухла. Тады вартавому не відаць было нічога і за тры крокі ад грыба.

Люсьен зашыўся ў кусты насупраць памыйнай ямы і чакаў. Ён ведаў, што ўсё пачнецца роўна апоўначы.

Буйныя, цяжкія кроплі дажджу віселі на галінках, холад праціnаў да касцей, але хлопчык трываў. Праз шум дажджу ён пачуў прыглушаны ляскат кусачак. «Ага, значыць, рэжуць дрот».

Зрабіўшы ў агарожы праход, палонныя выбраліся з лагера і кінуліся бегчы па сцежцы. Люсьен у адно імгненне рассунуў слізкія галінкі. На яго лінула халоднай вадой. Хлопчык ледзь прыкметным ценем скочыў ім насустрач.

— За мной!

Яны беглі некалькі хвілін, не разбіраючы дарогі. І раптам ляглі на зямлю, сталі дыханне, прыціхлі. Зусім блізка прайшоў па сцяжынцы нямецкі дазор.

Пачакалі, пакуль аціхлі крокі, падаліся крыху ўбок ад сцяжынкі і імкліва рушылі пад гару.

Цемрадзь непагодлівай ночы атуляла іх.

Праз гадзіны дзве ўцекачы былі ўжо на перавале. Спыніліся, прыслухаліся.



Люсьену здалося, што нехта бяжыць з таго боку, дзе лагер. Яго чуйны слых адгадаў далёкі тупат ног.

— Пагоня... Наперад!

Дождж ужо не ішоў. Вецер разганяў хмары. Выглянуў аднарогі месяц. Ваеннапалонныя спусціліся ў дол і, абмінуўшы вінаграднікі, убеглі ў лес.

На перавале віднеліся салдаты, што гналіся за ўцекачамі. Раздалася аўтаматная чарга... За ёй другая, трэцяя... Салдаты, аднак, не адважыліся ў цемнаце спусціцца з перавалу, бо не так даўно немцаў тут абстралялі з лесу.

Люсьен, які быў не адзін раз у гэтых месцах, павёў групу выкручастай сцяжынкай у гушчар.

Прайшлі метраў трыста ці чатырыста і апынуліся на паляне. У высокіх кустах прытуліўся закінуты старэнькі домік.

Зайшлі. Унутры — няўтульна. Сцены закураныя, падлога земляная. Страху даўно растрыбушылі дажджы і вятры. Па кутках свіціліся дзіркі.

Пасярод ля кастра сядзелі вакол партызаны і гучна пра нешта гаманілі. Полымя асвятляла іх мужныя твары.

Адзін, у маленькім берэце, узброен аўтаматам, які вісеў у яго на грудзях. У астатніх траіх — на баку пісталеты, а за поясам — гранаты. Той, што быў з аўтаматам, першы заўважыў хлопчыка і ўстаў.

— Вар-та-наў! П'ер! — радасна крыкнуў Люсьен і кінуўся да яго.

— Здароў, малы! Не падвёў, значыць...

Яны моцна абняліся.

— Дзяжурыце?

— Як бачыш. Чакалі вас на світанні. А вы раней прывалілі. Ну што ж, яшчэ лепш. Пайшлі да камандзіра!

Патушыўшы касцёр, усе падаліся ў лес. Наперадзе крочыў Вартанаў і ціха расказваў Люсьену нешта вясёлае, бо той час ад часу заліваўся смехам.

## 4. УЦЯКЛІ ЯШЧЭ ПЯЦЬДЗЕСЯТ ДВА

*«...6 чэрвеня 1944 года.*
*І я, і Жэрар былі ўпэўнены, што Люсьен, выканаўшы заданне камітэта, застанецца ў нас. Але непрадбачаны выпадак прымусіў французскага хлопчыка пакінуць атрад...»*

*Запіс у дзённіку.*

### 1

У той дзень раніцай Жэрар вярнуўся з нарады, якую праводзіў адзін з сакратароў ЦК камуністычнай партыі Францыі.

— Не, ты толькі падумай, камандзір,— гаварыў ён, звяртаючыся да мяне звычайным тонам.— Усё бягуць і бягуць... І не дзесяткамі, а цэлымі ротамі. Са зброяй. Во гэта мне падабаецца!

Жэрар набіў тытунём люльку, не спяшаючыся выкурыў яе.

— На нарадзе выступаў Курт Фрыш.— Ты яго ведаеш. Гэта камісар партызан з дэпартамента Гар. Ён расказаў, што ўцекачы з лагера Лангон ухітрыліся захапіць ротны мінамёт з камплектам мін... Між іншым, гэта не галоўнае...



— Не кажы, Раймон,— перапыніў я яго.— Вельмі шкада, што ўцекачы з Манда не прыхапілі з сабой зброю. Як бы яна нам спатрэбілася.

Жэрар запярэчыў:

— Не, стары, не зброя тут галоўнае. Куды страшней бошам, што меншаюць іх рэзервы. Дзеля чаго, ты думаеш, фашысты сагналі сюды тысячы ваеннапалонных? Яны хочуць прымусіць сілай ваяваць супраць французаў. А рэзервы разбягаюцца...

— Выходзіць, стаўка на палонных біта?

— Па-мойму...

Жэрар не паспеў адказаць. Хтосьці нерашуча пастукаў у дзверы.

— Уваходзьце!

Нахіліўшы галаву, у бліндаж увайшоў Вартанаў. Ён быў не адзін. З-за яго спіны пазіраў вайсковец гадоў пад сорак.

— Затрыман на заставе,— коратка далажыў Вартанаў.

— Дазвольце, таварыш капітан?—ступіў крок наперад вайсковец.— Старшы лейтэнант Антонаў! Са мной затрыманы яшчэ дзевятнаццаць чалавек. Мы ўцяклі з лагера.

Жэрар ажывіўся:

— Калі ўцяклі? Адкуль?

— З лагера поблізу Алеса. Больш правільна сказаць, што не ўцяклі, а хацелі ўцячы. Ужо зрабілі падкоп, але здраднік выдаў нас.

— Як жа вы тады апынуліся ў лесе? — спытаў я здзіўлена.

— Тут, таварыш капітан, цэлая гісторыя,— адказаў Антонаў.— Дазвольце прысесці?

— Калі ласка, садзіцеся!

— Здарылася гэта так... Нас везлі на світанні, каб расстраляць... У закрытай машыне пяць канвіраў. А нас — у чатыры разы болей. Я і задумаўся: «Што, калі кінуцца на іх і раззброіць?» Я разумеў, што справа гэта рызыкоўная. Але калі перад вачыма смерць, тады гатовы на ўсё...

Антонаў быў вельмі ўзрушаны, але расказваў ціхім голасам.

— Спачатку я развязаў свае рукі, потым суседу. Кожны рух быў разлічан. Сусед памог суседу, і так — па кругу... Канваіры сядзелі пасярод кузава на асобнай лаўцы. Па майму сігналу палонныя ўсе разам кінуліся на іх і абяззброілі. Тых, хто супраціўляўся, мы тут жа ўходалі і выкінулі з машыны...

Антонаў перавёў дух. Адчувалася, што не так лёгка яму расказваць пра ўсё гэта.

— Шум і стрэлы пачуў нарэшце шафёр і рэзка затармазіў. Лічаныя хвіліны, і мы расправіліся з ім і з афіцэрам, які сядзеў у кабіне. Вось і ўсё...

«Вось і ўсё...» было сказана, як пра нешта зусім звычайнае. Але мне, які ведаў, што такое ўцячы з гітлераўскага палону, былі зразумелыя перажыванні Антонава і яго таварышаў, калі іх везлі на расстрэл.

Толькі мужнасць і выключная вытрымка, арганізатарская кемлівасць здолелі пры такіх акалічнасцях, калі, здаецца, усё было скончана, узняць асуджаных людзей на барацьбу.

Даведаўшыся, відаць, ад Вартанава, што на заставе затрымана група ваеннапалонных, у бліндаж прыбег Люсьен.

— Яшчэ раз пераконваюся, браток,— заўважыў я,— што ў цябе нюх разведчыка. Прыйшоў у час... Зараз будзем знаёміцца з новымі таварышамі. Пайшлі.

Уцекачоў пастроілі ў адзін рад каля штаба. Яны стаялі ў падраным адзенні, ледзь не голыя, змардаваныя, з пазелянелымі тварамі і глыбока запалымі вачыма. Асаблівую ўвагу я звярнуў на аднаго з іх, які стаяў на левым флангзе. Старэнькая кашуля вісела на ім, як на калу. Ён стаяў босы, абапіраючыся на сукаваты кій. Яго бледны твар, зарослы шчаціннем, я ўсё ж пазнаў.

— Мелканян?! — крыкнуў я ў той жа раз.

Босы павярнуўся ў мой бок і слаба кіўнуў галавой. Я не памыліўся, гэта быў мой таварыш па палону.

Я ўспомніў лагер у польскім мястэчку Бенямінава, дзе я прабыў з Мелканянам два гады. Фашысты сагналі былі туды да дваццаці тысяч савецкіх ваеннапалонных.

Мы ляжалі на голых нарах покатам, знясіленыя голадам. Паўкацялка смярдзючай бурды на дзень і скібка хлеба, спечанага з пілавіннем, здаваліся нам найвышэйшым шчасцем.

Мне ўспомніўся лагер, і я прабег вачыма па ўцекачах, ад якіх засталіся скура ды косці.

Люсьен стаяў задумёны побач з Жэрарам. Вочы хлопчыка былі поўныя смутку, як у той вечар, калі ён упершыню прыйшоў да нас з Жанетай.

Дзіўна, але хлопчык выклікаў у мяне пяшчотнае, бацькоўскае пачуццё. У гэтым пачуцці былі разам і гонар, і нейкая жаласць, і, калі хочаце, страх за лёс хлопчыка.

Можа быць гэта выклікалася тым, што дзесьці далёка, у сонечнай Арменіі, у мяне астаўся сын Рубен, люсьенаў аднагодак. Назіраючы паводзіны Люсьена, я пытаў у сябе: «А як бы зрабіў мой гарэза?»

А можа маё цёплае пачуццё да французскага хлопчыка тлумачылася яшчэ і тым, што я шчыра палюбіў горды і свабодалюбны народ Францыі! Савецкія людзі і французы ў цяжкіх умовах адстойвалі свой гонар, сваю незалежнасць ад фашыстаў. Гэта зблізала нас, як братоў.

* * *

Ні я, ні Жэрар не маглі прадбачыць, што гэта сустрэча завершыцца так нечакана. Толькі мы вярнуліся да сябе, як хлопчык нас проста здзівіў.

— Я іду ў Манд!— заявіў ён катэгарычна, і я зразумеў, што адгаворваць яго няма сэнсу.

Але камісар усё ж паспрабаваў гэта зрабіць.

— Прызнацца, дружа,— сказаў ён, звяртаючыся да Люсьена,— мы думалі, што ты застанешся тут назусім. Такія хлопцы нам патрэбны... Хочаш — пойдзеш у разведку, а не — будзеш сувязным у камандзіра...

Хлопчык маўчаў.

У мяне чамусьці не было надзеі, што Люсьен прыйдзе зноў (камітэт мог паслаць яго з новым заданнем зусім у іншае месца). Мне ж вельмі хацелася, каб ён абавязкова вярнуўся да нас.

І я спытаў:

— Мы яшчэ, браток, з табой сустрэнемся, праўда?

— Чаму ж не, мой капітан! І нават скора...

Развітваючыся з Люсьенам, я падумаў: «Ён і на самой справе як крэмень, гэты хлопчык. А ён толькі прыйшоў і зноў ірвецца туды, дзе кожны неасцярожны крок пагражае смерцю...»

Мне здалося, што я пачынаю разумець люсьенаў характар. Адно толькі я не мог сабе вытлумачыць: «Чаму ён так спяшаецца ў Манд? Хіба зноў нешта надумаў?»



Калі Люсьен пайшоў, Жэрар сказаў мне:

— Ты заўважыў, капітан, колькі ў хлопчыка злосці? Праклятыя бошы паранілі ўсё цяперашняе пакаленне. Паранілі ў самую душу... Фашысты са сваім Гітлерам згніюць, а ў дзяцей нашых рана будзе крывавіць у сэрцы. Надоўга, калі не назаўсёды...

## 2

Люсьен прыйшоў у горад толькі пад ранне.

Усю дарогу ён уяўляў, як спаткаецца з маці... Вось ён уваходзіць у цёмны калідор і кажа не сваім голасам: «Гэта я...» Не, не так. Ён звоніць ля дзвярэй явачнай кватэры. Дзверы зноў адчыняе маці. У пярэднім пакоі цёмна, маці яго не бачыць, але здагадваецца, што гэта яе сын, і кідаецца насустрач.

Усё, аднак, адбылося інакш...

На явачнай кватэры Люсьен не застаў маці.

— Чаму ты не паведаміў ёй загадзя?—спытаў правізар.—Роўна апоўначы твая маці пайшла ў Арль. Я ўпэўнен, што калі б яна ведала, што ты прыйдзеш, дык засталася б да раніцы.

Хлопчык ведаў, як маці будзе гараваць, калі даведаецца, што ён яе не застаў. Глытнуўшы сліну, якая падступіла да горла, Люсьен на хвіліну адвярнуўся.

«Сапраўды, чаму я не папярэдзіў яе?»

І адразу знайшоў апраўданне. «Як жа я мог папярэдзіць, калі рашэнне прыйшло нечакана. Калі б не бачыў у лесе змардаваных уцекачоў, я, магчыма, застаўся б яшчэ на тыдзень у атрадзе».

Пазванілі два разы. І яшчэ раз — доўга. Свой!

Люсьен кінуўся адчыняць.

Увайшла Мары. Альфрэд Піту, нібы ўспомніўшы, што яму трэба прыгатаваць тэрмінова лякарства, пайшоў у аптэку.

— Я ўжо тут трэці раз,— ціха сказала дзяўчынка, калі яны засталіся ўдваіх.

Люсьен глянуў на яе ўзбуджаны твар.

— Што такое?

— Нічога... Проста мы хваляваліся. Ты ж пайшоў не на прагулку...

Яна сядзела збянтэжаная, апусціўшы вочы, і раптам слязінкі адна за другой пабеглі па яе шчоках.

Надвячоркавыя прыцемкі і цішыня спрыялі шчырай гутарцы. Люсьен сеў побач з Мары на канапе, абняў яе за плечы.

— Супакойся, Мары. Я цябе прашу. Хочаш, раскажу, як мы ўцякалі...

Але яна зусім расплакалася.

— Што ты, што з табой? — разгубіўся хлопчык, не здагадваючыся аб сапраўднай прычыне гэтых слёз.

Люсьен гладзіў яе па галаве, як маленькую, выціраў слёзы, а дзяўчынка плакала яшчэ мацней.

— Ды што з табой? — паціскаў плячыма Люсьен.

Праз слёзы яна ледзь прамовіла:

— У лагеры трывога... Шукаюць тых, хто арганізаваў уцёкі... Я баюся... за цябе...

— Пачакай, а пры чым тут я? Мяне ніхто і не падазрае.

— А можа цябе заўважылі. Ты ж прадаваў каля прахадной кветкі, цыгарэты...

— Глупства, Мары. Там прадавалі і іншыя хлапчукі...

Люсьен усміхнуўся, і твар яго здаўся Мары зусім дзіцячым, наіўным. Дзяўчынка ледзь сунялася, павярнулася да хлопчыка і сказала рашуча:

— Пакляніся Мадонай, што табе нічога не пагражае.

Люсьен далікатна пацiснуў яе руку, прытрымаўшы крыху ў сваёй.

— Клянуся! Але не зусім: у гэту хвіліну не пагражае, а што будзе заўтра — не ведаю...

— Добра. Няхай так, — згадзілася яна і паднялася з канапы. — Час ісці! Цябе чакае не дачакаецца Рабер.

3

Луі Рабер вельмі рады быў, што прыйшоў Люсьен.

Хлопчык падрабязна расказаў яму пра ўдалыя ўцёкі першай групы ваеннапалонных, потым коратка паведаміў пра жыццё партызанскага атрада, пра нечаканае выратаванне групы рускіх, што былі прыгавораны да расстрэлу. І нарэшце спыніўся на галоўным — мэце свайго вяртання ў Манд.

— Я хачу, дзядзька Рабер, прапанаваць вам наладзіць другія ўцёкі з лагера.

Хлопчык успомніў убачаных у лесе змардаваных людзей.

— Нібы з таго свету, з магіл павылазілі, — сумна гаварыў Люсьен. — Я глядзеў на іх і думаў: «Як добра, што першая група ўцекачоў з Манда цяпер на волі і нішто больш не пагражае ім...»

Рабер слухаў Люсьена і думаў аб тым, ці ведае хлопчык, што робіцца ў лагеры. Напэўна, не ведае. Жан Цімон казаў, што там стала вельмі трывожна. Пасля ўцёкаў першай групы фашысты гатовы былі бачыць у кожным ваеннапалонным будучага партызана. Была ўзмоцнена ахова лагера, а за спробу ўцячы стралялі на месцы.

Цяпер Цімон сустракаўся з кіраўніком падпольнай арганізацыі ваеннапалонных Сцепанянам ад выпадку да выпадку. Збоку выдавала так, што цясляр заняты толькі сваёй справай: рамантуе дзверы, вокны, устаўляе шыбы. З ваеннапалоннымі не вітаецца, а калі хто пачынае гаворку, дык злосна агрызаецца і маўчыць.

Сцепанян папярэдзіў падпольшчыкаў, каб трымаліся далей ад цесляра. Сам жа зрэдку падыходзіў да Жана, каб прыкурыць, і той не супярэчыў. Гэта займала якую секунду-дзве і наўрад ці магло выклікаць у аховы падазрэнне.

Рабер прыняў прапанову Люсьена спагадліва, але насцярожана.

— Не ўтаю, сябра мой, на гэты раз табе будзе вельмі цяжка. Але калі ты настойваеш, давай разведай. Можа быць зноў сустрэнешся з Гукам. Гэта — наш сапраўдны таварыш... Мы яго праверылі.

— Я на яго і разлічваў, — прызнаўся Люсьен. — Заўтра ж схаджу.

Але назаўтра хлопчыку не давялося выканаць свой намер. Вярнулася з Арля Жанета, і Люсьен прабыў з ёй увесь дзень. Маці слухала і слухала яго расказы пра тое, як ён жыў гэтыя дні без яе, што рабіў.

Гутарылі і не заўважылі, як мінула поўнач. Нарэшце хлопчык улёгся, але доўга не мог заснуць. Яго трывожылі ўспаміны...

У памяці ўсплыў ціхі летні дзень. Раніца. У небе яшчэ не зніклі ружовыя фарбы. Бераг заліва ў Марсэлі. Бацька, мармычучы песеньку, завіхаецца з вудачкамі, Люсьен яму памагае. Потым яны садзяцца ў лодку. Вяслуючы адзін, Люсьен выводзіць яе далей ад берага — у заліў. А ўвечары маці гатуе юшку.





Хлопчык так і заснуў, адчуваючы ў роце крыху саладкаваты смак юшкі...

Раніцай Люсьен паклаў у кошык дзесяць пачак цыгарэт і пайшоў да лагерных варот. Усю раніцу хлопчык чакаў Францішка Гука, але той не выходзіў.

Не прыйшоў ён і ў абед. «Ці не здарылася што?» — занепакоіўся Люсьен. Ён паглядзеў у кошык. На дне ляжалі тры пачкі — гэта для Гука.

Непрыкметна хлопчык пазіраў час ад часу на прахадную — ці не выйдзе ахоўнік. Але той не выходзіў.

Вечарэла.

Сонца паволі апускалася за гару і сляпіла вочы. Люсьен, засланіўшыся далонню ад сонца, зірнуў на фортку. Чародкай прайшлі эсэсаўцы ў цёмна-сініх і чорных мундзірах, у высокіх шапках.

«Звяругі!» — шапнуў хлопчык.
І раптам з прахадной выйшаў Гук.

Люсьен ад нечаканасці ледзь не крыкнуў, баючыся, што чэх яго не заўважыць, бо ён даўно тут не быў.

Але салдат, азірнуўшыся, адразу ўбачыў хлопчыка. Матнуў галавой, нібы даючы зразумець, каб той ішоў за ім.

Ціха насвістваючы, чэх мінуў гарадскі сквер і, не азіраючыся назад, выйшаў на галоўную вуліцу. Ён ішоў проста ў кафэ Жоржа.

Люсьен, які ішоў за ім на некаторай адлегласці, убачыў спераду, крыху ў баку, чалавека, што стаіўся быў за каштанавым дрэвам. «Хто гэта? За кім ён сочыць? Як папярэдзіць Гука?»

Люсьен прыспешыў крок, але ў той жа міг Францішак параўняўся з незнаёмым. Той пайшоў побач з чэхам, накульгваючы на раненую нагу. Гэта быў Жан Цімон.

Люсьен зайшоў у агульную залу кафэ, але ні Жана, ні Францішка тут ужо не было. Мабыць, яны прайшлі ў салон — круглы пакой ззаду буфета. Ён таксама накіраваўся туды.

Жан ветліва з ім прывітаўся, падсунуў крэсла.

— Садзіся!

Чэх быў нечым устрывожан.

Усхваляваным голасам ён расказаў пра тое, што за апошнія тры дні эсэсаўцы перацягалі да каменданта лагера амаль палавіну ваеннапалонных. Дапытваюць, шукаюць арганізатара ўцёкаў. А мінулай ноччу гестапаўцы забралі Сцепаняна.

— Рускі зольдатэн капут вахен. Ёсць данос...

— А што, камрад, калі наладзіць ім уцёкі? — спытаў Люсьен.

Ён глядзеў на Гука так, нібы ў таго былі ключы ад лагерных варот.

— Люсьен кажа праўду, — падтрымаў хлопчыка Жан Цімон. — Іншага выхаду няма. Толькі бегчы...

Чэх сядзеў колькі хвілін моўчкі, упёршыся падбародкам у далоні.

— Карашо, — сказаў ён рашуча. — Я ім памагу. Морген... Ахт ур. — Гук тыцнуў кулаком сабе ў грудзі. — Іх бін дзяжурны. Зэкстэр пост...

Ён дадаў, што верыць у поспех. Заўтра ўвечары ў гарадской ратушы прызначан банкет у гонар дня нараджэння Германа Герынга. Туды запрасілі ўсіх афіцэраў і большую частку салдат і унтэр-афіцэраў аховы. Будуць, напэўна, піць да раніцы. У лагеры застануцца толькі дзяжурныя.

— Дзякуй, камрад! — Кульгавы Жан моцна пацiснуў Францішку руку. — Мы пойдзем. Трэба падрыхтавацца.

Жан і Люсьен, пакінуўшы кафэ, пайшлі ў домік чыгуначнага вартаўніка, каб разам з Раберам абмеркаваць план дзеяння.

* * *

Апоўдні ў канюшні сабралося бюро падпольнай арганізацыі лагера. Член бюро Заран перадаў таварышам папярэджанне камітэта Супраціўлення пра тое, што ёсць данос на арганізатараў першых уцёкаў. Эсэсаўцы ўжо схапілі Сцепаняна...

— Нам прапануюць сёння ж наладзіць новыя ўцёкі. Я думаю, што ў першую чаргу трэба знікнуць тым, каму пагражае арышт.

Усе адзінадушна падтрымалі Зарана. Зацвердзілі спіс з пяцідзесяці двух чалавек. Дамовіліся, каго пакінуць для падрыхтоўкі ўцёкаў новых груп.

Позна ўвечары падпольшчыкі зрабілі ў агарожы, што каля ўзлесся, два праходы. Пост № 6 маўчаў.



Ваеннапалонныя бясшумна выбраліся з лагера, залатаўшы крыху праходы ў драцяным пераплёце.

У дамоўленым месцы яны сустрэліся з Люсьенам і, не марудзячы, рушылі ў горы.

Калі ўцекачы былі ўжо далёка, пост № 6 узняў баявую трывогу.

## 5. РАСПЛАТА

*«26 чэрвеня 1944 года.*
*Я не памятаю яшчэ такога ўдару! Уся аперацыя заняла дваццаць хвілін. Удзельнічаў у ёй і Люсьен. Ён быў маім сувязным...»*

*Запіс у дзённіку.*

Па горнай дарозе з Алеса ў Манд імчаўся чорны, бліскучы «опель-адмірал». Побач з шафёрам, крыху нахіліўшыся ўперад, сядзеў нямецкі палкоўнік з чыста паголеным азызлым тварам...

Следам за лімузінам несліся яшчэ дзве легкавыя машыны. У іх — афіцэры. А ззаду, прыкрываючы картэж з тылу, ішоў бронетранспарцёр з салдатамі.

Было пасля паўдня. Сонца пякло невыносна. Палкоўнік толькі тое і рабіў, што даставаў з кішэні беласнежную хусцінку, выціраў ёю лоб і шыю.

Гарачыня не давала пра што-небудзь думаць. Рассеяным позіркам глядзеў ён то ўніз, на раўніну, дзе сярод шырокіх палёў зіхацелі вузкія палоскі ракі, то на схілы гор, дзе, нібы салдаты на парадзе, выстраіліся шпалеры вінаграднікаў.

Залатым дажджом льецца ў кабіну сонечнае святло, па баках дарогі мільгаюць кветкі акацый — белыя і ярка-жоўтыя.

Палкоўнік у душы быў рады, што можа нарэшце ні аб чым не думаць і з асалодай глядзець на прыроду Францыі.

Дарога крута збочыла ў лес. Адразу пацямнела, нібы звечарэла.

Палкоўнік, паволі выцягваючы ногі, хацеў апусціцца ў сядзенне ніжэй, але раптам уздрыгнуў, нібы ад электрычнага току.

— Вальтар, там хтосьці варушыцца... — штурхануў ён локцем шафёра.

— Дзе, пан оберст?

— За дрэвам. Злева...

Шафёр прытармазіў. Адна за другой спыніліся і іншыя машыны. Бразнулі дзверцы. Да лімузіна падбеглі афіцэры.

— Што здарылася, гер оберст?

Палкоўнік шморгнуў вялікім, чырвоным з сінімі прожылкамі носам.

— Чалавек там. Абшукайце! — ён паказаў рукой на дрэва.

— Ёсць!

Афіцэры кінуліся выконваць загад. Яны пабегалі вакол дрэва, пашасталі ў кустах, але нікога не знайшлі.

— Старому здаецца, — ціха кінуў на хаду малады афіцэр другому, калі яны выходзілі на дарогу.

— З ім гэта бывае...

Ледзь толькі машыны зніклі за паваротам, як з ямы, накрытай ламаччам, выбраўся хлопчык. Ён асцярожна агледзеўся і па сцяжынцы пабег у глыб лесу, дзе яго чакалі два партызаны.

Па заданню камандавання атрадам Люсьен дзяжурыў тут з раніцы, назіраючы за рухам транспарту. Гэта ён, нечакана выглянуўшы з-за

дрэва, і выклікаў спалох у нямецкага палкоўніка. Калі «опель-адмірал» спыніўся, Люсьен, нібы тая яшчарка, шмыгнуў у кусты і спрытна скочыў у яму, загадзя выгледжаную тут і прываленую ламаччам.

Куды памчаліся машыны — ён не ведаў. Але здагадаўся пра іншае: у іх ехалі важныя птушкі. Інакш навошта ж перад тым, як паявіўся лімузін, праскочылі матацыклісты, а картэж суправаджаў бронетранспарцёр?

Люсьен адразу пабег у атрад, каб далажыць камандаванню аб усім.

* * *

Пасля другіх уцёкаў ваеннапалонных з мандскага лагера гітлераўцы ўзбурыліся не на жарты. Пяцьдзесят два ўцекачы — які скандал!

З раніцы да вечара палонных цягалі да каменданта. Былі пушчаны ў ход усе сродкі, каб выведаць адно — хто памагаў уцекачам?

Аляксандра Зарана дапытваў сам начальнік зборнага пункта, былы ўрангелевец маёр Пратарыус.

— Я дакладна ведаю, што ты звязан з франціраэрамі. Не адпірайся! Хочаш жыць — кажы, хто арганізаваў уцёкі?

Заран быў не з палахлівых. Пратарыус, вядома, правакуе яго. Калі б маёр ведаў, што ён член падпольнай арганізацыі, яго даўно б знішчылі.

— Тут, пан маёр, нейкае непаразуменне, — спакойна заявіў Заран. — Я не ведаю ніякіх франціраэраў. На мяне ўзвялі паклёп па злосці.

У Пратарыуса не было довадаў супраць Зарана, і ён працадзіў праз зубы:

— Праверу. Але калі пацвердзіцца — застрэлю. Так і ведай!

Дапытвалі не толькі ваеннапалонных, але і салдат аховы. Тыя нічога не ведалі. Толькі адзін з іх мог бы дакладна назваць арганізатараў і іх памочнікаў, але яго, як ні дзіўна, ніхто ні ў чым не падазраваў. Гэта — Францішак Гук.

Справа ў тым, што за тыдзень да ўцёкаў Гук падаў начальству рапарт. Ён даносіў, што ўчастак вакол паста № 6 зарос высокай травой і яна замінае назіраць мясцовасць. Францішак прасіў каменданта распарадзіцца хутчэй скасіць траву.

Пра гэты рапарт успомнілі толькі пасля здарэння.

Камендант адразу ж выклікаў Гука і прапанаваў яму забыцца, што ён калі-небудзь падаваў такі рапарт. І дакумент быў тут жа знішчан, каб не пакідаць ніякіх слядоў.

— Глядзі, не прагаварыся, — папярэдзіў камендант.

— Не турбуйцеся, гер маёр, — адказваў Гук, нічым не выдаючы сваё задавальненне, што так усё добра абышлося. — Не турбуйцеся, ад мяне ніхто нічога не пачуе.

Пасля гэтай размовы камендант узяў Гука пад абарону: ахоўнік сумленна выканаў свой абавязак, ён узняў баявую трывогу. А што эсэсаўцы не злавілі ўцекачоў — гэта ўжо не ён вінаваты.

Вынікі расследавання, якое вёў сам камендант лагера, як відаць, не задаволілі начальства. І вось у Манд прыбыла з Алеса асобая камісія. На чале яе — оберст Генрых Крыст, начальнік акруговага аддзела гестапа.

Больш за ўсё турбот камісія задала інтэндантам. За тры дні, пакуль яна была ў лагеры, апусцелі ўсе запасы віна. Папойкі пачыналіся з вечара і цягнуліся без перапынку аж да рання.

А раніцай — допыты...

Крыст парашыў сустрэцца з камендантам лагера і пагутарыць з вока на вока.



— Гэта нечуваны канфуз, маёр, — гаварыў палкоўнік. — Раз уцяклі, другі раз — і ніякіх слядоў...

— Але, гер оберст, у іншых лагерах тое ж самае...

— А хіба вам ад гэтага лягчэй? — Палкоўнік дастаў папяросу, закурыў яе і, падсунуўшы бліжэй да сябе попельніцу, гаварыў далей:

— Будзем, маёр, гаварыць шчыра, па-салдацку. Я не магу паехаць адсюль, пакуль не назаву вінаватых у арганізацыі ўцёкаў. Такі мой абавязак...

Камендант маўчаў, нібы не пачуў. Тоўстая ніжняя губа яго зусім абвісла, і былі відаць рэдкія жоўтыя зубы.

Маёр спалохана глянуў на шэфа гестапа, разумеючы, што варта таму захацець — і ён лёгка апынецца сярод вінаватых за ўцёкі. Гэта ж факт, што ўвесь афіцэрскі састаў і большая частка аховы ў той дзень п'янствавалі на банкеце ў гарадскім клубе. А тут яшчэ гэты рапарт Гука.

Пастаяўшы крыху моўчкі, камендант ліслівa сказаў:

— Гер оберст! Вы мудры чалавек... Падкажыце, што мне зрабіць. Я гатовы на ўсё...

Палкоўнік ухмыльнуўся, але нічога не адказаў. Пасля невялікай паўзы ён падняўся з-за стала, прайшоўся некалькі разоў узад-уперад па пакоі, падышоў да акна. Камендант сачыў за кожным яго рухам.

Нарэшце гестапавец павярнуўся і сказаў нягучна, быццам тут прысутнічаў яшчэ хто трэці:

— Пагаворым, маёр, на чысціню! Я перакананы, што не знайду ў вашым лагеры сапраўдных вінаваўцаў уцёкаў! — Пры гэтых словах твар каменданта адразу пасвятлеў. — Але знайсці іх трэба абавязкова. Яны ёсць!.. — Палкоўнік са злосцю абтрос попел з папяросы. — Наколькі мне вядома, у мандскай турме знаходзяцца семнаццаць франціраэраў. Яны нашы ворагі... Іх мы і зробім вінаваўцамі ўцёкаў. Я вынесу пастанову, і мы іх пусцім у расход... Спадзяюся, што вы мяне зразумелі?

— О, так, гер оберст! Як жа не зразумець!

Камендант быў гатовы знішчыць у два разы больш франціраэраў, чым назваў шэф гестапа, толькі б не адказваць за ўцёкі палонных з лагера.

— Назначайце ўзвод, — загадаў палкоўнік. — Выберыце самых надзейных салдат...

## 2

Франціраэраў расстралялі на світанні ў лесе паблізу Манда. Сярод іх быў і Поль Брэтон, член дэпартаменцкага камітэта Супраціўлення.

Нам стала гэта вядома ў той жа дзень. Жанета з'явілася ў атрад ужо зацемна. Яна была сумная, пад вачыма — сінія цені. Я яшчэ ніколі не бачыў яе такой.

— Што здарылася?

Голас у Жанеты дрыжаў, калі яна расказвала пра гібель сваіх таварышаў. Скончыўшы расказваць, сувязная звярнулася да мяне:

— Не думайце, капітан, што я прыйшла да вас толькі дзеля таго, каб паведаміць горкую вестку. Я прынесла заданне... Трэба знішчыць тых, хто так жорстка расправіўся з невінаватымі людзьмі, нашымі таварышамі.

Яна гаварыла горача, і я зноў бачыў жывую, энергічную Жанету.

— Знішчыць! — паўтарыла сувязная яшчэ раз гэта слова, нібы прысуд. — Камітэт даручае гэта вашаму атраду.

Як чалавеку ваеннаму, мне было ясна, што кідаць для гэтага ў Манд увесь атрад няма сэнсу.

У горадзе — моцны гарнізон. У лагеры — палявая жандармерыя, ахова. Шмат ахвяр можа выклікаць такая аперацыя. Ці нельга прыдумаць што-небудзь іншае?

І тут мне прыгадалася, што расказваў Люсьен пра вялікае начальства, якое ехала ў кірунку Манда за тыдзень перад расстрэлам французаў. Дык вось што гэта быў за картэж! Асобая камісія гестапа.

— Жанета, — спытаў я ў сувязной, — вы не ведаеце, калі гестапаўцы пакідаюць Манд?

— А каторай гадзіне, не скажу. Дзень жа ведаю дакладна. Афіцэры, якія пілі ўсю ноч у кафэ Жоржа, прагаварыліся, што вернуцца ў Алес 24 чэрвеня.

«На падрыхтоўку астаецца крыху больш за суткі, — падумаў я, слухаючы сувязную. — Бадай, хопіць».

— Ну што ж, — сказаў я Жанеце. — Перадайце камітэту, што заданне будзе выканана. Ад расплаты бошы нідзе не дзенуцца. Гадзіна раней — гадзіна пазней...

Павячэраўшы, Жанета пайшла ў суседні бліндаж пабачыцца з сынам. Праз гадзіну яна павінна была пайсці назад у горад.

Я, камісар і начальнік штаба неадкладна прыступілі да распрацоўкі плана аперацыі.

Дарога Манд — Алес нам была добра вядома. Разведчыкі выхадзілі яе ўсю ўздоўж і ўпоперак. Акрамя таго, мы вялі ўвесь час назіранне за рухам транспарту: нас цікавіла, куды акупанты перакідваюць свае войскі і баявую тэхніку.

Было вырашана месца для засады выбраць каля моста, што цераз горную рэчку. З абодвух бакоў тут да дарогі падыходзіць хмызняк — ёсць дзе схавацца.

Удзельнікаў нападу на гэты раз мы не прызначалі, а выбралі добраахвотнікаў з кожнай роты. Іх было так шмат, што Жэрар, які кіраваў аперацыяй, аддаў перавагу тым, хто ўцёк з мандскага лагера. Яны даўно прасіліся ў бой, каб адплаціць фашыстам за пакуты і гора.

Ледзь занялося світанне, як мы рушылі ў дарогу. Пакуль ішлі, устала сонца. Яно паволі выплывала з-за высокага лясістага хрыбта, што падобен быў на буйназубую пілу. І адразу ж закуродымілі мокрыя схілы, заблішчэла раса на лісці дрэў, на траве. З гор несла духмянасцю кветак.

Па лясному хрыбту ішла горная дарога — няроўная, з частымі паваротками, крутымі спускамі.

— Ну і круча! — выгукнуў Вартанаў, прыгадаўшы роднае Закаўказзе. — Аж галава закружылася...

Мы парашылі скараціць дарогу і падымацца горнай сцяжынкай. Той, хто жыў у гарах, ведае, як гэта складана. Не туды паставіў нагу, і можаш паляцець уніз. А то яшчэ і другіх пацягнеш за сабой. Патрэбен праваднік!

У групе быў такі — Хачык Мелканян. Горац, ён умеў спрытна карабкацца па адхонах скал, узбірацца па крутых сцежках, хадзіць над безданню. Мелканян — альпініст. Ён да вайны ўзбіраўся нават на Эльбрус. На вайне Хачык быў сапёрам у стралковым палку, дзе я камандаваў ротай.

Лагернае жыццё падарвала яго здароўе, але за тры тыдні, якія прайшлі ў атрадзе, ён прыкметна ачуняў, паправіўся, крыху паружавеў. У яго цёмных летуценных вачах зноў запаліліся вясёлыя агеньчыкі.

Я смела даверыў Мелканяну весці групу, а сам пайшоў следам. Трэцім прыстроіўся Люсьен. Мы абвязаліся вяроўкай і рушылі. Чуваць было, як шапацяць пад нагамі, абсыпаючыся, дробныя каменьчыкі.

Мелканян зрэдку даваў сігнал спыніцца, каб лепш прыгледзецца да месца, перадыхнуць.

Перад вачыма — маляўнічы куток поўдня Францыі. Вакол па схілах гор крывыя ствалы аліўкавых дрэваў, вінаграднікі. То там, то сям на вяршынях скал — старадаўнія замкі і манастыры.

Адзін замак быў зусім блізка — толькі перайсці даліну. Чатыры вежы па баках з вострымі шпілямі. У сценах, вежах і на даху чарнелі квадраты-байніцы.

А ў сіне-блакітнай далечы, зацягнутай смугою, сотні домікаў танулі ў зяляніне садоў.

Гэта — Алес. Над горадам пануе ўрэзаны ў неба вузкі трохкутнік касцёла з чорным крыжам.

— Як прыгожа, мой капітан, праўда?

Я пазнаў голас сувязнога і павярнуўся да яго. Хлопчык быў бледны, вочы ўваліліся. З-пад заламанага крыху набок берэта тырчэлі мокрыя кудзеркі цёмна-каштанавых валасоў.

— Ты вельмі стаміўся? — спытаў я Люсьена. — Мо' пасядзім яшчэ?

Хлопчык не адказаў, а толькі прыкусіў ніжнюю губу. Ён рабіў гэта заўсёды, калі чаго-небудзь злаваў.

— Бадай і ў мяне выгляд не лепшы за твой, — павярнуў я сваё пытанне на жарт. — Але ж сябе я не бачу...

Люсьен прыняў мой жарт, усміхнуўся.

— Калі ласка, мой капітан, прашу вас, — сказаў ён. — Не рабіце для мяне выключэння. Лічыце мяне дарослым. Добра?

— Па-а-д'ём! — скамандаваў я і накіраваўся да сцежкі, дзе нас ужо чакаў Мелканян.

Другая палавіна дарогі не абышлася без прыгод. Люсьен, які ішоў



ззаду, незнарок аступіўся і павіснуў над самай безданню. Ледзь мы ўсцягнулі яго назад.

Апоўдні мы перавалілі цераз хрыбет і пачалі спускацца па дарозе да рэчкі.

Вось і мост. Я загадаў кінуць на дарогу з абочыны перад мостам два кароткія бервяны, нібы яны зваліліся з машыны.

Група падзялілася на дзве часткі і заняла пазіцыі абапал дарогі ў кустах.

Лес у гэтым месцы быў густы, і вяршаліны дрэў ледзь не спляталіся над галавой. Густое зяленіва прапускала мала святла, і ўнізе было цемнавата.

Я абсталяваў свой НП на другім баку ад моста. На невялікім ўзвышшы, адкуль добра відаць былі дарога і пазіцыі партызан у засадзе.

На пляцоўцы ля назіральнага пункта Люсьен устанавіў ручны кулямёт. Калі хто з гітлераўцаў паспрабуе кінуцца ўперад праз мост, ён адразу ж трапіць пад кулямётны агонь.

Вечарэла. Я ўжо двойчы спускаўся з узгорка на дарогу правяраць засады.

— А раптам, мой капітан, паездку адмянілі? — спытаў Люсьен, які стаяў ля кулямёта і пільна сачыў за дарогай.

Я хацеў адказаць, што ў жыцці ўсё бывае, але ў той момант пачуў аддалены шум. Люсьен мігам кінуўся на дарогу, прыслухаўся і, вярнуўшыся, коратка далажыў:

— Едуць!

Прайшло хвілін дзесяць, і з-за павароткі выскачылі спачатку матацыклісты, а за імі вынырнуў чорны лімузін. На невялікай адлегласці за лімузінам ішлі яшчэ дзве легкавыя машыны, а ззаду — бронетранспарцёр.

Гітлераўцы нічога не падазравалі.

Вось яны ўжо наблізіліся да моста.

Матацыклісты праскочылі праз бярвенні, і ў гэты міг лімузін пачаў тармазіць свой ход, а за ім скрыгатнулі тармазамі і другія машыны.

Партызаны замерлі, чакаючы.

«Агонь!» — не памятаю як, скамандаваў я.

З кустоў паляцелі гранаты. Узняўся такі грукат, нібы поблізу дзе абрушылася гара і груда камення пасыпалася на дарогу.

Не перастаючы, страчылі аўтаматы, і заходзіўся ручны кулямёт Люсьена. Усё гуло ад стрэлаў і выбухаў.

Палкоўнік, адчыніўшы дзверцы лімузіна, паспрабаваў быў кінуцца ў кювет, але Люсьен прашыў яго кулямётнай чаргой.

З бронетранспарцёра ўсё яшчэ стралялі. Над галавой свісцелі кулі, нібы хто рассякаў паветра пугаю. Тады Мелканян прапоўз некалькі метраў уздоўж кустоў і, крыху прыўзняўшыся, шпурнуў у машыну адну за другой бутэлькі з гаручым. У тую ж секунду занялося полымя, фашысты спрабавалі выскачыць з машыны, але нікому не ўдалося выратавацца.

Не затрымліваючыся, я сабраў групу. Усе былі жывыя — дваццаць пяць чалавек, як адзін.

— Раненыя ёсць?

— Няма, таварыш капітан.

Гэта за ўсіх адказваў Вартанаў. Ён, вышэйшы за астатніх байцоў, стаяў увесь абвешаны трафеямі.

Нам дасталося ў гэтым баі дваццаць шэсць аўтаматаў, ручны кулямёт, восем пісталетаў і дзве скрынкі з патронамі.



Да мяне падышоў Мелканян. Паказваючы на дарогу, дзе валяліся трупы гітлераўцаў, ён сказаў задаволена:

— Здарава атрымалася, праўда?

— Праўда, Хачык! Сваю песеньку гэтыя забойцы адспявалі... Але мы яшчэ не разлічыліся як след. Памятаеш Беніямінава? А Пулаву не забыў? А Манд? Не, за гітлераўцамі яшчэ вялікі доўг...

Мелканян выйшаў наперад.

— Дазвольце, таварыш капітан, весці групу?

— Не, не дазваляю. Цяпер павяду я. Станаві-і-ся!

Пастроіўшыся ў калону, мы рушылі назад. Побач са мной крочыў Люсьен. Я з уцехай глядзеў на хлопчыка — ён трымаў сябе ў баі, як сапраўдны салдат. Пазіраючы на яго, я думаў: «Мусіць праўда, што калі ты малады, дык не лёгка верыш у небяспеку...»

## 6. ДЗЯДЗЬКА П'ЕР

*«5 ліпеня 1944 года.*

*Люсьен ніколі пра дзядзьку не ўспамінаў.*

*Яго прыслалі марсэльскія франціроры...»*

*Запіс у дзённіку.*

### 1

Люсьен стаяў на варце ля той самай паляны, дзе паўтара месяца назад яго сустракалі з першай групай уцекачоў. Направа ад яго, зусім блізка, стаіўся за дрэвам Мікалай Балонін.

Світала. Чырвоны беражок на небе з кожнай хвілінай усё шырэў і святлеў. Перадранішні туман хутка знікаў, і толькі асобныя, параздзіраныя шматкі яго, падобныя на вату, трымаліся на нізкіх кустах.

Люсьен углядаўся ў кусты, што варушыліся ад ветру, прыслухоўваўся да шолаху.

У лесе абуджалася птаства.

Нечакана злева, у тым месцы, дзе стаяў старэнькі домік, пачуўся трэск і шум. Нехта, як мядзведзь, пёрся напралом.

Вартавыя насцярожыліся.

«Хто гэта?»

Непадалёку хруснула сухая галінка, і за ствaламі дрэў мільгнуў чалавек.

— Гэй, хто там туляецца? Выходзь! — вырвалася ў Люсьена, які стаяў бліжэй. — Выходзь, кажу. Буду страляць...

Кусты рассунуліся, і на паляну выйшаў высокі, моцны мужчына ў рабочай кепцы і сіняй куртцы. Ён азірнуўся і раптам гучна крыкнуў:

— Люсьен! Дарагі!

— Дзядзечка П'ер! — хлопчык глядзеў разгублена на чалавека, не ведаючы, што рабіць. Яму хацелася кінуцца да дзядзькі, абняць яго, але ж як гэта зрабіць, калі стаіш на пасту.

Дзядзька П'ер ірвануўся наперад, маючы намер прытуліць пляменніка, але той трымаў аўтамат напагатове.

— Не падыходзьце, прашу вас. Не дазволена...

— Але мне трэба з табой пагаварыць, каб цябе чорт... — дзядзька пачынаў злавацца.
— Назавіце пароль! — патрабаваў Люсьен.
— З гэтага б і пачынаў, пляменнічак. А то — «не падыходзьце», «не дазволена»... «Макі скрозь» — выгукнуў ён пароль.
Люсьен усміхнуўся.
— А хто вам патрэбен?
Толькі цяпер дзядзька, відаць, успомніў, дзе ён знаходзіцца і, наблізіўшыся, ціха сказаў:
— Мне патрэбен ваш самы галоўны камандзір.
Люсьен пераглянуўся з Балонінным — той быў старшы ў нарадзе. Балонін матнуў галавой, даўшы зразумець хлопчыку, што дазваляе яму суправаджаць затрыманага ў штаб атрада.
— Камрад Леруа! — загадаў хлопчык дзядзьку. — Ідзіце за мной!
Дзядзька П'ер здзіўлена паціснуў плячыма, але падначаліўся.

* * *

Я слухаў, як скардзіўся затрыманы на Люсьена, і ледзь утрымаўся, каб не засмяяцца.
— Вы падумайце, капітан, палавіна Марсэля ведае, што я яго дзядзька. А ён прывёў мяне да вас пад вартай. Нібы я зусім пабочны чалавек...
— Ваш пляменнік стаяў на пасту, ён асоба недатыкальная, — тлумачыў я так, што супярэчыць нельга было. — І хто б да яго ні набліжаўся, свой ці чужы, ён павінен дзейнічаць, як належыць вартавому.
— Так то яно так, — нехаця згаджаўся са мной марсэлец. — Але ж дзядзька гэта ўсё ж...
Ён пастаяў крыху, раздумваючы, і раптам спахапіўся:
— Вінаваты, капітан! Я забыў прадставіцца. П'ер Леруа!
Дзядзька П'ер нагнуўся, зняў з левай нагі чаравік, дастаў з-пад усцілкі лісток, складзены ў чатыры столкі, і падаў яго мне:
— Тут усё сказана.
Я разгарнуў лісток і адразу пазнаў почырк Рабера. Ён прасіў памагчы Леруа, як дэлегату марсэльскіх чыгуначнікаў. «Падрабязнасці П'ер паведаміць Вам асабіста», — пісаў Рабер.
Люсьен, па майму даручэнню, выклікаў Жэрара, і калі той з'явіўся, я дазволіў хлопчыку пайсці на свой пост.
— Да пабачэння, дзядзечка! — прыветліва махнуў ён рукой на развітанне.
Жэрар прывітаўся з дэлегатам і сеў на покут. Ён дастаў з кішэні курткі люльку, напхаў яе тытунём, закурыў і, насупіўшы бровы, падрыхтаваўся слухаць.
— Дык вось, сябры мае, якая справа, — пачаў дзядзька П'ер. — Нам стала вядома, што з Рура накіраваўся ў Марсэль воінскі эшалон. Ён вязе гарматы для бошаў. У Ізэсе яго чакаюць паслязаўтра. Чыгуначнікі Марсэля ўпаўнаважылі мяне прасіць вашай дапамогі. Знішчыце гэты эшалон!
Ні я, ні камісар не здзівіліся, што марсэльцы звярталіся з такой просьбай іменна да нас. Ізэс — самая блізкая чыгуначная станцыя. Але як знішчыць воінскі эшалон? Гэта было не так ужо і проста, як думалася некаторым.
— Можа вы падкажаце, як гэта лепш зрабіць? — спытаў я ў Леруа.
— Прачыстая дзева Марыя! — выгукнуў ён. — Адкуль мне ведаць.





Я — машыніст, а не падрыўнік. Вы ж чалавек ваенны. Вам і карты ўсе ў рукі.

Утрох мы пачалі прыкідваць розныя варыянты. У мяне ўзнікла думка напасці двума ротамі на Ізэс, калі там спыніцца эшалон.

Дзядзьку П'еру гэтая думка спадабалася.

— Во будзе здарова, — гаварыў ён, моцна паціраючы загрубелыя рукі. — Абяззброіце варту і зробіце з эшалонам усё, што захочаце.

Але Жэрар катэгарычна засупярэчыў:

— Не забудзься, капітан, што нам дарагі кожны чалавек. На дапамогу ахове эшалона кінуцца салдаты мясцовага гарнізона. Заварыцца такая каша, што тут будзе не да ўзрыву.

— Тады, можа, узарвем эшалон у дарозе? — прапанаваў я.

Жэрар усміхнуўся:

— А як ты забярэшся ў састаў? Яго ж пільна ахоўваюць на ўсіх прыпынках. Во, каб сярод чыгуначнікаў, якія суправаджаюць эшалон, знайшоўся свой чалавек, тады іншая справа. Але марсэльцы нічога не паведамляюць. Значыць, такога чалавека няма.

— Ведаеце што, сябры, — сказаў дзядзька П'ер. — Разбярыце рэйкі і наладзьце крушэнне.

— Не выйдзе, дарагі камрад, — узняў угару палец Жэрар, нібы каму пагражаў. — Круглыя суткі чыгуначныя пуці ахоўваюцца. Удзень патрулі правяраюць ледзь не кожны стык, а ўночы палатно асвятляюць пражэктары. Паспрабуй сунуцца! Але дапусцім, што нам усё ж удасца ашукаць чуйных бошаў і адкруціць у двух месцах гайкі. А дзе гарантыя таго, што патрулі не выявяць гэта?

Супярэчанні камісара прымусілі дзядзьку П'ера задумацца. Ён уздыхнуў, збянтэжана паклаў рукі на калені.

Жэрар не згаджаўся ні з адным варыянтам. З боку магло здацца, што ён робіць гэта наўмысна, бо нічога не прапануе ўзамен. На самай жа справе камісар імкнуўся знайсці нешта надзейнае, што не выклікала б ахвяр.

Некалькі хвілін Жэрар уважліва разглядаў карту мясцовасці, разгорнутую на стале. Потым узняў галаву і папрасіў Леруа падсунуцца бліжэй.

— Скажыце, камрад, — спытаў Жэрар, паказаўшы рукой на тонкую сінюю лінію, што вывівалася вужакай. — Мост праз гэтую раку ўстойлівы?

Леруа глядзеў на камісара здзіўлена, намагаючыся, відаць, адгадаць сэнс яго пытання.

— О, так. Я шмат разоў вадзіў па ім цяжкаваговыя саставы. Вытрымліваў! Чыгуначнікі расказвалі мне, што ён пабудаваны яшчэ пры Напалеоне. І каштаваў ледзь не дваццаць мільёнаў франкаў... Мост, я ўпэўнен у гэтым, моцны.

— Цудоўна! Прыйдзецца ўзарваць яго, — сказаў Жэрар ціха, нібы сам сабе.

Я заўважыў, як пры гэтых словах твар у Леруа стаў больш змрочны.

— Нічога, камрад, — сказаў я, супакойваючы. — Пасля вайны пабудуюць другі. Яшчэ лепшы...

— Дай, божа, дай, божа, — уздыхнуў дзядзька П'ер. Адчувалася, што яму было па-чалавечы шкада разбураць мост часоў Напалеона. Але што зробіш — вайна...



2

Дэлегат марсэльскіх чыгуначнікаў правёў у нас цэлы дзень. Ён пабываў у падраздзяленнях, гутарыў з партызанамі. Усюды яго сустракалі радасна, па-братэрску.

Вярнуўся Леруа ў штаб позна вечарам.

З поўначы дыхнула зусім не летнім ветрыкам.

— Хочаце пагрэцца ля кастра? — спытаў я ў Леруа.

— З задавальненнем, — прызнаўся дзядзька П'ер, бо начны халадок даваў сябе адчуваць.

Жэрар, я і марсэлец пайшлі ў глыбіню лесу да кастра. Над ім узнімаліся іскры, нібы зліваліся з зоркамі.

Вакол стаяў вясёлы гоман. Гучэла руская, французская, грузінская, армянская мова. Партызаны адпачывалі. І як заўсёды бывае ў хвіліны адпачынку, захацелася спяваць. Які ж гэта адпачынак без песні...

Нехта зацягнуў песню.

Я не бачыў твару таго, хто спяваў. У тым месцы, дзе ён сядзеў, усё хавалася ў цемры, мільгалі толькі чырвоныя водбліскі. Але з першых жа гукаў я адчуў усё хараство песні, якую грузін спяваў на роднай мове.

Падкінуўшы ў агонь галінак, падсеў да кастра Люсьен. Па выразу яго твару было відаць, што і яго сэрца ў тую хвіліну поўнілася чароўнымі гукамі:

Я заўважыў ружу-красу,
Што ліла, як слёзы, расу.
Ці не ты гэта ідзеш з ручнікам,
Любая мая Суліко?

Нешта далёкае і разам з тым блізкае чулася ў гэтай песні, якая была аднолькава дарагая і для тых, хто разумеў яе словы, і для тых, хто ўслухоўваўся толькі ў яе цудоўны напеў.

Песню спявалі ціха. Да грузіна далучыліся другія. Спявалі нястройна, часам неўпапад. Грузін старанна размахваў рукамі, намагаючыся сабраць галасы ў агульны хор.

Люсьен сядзеў, абняўшыся з Балоніным, і абодва ціха падцягвалі грузіну. У такія хвіліны асабліва глыбока адчуваеш цеплыню сэрца сяброў...

Я ўбачыў у той вечар, як моцна падружыліся людзі — таварышы па зброі, быў гэта рускі ці грузін, француз або армянін, чэх ці азербайджанец.

Мне здавалася, што тое ж адчуваюць і дзядзька П'ер, і Раймон Жэрар, і Мікалай Балонін, і Хачык Мелканян, і Вано Нінашвілі, які спяваў. І асабліва Люсьен.

Я глядзеў на французскага хлопчыка, які з хваляваннем спяваў грузінскую песню, і міжволі прыгадаў словы Дзмітрыя Фурманава: «Эх, песня, песня, што можаш ты зрабіць з сэрцам чалавека!»

І яшчэ я падумаў, гледзячы на свайго сувязнога: «Хто ён, гэты хлопчык? Ці не нашчадак тых, хто штурмаваў сцены Бастыліі, хто вытанцоўваў на плошчах Парыжа «Карманьёлу», хто змагаўся і паміраў на барыкадах Парыжскай Камуны?

* * *

У той вечар мы засядзеліся за поўнач.

Вінаваты быў Люсьен. Ён раздабыў недзе печаныя каштаны, сыр, кавалак варанага мяса і нават дзве бутэлькі аперыціву.*

* Пітво для ўзбуджэння апетыту.

Дзядзька П'ер сказаў:

— З выпадку нашай сустрэчы, сябры мае, не пашкодзіць і выпіць па шкляначцы...

Ён разбіраўся ў пітве. Глянуўшы на святло праз бутэльку, Леруа ўздыхнуў:

— Яно і дзесяць гадоў не пабыло ў склепе... Во, каб бургундскага — далікатнага, духмянага...

Віно дзядзька П'ер піў невялікімі глыткамі і ўвесь час чокаўся:

— Ваша здароўе, камрад!

Больш за ўсіх быў узрадаваны Люсьен. Расчырванелы, вясёлы, ён спяваў нешта сабе пад нос.

— Што ты там гудзеш? — спытаў я. — Ці нельга мацней?

— Можна, мой капітан. Гэта я ўспомніў адну французскую песню. Яе вельмі любіў мой бацька.

Высокім, крыху надламаным голасам Люсьен спяваў:

Спявай на світанні, народ рабочы,
Спявай і над вечар, спявай і уночы,
Што радаснай стане праца народная.
Спявай пра жыццё цяжкое сваё,
Ціха спявай сяброўцы тваёй
І гучна ўсім — што Францыя свабодная.

Дзядзька П'ер падміргнуў мне, паказваючы на пляменніка, і ўзняў шклянку:

— За тваё здароўе, Люсьен!

Выпілі, як водзіцца, за прысутных, потым і за адсутных.

Калі ўспомнілі Жанету, твар у Леруа стаў лагаднейшы. Ён з сумам у вачах паглядзеў на пляменніка і, павярнуўшыся да мяне, хацеў нешта сказаць, але махнуў толькі рукой:

— Добра, потым...

Я падумаў, што ён стаміўся. Дзядзька П'ер цэлы дзень быў на нагах. «Ці не пара яму і адпачыць?»

Люсьен прапанаваў Леруа свой ложак, а сам, развітаўшыся, пайшоў начаваць да Балоніна. Жэрар таксама пайшоў спаць, і мы з Леруа засталіся ўдваіх.

Дзядзька П'ер паклаў рукі на калені і глянуў мне ў твар.

— Святая Мадона! Я ледзь не прагаварыўся пра Анры. Люсьен не любіць, калі пры ім гавораць пра бацьку...

— Чаму? Хіба ён быў такі, што пра яго нельга гаварыць пры сыне.

— Не, дружа! Тут іншае... Хлопчык ведае пра бацьку ўсю праўду. Ён баіцца, што могуць перайначыць яе. Хіба мала ў нас размоў, у якіх праўды столькі ж, колькі ў роце старога зубоў?

Леруа прытуліўся плячом да сценкі бліндажа, скрыжаваў рукі на грудзях. Я глянуў на яго, і мне здалося, што дзядзькавы вочы памутнелі ад слёз.

Так ён сядзеў моўчкі хвілін дзесяць. Потым абапёрся локцямі на стол і, як чалавек, які даўно таіў нешта ў сэрцы і раптам вырашыў адкрыцца, зноў загаварыў дрыготкім голасам:

— Анры забралі ўночы... Ён быў адказным камуністычнай групы марсэльскага порта. Докеры, што сядзелі з ім у камеры, расказвалі мне, як трымаўся Анры на допытах. Яго білі шомпаламі, катавалі, але ён нікога і нічога не выдаў...

Леруа змоўк. Відаць было, што ён вельмі хвалюецца. Глытнуўшы разы два з недапітай шлянкі, Леруа гаварыў далей:



— З турмы Анры не вярнуўся. У гестапа Жанеце паведамілі, што ён нібы выкінуўся з акна камеры...

Леруа больш не сказаў пра гэта ні слова.

— Вы ўжо даруйце, сябра, — ціха сказаў дзядзька П'ер. — Я, мусіць, не здолеў расказаць пра Анры так, як ведаю і адчуваю. Бо ведаеш і адчуваеш заўсёды больш, чым можаш сказаць...

У тую ноч Леруа так і не спаў. А другой гадзіне за ім прыйшлі разведчыкі. Яны правялі дзядзьку П'ера да горнай дарогі, што вядзе ў Арль.

Поўны месяц здзіўлена глядзеў з-за высачэзных дрэваў на трох чалавек, якія паглыбляліся ў гушчар і нягучна пра нешта гутарылі.

## 7. МОСТ ЧАСОЎ НАПАЛЕОНА

*«9 ліпеня 1944 года.*
*Пра тое, што мост у Ізэсе ўзарваны, раней за ўсіх даведаліся чыгуначнікі. Значыць, і дзядзька П'ер, і тыя франціpэры ў Марсэлі, што пасылалі яго...»*

*Запіс у дзённіку.*

### 1

Раненька я разам з Балоніным і Люсьенам накіраваўся ў Ізэс. Мне хацелася асабіста пабываць на месцы і пазнаёміцца з абставінамі, у якіх давядзецца дзейнічаць партызанам. Тады лягчэй будзе выбраць канчатковы варыянт знішчэння моста. За мной жа, як камандзірам, апошняе слова.

Балонін лёгка знайшоў у траве старую, зарослую сцежку — ён не першы раз ішоў на станцыю па заданню разведкі. Мы ступалі следам за Балоніным.

Прайшло якія гадзіны дзве, і мы пачалі спускацца па зарослым схіле проста ў Ізэс. На невялічкім узгорачку, у кустах, затрымаліся, каб агледзець мясцовасць.

Направа — вакзал. Ад яго да моста — з паўкіламетра. Нападзеш на ахову — дапамога можа прыспець скора. Асабліва дрызінай.

Я задуменна глядзеў наперад на чыгуначнае палатно. Абапал яго — жывая агарожа з кустоў. Абрывалася яна амаль ля самага моста. Пачаў шукаць адгадку — адкуль пачынаецца дротавая загарода: з таго месца, дзе абрываюцца кусты, ці з берага ракі?

Люсьен атрымаў загад удакладніць гэта, а заадно разведаць, ці няма каля загароды замініраваных участкаў.

Налева, не даходзячы метраў сто да моста, ніжэй ля насыпу — будка. Ці дзяжурыць хто там? Яшчэ бліжэй да моста, таксама ўнізе, — домік. Мабыць, памяшканне для варты. Цікава — на колькі чалавек? А ці няма такога ж доміка з правага боку. Высветліць усё гэта я даручыў Балоніну. Ён адразу пайшоў да кювета.

Сам я падаўся да прыбярэжных кустоў. Круты цяністы схіл хаваў мяне ад вачэй вартавых, што стаялі на абодвух канцах моста.

Прымасціўшыся ў густым хмызняку, я пачаў назіраць. На кусты з моста нацэлены кулямёты. Побач з імі схаваныя ў чахлы пражэктары.

Зрэдку да мяне даносілася пераклічка вартавых:

— Ахтунг!

— Ахтунг!
Непадалёку, направа, крыху вышэй ад моста, часам чутны былі глухія гукі, падобныя да выбухаў гранат. Мусіць, салдаты глушылі рыбу.
Счакаўшы з гадзіну, мы сышліся ў дамоўленым месцы. Параіліся крыху, а потым накіраваліся да сябе.
Асабістыя назіранні, а таксама паведамленні Балоніна і Люсьена пераканалі мяне ў тым, што мост узарваць можна. Мініраваць яго трэба ўночы.
— Выйдзе? — спытаў у мяне Жэрар, калі мы вярнуліся ў атрад.
— Павінна выйсці. Але...
Прыйшлося, як ні горка, прызнацца камісару, што не ўсё мы высветлілі, калі былі на станцыі.
— А што іменна?
— Чым адцягнуць увагу вартавых ад моста? Гэта вельмі важна.
Начальнік штаба прапанаваў падпаліць вартавую будку, што непадалёку ад моста. Але ніхто не падтрымаў такой прапановы, бо гэта толькі б насцярожыла ворага.
— Сцебануць хіба з кулямёта? Я ўпэўнен...
Балонін хацеў быў развіць сваю думку, але сустрэў адразу асуджальны позірк камісара і тут жа асекся.
— Не, стары, гэтым ты бошаў не напалохаеш, — заўважыў Жэрар. — Ты ж сам казаў, што ў іх кругавая абарона.
— Так то яно так, але ўсё ж такі... — не здаваўся Балонін.
Мы яшчэ з паўгадзіны разбіралі розныя варыянты, намагаючыся знайсці нешта такое, што і сапраўды магло б аглушыць вартавых.
Люсьен ціха сядзеў у куточку і часам соп. Мне, прызнацца, здалося, што ён дрэмле. «Напэўна, прытаміўся ў дарозе» — толькі падумаў я, як ён усхапіўся з месца.
— Па-мойму, лепш за ўсё лодка.
Усе здзіўлена пераглянуліся. «Што ён кажа? Навошта тая лодка?»
— Я хачу растлумачыць, — гаварыў далей хлопчык. — Трэба пусціць лодку з грузам уніз па цячэнню. І запаліць на ёй два чырвоныя ліхтары.
Некалькі хвілін мы сядзелі моўчкі.
— А і сапраўды, гэта ідэя, — выгукнуў першы Жэрар. — Ты гэта здорава прыдумаў, хлопец!
— А дзе возьмеш лодку? — пацікавіўся начальнік штаба.
Камісар запэўніў:
— За гэтым справа не стане. Я ведаю ў Ізэсе людзей з мясцовай групы Супраціўлення. Яны падкінуць лодку, куды загадаем.

* * *

Старшы лейтэнант Антонаў ужо не быў падобны на таго сухарлявага, з запалымі грудзьмі ваеннапалоннага, які прывёў у атрад дзевятнаццаць сваіх таварышаў, выратаваных ад расстрэлу.
Ён раздаўся ўшыркі і памаладзеў.
У аперацыі пад Алесам Антонаў камандаваў узводам, які першы напаў на картэж гестапаўцаў. Старшы лейтэнант у самыя крытычныя хвіліны заставаўся вытрыманы, спакойны. І я спакойна даручыў яму лёс чатырох удзельнікаў дыверсійнай групы, якая пасылалася ў Ізэс, каб знішчыць чыгуначны мост.
Байцы гэтай групы, як і іх камандзір, розныя людзі. Не толькі па нацыянальнасці — армянін, грузін, рускі і француз, але і па ўзросту,



а галоўнае — па характару. Гэта ўсё ж не замінала ім адчуваць сябе сціснутым кулаком аднае рукі.
Мініраваць мост Антонаў даручыў Хачыку Мелканяну.
— Віншую, кацо! — пацiскаў яму руку Нінашвілі. — Работка якраз па тваёй натуры.
— У памочнікі пойдзеш?
— У памочнікі? Да цябе?
Нінашвілі не спяшаўся адказваць.
— Ты чуеш, Вано, пра што я цябе пытаю? — Мелканян лёгенька крануў яго за рукаво.
— Вядома, чую. Не глухі.
— Тады адказвай.
— Нашто так адразу? Дай падумаць.
— Ты падумай, Вано. А я пакуль пашукаю замест цябе іншага...
— Ай, кацо, не злуй мяне, калі ласка. Нашто табе хто іншы, калі я згодны. Толькі шакал можа адмовіцца стаць асістэнтам у такога прафесара, як ты...
Мелканян глядзеў, смеючыся, на свайго будучага памочніка: «Бач, як вывернуўся!»
— Калі так, дык бяры скрынку з толам. Другую вазьму сам.
— Ну і хіцер Зміцер, — сказаў, усміхаючыся, Балонін, паказаўшы галавой у бок Нінашвілі. Але той ужо нічога не чуў і не бачыў. Узваліўшы на спіну скрынку з толам, ён падаўся сцяжынкай у кірунку станцыі.
Ісці было цяжка. Ногі блыталіся ў густой траве, плечы мулялі вяроўкі, якімі былі перавязаны скрынкі з толам.
Тол неслі па чарзе, мяняючыся праз кожную паўгадзіну. Калі падышла чарга Люсьена, старшы лейтэнант прыняў ад Балоніна груз на сваю спіну.
— Дазвольце, мой капітан, — загарэўся Люсьен. — А я?
— Спакайней, браток. Не трэба нервавацца! — заўважыў Антонаў. — І цябе нагрузім. Толькі пад канец...
— Гэта табе, Люсьен, не песенькі слухаць ля кастра, — кінуў на хаду Нінашвілі і дадаў: — З пуд, пэўна, пацягне.
— Куды хапіў, — павярнуўся Мелканян.
— А што? Скажаш, менш?
— Жартаўнік ты, далібог, Вано!.. — усміхнуўся Мелканян.
Ужо вечарэла, калі група выйшла на невялічкую паляну. Антонаў наблізіўся да невысокага пня, павярнуўся спіной і, крыху прысеўшы, паставіў на яго скрынку.
Нінашвілі таксама зняў сваю скрынку.
— Якое гэта шчасце, кацо, — сказаў ён крыху з’едліва, — калі перад табой ідзе разумны чалавек.
Толькі паспелі партызаны прысесці, як у кустах нешта зашасцела, нібы прабег вецер. Усе схапіліся за аўтаматы.
— Ні гуку! — Антонаў прыклаў палец да губ.
Партызаны пахаваліся за дрэвы.
Колькі хвілін у кустах было ціха. Потым галінкі рассунуліся, і, азіраючыся вакол, на лужок выйшаў пажылы чалавек, гадоў за пяцьдзесят, у чыгуначнай форме. Рухі яго былі няўпэўненыя.
— Рукі ўгору! — загадаў старшы лейтэнант і кінуўся да незнаёмага.
Але, убачыўшы партызан, той не спужаўся. Наадварот — падобна было на тое, што ён нават рады.

— Вы ж мне, сябры, і патрэбны. «Макі скрозь» — спакойна назваў чыгуначнік пароль.

У адно імгненне яго абступілі з усіх бакоў, гледзячы на чалавека з цікаўнасцю.

Гэта франціпэры Ізэса накіравалі яго ў атрад з данясеннем.

— А вы пакажыце нам данясенне, — папрасіў Антонаў. — Мажа вам і не трэба будзе далей цягнуцца.

Чыгуначнік вагаўся не доўга. Лязом нажа ён распароў рукаво знізу і выцягнуў адтуль паперыну.

— Чытайце, — ахвотна падаў ён яе старшаму лейтэнанту.

Патрыёты Ізэса паведамлялі Жэрару, што яго просьба выканана — лодка схавана ў дамоўленым месцы. І яшчэ паведамлялася, што эшалон адыдзе з апошняй станцыі перад Ізэсам а трэцяй гадзіне раніцы. Да моста ён будзе ісці дзесяць хвілін.

— Дзякуй, камрад! — шчыра цісну́ў незнаёмаму руку Антонаў. — Лічыце, што данясенне ўручана, каму і належала. Можа, пойдзеце разам з намі?

— З задавальненнем. А што мне перадаць сваім?

— Скажыце, усё ў парадку.

На апошнім прывале, за кіламетр ад станцыі, партызаны разлучыліся з чыгуначнікам. Ён пайшоў направа — да вакзала.

Старшы лейтэнант дазволіў Балоніну перадаць свой груз Люсьену. Хлопчык узрадаваўся, твар яго аж заззяў. Ён асцярожна ўзваліў скрынку на спіну і паціху ступаў сцяжынкаю наперад.

## 2

Ноч. Ціхая, цёмная...

Ледзь відны фермы моста. Здалёк выдае, што з берага на бераг перакінута доўгая скрыня.

Вакол — туман. Густы, волкі — паўзе ад ракі і асядае ўнізе.

У кустах ля берага, не варушачыся, ляжаць партызаны. Назіраюць.

— Пара! — гаворыць старшы лейтэнант Балоніну і Люсьену.

Абодва нячутна вылазяць з кустоў і паўзуць на карачках да палатна. Узбіраюцца па крутым насыпе.

На шпалах ні душы. Заляглі між рэек.

Раптам Балонін тузануў Люсьена за нагу. Хлопчык павярнуў галаву направа. Знізу, адтуль, дзе памяшканне для варты, даносілася нямецкая гаворка і следам — глухі грукат ботаў па прыступках драўлянай лесвіцы.

Люсьен прытуліўся да шпал так, што, здавалася, зросся з рэйкай.

Трое ў касках узышлі на насып, спыніліся.

«Куды яны пойдуць?» — мільганула ў люсьенавай галаве.

Хлопчык падцягнуў бліжэй аўтамат, намацаў пальцам баявы спуск.

«Хай толькі сунуцца — скашу...»

Люсьену здалося, што рэйка, да якой прытуліўся ён, трывожна стукае: «тук-тук, тук-тук».

Фашысты пайшлі ў кірунку моста.

— Змена варты, — шапнуў Балонін, калі салдаты расплыліся ў туманнай імгле.

Трымаючыся рукамі за траву, партызаны паволі ссунуліся пад адхон і, прапоўзшы крыху па кювету, шуганулі ў кусты.

Метраў за трыста вышэй ад моста яны знайшлі лодку. Праверылі, ці на месцы груз. Запалілі два чырвоныя ліхтары і прымацавалі іх па





канцах лодкі. Спусцілі лодку на ваду, штурханулі—і яна ціха паплыла ўніз па цячэнню ў кірунку да моста.

Балонін і Люсьен вярнуліся туды, дзе іх чакалі таварышы. Позіркі партызан скіраваны былі цяпер у адно месца — на мост.

— Хутка рушым, — папярэдзіў Антонаў. — Мелканян, Нінашвілі, вы гатовы?

— Гатовы, таварыш старшы лейтэнант, — нягучна адказаў Мелканян. — Чакаем загаду.

Немцы, як відаць, не чакалі. Начную цішыню зрэдку рассякалі воклічы вартавых:

— Ахтунг!

— Ахтунг!

У небе скрыжоўваліся, нібы сінія шпагі, промні пражэктараў. Праз роўныя прамежкі часу яны падалі ўніз, глыбока ўразаючыся ў ваду, зноў раптоўна вырываліся, каб кінуцца ў кусты каля моста. Потым тухлі, каб праз якую хвіліну зноў запаліцца.

Толькі патухлі ў гэты раз пражэктары, як вока вартаўніка заўважыла на вадзе два чырвоныя агеньчыкі.

Чырвоныя вокі-агні падплывалі ўсё бліжэй, гарэлі ўсё ярчэй. Плёскалася вада аб нешта цвёрдае.

Абодва пражэктары запаліліся і скіраваліся туды, дзе гарэла чырвонае святло. Сіні язык лізнуў па вадзе. Лодка!

Вартавыя ўзнялі трывогу. У праменнях пражэктара было відаць, як замітусіліся салдаты, як кінуліся яны па лесвіцы ўніз, каб перахапіць лодку.

— Давайце! — Антонаў павярнуў галаву да Мелканяна і Нінашвілі.

— Ёсць! — шэптам адгукнуўся Мелканян, хаваючы ў кішэню гімнасцёркі ўзрывальнікі, абкручаныя паперай.

Падрыўнікі рушылі праз кусты да дроту. Яны паўзлі, заміралі на якую секунду-дзве, прыслухоўваліся і зноў паўзлі.

Лявей ад моста — спакойна. Уся ўвага аховы скіравана на лодку. На яе нацэлены пражэктары, у тым баку чутна гучная размова.

Скончыліся кусты. Мелканян прыгадаў люсьенава папярэджанне аб тым, што перад загародай — міннае поле.

Рукі партызан поўзалі па траве, абмацваючы кожную сцяблінку. Раптам правая рука Мелканяна нібы здрантвела, наткнуўшыся на калочак!

Міна нацяжнога дзеяння! Мелканян асцярожна пералез праз калочак і, мацаючы наперадзе траву, падаўся ўлева.
«Бяры ўлева, Вано!» — прахрыпеў ён.
Абмінуўшы міннае поле, падрыўнікі падпаўзлі да дроту.
— Памажы, — прапанаваў Мелканян свайму памочніку. Той прыўзняў ніжнюю нітку дроту, прапусціў Нінашвілі, а потым праціснуўся і сам.
Вось і бераг.

Напружваючы ўсе сілы, яны хуценька паўзлі да маставога быка. Мелканян ведаў, куды класці тол. Акуратныя скрыначкі ляглі дзе трэба.
Сапёр паклаў у скрыначкі невялічкія алюмініевыя трубачкі, адкрытыя з аднаго канца, куды ўставіў шнур.
«Назад!» — сам сабе загадаўшы, адштурхнуўся Мелканян і папоўз, хутка распускаючы шнур. Паўзці назад, здавалася, было лягчэй. І ўсё ж, пакуль дабраліся да сваіх, кашулі злубянелі на холадзе ад поту.
— Парадак! — стомлены да беспрытомнасці, выціснуў з сябе Мелканян адно толькі гэта слова. Але Антонаў зразумеў.
— Адпачніце! У нашым распараджэнні дзве гадзіны.
Мелканян павярнуўся на бок, не выпускаючы з рук канец шнура, намотаны на палец.
— Хачык... — падпоўз да Мелканяна Люсьен. — Ты чуеш?
— Што такое?
Люсьен баязлівым шэптам папрасіў:
— Дай мне патрымаць шнур.
У просьбе французскага хлопчыка было нешта большае, чым простая дзіцячая цікаўнасць, і Мелканян зняў з пальца маток.
— На, толькі не тузай...
Люсьен асцярожненька патрымаў шнур і вярнуў яго назад.
— Дзякуй!
Вакол станавілася ўсё больш шумна. Хоць ахова нічога не знайшла ў лодцы, акрамя ліхтароў і камення, з'яўленне лодкі насцярожыла немцаў. Прамені пражэктара часцей забегалі па мясцовасці вакол моста. Паветра прарэзала кулямётная чарга, лісце пасыпалася з дрэў. Потым яшчэ адна чарга...
Старшы лейтэнант глянуў на гадзіннік: тры нуль-нуль.
Гудок і далёкае дыханне паравоза прымусілі партызан здрыгануцца. Эшалон выйшаў з апошняй станцыі.
Праз дзесяць хвілін ён будзе на мосце. Як доўга цягнуцца гэтыя хвіліны. «Хутчэй бы ўжо ўсё скончылася...»
Яшчэ тры хвіліны...
З-за павароткі паказаўся паравоз. Ён ішоў з прыжмуранымі фарамі. Перад мостам машыніст пачаў тармазіць. Пад вагонамі ў святле іскраў мільгалі колы.
Паравоз ціха ўз'ехаў на мост. За ім пацягнуўся даўжэзны састаў.
Цяжка дыхаючы, паравоз сунецца ад пралёта да пралёта. Мінуў першы... другі... Павіснуў над трэцім...
— Давай! — загадаў прыцішаным голасам старшы лейтэнант Мелканяну.
Той затрымаў на якое імгненне дыханне і з усёй сілай тузануў шнур.
У тую ж хвіліну ўсіх аглушыў страшэннай сілы гром, нібы адначасова стрэлілі сотні гармат. Шуганула над мостам полымя.
Мост часоў Напалеона асунуўся ўніз, на ваду.



## 8. СВАБОДА

*«3 жніўня 1944 года.*
*Мне здаецца, што я ніколі не забуду гэты дзень. Колькі нечаканых сустрэч, гарачых абдымкаў!..»*

*Запіс у дзённіку.*

1

Да штурму Манда мы рыхтаваліся даўно, але па розных прычынах ён адкладваўся. То было мала людзей, то не хапала зброі і боепрыпасаў.
Яшчэ ўвесну Жэрар сустракаўся па гэтаму пытанню некалькі разоў з Раберам. Распрацавалі план сумеснага выступлення партызан і савецкіх воінаў, што пакутавалі ў мандскім лагеры.
Ваеннапалонныя павінны былі паўстаць. На партызан жа ўскладалася задача — памагчы ім у гэтым. Калі ўсё скончыцца добра, тады ваеннапалонныя і партызаны штурмуюць мандскі гарнізон і вызваляюць горад ад фашысцкіх захопнікаў.
У лагеры арганізоўваліся ўдарныя групы. Сярод партызан распаўсюджваліся падпольныя газеты, зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. Падпольшчыкі з дапамогай камітэта Супраціўлення дасталі зброю.
Падрыхтаваліся і мы — партызаны. Чакалі толькі сігналу.
Але паўстанне прыйшлося адкласці — цяжэйшыя сталі абставіны пасля таго, як уцяклі дзве групы ваеннапалонных. Фашысты ўстанавілі ў лагеры жорсткі рэжым. Варта шалела...
Прайшло некалькі месяцаў. Суадносіны сіл памяняліся. На поўдні Францыі змагалася супраць гітлераўцаў некалькі партызанскіх атрадаў. Камандаванне руху Супраціўлення магло цяпер ужо ставіць складаныя задачы.
Другога жніўня я атрымаў загад штурмаваць Манд. Штурм прызначаўся на заўтра. Часу асталася мала, і, асядлаўшы дарогу, мы ў поўдзень рушылі ў кірунку Манда.
Па дарозе нас абагнаў на матацыкле афіцэр сувязі з другога атрада. Ён паведаміў, што іх атрад будзе падтрымліваць нас.
— Ну што ж, цудоўна, — заўважыў Жэрар, даведаўшыся, хто будзе нашым суседам. — Добра адчуваць у баі локаць таварыша. Весялей тады...
Пад вечар партызаны сканцэнтраваліся на зыходных пазіцыях, абкружыўшы Манд. Нашаму атраду давялося першым уварвацца ў лагер. Больш за ўсіх хваляваліся тыя з нас, хто яшчэ зусім нядаўна сам знаходзіўся там, за калючым дротам...
Надышла ноч, але нікому не спалася — перад боем рэдка каму спіцца...
Я падышоў да групы байцоў, што акапаліся на ўзлессі. Прыслухаўся да іх нягучных спрэчак. Хтосьці настойліва даводзіў, што бошы не прымуць бой — уцякуць.
— А куды? Вакол жа нашы.
Я адразу пазнаў басок Вартанава.
— А чаму б ім не ляцець? Чаму, скажы, калі ласка?
— «Чаму ды чаму»... Усё ты, Вано, хочаш ведаць. А я хачу зразумець адно: нашто цябе сюды прыслалі — пытанні задаваць або дзейнічаць?

— Ну-ну, не злуйся, кацо, — Нінашвілі не сядзелася на месцы. — Дай закурыць!

— На! — Вартанаў, мабыць, падаў яму кісет з тытунём. — Толькі куры ў рукаво...

— Не бойся, яно ў мяне шырокае, як твая Волга...

Усё сціхла. Нінашвілі, мусіць, курыў, накрыўшыся плашч-палаткай. Праз хвіліну зноў раздаўся яго вясёлы голас:

— Эх, былі б віно і вінаград, ды яшчэ тытуню трохі, — тады каўказскі чалавек не прападзе...

— Гэй ты, каўказскі чалавек, — перапыніў яго Хачык Мелканян. — Прызнайся, галубок, што ты скажаш каменданту, калі зноў апынешся на тым баку агарожы?

— Што скажу? Бандыт ты, во што скажу. Мы — людзі. Ты хто? Вірышвіль! * Шакал! Бяры, што зарабіў. І ўсё тут! Кропка! І клічнік! І ніякіх пытальнікаў!

Я ўсміхнуўся сам сабе, задаволены баявым настроем партызан, і заспяшаўся на свой НП — пачынала ўжо днець.

Набліжаўся штурм. Мы лічылі хвіліны, што асталіся. І раптам хвілін за пятнаццаць да ўмоўленага часу шырока расчыніліся лагерныя вароты. Гэта было нечакана.

Пазней нам стала вядома, што ўночы камандаванне мандскага лагера звязалася па радыё з Берлінам. Адтуль перадалі загад: усіх савецкіх ваеннапалонных адправіць неадкладна пад вартай у Германію.

Камендант і старшыя афіцэры ўцяклі на самалёце, перадаручыўшы гэтую аперацыю ўнтэр-афіцэрам і салдатам.

## 2

У той міг, калі адчыніліся вароты лагера, мы нічога не ведалі і былі страшэнна ўражаны тым, што ўбачылі.

З варот паволі выпаўзала калона, якую канваіравалі немцы. Наперадзе са звязанымі рукамі ішлі заложнікі — члены падпольнай антыфашысцкай арганізацыі. Фашысты зрабілі з іх заслон: «Страляйце ў сваіх!»

У каго ж з нас магла ўзняцца рука на таварыша!

Гітлераўцы схітравалі і нейкім чынам вырваліся з акружэння. Яны павялі калону ў кірунку Вільфора. У тумане ўзнятага пылу бясконцай істужкай расцягнуліся палоннікі пад вартай канвою.

На французскай зямлі ішло жыццё, якое ніхто не мог спыніць. Квітнелі на сонцы палі чырвонай канюшыны, зелянелі аксамітам травы, жаўцелі палосы пшаніцы.

Савецкія палоннікі ледзь цягнулі ногі. Стаяла вакол такая цішыня, што добра чуваць было шаргаценне стомленых ног па пяску.

Двойчы спрабавалі мы напасці на канвой, каб адрэзаць хоць бы хвост калоны, але атрымлівалі адпор. Баявыя заставы і салдаты, якія прыкрывалі калону ззаду, палівалі нас такім агнявым дажджом, што мы не маглі ўзняць галавы.

Я стаяў на ўзлессі, задумаўшыся, і глядзеў услед калоне, якая ўсё больш аддалялася.

«Што ж зрабіць?»

Усе мы разумелі, што нельга дапусціць, каб на нашых вачах вывезлі на расправу ў Нямеччыну баявых сяброў, якія трапілі ў бяду.

* Вірышвіль — па-грузінску «сабачы сын».



«Але што рабіць?»

Побач на нізкім пні сядзеў Жэрар, а непадалёк, верхам на паваленым дрэве, — Люсьен.

— Дрэнь справа, — сумна заўважыў Жэрар. — Пакуль яны ідуць суцэльнай калонай, ды яшчэ з такім ачапленнем, не падступішся. Пераб'ём сваіх... Але вось калі ўвойдуць у Вільфор... — Вочы яго заблішчэлі неяк асабліва, нібы ён прадбачыў, што здарыцца ў гэтым горадзе. — Вуліцы цесныя, разгарнуцца няма дзе. Тут і нападай. Бі ахову! Трушчы гітлераўцаў!

«Камісар гаворыць праўду, — падумаў я, слухаючы Жэрара. — У горадзе і сапраўды лягчэй нападаць на ворага».

— Яшчэ, капітан, май на ўвазе, — дадаў Жэрар. — У Вільфоры насельніцтва за нас. А бошам гэта ўсё роўна, што цвік у пяту...

Я глядзеў на энергічны твар Раймона, на яго суровы выгляд, на скуранку і штаны-гольф. «Які ён партызан? — спытаў я самога сябе.— Яму б камандаваць палком французскай арміі!»

— А як звязацца з насельніцтвам, папярэдзіць яго? — спытаўся я.

— Гэта я бяру на сябе. Дай мне роту Некрашэвіча. А ў Вільфоры я звяжуся з францірэрамі. Іх важак Альфрэд Берцье — мой стары сябра.

— Люсьен! — гукнуў я сувязнога. — Пакліч сюды Некрашэвіча.

— Ёсць, мой капітан!

Хвілін праз пяць прыбег задыханы камандзір першай роты. Я перадаў яму коратка змест задання.

— А як нам трапіць у Вільфор раней, чым прыйдзе туды калона?

— Вельмі проста, — уступіў у гаворку Жэрар. — Мы пойдзем не дарогай, а напрамкі — па горных сцежках. Я ручаюся, што апярэдзім бошаў...

Люсьен папрасіў у мяне дазволу пайсці з ротай. Жэрар згадзіўся. «Адпусці, спатрэбіцца...»

## 3

Альфрэд Берцье зусім не чакаў Жэрара. Апошні раз яны бачыліся год назад у Німе. Раймон узначальваў тады там падполле, а сувязным у яго быў Альфрэд.

Потым іх дарогі разышліся. Жэрара паслалі камісарам партызанскага атрада, а Берцье пачаў кіраваць у Вільфоры мясцовай групай Супраціўлення.

І вось яны сустрэліся зноў.

— Што чуваць, стары? — пытаўся Жэрар, абнімаючы Альфрэда.

— Шкодзім бошам патроху, — адказаў важак мясцовых франціраэраў. — Усё чакаем, калі даручаць вялікую справу...

Берцье зусім не падобны быў да старога. Чырванашчокі малады чалавек з абветраным тварам гаварыў тэмпераментна, як усе на поўдні, энергічна размахваючы рукамі.

— Чакаеце вялікай справы, кажаш, — ухапіўся за слова Жэрар. — Я і прыйшоў да цябе якраз па такой справе. Памажы нам, Альфрэд.

— Чым жа?

— Бачыш, стары. Сюды ідзе з Манда калона савецкіх ваеннапалонных. Трэба іх вызваліць.

— О, гэта цудоўна, — загарэўся Альфрэд. — А што мы, канкрэтна, можам зрабіць?

— Галоўны ўдар па ахове нанясе рота партызан, — тлумачыў Жэрар. — Цябе і тваіх сяброў я прашу заняцца дарланаўцамі. Добра было б іх ізаляваць.
— Навошта ізаляваць? Яны ж здраднікі, і іх трэба прыкончыць.
Берцье загараўся ўсё больш і больш.
— І яшчэ я прапаную, — заявіў ён, — напасці на турму. Туды кінуты шахцёры. Яны затапілі шахты, каб не даць бошам вугалю.
Жэрар далікатна паспрабаваў стрымаць гэты запал у Альфрэда.
— Не ўсё адразу, Альфрэд. Гэта зробім потым. Асноўнае — даць свабоду палонным.
— Добра, Раймон! Няхай потым, — ахвотна згадзіўся ён. — Я пабягу, каб сабраць сваіх хлопцаў.
— Пачакай жа хоць крыху, — схапіў яго Жэрар за руку. — Ты перш парай, дзе нам лепш наладзіць засады. Давай пройдземся разам па горадзе.
За паўгадзіны Жэрар і Берцье выбралі будынкі, дзе маглі схавацца партызаны. Люсьена з ручным кулямётам паслалі на званіцу царквы. У Берцье знайшоўся ў царкве свой чалавек.
— Заўважыш, што бошы кінуцца ў лес, касі іх. Патронаў не шкадуй.
Люсьен спакойна ўстанавіў ручны кулямёт і пачаў чакаць.

* * *

Калона набліжалася да Вільфора. Ужо відзён горад. Дамы — у густых воблаках садоў і паркаў. Зіхацяць на сонцы шыбы.
Людзі ў калоне ледзь перастаўляюць ногі. Твары палонных змардаваныя, шэрыя ад пылу.
У баку ад дарогі чарнее лес.
Цішыня. Толькі птушкі шчабечуць у садах, ды гудзяць пчолы над кветкамі. Нібы той бурштын, жаўцеюць на сонцы гронкі вінаграду. У гародах, над чырвонымі кветкамі маку, весела кружацца матылькі.
А на тварах палонных журба: «Няма надзеі на выратаванне».
Вось ужо і чыгуначная станцыя, дзе іх чакае пусты эшалон. Яшчэ адна паваротка...
«Нарэшце!» — уздыхнулі з палёгкай канваіры. Усю дарогу іх трывожыла назойлівая, як слепні, думка пра тое, што павінна здарыцца нешта страшнае. А тут усё абышлося для іх шчасліва.
Люсьен, які сядзеў на званіцы, убачыў за паваротка на станцыю барыкаду. У абед яе тут яшчэ не было. Хто ж яе збудаваў?
Упоперак вуліцы дагары коламі ляжаў грузавік. А над ім — груда друзу і пяску, дошкі.
Галава доўгай калоны палонных завярнула за вугал і спынілася. Далей не было як ісці — барыкада.
І раптам з-за дамоў раздаліся стрэлы.
Пачалася мітусня. Калона разарвалася на часткі. Гітлераўцы спрабавалі павярнуць яе назад.
— Цурук! Цурук!
Але дзе там, калі над галавой свішчуць кулі.
У гэты міг выскачылі з-за дамоў партызаны. Завязалася рукапашная бойка. Палонныя, адчуўшы падтрымку, здавалася, гатовы былі перагрызці ім горла.





Канваіры пачалі разбягацца. Адны з іх пусціліся ўцякаць у лес, але пасланыя Люсьенам кулі даганялі ўцекачоў.
— На руках асуджаных на смерць палонных паабразалі вяроўкі. Гучныя воклічы радасці насіліся ў паветры:
— Арцём, дружа! Ты жывы?
— Сцяпан, братка!
— Ваган, даражэнькі! Дай я цябе абніму.
— Ай, кацо, на каго ты стаў падобны! Нічога, паправішся...
Савецкія людзі абнімалі адзін аднаго. У многіх на вачах былі слёзы.
Калі пералавілі ўсіх канваіраў, Жэрар дазволіў Люсьену пакінуць свой пост. Той злез са званіцы і, узваліўшы на плячо кулямёт, пабег да сваіх. У тым месцы, дзе дарожка крута загіналася ў завулак, яго ціха паклікалі. Люсьен азірнуўся — нікога. Пуста. Зрабіў крок наперад, зноў паклікалі:
— Хлопчык, пачакай!
Нехта са склепа махаў да сябе рукой: «Ком хір! Сюды!»
Люсьен скінуў з пляча кулямёт, пастаяў у нерашучасці, а потым накіраваўся да склепа.
— Гук! Францішак! — радасна крыкнуў хлопчык, пазнаўшы чэха, які купляў у яго цыгарэты. — Вылазь хутчэй...
Праз некалькі хвілін хлопчык стаяў перад Жэрарам і трымаў за руку нямецкага канваіра.
— Ты навошта яго прыцягнуў?
— Камрад камісар, — гучна і ўзбуджана гаварыў Люсьен. — Я знайшоў яго ў склепе... Гэта — Гук. Чэх Францішак. Памятаеце, я вам расказваў...
Раймон глядзеў на высокага салдата, які жмурыў ад святла вочы. «Дык вось хто памагаў палонным уцякаць з лагера? Шосты пост!..»
Жэрар моцна абняў канваіра. Усе былі здзіўлены.
— Дзякуй, камрад! Вялікі табе дзякуй за ўсё...
— Нічшога. Нічшога...— чэх ад хвалявання не знаходзіў слоў.
— Здзірай, Люсьен, з яго пагоны! — загадаў Жэрар. — Ён пойдзе з намі граміць турму.
— Вельмі добра, вельмі добра, — паўтараў Гук, знімаючы кіцель.

— Ну, Францішак, станавіся побач з намі. Пайшлі! — загадаў Жэрар.

Праз дзесяць хвілін партызаны былі ля турэмных варот, дзе іх чакалі франціpэры Вільфора.

## 9. ЛЯ КАЛЬМЕТ

*«24 жніўня 1944 года.*
*Гарачая бойка каля вёскі Ля Кальмет скончылася позна. А назаўтра мы хавалі нашых таварышаў, што загінулі за свабоду Францыі...»*

*Запіс у дзённіку.*

### 1

У прыцемку яе затрымалі на заставе,

Француженка наадрэз адмовілася адказваць на пытанні і заявіла, каб яе зараз жа адвялі да мяне.

Неўзабаве перада мной стаяла бялявая, з грывачкай на ілбе дзяўчынка. Твар яе выдаваў унутраную ўсхваляванасць: шчокі гарэлі, вочы неспакойна бегалі, некага шукаючы.

— Мне патрэбен камандзір рускіх, — сказала яна, хвалюючыся, і ўважліва ўзіралася ў твары афіцэраў, адгадваючы, хто ж з іх старшы.

— А навошта ён вам?

— Вельмі патрэбен, мсье... даруйце, камрад, — папраўілася яна. — Я павінна гаварыць з ім асабіста.

— Я — камандзір...

Заўважыўшы, што дзяўчынка бянтэжыцца ў прысутнасці астатніх, я дадаў:

— Гаварыце, не саромейцеся! Гэта мае памочнікі.

— Я таксама памочніца... Жанеты Рэнар... Мяне завуць Мары.

— Мары?! — гучна перапытаў я яе імя. — Дазвольце, ад каго гэта я чуў пра вас?

Глянуўшы яшчэ раз на бялявую грыўку і малюсенькія завушнічкі, я ўспомніў, што расказвалі Балонін і Вартанаў, вярнуўшыся з Манда. «Гаспадыня вартаўнічага доміка!» — так, здаецца, называлі яны яе.

— Вы вывучылі рускую мову і слухалі радыё Масквы?

— Так, мой капітан. Але мне лягчэй гаварыць на роднай мове. Вы не супярэчыце?

— Калі ласка. Сядайце, расказвайце.

Мары паведаміла, што праз Манд прайшла механізаваная калона немцаў. У вёсцы Каштанэ фашысты зрабілі прывал.

— Я заходзіла ў гэтую вёску, — сказала француженка. — У мяне там цётка жыве. Клацільда Мішэль. Бошы занялі ўсе памяшканні. Мабыць, заначуюць.

— А калона вялікая?

— Як вам сказаць? — Мары задумалася. — Праз горад машыны праскочылі мігам. Але іх было шмат. Танкі — вялікія і сярэднія, і зусім маленькія, падобныя на скрынкі. І яшчэ машыны з браніраваным верхам.

— Бронетранспарцёры?



— Мусіць, яны...

Мары зрабіла невялікую паўзу і гаварыла далей:

— Рабер баіцца, што гэта з дывізіі «Мюнхен». Яе спяшаюцца перакінуць на ўсход... Супраць рускіх.

— Можа быць... — згадзіўся я. — Не так добра адчуваюць цяпер сябе гітлераўцы, каб кідаць танкавую дывізію «Мюнхен» супраць партызан...

У час нашай гутаркі ў штаб зайшоў Люсьен. Убачыўшы Мары, хлопчык зачырванеўся і падбег да дзяўчынкі.

— Чаму паслалі цябе? А дзе мама?

— Не хвалюйся. Яна ў Арлі.

Хлопчык і дзяўчынка пачалі пра нешта ціхенька гаварыць. У іх, напэўна, былі свае сакрэты — і я парашыў, што не варта ім перашкаджаць.

З начальнікам штаба я пайшоў да камісара. Трэба было ўсё ўзважыць, абдумаць і дамовіцца, дзе і як сустрэць ворага.

Жэрар, як заўсёды, быў бадзёры. Ён запэўняў нас, што прыймем бошаў, як належыць. Пры гэтым камісар спасылаўся на зручныя абставіны і на больш моцныя нашы сілы. Пасля падзей у Вільфоры партызаны атрымалі надзейнае папаўненне — чалавек чатырыста.

Цяпер нас, савецкіх байцоў Супраціўлення, якія дзейнічалі ў дэпартаментах Лазар і Гар, стала ўжо звыш двух тысяч. Гэта была грозная сіла.

Многія з былых ваеннапалонных не раз уцякалі з кіпцюроў смерці. І гітлераўцы, вядома, ведалі, што мы моцныя не толькі ваеннай вывучкай.

У атрадах савецкіх патрыётаў былі прадстаўнікі трыццаці сямі нацыянальнасцей. Гэта было братэрства людзей, з'яднаных вялікай мэтай барацьбы з фашызмам. Адзін біўся за ўсіх і ўсе за аднаго.

У жніўні сорак чацвёртага года па загаду камандавання ўзброеных сіл Супраціўлення з асобных атрадаў быў сфарміраван 1-ы Савецкі партызанскі полк. Камандзірам яго прызначылі маёра Аляксандра Зарана. Мне даручылі камандаваць батальёнам.

Партызаны нашага батальёна мелі новую зброю, адабраную ў канвоя, які суправаджаў палонных з мандскага лагера. Нам дасталося шэсцьдзесят аўтаматаў, пяць ручных кулямётаў, сотні дзве гранат і сем скрынак патронаў. Трафеі падаспелі своечасова.

* * *

Жэрар прапанаваў паслаць у Каштанэ разведку.

— Няхай пашуруюць...

Начальнік штаба зірнуў на гадзіннік:

— Ці паспеюць?

Ён заўсёды браў разведчыкаў пад абарону, калі ім давалі мала часу.

Я вымераў па карце адлегласць да вёскі.

— Нічога, паспеюць. Пашлём самых маладых, самых жвавых. Там цётка Клацільда...

— Каго ж паслаць?

Перабралі па памяці дзесятак людзей і спыніліся на Мелканяне, Вартанаве і Люсьене.

Праз дзесяць хвілін разведчыкі былі ўжо на маршы.

Вёска Каштанэ тулілася ля падножжа гары. Сюды часта наведваліся макі, і наведваліся смела, але на гэты раз партызанам прыйшлося

прабірацца ў вёску з асцярогай, каб не напароцца на вартавых, што хадзілі каля бронетранспарцёраў.

Ноч была ціхая, ясная. Свяціў месяц. Неба іскрылася тысячамі зорак.

Між садоў вілася сцяжынка. Па ёй разведчыкі і накіраваліся да доміка цёткі Клацільды. Мары дакладна апісала, што домік стаіць ззаду касцёла ў завулачку. Яго знайшлі адразу.

Гаспадыня радасна сустрэла гасцей, калі даведалася, што іх прыслала Мары. Яна з ахвотай паведаміла, дзе размясціўся штаб калоны, у якіх дамах жывуць афіцэры.

— А дзе танкі? — спытаў Люсьен.

— На плошчы, сынку. Перад касцёлам.

Дагаварыліся, што Люсьен сходзіць на плошчу, каб удакладніць, колькі ў калоне танкаў, а Вартанаў і Мелканян, залёгшы ў агародзе паміж град, палічаць бронетранспарцёры, што стаяць за хлявамі.

Калі разведчыкі сабраліся ісці на заданне, гаспадыня прынесла два збанкі малака.

— Можа халодненькім пачастуецеся, даражэнькія?

Усе паглядзелі на Вартанава — ён быў старшы групы. Яму, відаць, вельмі хацелася папіць халоднага малака, і ён нават глытнуў сліну. Але трэба ж быць ветлівым.

— Пасля, цётачка... Мы яшчэ зойдзем.

— Нашто пасля — засупярэчыла Клацільда.— Піце цяпер. Малако свежае... Піце.

Вартанаў згадзіўся:

— Так і быць! Наліце кубачак...

Ён выпіў адзін кубак, другі і пацягнуўся быў па трэці.

Мелканян занепакоіўся:

— Пардон, П'ер! А мы?

Вартанаў, не спяшаючыся, абцёр далоняй губы і адышоў убок.

— Піце, хлопцы! Піце!

Люсьен ад імя ўсіх падзякаваў гаспадыні. Вартанаў штурхануў дзверы.

— Пайшлі!

Праз якую гадзіну яны вярталіся назад, у атрад. Галінкі кустоў чапляліся за адзенне, але ніхто не звяртаў на гэта ўвагі. Разведчыкі спяшаліся, яны ведалі, што іх даўно чакаюць.

## 2

Цяпер мы мелі ўжо больш-менш дакладнае ўяўленне пра калону — колькі ў ёй танкаў і якіх, колькі бронетранспарцёраў і салдат на іх. Мы, вядома, былі далёкія ад думкі, што нашаму батальёну ўдасца разграміць калону. У нас не ставала для гэтага цяжкай зброі — не было ні гармат, ні супрацьтанкавых ружжаў.

Але нам здавалася, што калі вораг атрымае моцны ўдар і зробіць, як кажуць, «ад варот паварот», дык і гэта ўжо будзе добра. Пры гэтым мы ўлічвалі, вядома, самае важнае, што было ў нас, — нечаканасць удару.

Па дарозе руху калоны мы наладзілі тры засады. Дзве галоўныя — за дванаццаць кіламетраў ад вёскі Ля Кальмет, там, дзе скрыжоўваюцца асноўныя магістралі паўднёвай Францыі. Тут, абапал шашы, акапаліся дзве роты, узброеныя аўтаматамі, кулямётамі і «кішэннай артылерыяй» — гранатамі.



Рэзервовая рота заняла рубеж праз кіламетр далей, па горнай дарозе. Яе задачай было абрушыць усю сілу агню на праціўніка, калі яму ўсё ж удасца прарвацца.

Свой НП я абсталяваў за вясковымі магілкамі, на ўзгорачку, паміж размяшчэннем засад і рэзерву. Побач, на выпадак артылерыйскага абстрэлу, было зроблена падзямелле ў два накаты.

Хоць сувязны і паклапаціўся, каб абкасілі траву вакол НП, аглядаць наваколле ўсё ж было не зусім зручна. Я загадаў камандзіру першай роты Міхалу Некрашэвічу выставіць наперад назіральнікаў. Ён паслаў Балоніна, Вартанава і Мелканяна. Яны заляглі метраў за сто ад цясніны, у кустах ля скрыжавання. Адсюль лепш была бачна дарога, якая пятляла, то ўзнімаючыся высока на гару, то знікаючы ў цясніне. Галоўнае — відно было, што робіцца за павароткай.

У тым месцы, дзе намячаўся галоўны ўдар, шаша цягнулася нібы па дне глыбокай катлавіны, крутыя сцены якой утваралі цесны калідор. Машынам размінуцца няма дзе, хоць на сцяну лезь!

З абодвух бакоў шашы затаіліся ў кустах партызаны.

Назіральнікі праляжалі ля скрыжавання больш за гадзіну. Вакол было ціха. Хоць бы варухнулася галінка, і то весялей стала б на душы.

Хачык Мелканян увесь час папраўляў берэт, які быў яму велікаваты і спаўзаў на вочы.

— Вано спяшаўся і памяняўся са мной, — выгаварваў Мелканян.— Нінашвілі заўсёды што-небудзь перablытае. Учора, разумееш, надзяваю боты. Не лезуць! Што за чорт? Пыхцеў, крактаў, не лезуць — і ўсё тут. А мне трэба ў разведку. Раптам прыбягае Нінашвілі. Стаў перада мной і ўсміхаецца. «Дзе твае боты? Не ведаеш? Адкуль табе ведаць, што яны ў мяне. Даруй, кацо! Я памыліўся і ўлез у твае боты...»

Мелканян весела глядзеў на Вартанава і ківаў галавой:

— Ай-яй-яй, скажы, калі ласка... Бываюць жа такія несвядомыя. Між іншым, боты — што! Во нядаўна...

— Пачакай! — абарваў яго Балонін і паказаў рукой у той бок, адкуль даносіўся рокат матораў.

— Чуеце?

— Чуем, — адказаў Вартанаў. — Машыны.

Яны прыслухоўваліся да далёкага гулу, і чым мацнейшы ён станавіўся, тым больш трывожна рабілася на душы.

Мелканян усё камячыў свой берэт. Балонін, падабраўшы губы, расціраў у далонях сухія сцяблінкі, а Вартанаў глядзеў на дарогу і нешта шаптаў сам сабе. Раптам ён ускочыў і з пагрозай выгукнуў:

— Не пройдзеш, адольфік!

Вартанаў выказаў гэтым усю сваю злосць і нянавісць да фашыстаў, усю сваю гатоўнасць біцца з імі не на жыццё, а на смерць за свабоду на зямлі, якая стане роднай яму, як і далёкая адсюль руская зямля.

Таварышы зразумелі яго.

— Хай толькі палезуць,— ціха сказаў Балонін,— косці не пазбіраюць...

... На пераломе дня, гадзіне а другой, калі сонца пачало зніжацца, з-за паваротки выскачыў усюдыход. Ён павольна рухаўся наперад.

У цэнтры скрыжавання — паказальнік дарог. Машына наблізілася да яго, спынілася, рыпнуўшы тормазам. З кабіны высунулася нямецкая афіцэрская шапка і праз якую хвіліну схавалася.

Загрукатаў матор, усюдыход завярнуўся і, прабегшы метраў дзвесце ў тым кірунку, адкуль паявіўся, знік.

— Ну, пайшлі! Хутка пачнецца...—сказаў Балонін.

Назіральнікі па прыдарожнай канаве падаліся назад, туды, дзе ляжалі ў засадзе байцы іх роты. Падышлі да акопаў і пачулі знаёмы голас камандзіра роты, які аддаваў загад.

— Без каманды агонь не пачынаць! Хай іх больш назбіраецца ў цясніне...

Па акопах пайшоў прыглушаны гоман — гэта перадавалі загад камандзіра. Хутка стала зноў ціха.

* * *

З узгорка мне было добра відаць, як усюдыход, які так раптоўна паявіўся, знік за паваротказ. Я накіраваў бінокль на скрыжаванне, чакаючы, калі паявіцца галава калоны. Прайшло хвілін дзесяць, а на шашы па-ранейшаму было пуста.

«Назіральнікі, мабыць, паспяшылі», — падумаў я і хацеў быў паслаць Люсьена да камандзіра першай роты, каб высветліць, у чым справа, як раптам дарогу ля скрыжавання зацягнула дымам. Пачуўся характэрны шум танкаў.

«Нарэшце»,— выдыхнуў я, не адрываючы бінокль ад вачэй.

На скрыжаванні ад калоны адарвалася танкетка і панеслася наперад. За ёй з невялікім інтэрвалам павольна паўзлі танкі. Велізарны хвост дыму ўзнімаўся за кожным і цягнуўся, амаль не расплываючыся ў паветры.

— Адзін, два... чатыры, пяць...— лічыў я, паглядаючы ўвесь час з трывогай на скрыжаванне.

«А дзе ж астатнія танкі? Калі верыць разведцы, іх павінна быць больш».

З-за павароткі выскачылі бронетранспарцёры, а за імі — зноў танкі.

Калона ўвайшла ў цясніну... Гэтага толькі і чакалі партызаны. У тую ж хвіліну раздаўся моцны выбух. Над катлавінай шуганула полымя.

Скаланаючыся ад разрыву гранат, стагнала зямля.

Я не мог з НП бачыць, што там робіцца ў цясніне, але потым пра ўсё далажылі камандзіры рот.

...Кінутая Мелканянам бутэлька з гаручай сумессю пацэліла ў галаўны танк. Ён задыміў і спыніўся. Партызаны закідалі цясніну гранатамі.

Машыны, што ішлі за галаўным танкам, спрабавалі абысці яго збоку і вырвацца наперад, але ж замінаў вузкі калідор. А зверху сыпаліся і сыпаліся гранаты. Паветра дрыжэла ад няспынных выбухаў.

Калона збунтавалася і пачала распаўзацца. Цёмныя грамадзіны перакульвалі палаўшыя машыны, каб павярнуцца назад, але спатыкаліся самі, завальваліся ў глыбокія выбоіны і спыняліся.

Гітлераўцы хутка апамяталіся ад першага замяшання. З бронетранспарцёраў застрачылі аўтаматы. За кустамі разрываліся снарады: танкі якія спыніліся ля скрыжавання, адкрылі агонь па засадах.

Лявей ад дарогі нечакана заскрыгатала жалеза, пачуліся гучныя выхлапы матора. Выскачыўшы з-за ўзгорка, танк панёсся па акопах. Гэта быў цяжкі танк. Бронябойныя кулі з віскам адскоквалі ад яго.

У адным з акопаў ляжалі Балонін, Вартанаў і Мелканян. Побач у кожнага — гранаты, бутэлькі з гаручай вадкасцю.

Варожы танк усё набліжаўся і набліжаўся.

Балонін павярнуўся да таварышаў:





— Я папаўзу. А вы страхуйце...

Мікалай выбраўся з акопа і, прыціскаючы да грудзей гранаты, папоўз да ствала дрэва, якое стаяла без кроны. Толькі наверсе павыбіваліся на ім маладыя парасткі. У кустах ля гэтага дрэва ён і выбраў сабе пазіцыю.

Танк побач з дрэвам.

Мелканян бачыў, як Мікалай прыўзняўся, парывіста ўзмахнуў адведзенай убок рукой і адразу паваліўся вобзем.

Выбух!

Цяжкая машына на імгненне спынілася, потым, падбітая завярцелася на месцы.

Трэба было дабіць яе!

Вартанаў і Мелканян выскачылі з акопа. У Вартанава вочы чырвоныя, бліщчаць, як пры ліхаманцы. Мелканян цяжка дыхае.

— Кідайце хутчэй! — крычыць у гарачцы Балонін.

Вартанаў і Мелканян прыўзняліся і, упёршыся нагамі ў зямлю, з усяе сілы кінулі бутэлькі з гаручым у танк.

Снарад разарваўся ля дрэва, засыпаўшы асколкамі Балоніна і Вартанава.

Вартанаў, упіраючыся рукамі ў зямлю, спрабаваў сесці. Ён замармытаў нешта хрыплым голасам, і галава яго неяк адразу абвісла.

А Балонін, як падкошаны, распластаўся на траве, і яна мігам афарбавалася ў малінавы колер.

Што было далей, Мелканян не памятаў. Новы выбух скалануў зямлю, абрушыўся град камякоў, нешта моцна стукнула ў грудзі — і ён страціў прытомнасць.

### 3

Вакол усё вухкала, дрыжэла...

Як толькі ў кустах ля дарогі разарваліся першыя снарады, стала ясна, што гітлераўцы цяпер не супакояцца, пакуль не знішчаць выяўленыя імі партызанскія засады. Гітлераўцы, як відаць, некуды спяшаліся і парашылі, чаго б тое ні каштавала, прарвацца наперад.

Двойчы камандзіры рот даносілі, што рубяжы ўтрымаюць, але грукат блізкіх разрываў і сухое, адрывістае тарахценне кулямётаў насцярожвалі. Я верыў у стойкасць сваіх байцоў. Колькі разоў даводзілася бываць у гарачых бойках з ворагам і ніхто ніколі не падвёў, не пакінуў поля бою. Алі ці меў я права трымаць іх так доўга пад агнём праціўніка? Можа загадаць адступіць? Бываюць жа на вайне няўдачы...

«Не, адступаць нельга,— парашыў я.— Будзем трымацца да апошняга патрона, але калону не прапусцім!».

«А што, калі немцы надумаюцца нас абкружыць? Сіл у іх хопіць..» — секанула трывожная думка.

Заставаўся адзін выхад — апярэдзіць ворага.

— Люсьен, бяжы зараз жа да Жэрара! — загадаў я сувязному.— Скажы яму, няхай рота рэзерву ідзе ў абход кустоў проста на скрыжаванне дарог. Няхай ударыць па немцах з флангу і з тылу. Зразумеў?

Я ўжо не чуў голасу хлопчыка, які паўтараў загад. Усё патанула у грукаце і шуме. Направа ад узгорачка, дзе быў мой НП, разарваўся снарад. Фантан зямлі асядаў павольна-павольна.

Люсьен расставіў пальцы і двойчы махнуў рукой. Я зразумеў, што ён просіць дзесяць хвілін часу.



— Давай, спяшайся!..

Не ведаю, ці разабраў сувязны гэтыя словы, але пусціўся бегчы на ўвесь дух. Бег хлопчык на дзіва лёгка — роўным, шырокім крокам, нібы той бягун, які набірае другое дыханне.

Але раптам Люсьен спыніўся і нагнуў галаву: мусіць, над ім прасвісцеў снарад. Зямля ўздыбілася направа ад хлопчыка, але ён бег ужо далей.

Люсьен пакрысе прызвычаіўся да таго, што спачатку моцна палохала яго. То налева, то направа ўзнімаліся чорныя клубы, якія перасякаліся чырвонымі маланкамі. Люсьен ужо больш не азіраўся. Ён бег, зрэдку спатыкаючыся, у кірунку ляска, дзе акапалася была рэзервавая рота.

Нарэшце сувязны знік між дрэў.

Тым часам праціўнік прадаўжаў абстрэльваць пазіцыі партызан, што заселі ў засадзе.

Грукат ад разрываў снарадаў то нарастаў, скаланаючы паветра, то раптам аціхаў. Тады выразна чутны былі ўзрывы гранат і доўгія чэргі партызанскіх кулямётаў. Аўтаматчыкі пакуль маўчалі — берaглі патроны.

Я пільна ўзіраўся туды, дзе павінен быў выступіць Жэрар. Лясок замінаў мне бачыць, што там робіцца: ці пайшла рота ў абход кустоў?

І ці здагадаецца Люсьен адразу бегчы назад, да мяне? Чаго добрага, можа ўгаварыць камісара, каб узяў яго з сабой!

Мае думкі перапыніў пасвіст куль над галавой.

Я глянуў уніз, на дарогу.

Сонца паволі апускалася за ўзгорак, і шырокія праменні яго, падобныя на мечы, рассякалі неба. Акаймаваная лесам вузкая даліна, што ляжала ўнізе, афарбоўвалася ў зеленавата-блакітны колер. На гэтым фоне мільгалі брудна-шэрыя постаці нямецкіх салдат, якія беглі з аўтаматамі напагатоў.

Байцы ўзвода кіравання, якія прыкрывалі НП, пачалі агонь. З кустоў направа застрачыў наш кулямёт.

З-за павароткі выскачыў танк. Пераваліўшы праз неглыбокую прыдарожную канаву і абагнуўшы кусты, ён пачаў даганяць партызанскую пяхоту.

— Гранат у нас шмат? — спытаў я ў камандзіра ўзвода лейтэнанта Афанасьева.

— Хопіць, таварыш капітан,— запэўніў ён.— Выстаім!

Танк пачаў страляць з ходу. Зямля ляцела праз бруствер мне пад ногі.

Афанасьеў сарваў з пояса супрацьтанкавую гранату і, на хаду ўстаўляючы запал, кінуўся ў траншэю.

Я ўжо збіраўся схавацца ў бліндаж, як раптам злева непадалёку раздаўся трэск. Пасыпалася зверху зямля. Міма з выццём праляцелі асколкі.

Сплёўваючы зямлю, я паспрабаваў быў устаць, але не здолеў — балела моцна нага. «Няўжо рана?»

Пачаў абмацваць сваё цела. Рука слізганула ўніз, дакранулася да нечага мяккага і інстынктыўна адкаснулася. Боль, нібы электрычны ток, працяў мяне наскрозь.

— Таварышы!.. Таварышы!.. Памажыце!

Я не пазнаваў свой голас, ён даходзіў да мяне нібы здалёку. Мне здавалася, што крычу моцна, але ніхто не адгукаецца.

«Няўжо не пачулі мяне? Не можа быць! Павінен жа хто-небудзь адгукнуцца».

Калі трапляеш у бяду, дык спачатку заўсёды здаецца, што пра цябе забыліся.

Я напружыўся і зноў крыкнуў:

— Таварышы! Сюды!

Пачакаўшы хвілін пяць, я ўжо сабраўся паўзці да траншэі, але страшэнны боль нібы скаваў мяне намёртва — нельга было варухнуцца.

Я ляжаў знясілены, закінуўшы галаву на рукі. Не памятаю, колькі так праляжаў, але раптам пачуў шум. Хтосьці бег да мяне. Я павярнуўся на бок, і востры боль у назе, крыху ніжэй за калена, абудзіў маю свядомасць. Нехта ж бег сюды. Я інстынктыўна схапіўся за пісталет, рыхтуючыся абараняцца, і раптам... убачыў Люсьена.

Хлопчык ледзь пераводзіў дух пасля хуткага бегу. Я неяк адразу ўявіў сабе, як ён імчыцца па адкрытай мясцовасці, на ўвесь рост.

— Такі агонь, а ты носішся, як учадзелы,— пачаў я выгаворваць сувязному, забыўшыся на боль у назе.

— Мой капітан, —адказаў хлопчык.— Вы самі вучылі мяне, што сувязны павінен быць там, дзе камандзіру пагражае небяспека.

І Люсьен лёг побач, прытуліўшыся да мяне разагрэтым целам. Над галавой вішчэлі кулі, зусім блізка ўзнімаліся касматыя воблачкі выбухаў, але я ўжо не адчуваў больш сябе адзінокім і бездапаможным.

Калі агонь крыху аціх, Люсьен дастаў індывідуальны пакет і туга перавязаў мне параненую нагу. Потым падставіў плячо.

— Пойдзем, мой капітан, у бліндаж.

Я падняўся і агледзеўся вакол. Перад траншэяй стаяў на дыбкі, зарыўшыся ў зямлю, танк. Яго падбіў, мусіць, гранатай лейтэнант Афанасьеў.

Адрэзаныя ад танка, гітлераўцы заляглі ў траве і вялі бязладны агонь.

— Ну, пайшлі, мой капітан, — настойваў Люсьен.

Я ступіў адзін раз і асеў адразу на траву — невыносны боль прашыў усё цела.

— Дрэнь мае справы, дружа,— прызнаўся я сувязному.— Мне так не дайсці і да раніцы... Бяжы, брат, у траншэю і папрасі яшчэ каго-небудзь.

Люсьен прывёў трох байцоў, і мяне панеслі на плашч-палатцы. Не паспелі мы дайсці да бліндажа, як знізу дакаціўся новы вал шуму, крыкаў.

Над скрыжаваннем занялося зарыва. Бесперапынна шугалі агні выбухаў.

— Нашы ўжо там...— радасна выгукнуў Люсьен.— Даюць дыхту...

Як ні цяжка мне было, але я ўсміхнуўся: вельмі ж ужо хутка мой сувязны засвоіў партызанскі жаргон!

А гранаты ўсё рваліся на самым скрыжаванні і за павароткай. Недалёкая сцяна агню перагарадзіла шлях гітлераўцам, а тыя з іх, каго не насцігла куля, разбегліся.

У катлавіне і ля скрыжавання дагаралі варожыя танкі...

* * *

Раніцай мы хавалі сваіх таварышаў...

Не хацелася верыць, што мы расстаёмся з імі назаўсёды.

Пад цяжкімі плітамі і помнікамі на могілках Ля Кальмет спачывалі вечным сном людзі, якія пражылі шмат дзесяткаў год. А нашы ж таварышы — зусім маладыя. Ім бы жыць ды жыць...

Свежавыкапаныя магілы абступілі мясцовыя жыхары, партызаны. Рукі ў вінаградараў загарэлыя, дужыя, жылістыя, мазалістыя.

Гэтыя клапатлівыя рукі ўпрыгожылі магільныя ўзгорачкі жывымі кветкамі і галінкамі дрэваў.

І вось яшчэ адна магіла — брацкая. На ёй надпіс:

«Вечная памяць савецкім партызанам, якія загінулі ў баях супраць фашызма за вызваленне Францыі:

Вартанаў Пётр<br>1909—1944 гг.<br>Балонін Мікалай<br>1920—1944 гг.»

Балонін і Вартанаў... Хто з байцоў нашага батальёна не ведаў гэтых адважных рускіх воінаў!

У журботным маўчанні стаялі цяпер перад магілай французы і савецкія людзі. Агульнае было ў іх гора.

На жалобным мітынгу выступіў Ражэ Марсэла — мэр Ля Кальмет. Ён — просты вінаградар. І тым даражэйшыя для ўсіх нас былі яго словы — шчырыя, пранікнёныя:

— Няхай маці савецкіх воінаў ведаюць, што іх сыны загінулі смерцю храбрых, абараняючы справядлівасць. Французскі народ ніколі не забудзе іх подзвіг...

## 10. СЦЯГ НАД НІМАМ

*«15 верасня 1944 года.*
*Гэты цудоўны куток паўднёвай Францыі акупанты зрабілі сваёй вотчынай. Яны тут умацаваліся, як гаспадары, надоўга. Але мы іх здорава пакалашмацілі і, урэшце, прымусілі здацца...»*

*Запіс у дзённіку.*

1

Пасля ранення каля вёскі Ля Кальмет я быў вымушаны ляжаць у пасцелі. І вось аднойчы пастукалі ў дзверы.

— Зайдзіце!

На парозе — Жэрар. За яго спіной — Жанета. Камісар прапусціў яе наперад і густым басам сказаў:

— Прыймай, капітан! Асабіста да цябе.

— Вельмі рады, Жанета, — падаў я ёй руку. — Раймон прынясі, калі ласка, табурэцік.

Перш чым сесці, француженка азірнулася і, не ўбачыўшы таго, каго шукала, здзіўлена глянула на мяне, нібы пытаючыся: «Дзе ж мой хлопчык?»

— Люсьен зараз прыйдзе, — супакоіў я яе. — Сядайце! Расказвайце пра свае навіны, трывогі. Што прывяло вас сюды?

— О, капітан, навін цэлы воз... Я раскажу вам самую важную. Яе паведаміць я, уласна кажучы, і прыйшла... Вашаму палку трэба будзе вызваляць Нім. Такі загад з цэнтра.

— Нашаму палку?

— Але. Што гэта вас так здзіўляе?

— Дарагая Жанета,— заявіў я, узняўшыся крыху з пасцелі.— Паверце, мы ўсе палічым гэта за вялікі гонар. Тут — моцны гарнізон. Магутныя абараняльныя збудаванні. Ці будзе гэта задача па сіле аднаму нашаму палку?

— Не турбуйцеся, камандзір! Камітэты Супраціўлення дэпартаментаў Лазар і Гар улічылі мінулыя памылкі. Будзеце не адны. Вам памогуць французскія партызаны.

— Тады іншая справа. Люблю ісці ў бой, калі побач французы. Яны — верныя сябры... Калі ж выступаць?

Жанета, відаць, разумела, што незагоеная яшчэ як след рана магла мне перашкодзіць прыняць удзел у гэтай аперацыі.

— Я ўпэўнена, што пакуль выступаць, вы будзеце зусім здаровы,— сказала яна, усміхнуўшыся, і зноў з трывогай глянула на дзверы.

Люсьен усё не прыходзіў. «Дзе ж ён дзеўся?»

Жанета сядзела ў напружанай паставе з моцна сцятымі губамі.

Дзверы бясшумна адчыніліся, і ўвайшоў Люсьен. Ён убачыў маці і тут жа кінуўся да яе.

— Мама!.. Мамачка.

Худзенькія рукі абвіліся вакол шыі Жанеты, да яе прытуліўся дзіцячы тварык, і вільготныя губы цалавалі яе вочы, лоб.

Яна глянула на паружавелыя сынавы шчокі, на сухі бляск люсьенавых вачэй.

— Ты засумаваў, мой хлопчык?

— Вельмі...

— Харошы мой. Я таксама...

Нечакана засмяяліся. Люсьен — гучна і шчыра, а Жанета — стрымана, бязгучна.

— Выйдзем, любы, на хвілінку. Я хачу пабыць з табой удваіх.

З зайздрасцю глянуў я ім услед.

— Шчаслівыя!

Жэрар глыбока ўздыхнуў:

— Як там мае?

Ён выказаў тое, што і мяне хвалявала ўвесь час, пакуль Жанета размаўляла з Люсьенам. «Дзе мая Анагет? Дзе Рубэн? Як ім жывецца?»

Непрыкметна думкі вярнуліся да Жэрара.

— Твае ўсё яшчэ ў Німе?

— А дзе ж ім быць? З гэтым горадам звязана ўсё наша жыццё. Тут мы нарадзіліся — я і Разіна. Тут пажаніліся. У Німе Разіна падаравала мне дачушку...

— Слухай, камісар,— звярнуўся я раптам да Раймона з просьбай.— Раскажы мне што-небудзь пра свой горад. Я зусім яго не ведаю...

Пажаўцелым пальцам Жэрар прытаптаў тытунь у люльцы, закурыў і, выдыхнуўшы дым, сказаў:

— Адзін толькі Арль можа быць параўнаны з маім горадам. Ён



такі ж старадаўні... Праўда, у нас няма, як у Арлі, арэны цырка. Калісьці там наладжвалі бой быкоў, а цяпер танцуюць фарандолу... У Німе — руіны цырка. Затое ты знойдзеш тут трубы вадаправода яшчэ часоў рымскай імперыі, антычныя скульптуры.

— А музеі ёсць?

— Вядома! Увесь Нім—музей. Але бошы, павінен табе сказаць, зусім не цікавяцца помнікамі. Ім падавай «зялёнае золата». Немцы вывозяць з Німа вінаград, садавіну, віно, гародніну. Нім у Францыі — гэта нешта накшталт тваёй Арменіі... Тут заводы, якія перапрацоўваюць садавіну і гародніну. На адным з іх і я працаваў да вайны. Слясарыў...

Пасля таго, што расказаў мне Жэрар, стала яшчэ ясней, чаму фашысты так чапляюцца за Нім. Віно! Садавіна! Гародніна! «Не дурні...»

## 2

За некалькі дзён да пачатку аперацыі ў Німе мяне і камісара выклікаў камандзір палка. Гэта быў мужчына гадоў пад трыццаць, з прыемным тварам. Заклаўшы рукі за спіну, камандзір хадзіў перад картай, спыняўся, каб удакладніць або развіць важную, як ён лічыў, думку.

Аляксандр Заран азнаёміў нас з планам аперацыі і прапанаваў выказаць свае меркаванні.

Надышла чарга і мне сказаць сваё слова. Я падышоў да карты, узяў у рукі ўказку.

— Вы гаварылі, таварыш маёр, што французскія партызаны нанясуць удар адсюль, з захаду. Выходзіць, што немцы кінуць свае галоўныя сілы супраць іх. Ці не так?

— Дапусцім, што так,— адгукнуўся камандзір палка, пазіраючы на мяне з-пад высокіх броваў. — Ну і што з таго?

— Я прапаную напасці на іх яшчэ з усходу. Мы спусцімся з гор проста на аэрадром...

— І калі ўдарыць адначасова з поўначы і поўдня,— завяршыў маю думку Заран,— дык атрымаецца кацёл. Так я цябе зразумеў, Аванес?

— Зусім так, таварыш маёр. Трэба абкружыць і знішчыць!

Заран пастаяў колькі хвілін у роздуме. Потым узяў у мяне ўказку і спыніў яе на карце ў тым месцы, дзе быў кружочак з надпісам «Нім».

— Вось так, значыць... На аэрадром нападае твой батальён.

...Баявы загад, дастаўлены апоўдні са штаба палка, быў кароткі: «Батальёну да 24.00 сканцэнтравацца на ўсходніх схілах вышыні 126».

Па краі лесу, адкуль павінен быў пачацца наш пераход, ішла дарога. Цёмна-шэрым рамянём апаясвала яна даліну, якую ранняя восень пафарбавала ўжо ў бурштынавыя і вогненна-чырвоныя колеры.

Па шашы імчаліся машыны, з коптарам нагружаныя садавінай, гароднінай. Іх суправаджалі нямецкія салдаты.

Па дарозе нам ісці было нельга, і мы прасоўваліся вельмі асцярожна ляснымі сцежкамі: прасекі перапаўзалі, паляны абміналі.

Вядзе батальён Жэрар. Ён — мясцовы і ведае лес.

Дзьме свежы вецер. Калі камісару трэба закурыць, ён расшпільвае скуранку, схіляе галаву да грудзей і прыкурвае. Потым крочыць далей.

Вакол — горы, горы... Як у маёй роднай Арменіі, яны парэзаны вузкімі цяснінамі, глыбокімі ярамі, над якімі ўзвышаюцца абрывістыя скалы.

Самым кароткім шляхам прывёў нас Жэрар на вяршыню ўзгорка,

адкуль пакручастая сцежка бегла на аэрадром, што ляжаў унізе ля падножжа. Шырокім квадратам разлёгся ён уздоўж дарогі.

Паміж узгоркам і ўзлётным полем — кусты. За імі — акопы для салдат аховы.

«Адкуль жа зручней ударыць?» — раздумваў я, аглядаючы ўзлётнае поле, акопы, кусты. — Трэба паклікаць разведчыкаў».

...Ноч мы правялі ў кустах, пад дрэвамі. Слабы вецер з гор ледзь варушыў галінкі. Блізка ля мяне прылёг Жэрар. Ён быў сумны і нагадваў чалавека, які стаіць ля парога свайго дома, але не можа туды ўвайсці.

Камісар глядзеў на сцяжынку, якая святлела перад намі, і ўспамінаў:

— Колькі разоў я ўзнімаўся па гэтай сцежцы з Разінай... Мы любілі глядзець адсюль на Нім.

— Я таксама любіў...— нечакана выказаўся Люсьен.

— Хіба ты бываў тут? — здзівіўся я.

— Не, мой капітан! Я любіў глядзець на Марсэль з узвышша дэ ля Гард... Адтуль відаць усё, усё чыста.

— Марсэль — прыгожы горад...— сказаў у задуменні Жэрар.

— Памятаеце порт? Наш домік — побач з докамі. У завулку... А ля Канцэб'ер памятаеце, камрад камісар? — хлопчык павярнуўся да мяне.— Так называюць у Марсэлі галоўную вуліцу. Там шыкоўныя будынкі... Шмат зеляніны, святла, рэклам... Але я любіў глядзець на заліў — тут скалістыя астравы. Дзядзька П'ер расказваў, што на востраве ў замку быў зняволен граф Монта-Крыста...

Жэрар абыякава махнуў рукой:

— Ну яго, твайго графа... Глянь лепш сюды, старэча.

Ён паказаў на ярка асветлены будынак, што ўзвышаўся над Німам. Зялёнае вока пражэктара ўставілася знізу на вежу, вострую, як клінок. На флагштоку вісеў фашысцкі сцяг.

— Былы замак,— тлумачыў камісар.— Цяпер тут прэфектура. Калі бошы сарвалі наш сцяг, я працаваў у Німе. Хлапчукі знайшлі палотнішча, прынеслі да мяне. Во яно...

Раймон выцягнуў з сумкі трохкаляровы квадрат, падраны ў некалькіх месцах.

У Люсьена загарэліся вочы.

— Мой камісар, дайце мне... Я буду хаваць яго... наш сцяг.

Жэрар пільна глянуў на хлопчыка, энергічным рухам склаў палотнішча, падаў яго Люсьену:

— На, беражы...

Хлопчык прыняў ад камісара трохкаляровы сцяг і беражліва паклаў сабе ў сумку.

Патухла Жэрарава люлька. Камісар высыпаў попел, зноў напхаў люльку тытунём, закурыў і, павярнуўшыся да ўзлётнага поля, гаварыў:





— Памятаю, хлапчукамі мы ганялі на гэтым полі мяч... Прабіраліся сюды старым падземным ходам. Спуск быў у сутарэнні замка, а выхад — за кустамі, налева...

Люсьен слухаў, не дыхаючы. Ён спрабаваў нешта спытаць, але пачуліся блізка галасы.

Галіны кустоў рассунуліся, і мы ўбачылі разведчыкаў. Пры цьмяным святле месяца твары іх былі бледна-зялёныя.

## 3

У першы дзень бою нам не ўдалося зламаць абарону ворага. Фашысты трымаліся моцна. Многія дамы і вуліцы па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі.

На світанні другога дня наступленне пачалося адразу з трох бакоў. Толькі на ўсходняй ускраіне горада, дзе аэрадром, было па-ранейшаму спакойна.

Прытаіўшыся ў кустах, мы чакалі...

У поўдзень з назіральнага пункта прыбег задыханы Люсьен.

— Мой капітан! На аэрадроме заварушыліся... Салдат перакідваюць у горад. На машынах...

«Падцягваюць рэзервы»,— здагадаўся я. Цяпер нельга было траціць час. Маскіруючыся ў кустах, падраздзяленні батальёна падабраліся да дротавай агарожы, дзе Мелканян і Нінашвілі загадзя падрыхтавалі праходы.

Партызаны знішчылі на гэтым участку ахову і ўварваліся на аэрадром. Хутка запалалі склады з гаручым. Агонь перакінуўся на самалёты, што не паспелі ўзляцець.

Хто ўцалеў з аховы — разбегліся, а частка засела ў ангарах і адстрэльвалася з аўтаматаў. Прыйшлося зноў пусціць у ход «кішэнную артылерыю».

Падраздзяленні батальёна завязалі на ўсходняй ускраіне Німа вулічныя баі. Вораг супраціўляўся. У цэнтры мы пасоўваліся павольна, і, каб не мясцовыя жыхары, нам было б вельмі цяжка.

Французы стралялі па немцах з вокнаў, з дахаў, з балконаў. Юнакі і дзяўчаты адносілі раненых партызан у дамы, перавязвалі, а нам падносілі патроны, харч, ваду.

У самы разгар бою я не заўважыў, куды знік Люсьен. Я нават не мог прыпомніць, калі гэта здарылася і дзе. Можа яшчэ на аэрадроме? А можа ён прыстаў да Жэрара, калі той павёў у атаку першую роту?

Нейкая ўнутраная трывога за хлопчыка не пакідала мяне цяпер ні на хвіліну. Двойчы я пасылаў разведчыкаў на аэрадром, але яны вярталіся ні з чым. Жэрар паведамляў, што Люсьена ён не браў з сабой.

Ужо над вечар мы ачысцілі ад гітлераўцаў некалькі кварталаў і апынуліся перад галоўнай плошчай Німа. Праціўнік трымаў яе пад моцным кулямётным агнём. Не падняць было галавы.

Усе заляглі...

На канцы плошчы ўзвышаўся будынак прэфектуры з вежай. Я глянуў на мачту над вежай і замёр.

— Глядзіце, таварышы! — не ўтрымаўся, каб не паказаць рукой на вежу.

Яшчэ хвілін дзесяць назад, калі ішоў бой за вуліцу перад плошчай, на флагштоку вецер шкуматаў фашысцкі сцяг, а цяпер...

На высокай мачце вольна лунаў трохкаляровы сцяг Французскай рэспублікі.

Я рынуўся наперад:

— За мной, таварышы!

— На-а-пе-е-ра-а-ад! — разлёгся па плошчы шматгалосы кліч.

Дзесьці блізка, за дамамі, гучэла дружнае:

— Vive la France! Няхай жыве Францыя!

Французскія партызаны кінуліся на штурм, каб з'яднацца з намі. З кожнай хвілінай кальцо сціскалася ўсё больш... З прылеглых вуліц і завулкаў ужо вырваліся на плошчу пераможныя гукі «Марсельезы».

* * *

Я збіраўся вячэраць, калі ў пакой, бясшумна адчыніўшы дзверы, увайшоў Люсьен. Ён быў спалатнелы. Правая рука падвязана.

— Добры вечар, мой капітан,— сказаў Люсьен вінаватым голасам.

Я аж падскочыў ад нечаканасці. Глянуў і ўстрывожыўся:

— Ты паранены?

— Так, крыху зачапіла...

Ён сказаў гэта так проста і па-дзіцячы шчыра, быццам нічога і не адбылося.

У захапленні я глядзеў на французскага хлопчыка, які зрабіў сапраўдны подзвіг, не ўсведамляючы гэтага.

* * *

*«23 сакавіка 1945 года.*

*Учора праводзіў Люсьена ў Марсэль. Мы абняліся і пацалаваліся моцна, памужчынску. Мне здаецца, што я і цяпер яшчэ адчуваю на губах саланаватасць.*

*Цягнік крануўся, і хлопец доўга махаў рукой. А я глядзеў услед цягніку, які аддаляўся, і думаў пра Люсьена, пра французскіх хлопцаў, з якімі мы разам змагаліся супраць фашыстаў, вызвалялі Францыю ад акупантаў. Я думаў пра іх лёс, пра будучыню французскага народа.*

*Хутка яны знімуць ваенныя мундзіры і зоймуцца мірнымі справамі. Мір патрэбен ім, як і мне, як і ўсім людзям на зямлі. Ён патрэбен нашым дзецям.»*

*Апошні запіс у дзённіку.*

Ужо сінее золак. Хутка раніца. За адну ноч я паспеў успомніць столькі добрых сяброў, зноў перажыць столькі падзей, на якія спатрэбіліся цэлыя гады жыцця і змагання.

Пераклад з рускай мовы.

**Найдзен ВЫЛЧАЎ**

## БАЛГАРЫЯ



Там, дзе магіла брацкая на ўзгорку,
Дзе між кустоў шыпшыны абяліск
На каменным плячы трымае зорку,
Як напамін суровы аб былым,—

Спыніўся я ліпнёвым ранкам росным
З любоўю ў сэрцы, з кветкамі ў руках.
Быў ціхі дзень, і казачна-дзівосным
Здаваўся ў бляску сонечны прасцяг.

І бачна мне было, як нестрымана
Сюды рака імчыцца і бурліць,
І як спускаюцца кражы Балкана,
Каб гэты ціхі ўзгорак атуліць,

Як зіхацяць прыветна вокны ў школе,
Як з труб фабрычных дым плыве густы,
І як кладзе да ног узгорка поле
Вянок сланечнікавы залаты...

Быў ціхі дзень. Куды ні кінуць вокам —
Яснеў прастор, прываблівы такі,
І жаваранак трапятаў высока,
І песняй радасці звінеў блакіт.

## ПЕСНЯ ПРА РЫБАКА



Вісне нерухома
Цемра ля акна.
Трэці вечар дома
Я ў тузе адна.

Развітаўся мілы,
Вёсламі ўзмахнуў,
Вецер лёгкакрылы
Ўслед яму дыхнуў.

Не бурліла мора,
Спала ў цішыні.
Ды запелі ўчора
Хвалі апаўдні.

Дыбіцца высока
Пеністы прыбой...
Дзе ж віхура, сокал,
Стрэнецца з табой?

Ой, сястрыца-зорка,
Хмары праніжы,
Сцежку да пасёлка
Ноччу пакажы.

Узыдзі над морам,
Усміхніся так,
Каб вярнуўся скора
Любы мой рыбак.

З балгарскай мовы пераклаў
**Н. ГІЛЕВІЧ.**



Барыс **САЧАНКА**

# АПАВЯДАННІ

Мал. А. Кашкурэвіча

## ВІДНАЯ НОЧ

Было душна, і Міхаль прачнуўся.

Недзе на печы, у пацёмку, ледзь чутна ныў камар. У акно пазіраў круглы, чысты месяц, і ў хаце было бела і як бы дымна.

Міхаль перавярнуўся на другі бок, тварам да сцяны, але ўсё роўна заснуць не мог. Ён сеў на край ложка і закурыў. Потым, у адной бялізне, босы, патупаў да акна і злёгку піхнуў раму — акно адразу ж адчынілася, і ў твар дыхнула свежасцю.

Месяц абліваў і без таго белыя ад квецені вішні блекла-роўным святлом, — і яны стаялі ў цішы ночы сонныя і застылыя. Дрымотныя, цёмна-сінія цені слаліся пад дрэвамі. Сухмаркі, што сабраліся на небасхіле, мусіць, ніколі не былі так падобны на гурбы ваты, як цяпер. І здалося, плыве не месяц, а яны плывуць лёгкім дымам... Ля будкі сядзеў сабака, таксама ўвесь белы, нібы выліты са срэбра.

Міхаль доўга стаяў, зачараваны прыгожай ноччу, і курыў папяросу за папяросаю. Раптам ён пачуў ля брамкі ціхі гуллівы смех, той асаблівы смех, якім смяюцца дзяўчаты, калі побач хлопец, і толькі вясною. «Хто ж гэта?» — падумаў Міхаль і яшчэ больш чуйна прыслухаўся.

І здагадаўся: смяялася дачка Клава. «Не можа быць...»—не даваў ён сабе веры і глянуў на ложак — дачкі не было.

«Калі яна вырасла?»

Не зачыніўшы акна (ён зусім забыўся на яго), Міхаль зноў лёг у пасцель.

Ці даўно ён сам стаяў ля брамкі, а Марына — тады яшчэ зусім дзяўчо — вось гэтак жа ціха і гулліва смяялася?..

Перад вачыма ўсплыло яго жыццё.

Жаніўся ён нешта пад восень. Хата ў бацькі была малая, усяго на тры акны. І можа таму адразу ж не паладзілі з бацькам: ён быў стары, са сваімі звычкамі і норавам, і ўсё прыдзіраўся да сына. Каб не сварыцца, Міхаль узяўся будаваць сваю хату. Але тут, як гром з яснага неба, грымнула вайна. Чатыры гады быў Міхаль на франтах.



Калі ж улетку сорак пятага нарэшце скончыліся пакуты, а ён, жывы і здаровы, вярнуўся дахаты, белагаловае шчабятлівае птушаня—дачушка Клава — ужо ашчаперыла яго тонкімі ручкамі за шыю, — упершыню ён бачыў сваё роднае дзіця, упершыню яно бачыла бацьку. Ён, чалавек чорствы і скупы на слязу, заплакаў. Дачка ж тулілася сваёю цёпленькаю шчочкаю да яго агрубелай шчакі і лапатала:

— Татка прыехаў, татка прыехаў!..

Узрушаны, ён тады забыўся нават пацалаваць Марыну, якая стаяла ля шулы і, мусіць ад радасці, плакала...

Сям'я жыла ў зямлянцы, бо фашысты спалілі вёску. Але ён ведаў: не пройдзе і двух год, як у іх зноў будзе ўсё сваё.

І пайшлі, паляцелі гады... Спачатку пабудаваў хату, — думалася, вось будзе хата, і ўсё пойдзе ладам! — потым абгарадзіўся, агораў кароўку. Трохі папрацаваўшы на полі, падаўся, як і некаторыя мужчыны, на заробкі. Хадзіў па вёсках і ставіў хаты. Ездзіў у шахты, на лесараспрацоўкі...

— Навошта табе тыя грошы? — казала Марына. — Усё роўна ўсе не забярэш. Давай жыць, як і ўсе людзі.

Хутка ён пачаў ездзіць у Маскву, Ленінград. Купляў там рэчы, якіх нельга было знайсці ля дому, і перапрадаваў.

А ведама ж — дарога: і не даясі, і не даспіш. Не заўважыў, як падкралася хвароба і звалíла ў ложак. Больш двух год праляжаў ён у бальніцы: то балелі ногі, то жывот.

Калі ачуняў, пайшоў у калгас. Але дома за гэтыя гады ўсё заняпала: раскрыўся хлеў, пабурылася ў хаце печ, аб'ехалі платы... І зноў ад цямку да цямку праца, то ў калгасе, то дома.

«А дзе жыццё? Дзе радасць?» — не раз пытаўся ў сябе Міхаль і нічога не мог адказаць. І яшчэ болей упарта, з нейкай затоенай злосцю, браўся за работу.



«І вось я стары, трэба дачку аддаваць замуж. А сам? Што я бачыў?»

Міхаль не чуў, як рыпнулі дзверы, і, зняўшы лодачкі, на адных пальчыках кралася да ложка, каб нікога не пабудзіць, Клава. Ён ляжаў, ахоплены цяжкім одумам.

«А Марына? Што бачыла яна? А хіба ж я не абяцаў, калі жаніўся, што мы будзем жыць лепей за ўсіх?»

Міхаль павярнуўся да жонкі і ўбачыў яе твар.

«Калі гэта яна так пастарэла? І чаму я раней не бачыў гэтага?»

Але Марына яшчэ была тою, з якой ён некалі стаяў ля брамкі,— яна была прыгожая. Міхаль пацалаваў жонку ў вусны, пацалаваў упершыню за апошнія гады, горача, шчыра.

Світала.

## БЕЗ НАЗВЫ

Яго вынеслі ў сад. Дый што з ім было рабіць: фашысты расстрэльвалі кожнага, хто аставаўся ў хаце і не ішоў на пляц, — такі быў загад. А ён не мог хадзіць, не мог ад самага нараджэння, і яго вынеслі ў сад. Пасцялілі за кустом парэчак пасцілку, і на яе палажылі калеку. Куст быў шырокі, густы, з галінак звісалі гронкі дробных, як проса, і яшчэ празрыста-зялёных ягад — на двары стаяў чэрвень і ягады раслі, наліваліся. У добрае, бязветранае надвор'е нават чуваць было, як ідзе ад зямлі цёплы пах.

Стаіўшыся, чалавек ляжаў на пасцілцы і праз шчыліну ў паркане глядзеў, што робіцца ў вёсцы. А рабілася незвычайнае: галасілі кабеты, плакалі дзеці, крычалі, выганяючы з хат людзей, фашысты... Раптам усталявалася цішыня. Яна цягнулася мо' хвілін дваццаць, потым нечакана ўзарвалася кулямётнай чаргою і лямантам. І чалавек пра ўсё здагадаўся: расстрэльвалі людзей, расстрэльвалі за тое, што не прызналіся, хто ўчора сярод белага дня забіў старасту і трох нямецкіх салдат...

Прадчуваючы нядобрае, чалавек пашыўся ў агарод, каб схавацца ў бульбоўніку. Ён ужо выпаўз на



сцяжынку, якая вяла за хлеў, у поле, але якраз тады ў двор забег карнік у жоўта-зялёнай накідцы, з чырвоным, дымным агнём у руках і з аўтаматам на жываце, зусім, як здалося, хлапчук. Ён, нібы спяшаючыся, сунуў полымя ў саламяную страху: тая адразу ж успыхнула.

Фашыст, спатыкаючыся, бег да хлява і нечакана ўбачыў распластанага на сцяжынцы чалавека. Той ляжаў жыватом на зямлі і, падняўшы галаву, з жахам глядзеў на яго. Позіркі іх сустрэліся — фашыст на момант разгубіўся і адвярнуўся. Толькі на момант. Бо ў наступную хвіліну ён, як бы нешта ўспомніўшы, ірвануў з жывата аўтамат. І чалавеку на зямлі гэта прыдало сілы. Ён схапіў фашыста за ногі, намагаючыся паваліць на сцежку. Але гэта яму не ўдалося, і ён зубамі ўпіўся яму ў калена. Той войкнуў і націснуў на спуск аўтамата. Немы крык — і чалавек абмяк. Працягнуў наперад, як бы хацеў паўзці, руку і ў перадсмяротных сутаргах вырваў з зямлі куст бульбоўніку — на карэннях ужо вязаліся клубні.

Гітлеравец з агідай адсунуў ад ног кованым ботам забітага — у вочы яму кінуўся бледны, хворы і перасмыкнуты ад болю твар.

Фашыст толькі цяпер убачыў, што забіў бязногага калеку...

Ён падбег да хлява, ліхаманкава тыцнуў агнём у застрэшак і даў дзве доўгія чаргі па бульбоўніку: яму здалося, што там стаілася яшчэ некалькі калек... Потым ён выскачыў на вуліцу.

Але калека, здавалася, бег па яго слядах. Ён не адставаў ад яго ні на крок. Карнік абстрэльваў кожны куст, кожнае дрэва.

Варта ж было яму толькі звесці вочы, як на яго кідаўся бязногі калека. І фашыст не вытрымаў жаху. Аднойчы яго знайшлі ў пасцелі з перарэзаным горлам: побач ляжала акрываўленая брытва.

...Дома, у Нямеччыне, у гітлераўца быў брат, які ад самага нараджэння ні разу не ступіў на свае ногі...



## ПА ГРЫБЫ

Будзяць рана, як толькі ноч пабялее на ўсходзе. Расплюшчваеш вочы, і ў першую хвіліну не ведаеш, дзе ты. Потым бачыш маці, якая схілілася над ложкам, і адразу ж успамінаеш, што ўчора збіраўся ў лес па грыбы.

Борздзенька нацягваеш на сябе кашулю, штаны,— ногі не трапляюць у калошы, — і злуешся. Пасля бяжыш да вядра, плюхаеш у твар халоднай вадою, кідаеш у кішэнь акраец хлеба, нож і спяшаешся ў лес.

Усюды плавае нізкі, мутны туман. Праз яго не бачыш ні кустоў, ні дарогі. Птушкі прачнуліся ўжо. Цёхкае салавей, прысвістваe дрозд, і, як заўсёды, укладае некага спаць перапёлка. Палахліва глядзіш на пясок: ці не апярэдзіў цябе хто?



У лесе змрочна і сыра. Ад прахалоды сцінаешся і ўздрыгваеш. Але не спыняешся, а імчыш яшчэ прутчэй. Неўзабаве зварочваеш з бітай дарогі і ступаеш па мокрым і мяккім леташнім лісці. Яшчэ цемнавата.

Выбіраеш роўненькі пянёк дзе-небудзь ля крынічкі ці светлага буркатлівага ручая, п'еш ваду, проста лежачы жыватом на зямлі. Потым жуеш хлеб, — ён свой, хатні, спечаны на зялёным дубовым лісці, і ад таго вельмі пухкі і мяккі. Калі ад акрайца астаецца невялічкі кавалачак мякішу, чуеш недзе збоку доўгае і гучнае: «Ау-уу!»

Падхопліваешся на ногі і, забываючы на ўсё, бяжыш, колькі ёсць сілы, наперад, каб абагнаць ранняга грыбніка.

Трапляеш на адно грыбовішча, на другое і бачыш усюды карэнні. Тоўстыя і свежыя, вось-вось зрэзаныя — з іх выступілі кропелькі ліпкага поту. І не адзін, не два, а цэлая крушня карэнняў. Ай-я-яй!.. Гэта ж нехта пабраў грыбы, якія мог пакласці ў свой кашэль ты. Сэрца пачынае трывожна біцца, зіркаеш па баках. І, ужо не зважаючы ні на пні, ні на хмыз, што ўсюды трапляецца пад ногі, бяжыш далей. Разоў колькі спатыкаешся, падаеш, але падохопліваешся і зноў бяжыш.

А галасоў усё больш і больш. Яны ўжо чуюцца не толькі ззаду, але і наперадзе, — ад іх аж галосіць лес.

— Ауу!..

— Уаа!..

І тады ў галаву прыходзіць думка: усіх грыбнікаў не абгоніш. Сцішаеш хаду і пільней глядзіш сабе пад ногі. Ля кожнага натапыранага ліста, ля кожнага кусціка і купінкі.

Нечакана як не спатыкаешся аб грыб. Ён ядраны і ганарысты, з насунутай на самую патыліцу шапкай. Задавака! Але па даўнішняй завядзёнцы, — хто яе выдумаў? — плюеш тры разы на ліст, каб грыбы цябе не баяліся і не ўцякалі.

Ужо ўзыходзіць сонца. Лес увесь у расе, блішчыць. З імшарын падымаецца пара, а туман сунецца ў гусцякі.

У ботах даўно чвякае, анучы намоклі і збіліся пад ступнёю ў цвёрды клубок. Калашыны штаноў папрыліпалі да кален і гучна шастаюць. Але чым далей у лес, тым болей грыбоў. Дзе-небудзь пад кашлатаю бярозкаю альбо сасонкаю прысядаеш і адразаеш корань першаму баравіку. Хвілін праз колькі бачыш яшчэ адзін, потым яшчэ. А там і пайшло: толькі нагінайся ды паспявай браць. Бярэш адны баравічкі, маладыя, белыя; казлякоў можна нарэзаць і пасля — імі вунь усюды аж кішыць лес.

Праз нейкі час адварочваешся, каб пакласці ў кашэль яшчэ адзін баравік і не верыш вачам сваім — усё днішча ўжо ўкрыта грыбамі: белымі, паджарымі, з чорнымі тоўстымі шапкамі і зусім малюсенькімі карпунцамі.

Ля даўным-даўно паваленага і зарослага ўжо маладняком дуба трапляеш на неруш.

Грыбы сядзяць усёю вялізнаю сваёю сям'ёй, бы на якой радзе, і, здаецца, слухаюць, аб чым бае старэйшы іх роду — абвіслы зялёны баршчавік, што падпёрся на маладзенькую бярозку: баіцца пад старасць упасці. Каб ніхто не пашкодзіў, вырываеш усе баравікі з карэннямі і зносіш іх у адну кучу да кашаля дзе-небудзь на купінку. Потым садзішся на ўколенкі, асцярожна ашкрабаеш ад пяску карэнні, абразаеш, — яны белыя, тугія, значыць, грыбы пачаліся і ўжо будуць да самай глыбокай восені. Старыя, жоўтыя кладзеш пад спод, а белыя, ядраныя і найбольш хвацкія, наверх, — хай кожны, хто іх убачыць, зайздросціць!

Ходзіш па лесе яшчэ з паўгадзіны. Глядзіш, ці высока паднялося

сонца, азіраешся, дзе ты, і паварочваеш назад. Топчаш ягаднік, верас, дыбіш ботамі не зляжалае суччa. І цяпер заўважаеш, як пахне ў лесе. Дубовай карой, грыбамі, лісцем, зямлёю. І здаецца, нават пахне раса...

Ставіш зноў кашэль на зямлю і выразаеш сухія і нягнуткія пруткі— імі распіраеш кашэль, каб улезла болей грыбоў. Заадно цярэбіш і два тонкія хлёсткія дубчыкі — на іх будзеш нізаць тыя баравікі, што не ўмесцяцца ў кашэль.

З лесу выходзіш радасны, з поўным кашалём і двума доўгімі і важкімі маністамі ў руках. Наганяеш каго-небудзь з вёскі і пытаеш, заглядваючы да яго ў кошык:

— Ну, як?

І вочы разбягаюцца: табе здаецца, што твае грыбы горшыя. Але праз хвіліну супакойваешся: бачыш, як прыкусвае чалавек губу. Ага!..

А сонца паднялося ўжо высока і мкне ў самы вільчак неба. Пачынае парыць, — мусіць, зноў пасля паўдня пойдзе дождж, цёплы, з бліскавіцамі, з грымотамі. Пяюць, заліваюцца ўсюды птушкі — у іх свая радасць і надзея.

З-за пагорка вынырае вёска, — яна прыляпілася да пясчанай выспы, — і толькі недзе, аж у тым канцы, на лугавіне, відно, як усё яшчэ коціцца на лес туман. Чуваць, як паблізу, за бярэзнікам, скубуць траву каровы і іржэ жарэбчык, — яго зычнае і гулкае іга-га-га дробна нясецца па росах, і мусіць ад гэтага дрыжаць, хіляцца да зямлі травінкі.

А ў вачах ужо маці, якая нагнулася над кашалём (яна збіраецца саджаць у печ грыбы), і сама печ, якая смачна пахне свежай падпражанаю саломаю і пшанічнымі аладкамі...





**С. Герус. Сталявар з Мінскага аўтазавода.** Лінагравюра.



**СЯБРЫ ПА ЗБРОІ — БРАТЫ ПА ПЯРУ**

У пачатку красавіка ў сталіцу нашай рэспублікі—з'ехаліся пісьменнікі і журналісты з Масквы, Ленінграда, Кіева, Смаленска і іншых гарадоў краіны, каб прыняць удзел у нарадзе, скліканай Ваеннай камісіяй Саюза пісьменнікаў СССР сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі па пытаннях развіцця мемуарнай і мастацкай літаратуры аб партызанскай барацьбе ў перыяд Айчыннай вайны.

Таварышы па зброі і па пяру сабраліся ў той рэспубліцы, якая вядома ўсяму свету як краіна класічнага партызанскага руху, на той зямлі, дзе многія з іх змагаліся з ворагам у яго тыле. Адбылося многа сардэчных сустрэч і новых цікавых знаёмстваў.

Наш карэспандэнт зазняў у час перапынку групу беларускіх пісьменнікаў з гасцямі — удзельнікамі нарады. Злева направа: І. Навуменка (Мінск), генерал А. Сабураў, А. Ісбах (Масква), А. Адамовіч (Мінск), В. Быкаў (Гродна).

**Фота А. Дзітлава.**

**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**



Гэта было два гады назад, увосень. Група мастакоў, сярод якой давялося быць і мне, паехала на Піншчыну. Мы спыніліся там, дзе на славутыя пінскія балоты вялі наступ механізатары Іванаўскай машынна-меліярацыйнай станцыі.

Нельга было застацца абыякавым да самаадданай працы тых, хто, скарыстаўшы магутную тэхніку, перайначваў тутэйшую прыроду, ператвараў спрадвечную багну ў гектары добрага ворыва. Тады і ўзнікла ў мяне задума напісаць карціну «Экскаватаршчыкі» — групавы партрэт тых, хто ўзнімае беларускую цаліну. Гэта адзін з варыянтаў у пошуках да вырашэння такой высакароднай для нашых мастакоў тэмы.

**Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК.**





# ЛЯ СЦЕН СЛАЎНАЙ ЦЫТАДЭЛІ

**Рэпартаж**

Брэсцкая крэпасць. Хто не ведае сёння гэтую цытадэль на заходнім рубяжы, дзе ў першыя дні Айчыннай вайны змагаліся з фашыстамі воіны бессмяротнага гарнізона. Яна стала сімвалам гераізму і стойкасці нашых салдат і афіцэраў, з'явілася яркай старонкай у летапісу славы рускай зброі.

Кожны, каму выпадае трапіць у Брэст, стараецца пабыць у крэпасці, наведаць славутыя мясціны гераічнай баталіі. Тут працуе ваенны музей, у якім сабраны багаты матэрыял пра герояў-абаронцаў. Да дваццацігоддзя з дня пачатку гераічнай абароны музей пераабсталяваны і значна пашыраны. Уся крэпасць стала запаведнікам, куды адкрыта свабоднае наведванне.

У дзевяці прасторных залах выстаўлены мастацкія карціны, скульптуры, узоры зброі і амуніцыі, асабістыя рэчы ўдзельнікаў абароны, сцягі-рэліквіі. Музей увесь час папаўняецца новымі матэрыяламі.

На стале — свежыя пісьмы, здымкі. С. Бабронак з Львова паведамляе, што адшукаў і высылае рэдкія фотаздымкі сваіх баявых сяброў-пагранічнікаў, якія змагаліся ў крэпасці; А. Сакян з Масквы прыслаў сваю франтавую запісную кніжку і кінжал, з якім змагаўся ў крэпасці.

Музей-крэпасць адкрыт круглы год. Наведваюць крэпасць і групамі, і ў адзіночку, моладзь і людзі пажылыя, што на сваіх плячах перанеслі цяжар і жахі мінулай вайны. Прыходзяць маладыя воіны, якім усё гэта здаецца казкай-легендай, прыходзяць ветэраны, якія самі перажылі ўсё гэта. Ідуць піянеры, якім подзвігі толькі сняцца...

У суровай маўклівасці людзі ходзяць па залах, глядзяць здымкі герояў-абаронцаў крэпасці, аглядаюць шматлікія рэчы іх воінскага побыту, і ў іх душы нараджаюцца пачуцці вялікага захаплення іх подзвігам.

Людзі чытаюць дакументы, якія расказваюць аб зверствах фашыстаў, глядзяць здымкі нямецкай кінахронікі, слухаюць хвалюючыя расказы экскурсаводаў, і з душы іх ірвуцца словы абурэння: «Не дапусцім больш такое, перагародзім дарогу вайне!»

Людзі ходзяць па зарослых травою, здзічэлых руінах, заглядваюць у маўклівыя казематы і басцёны, аглядаюць разбурэнні і выбоіны на сценах, мацаюць скамянелыя ад агню цагляныя скляпенні і нібы чытаюць радкі суровай кнігі аб трагедыі, што адбылася тут у першыя дні вайны.



**Ля Цярэспальскіх варот пачынаюцца экскурсіі па крэпасці.**

Камяні гавораць пра тое, што тут адбылося.

«Нас было трое масквічоў — Іваноў, Сцяпанчыкаў, Жунцяеў, якія абаранялі гэту царкву, і мы далі клятву, што не адыдзем адсюль. Ліпень, 1941».

«Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма. 20. VII. 1941 года».

«Таварышы, адпомсціце за нас!»

З гэтымі надпісамі-споведзямі, якія зроблены ў цяжкія хвіліны на сценах казематаў, нібы пераклікаюцца цяперашнія запісы ў кнізе водгукаў, якія пакідаюць госці і наведвальнікі. Гэтыя запісы гучаць, як клятва, як прысяга на вернасць любімай Айчыне.

«Мы ганарымся подзвігам нашых бацькоў і братоў, — піша камсамолец А. Белаконь. — І шкада, што мы спазніліся нарадзіцца, каб хоць крыху аблегчыць іх лёс».

Сяржант Дзевяткаў, наведаўшы са сваімі сябрамі-воінамі музей, запісаў:

«Мы таксама, як і яны, калі спатрэбіцца для Радзімы, будзем стаяць на смерць!»

«Дзякуй вам, родныя. Вы далі нам жыццё. Няхай мае дзеці будуць падобныя на вас. М. Гарошка (маці)».

Сярод шматлікіх водгукаў, якія нам давялося чытаць, кідаецца ў вочы запіс старога камуніста М. І. Какавіхіна, былога салдата, які некалі служыў у гэтай крэпасці і ўдзельнічаў у паўстанні 1905—1906 гадоў:

«...гэта добрая кузня па выхаванню... пакаленняў у гарачай любві да радзімы і стойкасці да абароны нашай свяшчэннай і недатыкальнай зямлі.»

Запісаў вельмі многа. Выказваюць свае пачуцці і савецкія людзі, і нашы замежныя госці, што пабылі ў музеі-крэпасці. Тут пакінулі свае подпісы і кітайскія чыгуначнікі на чале з кіраўніком Пекінскай чыгункі Лі Ю-лінам, і грэчаскі паэт Алексіс Парніс, і кубінскі патрыёт-камуніст Ласар Пенья, і амерыканскі мастак Рокуэл Кэнт...

У Брэсце і ў раёнах Брэстчыны ёсць некалькі чалавек з тых, хто змагаўся ў крэпасці. Яны — жывыя сведкі таго, што адбылося ў іх на вачах у цяжкія дні выпрабавання. Яны многае робяць, каб




**У кнізе наведвальнікаў музея пакінулі свае запісы: грэчаскі паэт Алексіс Парніс, кітайскія чыгуначнікі, амерыканскі мастак Рокуэл Кэнт і яго жонка Сэлі...**



увекавечыць памяць сваіх сяброў-паплечнікаў.

...Цёплы сонечны дзень. Дрэмлюць над ракою старыя вербы, нізка звесіўшы ў задуменні над вадою вузлаватыя касмылі — голле. І яны — маўклівыя вартавыя — пад шчодрай ласкай сонца павесялелі. Апрануўшыся ў зялёную абнову, красуюцца-глядзяцца ў люстра ракі. З абодвух бакоў абрывістыя берагі абляпілі з вудамі рыбакі-аматары. Здаецца, яны сабраліся на нейкую сваю рыбацкую сходку. Але цішыня, незвычайная цішыня навокал. Не верыцца нават, што некалі кіпелі ад агню і выбухаў гэтыя сонныя хвалі.

Была нядзеля. І на раку, і ў крэпасць з ранку пацягнуліся людзі. І гаражане, і прыезджыя. На зялёнай пляцоўцы, адкуль добра відаць чырвоныя сцены параненай цытадэлі і яе прыгожае адлюстраванне на зеленаватых хвалях, — раскінулі сваё начынне мастакі-студыйцы. Ля мальбертаў схіліліся і малады салдат, і школьнік, і пажылы рабочы. Над усім — яркае, ласкавае сонца. Высокае, чыстае неба.

Праз Кобрынскія вароты наведвальнікі заходзяць у крэпасць. У цэнтры цытадэлі нейкай громадай выглядаюць руіны былой царквы, дзе перад вайною змяшчаўся гарнізонны клуб. Ад былога Белага палаца, дзе быў падпісаны ў 1918 годзе вядомы Брэсцкі мір, засталіся толькі падмуркі ды груды бітай цэглы. Направа з зялёнага мурагу выглядаюць белыя сцены басціёнаў славутага Усходняга форта, дзе стаялі на смерць гераічныя воіны пад камандай маёра Гаўрылава. Налева — вялізнай падковай цягнуцца двухпавярховыя казармы са славутымі Холмскімі і Цярэспальскімі варотамі, куды вораг абрушыў першыя штурмавыя ўдары.

...Ля Цярэспальскіх варот сабраўся натоўп. У цесным коле — невялікага росту смуглявы чалавек з указкай у руках. Гэта нештатны экскурсавод Уладзімір Піліпавіч Гаўрасаў.



**Былы парахавы склеп на Заходнім востраве. Тут трымалі абарону пагранічнікі, імёны якіх невядомыя.**




**Вось яна, сведка стойкасці і мужнасці Брэсцкага гарнізона — параненая сцяна. Тут загінуў легендарны камісар Я. Фамін.**

Экскурсанты пабылі ўжо ў шмат якіх памятных месцах і цяпер прыйшлі да сцен цытадэлі. Гаворка вялася пра гісторыю крэпасці, якая была збудавана сто год таму назад рускімі ваеннымі інжынерамі на самай граніцы ля рэк Мухавец і Заходні Буг.

— Ужо к пачатку нашага стагоддзя,— гаварыў Уладзімір Піліпавіч, — крэпасць не з'яўлялася сур'ёзным ваенным аб'ектам, яна страціла сваё ранейшае значэнне. Перад мінулай вайною яна была проста месцам, дзе размяшчаліся войскі, а ў казармах і падвалах знаходзіліся разнастайныя ваенныя склады. У першы дзень вайны тут змяшчаўся зусім невялікі гарнізон — меней двух палкоў пяхоты. На заходнім востраве былі пагранзаставы. Да крэпасці прымыкалі шпіталь і будынкі, дзе жылі сем'і ваеннаслужачых.

На золаку 22 чэрвеня 1941 года фашысты рынуліся на граніцу, абрушылі тысячы тон снарадаў і бомбаў на крэпасць. Запалала былая царква, ірваліся склады. У крэпасць кінуліся хворыя са шпіталю, жанчыны і дзеці — сем'і воінаў. Неўзабаве праз мост ля Холмскіх варот прарваліся немцы. Яны надумалі



**Гэта ім — Т. Ходцавай, М. Глязер, В. Каралю і І. Караваеву, супрацоўнікам музея, наведвальнікі ўдзячны за сабраныя ў руінах дарагія рэліквіі.**

захапіць крэпасць з ходу. Згрупаваўшыся, воіны крэпасці і пагранічнікі ўдарылі дружным агнём з акон і байніц цытадэлі. З першага дня абарону крэпасці ўзначалілі капітан Зубачоў, начальнік пагранзаставы лейтэнант Кіжаватаў, палкавы камісар Фамін. Беручы прыклад са сваіх бясстрашных камандзіраў, у першыя ж дні вызначыліся адважныя героі змагання — лейтэнант Наганаў, сяржант Матэвасян, радавыя браты Дарохіны... Геранчна змагаліся на Заходнім востраве пагранічнікі. Яны біліся да апошняга патрона і загінулі як безыменныя героі...

Унізе плешчуцца хвалі ракі, несучы водар лясной свежасці.



**Гэты будзільнік, знойдзены ў руінах казармы. Ен паспеў адлічыць толькі першую гадзіну вайны...**

— Не ўдалося ворагу ўзяць крэпасць ні на першы, ні на другі, ні на трэці дзень, — гучыць усхваляваны голас экскурсавода. — Фашысты хадзілі па некалькі разоў за дзень на штурм, але адкатваліся, гінулі ля сцен, падалі ў раку. І тады яны надумалі нечуваную подласць: сабралі палонных медыцынскіх сясцёр і пагналі іх перад сабою. Нашы воіны, вядома, не сталі страляць па сваіх. І раптам адна з жанчын з натоўпу крыкнула: «Страляйце, ну, не марудзьце!..» Гэты крык падхапілі ўсе жанчыны, і ён гучаў, як загад.

З казарм, праз вокны на выратаванне жанчынам кінуліся нашы байцы. З акон верхняга паверха па фашыстах ударылі кулямёты.

Тут жа, непадалёку ад моста раз'юшаныя гітлераўцы пачалі расстрэльваць безабаронных жанчын...

...Гнеўнай помстай гараць вочы ў людзей, калі экскурсавод расказвае пра гераічныя подзвігі палкавога камісара Яфіма Фаміна і камсорга палка Самвела Матэвасяна. Усе моўчкі схіляюць галовы ля сцяны, дзе на мемарыяльнай дошцы золатам блішчаць словы: «Тут, ля Холмскіх варот, быў расстраляны фашысцкімі захопнікамі адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці, палкавы камісар Фамін Яфім Майсеевіч».

Жанчына з заўчасна пасівелымі скронямі падышла да сцяны і беражна палажыла букет сініх пралесак.

— Я асабіста ведала Яфіма Майсеевіча, — ціха сказала жанчына, змахнуўшы з вачэй няпрошаную слязу. — Цудоўнай душы быў чалавек!..



**Усходні форт... У гэтых казематах ішлі апошнія схваткі бессмяротнага гарнізона з ворагам.**



Праскоўя Аляксееўна Гарэлава — так завуць гэтую жанчыну — служыла ў шпіталі і ў першы дзень вайны трапіла ў палон. Сярод тых нямногіх, каму ўдалося застацца жывымі, была і Праскоўя Аляксееўна. З ёй знаходзілася шасцігадовая пляменніца Валя. Успамінаючы тыя жахлівыя дні, Праскоўя Аляксееўна гаворыць:

— Ніколі не забуду, як мы выносілі дзяцей з агню, не забуду водбліскаў злавеснага полымя ў іх чыстых вачах. Ніколі і нідзе не забывайце, людзі, тых, хто загінуў ля гэтых сцен, пад гэтымі мурамі, ратуючы ваша юнацтва!..

Экскурсанты праз Холмскія вароты выходзяць зноў у цытадэль. Спыняюцца ля зруйнаванага будынка, дзе змяшчалася школа шафёраў пагранвойск. Ад будынка засталася груда цэглы і глыбокія, прасторныя скляпенні падвала.

Экскурсавод расказвае:

— У гэтых падвалах воіны пакляліся абараняць крэпасць да канца — стаяць на смерць. Немцы кідалі бомбы, білі з гармат. Потым у вокны шуганула полымя з агнямётаў. Плавілася цэгла, абвальваліся двухмятровыя сцены, але абаронцы трымаліся. Забітых і параненых байцоў змянялі жанчыны, падлеткі. У атакі разам з усімі хадзіў семнаццацігадовы выхаванец 333-га палка Пеця Васільеў. Аднойчы, калі закончылася атака на гарнізонны клуб, Пеця замяніў параненага кулямётчыка. Яго кулямёт бязлітасна касіў ворага. У час аднаго з артылерыйскіх налётаў Пеця быў сам смяртэльна паранены. Калі сюды на дапамогу падаспелі байцы разам са старшым лейтэнантам Патапавым, Пеця быў яшчэ жывы. Ён ляжаў на разбітым кулямёце, нібы абараняючы яго...

— Гэта правільна, — пачулася з натоўпу. — Я тады быў там. Калі схіліўся над Пецем, ён прашаптаў апошнія словы: «Родным... у Сталінград... сталінградцам перадайце...»

Гэта гаварыў пажылы камлюкаваты мужчына, былы старшына 333-га палка Міхаіл Ігнатавіч Ігнацюк, што ўдзельнічаў у абароне крэпасці. З ім стаяў маладжавы з твару, хударлявы чалавек і пільна ўслухоўваўся ў тое, што расказваў экскурсавод.

— Як добра, што вы прыйшлі, Рыгор Сяргеевіч, — раптам выгукнуў экскурсавод. — Раскажыце пра абарону Усходняга форта, вы ж там былі, трымалі апошнюю абарону...

Усе з захапленнем і ўдзячнасцю пагледзелі на гэтага сціплага, простага чалавека — былога фельчара транспартнай роты 333-га палка Рыгора Сяргеевіча Макарава. А ён, задумлівы і ўзрушаны, уважліва разглядаў казематы і скляпенні форта, доўга маўчаў, узіраючыся і аб нечым думаючы, а потым прыгадваў:



**На зялёнай пляцоўцы ў крэпасці размясціліся самадзейныя мастакі, каб зрабіць сабе накіды...**

— Вось тут мы збіраліся... Тут жыла наша рота... А гэта сталовая... Вунь далей была канюшня... Як пачалася вайна, мы занялі абарону на ўмацаваннях, а потым перабраліся ў казематы. Баямі кіравалі спачатку камандзір роты Маркаў і камандзір 393-га артылерыйскага дывізіёна Шрамко. На трэція суткі да нас з Заходняга форта прыбыў маёр Гаўрылаў, прыняў на сябе камандаванне. Адбыўся партыйны сход, на якім прынялі рашэнне — абараняць крэпасць да апошняга дыхання.

Гітлераўцы абстрэльвалі форт з кулямётаў, з танкаў, з гармат, трымалі ўвесь час пад кулямётным абстрэлам, але нічога не дамагліся. У нас не было харчу: елі камбікорм і авёс, які знаходзілі ў казематах, не было вады — выкапалі калодзеж і пілі тухлую, іржавую ваду...

Пасля таго, як на ўмацаванні паляцелі бомбы вагою паўтары-дзве тоны, ворагу ўдалося прарвацца ў форт. Памятаючы загад камандзіра, малодшы сяржант Радзіён Семянюк, якому было даручана ахоўваць сцяг, паклаў у вядро чырвонае палотнішча і закапаў у надзейным месцы. Праз пятнаццаць год Семянюк прыехаў у крэпасць, адшукаў тое месца і перадаў сцяг у музей.

На дзесятыя суткі нас, параненых і кантужаных, захапілі ў палон. Тут было шмат дзяцей і жанчын, і яны дзялілі з намі ўсе пакуты асады...

Рыгор Сяргеевіч Макараў, як і многія іншыя абаронцы крэпасці, што параненыя і кантужаныя трапілі ў палон, уцёк з лагера і працягваў змаганне ў партызанскім атрадзе.

...На мяккім мурагу, ля сцен старой цытадэлі паселі ў цесны гурток былыя ветэраны — удзельнікі славутай, незабыўнай абароны. Прыгадваюць тыя цяжкія пякельныя дні, былыя паходы. Ёсць што ўспомніць, ёсць што расказаць дзецям — нашым маладым сучаснікам, за шчасце якіх яны змагаліся, не шкадуючы жыцця. Байцы-ветэраны завяшчаюць моладзі: «Свята беражыце і памнажайце традыцыі сваіх бацькоў-камуністаў, любіце сваю маці-Радзіму такой сыноўняй любоўю, як тыя маладыя героі, што палеглі назаўсёды ля гэтых свяшчэнных муроў!»



**На мяккім мурагу ля сцен старой цытадэлі сабраліся ветэраны: П. Гарэлава, Р. Макараў, М. Ігнацюк і Я. Сянькоўскі.**

**С. КУХАРАЎ.**
Фота **А. Дзітлава.**



**Сёння тут мірная цішыня. Не верыцца, што некалі кіпелі ад агню і выбухаў хвалі спакойнага Мухаўца.**



# БРАТЭРСТВА

На бальнічны двор з вялікай хуткасцю прымчала аўтамашына і спынілася ля ганка. Вадзіцель працягла пасігналіў. З прыёмнага пакоя выбегла старшая сястра Алена Мікалаеўна Зяленская.

— Мы з саўгаса, — глытаючы словы, загаварыў вадзіцель. — Мікалая Ментуза, шафёра нашага, прывезлі. Пад грузавік трапіў...

Зяленская глянула ў кузаў. Там, на руках у рабочага, ляжаў малады чалавек. Вочы заплюшчаны. У куточку вуснаў прыкіпела кроў.

— Нясіце, — коратка загадала старшая сястра. — Хутчэй!

А праз паўгадзіны ў гарадскую бальніцу даставілі бялявую дзяўчыну з буйнымі вяснушкамі па ўсім твары. Гэта была Ніна Рудзь, работніца будаўнічага ўчастка. Яна таксама была непрытомная.

І дзяжурны ўрач Тацяна Васільеўна Антонава, ледзь паспеўшы аказаць першую дапамогу Мікалаю, зноў схілілася над беласнежнай канапай, на якой нерухома ляжала дзяўчына.

— Які нешчаслівы дзень! — Тацяна Васільеўна ўздыхнула і цяжка апусцілася на табурэтку. Яна разумела ўсю сур'ёзнасць становішча. Абодвум пагражала смерць.

Перамогшы імгненную слабасць, урач цвёрда сказала:

— Абодвум пераліванне крыві. Неадкладна! Інакш не выратаваць!

— Але ў нас няма кансерваванай крыві патрэбнай групы,—адказала сястра.

Кроў... Дзе ўзяць кроў?

Хвіліна цяжкага роздуму, і Алена Мікалаеўна прыймае рашэнне. Яна падыходзіць да тэлефона і бярэ трубку.

...У казарме патрабавальна зазваніў тэлефонны званок. Трубку ўзяў дзяжурны па падраздзяленню.

— Сяржант Сергіенка слухае! Хто? Таварыш Зяленская? Кроў? Якая кроў? Ага, разумею! Калі? Зараз? Неадкладна далажу.

Выслухаўшы сяржанта, афіцэр хутка ўвайшоў у спальны пакой да салдат. Выгляд камандзіра быў настолькі незвычайны, што ўсе з трывогай падышлі да яго.

— Таварышы, — загаварыў афіцэр. — Гарадской бальніцы патрэбна кроў для пералівання цяжка хворым. Ад нас залежыць, ці застануцца яны жывыя. Праз гадзіну, магчыма, ужо будзе позна. Справа добраахвотная. Хто пойдзе?

— Я, таварыш камандзір, — першым адгукнуўся сяржант Сергіенка.

— Я! — выйшаў наперад Казімір Юткевіч.

— І я! — рассунуўшы плячом кола таварышаў, ступіў наперад Рубік Татэвасян.

— Я! Я! Я! — неслася з усіх бакоў.

Праз дзве мінуты семнаццаць чалавек крочылі па двары казармы, а камандзір стаяў ля акна і глядзеў ім услед. Ён быў усхваляваны гэтым праяўленнем адзінадушша салдацкіх сэрцаў, бескарыслівым імкненнем воінаў ісці на выручку другім.

...Магчыма, Рубік Татэвасян, калі камандзір абвясціў просьбу ўрачоў, успомніў, як яго, непрытомнага ад страты крыві, прывезлі ў бальніцу і нейкі рускі хлопец аддаў яму сваю кроў, выратаваў, падараваў жыццё. Гэта было яшчэ дома, у роднай Арменіі.

А Казімір Юткевіч, сціплы, маўклівы, падцягнуты салдат? Што павяло яго ў бальніцу? Можа ён цяпер зноў перажывае тую страшную глухую ноч, калі ў шыбіну іх дома нехта пастукаў. Маці ўскочыла з пасцелі, адчыніла дзверы. На парог звалілася змярцвелае цела чалавека ў форме савецкага салдата.

А на другім канцы вёскі ўжо брахалі нямецкія аўчаркі, чулася незнаёмая мова, і маленькі Казік, які разам з сёстрамі ляжаў на ложку, задрыжэў ад страху. Маці загадала дзецям падняцца, адкінула пярыну і паклала пад яе начнога госця. Потым паклала на пярыну дзяцей, лягла і сама, абхінаючыся старэнькай хусткай. А праз мінуту ў хату ўварваліся гітлераўцы. Яны перавярнулі ўверх дном усю хату, толькі ложак, спяшаючыся, не кранулі. Гэта і выратавала савецкага салдата. Праз два тыд-

ні ён пайшоў, пацалаваўшы дзяцей і пакланіўшыся маці. І Казіміру на ўсё жыццё запомнілася светлае аблічча гэтага чалавека. Калі бывае цяжка, калі трэба прыняць адзіна правільнае рашэнне, побач з ім паўстае дарагі вобраз маці, якая, праводзячы Казіміра ў армію, наказвала: «Служы добра, сынок».

Так уяўляў сабе думкі і пачуцці салдат камандзір падраздзялення, прыгадваючы кароткі яшчэ жыццёвы шлях тых, што пайшлі ў бальніцу. Ні адной цёмнай плямкі не бачыў ён на гэтым шляху. Не бачыў нічога дзіўнага і ў тым, што семнаццаць яго выхаванцаў цяпер гатовы аддаць кроў, каб побач зноў расцвілі другія маладыя жыцці.

...Для пералівання падышла кроў толькі семярых. Калі Мікалай Мянтуз і Ніна Рудзь былі ўжо выратаваны і спакойна заснулі, старшая сястра ўзяла донарскія картачкі і пачала задумліва перабіраць іх.

— Сергіенка Леанід Іванавіч, украінец. Паляк Казімір Юткевіч... Той, што з брывамі ўразлёт—Рубік Татэвасян, армянін. Бенікас Пранас—з Літвы. Пеця Астроўскі з Беларусі. Гелісар Газетдзінаў з Татарыі. А самы высокі з іх—Ігар Стафаніцкі, рускі...

— Прадстаўнікі сямі нацыянальнасцей, — зазначыла Алена Мікалаеўна.

— Так, з розных куткоў краіны, — адгукнулася Таццяна Васільеўна, — а кроў у іх адна, наша родная, савецкая...

Вечарам у бальніцу прыйшоў галоўны ўрач Мікалай Кандратавіч. Яму расказалі аб падзеях дня. Ён праверыў назначэнні хворым, ухваліў дзеянні дзяжурнага ўрача, сясцёр і патэлефанаваў камандзіру часці. А потым доўга хадзіў па калідоры, усхваляваны таксама, як і ўсе, хто ведаў пра высакародны ўчынак воінаў.

Можа ў гэтыя мінуты ён успомніў сваю ваенную службу. Успомніў вясёлае, хоць парою і цяжкае студэнцкае жыццё, выпускны вечар у медінстытуце, калі яму ўручалі дыплом урача, гады ўрачэбнай дзейнасці і таго хворага салдата, якому не так даўно аддаў 400 грамаў сваёй крыві... Успамінаў усё гэта і радаваўся, што шчаслівы лёс зрабіў яго ахоўнікам каштоўнейшых чалавечых жыццяў...

З гэтага вечара Мікалай Кандратавіч узяў лячэнне Мікалая Ментуза і Ніны Рудзь пад свой асабісты кантроль. Праз паўтара месяца яны выпісаліся з бальніцы.

І кожны раз, калі праходзяць салдаты міма дома, што яшчэ будуецца, з рыштаванняў абавязкова гучыць звонкі дзявочы голас:

— Добры дзень, браточкі!

**Мікола ГРЫЦАН.**

# У СЯМ'І ГЕРОЯ

Гэта было дваццаць гадоў назад. Чэрвень 1941 года. У агні Беларусь. Пяты дзень вайны. Але ўжо не адзін баявы вылет зрабіла звяно капітана Гастэлы. Вось і цяпер, перш чым падняцца ў паветра, лётчыкі зноў успомнілі словы свайго камандзіра: «Што б ні чакала нас наперадзе, усё пройдзем, усё вытрымаем, ніякая бура нас не зломіць, ніякая сіла нас не стрымае! Калі будзе трэба, за Радзіму аддадзім сваё жыццё».

Капітан Гастэла і яго экіпаж засталіся верныя гэтай клятве. Вяртаючыся на сваю базу пасля выканання баявога задання, лётчыкі заўважылі, што па дарозе Маладзечна — Радашковічы ідуць варожыя танкі. Смяротны агонь зверху абрушыўся на браніраваныя машыны. І калі самалёт капітана Гастэлы ўжо стаў адыходзіць ад цэлі, варожыя зеніткі дагналі яго. Успыхнула полымя. Ясна, дакладна працавала думка. Што рабіць? Пакінуць самалёт і выкінуцца на парашутах? Не! Лепш памерці, але не здацца ў палон ненавіснаму ворагу. І вось ахоплены полымем самалёт падае на калону фашысцкіх танкаў.

Страшэннай сілы выбухі скаланулі наваколле — гэта ўзрываліся фашысцкія танкі.

А назаўтра газеты і радыё паведамілі аб бессмяротным подзвігу савецкага лётчыка Мікалая Гастэлы.

* * *

...— Капітан Гастэла тут жыве?

— Віктар, да цябе!

На парозе аднаго з пакояў паявіўся малады чалавек. Чорныя з сіняватым адлівам валасы спадалі на лоб, а вуз-



**Маці Мікалая Гастэлы Анастасія Сямёнаўна і яе ўнук Віктар Мікалаевіч.**
Фота Г. Амельчука.

кія смаляныя вочы глядзелі здзіўлена і ў той жа час хітравата.

— Толькі прабачце ўжо, у нас не вельмі прыбрана, — гаварыў гаспадар, вешаючы нашы паліто і капелюшы. — Жонка ў мяне бібліятэкар, працуе вечарамі, ды і я толькі што прыйшоў.

Светлы, з шырокім акном пакой. Вялікі чорны раяль. У крыштальнай вазе тры свежыя хрызантэмы. Ад падлогі да столі рад кніжных паліц, побач шырокая канапа.

Перад намі стаяў стройны афіцэр у пінжаку зялёнага колеру з пагонамі інжынера-капітана авіяцыйнай службы. На грудзях значок выпускніка акадэміі імя Жукоўскага.

— Вы ўжо скончылі акадэмію? — здзівіліся мы.

— Так, яшчэ год таму назад. — І, відаць, зразумеўшы прычыну нашага здзіўлення, дадаў: — Мне ўжо 28. У акадэмію я не адразу пасля суворааўскага пайшоў, скончыў яшчэ спецыяльнае артылерыйскае і два гады ў часці працаваў.

— Так... А мы думалі, што вам ледзь за дваццаць!

— Ну, гэта ўжо кампліменты, — хітравата ўсміхнуўся Віктар, паказаўшы бліскучыя, роўныя зубы. — Вы проста яшчэ не прыглядзеліся, які я стары.

Нібы па маўклівай згодзе, мы адцягвалі размову пра самае галоўнае: пра дзяцінства Віктара, пра яго бацьку, які зрабіў неўміручы подзвіг.

Мы доўга гутарылі пра кнігі, пра музыку, пра спорт. Віктар захапляецца аўтамабілізмам, боксам, займаецца гімнастыкай. Гаварылі пра работу Віктара, адным словам, пра ўсё, пра што могуць гаварыць мала знаёмыя людзі.

На раялі — высокі стус пісем. Ён прыцягвае нашу ўвагу ўсё больш і больш. Мы адчувалі, што іменна пісьмы адкажуць на многае, што хацелася б ведаць пра легендарнага героя Гастэлу, пра яго сям'ю.

— Гэта пісьмы ад татавых сяброў, — сказаў Віктар, перахапіўшы нашы позіркі.

Ён узяў іх і пачаў перабіраць.

— Вось гэта ад Валянціны Дзмітраўны Івановай, — сказаў ён, разглядаючы дробна спісаныя старонкі. — Яна была нашай суседкай па кватэры спачатку ў Растове, а пасля ў Вялікіх Луках. Бацька вельмі сябраваў з яе мужам, Канстанцінам Нікіфаравічам. Хочаце прачытаць?

Мы з хваляваннем узялі пісьмо. Яго пісаў да маці героя чалавек, які асабіста ведаў Мікалая Францавіча Гастэлу.

«Дарагая Анастасія Сямёнаўна!

Кажуць, што час вылечвае самыя цяжкія сардэчныя раны. Але мне здаецца, што чалавек прывыкае да свайго гора, а боль у сэрцы застаецца на ўсё жыццё.

Атрымаўшы ад Вас сумную вестку аб смерці лепшага сябра Мікалая Францавіча — яго жонкі, Ганны Пятроўны,* я ўспомніла іх абодвух. Нібы жывыя, яны ўявіліся мне. Якая гэта на дзіва дружная, любячая пара! Вось яны дома ў адзін з суботніх вечароў. Мікалай Францавіч быў дамасед. Ён любіў у вольны час падбіраць на баяне мелодыі. Аня вышывала, Віця што-небудзь «майстраваў» або прыставаў да Ані: «А чаму, а чаму?»

Гэты «чамучка», як мы яго звалі, замучыў бы кожнага сваімі нечаканымі пытаннямі. Я заўсёды здзіўлялася спакою Ані і Мікалая Францавіча, калі яны цярпліва адказвалі на ўсе «чамучкавы» пытанні... І я, прызнацца, часам зайздросціла Ганне Пятроўне і Мікалаю Францавічу. Як яны разумелі адзін другога!

Памятаю, як мы сустракалі мужоў з палётаў. У запыленых камбінезонах і пілотках, з планшэтамі, яны паяўляліся ў пярэдняй стомленыя і з усмешкамі. Разам вячэралі. Мужчыны ўспаміналі штонебудзь смешнае, і вечар праходзіў весела і шумна. Новы год сустракалі разам, запрашалі яшчэ некалькі сем'яў.

У доўгія зімовыя вечары Мікалай Францавіч падоўгу заседжваўся над кнігамі.

Калі прызнацца шчыра, рэдка даводзілася нам іх бачыць: то на Хал-Хін-Гол ляцелі, то на Фінскі фронт, потым вызвалялі Літву, Латвію, Эстонію... Яны ж былі ў нас у сям'і, нібы госці. І вось апошняя старонка — вайна.

Памятаю, калі Косця ў 1942 годзе прыязджаў да мяне ў Сярэднюю Азію, ён гаварыў: «Калі загінуць на фронце, дык толькі такой геройскай смерцю, як Мікалай Францавіч!»

Дарагая Анастасія Сямёнаўна!

Я разумею, што ў Вас цяпер адзіная ўцеха — гэта Вашы ўнукі, яны Вас любяць, як маці і бабулю. І не толькі яны любяць Вас, Вам нізка кланяецца ўвесь наш народ. Імем Мікалая Гастэлы названы дзесяткі вуліц, калгасы, школы. Нават у нашым невялікім пасёлку ёсць вуліца Вашага сына.

Перадайце ад мяне шчырае прывітанне Віктару Мікалаевічу і яго сяброўцы. Жадаю ім жыць таксама шчасліва, і разумець адзін аднаго, як Ганна Пятроўна і Мікалай Францавіч!»

Іх шмат, гэтых аднолькавых, белых канвертаў... Аднолькавых, і ў той жа час розных. На адных пейзажы Кіргізіі, на другіх — Беларусі, адны навагоднія, другія — майскія, адны напісаны старанным дзіцячым почыркам, другія — таропка. Але ўсе яны гавораць пра адно і тое ж — «памятаем, ганарымся, хочам быць дастойнымі».

«Наш атрад хоча насіць імя Вашага бацькі. Мы хочам быць такімі, як Ваш бацька», — пішуць школьнікі з сяла Круціха на Алтаі.

«Наша дружына носіць імя бессмяротнага Героя Савецкага Саюза Мікалая Францавіча Гастэлы. Нядаўна нам удалося знайсці ваш адрас. Мы вельмі рады, што зможам пагутарыць з Вамі і Вы раскажаце пра свайго бацьку, раскажаце ўсё, усё, што ведаеце. Нам вельмі цікава ведаць усё да найменшых падрабязнасцей», — сардэчна, з дзіцячай шчырасцю просяць Віктара школьнікі з сяла Уладзіміраўка Запарожскай вобласці.

Гэтыя пытанні не ад простай цікаўнасці. Яны прадыктаваны любоўю народа да сваіх герояў, што аддалі жыццё за свабоду сацыялістычнай Радзімы, за раднасае дзяцінства савецкіх дзяцей. Вось чаму і дарослыя, і дзеці хочуць ведаць пра свайго героя ўсё-ўсё, «да найменшай падрабязнасці».

— Я вельмі яскрава памятаю першыя дні вайны. Можа таму, што гэта былі апошнія татавы дні, — адразу стаўшы сур'ёзным, пачаў свой расказ Віктар.— Мы жылі пад Смаленскам. Напярэдадні, у суботу, ён і мама абяцалі ўзяць мяне ў горад. Але калі я прачнуўся — зразумеў: мяне ашукалі і мы нікуды не ідзём. Мама была адна, а таты ўжо не было. Раніца была такая ясная і мірная. Я вельмі засмуціўся, што застаюся дома. Я, вядома, не ведаў у гэты момант, што бацьку выклікалі па трывозе і што мы наогул ніколі і нікуды больш не пойдзем разам...

— Вы так і не бачылі яго больш?

— Бачыў, два разы...

...Ганна Пятроўна і Віктар сядзелі за сталом, ля акна і снедалі. Раптам пачуўся гул. Нізка чорным ценем прамчаўся самалёт.

— Не наш, мама, не наш! — Цёмныя вочы хлопчыка гарэлі. У іх адбіваўся і спалох і цікаўнасць. Ён прыпаў да акна...

— Што ты!.. Адкуль тут не наш самалёт?

І раптам кулямётная чарга. Звон разбітага шкла.

Разведчык ляцеў далей, на аэрадром, што захаваўся ў смаленскіх лясах. Мікалай Францавіч у гэты час быў там, на аэрадроме. Убачыўшы чужы самалёт, ён не кінуўся ўцякаць, не схаваўся ў схові шчы. Трэба было біць ворага. І праз секунду ён быў ужо ў кабіне стралка-радыста, а там — кулямёт.

Два чалавекі адзін супраць другога— адзін на зямлі, другі ў паветры... Вораг не вытрымаў. Ён развярнуўся і баязліва кінуўся наўцёкі. Ва ўцекача паявіўся чорны хвост, успышкі полымя, і вось ён ужо каменем падае ў лес.

Гэта быў першы збіты капітанам Гастэлам самалёт. Не кожны на яго месцы праявіў бы столькі знаходлівасці і бясстрашша. У той дзень Мікалай Францавіч забег ненадоўга дамоў.

Апошняя сустрэча Віктара з бацькам была зусім кароткая. Ішоў чацвёрты дзень вайны. Ганна Пятроўна з сынам збіраліся ад'язджаць у тыл. Мікалай Францавіч зайшоў на хвілінку перад палётам. Ён абняў іх і, неяк асабліва ўважліва паглядзеўшы на пасталелага сына, сурова сказаў:

— Ты, Віктар, памятай — вораг блізка. Будзь мужчынам.

Цягнік, што вёз Віктара і Ганну Пятроўну, імчаўся на ўсход. А ў гэты час радыё расказвала ўсяму свету пра тое, як самы дарагі для іх чалавек накіраваў палаючы самалёт проста ў калону гітлераўцаў, як капітан Гастэла пайшоў на смерць, каб затрымаць фашысцкія танкі, каб цаною свайго жыцця выратаваць тысячы жыццяў савецкіх людзей. Але ўсяго гэтага яшчэ не ведалі жонка і дзевяцігадовы сын.

...Масква аглушыла шумам, мітуснёй, гудкамі аўтамабіляў. Яны ехалі вельмі доўга: бабуля Анастасія Сямёнаўна — маці Гастэлы — жыла тады на ўскраіне Масквы, у Багародскім. Яна адчыніла дзверы, секунду разгублена глядзела на прыезджых, якія ўсміхаліся, і з рыданнямі ўпала на грудзі нявестцы. Ганна Пятроўна ўсё зразумела...

* * *

І вось прайшло 20 гадоў. У гэты суботні вечар ва ўтульнай кватэры з двух пакояў на Вялікай Пясчанай вуліцы, як заўсёды, шмат гасцей, знаёмых і незнаёмых Анастасіі Сямёнаўны Гастэла. Яна сядзіць на канапе — маленькая, сівая, з гордым тварам старой работніцы-пралеткі. Гэтую рабочую гордасць, якую яна набыла за дзесяцігоддзі нястомнай працы краўчыхі, не сцёрла нават вялікае гора маці, што страціла ў вайну двух сыноў.

Тут, у доме Анастасіі Сямёнаўны, мы зноў сустрэліся з Віктарам. Ён ужо быў не ў ваеннай форме, а ў светлым цывільным касцюме. Адчувалася, што бабуля вельмі рада прыходу ўнука: твар яе раз-пораз асвятляўся радаснай усмешкай. Да таго ж, у госці да яе прыйшла моладзь: Віктар прывёў сваіх сяброў па суворааўскаму вучылішчу Юрыя Львова і Генадзя Канашэўскага.

— Я ж усіх іх вось якімі памятаю,— і Анастасія Сямёнаўна адмерала рукою ад падлогі трошкі больш за метр. — Як на канікулы прыедуць у Маскву, вось ужо шуму ад іх. І танцы, і песні. І та-

* Жонка Мікалая Гастэлы памёрла ў 1953 годзе.

варышаў навядуць. Але я любіла з імі бавіцца.

Маладыя людзі ўсміхаліся. Ім таксама прыемна было ўспомніць сваё дзяцінства.

— Шкада, што тут няма майго другога ўнука, Лёвы, — паскардзілася Анастасія Сямёнаўна. — Ён таксама авіятар, вучыцца ў вышэйшым авіяцыйным вучылішчы. А з твару падобны на свайго бацьку, Віктара, майго другога сына...

І гаспадыня перавяла ласкавы позірк на адну з фотакартак, што вісела над канапай. Са здымка глядзеў на гасцей знаёмы твар Мікалая Гастэлы. Здавалася, што ў гэты суботні вечар сыны Анастасіі Сямёнаўны нябачна прысутнічалі сярод сяброў сям'і, глядзелі на гасцей, на свежыя кветкі, якія запоўнілі сваім водарам увесь пакой.

Абодва яны, і Мікалай Францавіч і Віктар Францавіч, мелі мірныя прафесіі. Першы быў слесарам, другі — мадэльшчыкам. Яны рыхтавалі сябе да стваральнай працы, збіраліся прадоўжыць традыцыю рабочай дынастыі Гастэлаў.

— Мой муж, — успамінае Анастасія Сямёнаўна, — быў спецыяліст па ліцейнай справе. Вопытны ліцейшчык. Памятаю, мае хлопчыкі вельмі любілі слухаць расказ пра тое, як бацька з Леніным размаўляў. Было гэта на першым камуністычным суботніку, на Маскоўска-Казанскай чыгунцы. Дзеці ж таксама думалі па бацькоўскай, рабочай сцежцы пайсці, але...

Не давялося дзецям Анастасіі Сямёнаўны займацца мірнымі прафесіямі.

— Усе ведаюць пра подзвіг майго старэйшага сына Мікалая, — з тугою гаварыла Анастасія Сямёнаўна. — А Віктар жа мой таксама герой, хоць і невядомы, як і тысячы іншых салдат, што аддалі жыццё ў часе вайны...

Шмат герояў аддалі сваё жыццё за шчасце народа. Патомкі Гастэлы здзіўляюць сёння свет. Гэта яны ўзнялі на руінах вайны новыя гарады, паднялі цаліну, паляцелі ў космас.

**А. ПЯТРОВА,**
**Т. ШЫМАНОЎСКАЯ.**

г. Масква.

*Дарогамі сямігодкі*

**Мікола ХВЕДАРОВІЧ**

# ПРАСТОР ШЫРОКІ

**З блакнота пісьменніка**

Па калдобістай дарозе імчацца магутныя грузавікі, фургоны рамонтных майстэрань, аўтакрамы... Веснавое сонца высушыла глеісты пясок, і ўздоўж дарогі сцяной стаіць густы пыл. А наводдаль дружна зелянеюць палеткі азіміны; падстаўляючы яркім праменням першыя лісточкі, цягнецца да сонца «каралева палёў» — кукуруза.

Вырываючыся з вузкага прасценку, абапал якога высаджаны маладыя прысады, дарога зварочвае на шырокі выган. На вуліцы гусіныя гурты паволі і нехаця, з крыкам саступаюць дарогу машынам.

Сядзіба калгаса імя Уладзіміра Ільіча Леніна відна яшчэ за некалькі кіламетраў. Новыя будынкі жывёлагадоўчай фермы радуюць вока сваёй дагледжанасцю. Шыферныя стрэхі кароўнікаў, жалезны дах школы і механічнай майстэрні прыкметна вылучаюцца сярод жменькі старых будынкаў — сталярні, павецяў, складаў...

Вуліцы вёскі Камсамольская разбегліся па ўзгоркавых схілах каля невялікай рачулкі. Плешчуцца серабрыстыя хвалі штучнага возера, у якім хутка занерастуе залацісты карп і непаваротлівы карась. Бетонная плаціна пралягла ўздоўж праз усю лагчыну, аж да самага маладога калгаснага саду, які стаіць у святле праменняў і, здаецца, зіхаціць свежым зеленалістым убраннем. А на самым узгорачку, якраз на відавоку ўсяе вёскі, будынак праўлення калгаса, — штаб вялікай гаспадаркі, якая налічвае пяць тысяч гектараў зямлі.

Яшчэ сонца не паспее выглянуць з-за далёкага лесу, а пеўні на вёсцы абвясціць прыход новага дня, як да гэтага будынка з усіх бакоў пад'язджаюць грузавікі, з шумам і грукатам падпаўзаюць трактары, спыняюцца з разбегу каля самага ганка шпаркія матацыклы. Стаіць гарачая пара — канец мая, пачатак работ на полі.

Старшыня праўлення Іван Мац-



**Насця Русаковіч** (злева) **толькі летась скончыла дзесяцігодку і пайшла працаваць даяркай. Шмат планаў у дзяўчыны. Яна ахвотна дзеліцца імі з сакратаром камсамольскай арганізацыі калгасным эканамістам Мікалаем Мартыновічам** (у цэнтры) **і старшынёй калгаса Іванам Мацвеевічам Лаўруковічам** (справа).

Фота А. Дзітлава.

веевіч Лаўруковіч прачынаецца разам з сонцам, з той толькі розніцай, што лажыцца на адпачынак куды пазней за яго, а бываюць такія дні, што і гэтым адпачынкам не даводзіцца пакарыстацца. Часам да позняй ночы ён затрымаецца ў аддаленых брыгадах, а потым зноў наспее якаянебудзь неадкладная справа. І новы дзень неўзаметку пачынаецца вось тут, у гэтым кабінеце, з новымі перажываннямі, радасцямі і трывогамі.

У праўленні гэтульki людзей, што аж не прабіцца да старшынёвага стала. І трактарысты, і камбайнеры, і брыгадзіры, і госці з Капыльскай РТМС. Кожны мае да старшыні пільную справу, хоча пагутарыць і атрымаць практычную параду. І трэба знайсці для кожнага такое слова, каб яно адразу памагала найлепшым чынам вырашаць складаныя жыццёвыя пытанні.

Студзеньскі Пленум ЦК КПСС узняў магутную хвалю энтузіязму ў вёсцы. Абмяркоўваючы матэрыялы Пленума, калгаснікі сельгасарцелі імя У. І. Леніна аднадушна рашылі здзейсніць свае планы — даць краіне як можна болей мяса, малака, збожжа, бульбы і іншых прадуктаў. Імкнучыся дастойна сустрэць XXII з'езд КПСС, яны яшчэ вышэй узнімаюць узровень калгаснай вытворчасці, працуюць яшчэ лепш, так, як таго патрабуюць інтарэсы краіны і народа. Ідзе змаганне за тое, каб атрымаць на круг па 16 цэнтнераў з гектара збожжавых, а бульбы — не менш 150 цэнтнераў, цукровых буракоў — 200 цэнтнераў, ільну 4,5 цэнтнера, кукурузы — па 600 цэнтнераў зяленіва на плошчы ў 200 гектараў.

Тым часам у кабінеце старшыні робіцца цішэй. Іван Мацвеевіч доўга не затрымлівае наведвальнікаў. Здаецца, што ён ужо загадзя абдумаў усе пытанні.

— Ну што ж, давайце пагутарым, — звярнуўся ён і да нас, — раскажу коратка вам, як мы жывём, якія ў нас планы, як мы змагаемся за росквіт нашай калгаснай гаспадаркі. Вядома, гаворка — гаворкай, але трэба паглядзець усё сваімі вачамі, пазнаёміцца з нашымі людзьмі. А людзі ў нас залатыя. Чацвёрты год я з імі працую, і ўсё, што мы зрабілі тут, створана іх працавітымі рукамі. Вось тут сядзіць прадстаўнік Капыльскай РТМС. Яшчэ зусім нядаўна ўсе машыны мы рамантавалі ў іх. Бяды было, і не кажыце!..

— Няма чаго казаць, — абазваўся прадстаўнік РТМС, — хіба ж мы дрэнна пазалетась адрамантавалі вам трактар? Гэта вы цяпер намі незадаволены, калі пабудавалі сваю майстэрню, калі цяпер наша падмога не патрэбна...

— А той трактар мы ледзь дацягнулі да калгаса. Нейкіх пятнаццаць кіламетраў з Капыля і то з вашым рамонтам не прайшоў. Валаклі яго, праклятага, аж пяць кіламетраў проста за «хвост», — са злосцю і дакорліва перапыняе яго старшыня. — А цяпер, як кажуць у нас, я і ў вус сабе не дзьму. У мяне машыны заўсёды «на хаду». Свае механізатары зробяць люба-міла. Залатыя рукі ў нашых людзей, яны і блыху падкуюць, калі гэта спатрэбіцца...

Гарачую гутарку перапыніў смуглявы малады чалавек, які нечакана ўвайшоў у кантору. Ён ветліва прывітаўся з усімі прысутнымі. Відаць было, што неадкладныя справы не дазваляюць яму доўга затрымлівацца тут у канторы. Ён стаяў ля дзвярэй, чакаючы зручнага моманту пагутарыць са старшынёй.

— Гэта наш сакратар парткома — калгасны аграном таварыш Чыж, як кажуць, бог нашых калгасных ураджаяў і мой першы намеснік, — жартаўліва і па-сяброўску сказаў старшыня. — Сядай, браток. Тут у нас, бачыш, колькі сёння гасцей. Цікавяцца нашай работай. Дык вось і памажы мне паказаць арцельную гаспадарку, каб яны ўбачылі, чаго мы варты...

— Наконт таго, што я бог ураджаю, дык гэта не зусім так, Іван Мацвеевіч, — адказаў сакратар парткома. — Мы ўсе не багі, але кожны імкнецца быць майстрам свае справы. У нас актыў робіць пагоду...

— Не, мусіць не актыў, а прагноз пагоды, — уставіў сваё слова прадстаўнік РТМС. Усе засмяяліся, але аграном не збянтэжыўся:

— Робяць нашы ўраджаі, а таксама і пагоду сённяшняга жыцця людзі — калгасны актыў. У партарганізацыі больш сарака чалавек. Разам з камуністамі і нашы камсамольцы працуюць на самых адказных участках. Камуністы, камсамольцы і беспартыйныя — гэта адзіная дружная сям'я.

— Праўду сказаць, і ў гэтай сям'і не ўсе роўныя, — паправіў старшыня.

— Яно то так. Але ж такому дружнаму актыву, як наш калгасны, гэта не перашкода...

— Ну, добра, Лёня, — перапыніў размову Іван Мацвеевіч, — ты раскажы лепш, што зроблена ў нас, каб павысіць ураджаі збожжавых, якія вынікі мы атрымаем ужо сёлета. А я тым часам высветлю некаторыя непаразуменні, праўда, даўнія, з нашай РТМС.



**Яны працуюць у брыгадзе, якая змагаецца за званне калектыву камуністычнай працы.** Злева направа: **даяркі Алеся Кадоўская, Марыя Давідоўская, Маруся Давідоўская, даяр Уладзімір Карачэня і брыгадзір Яўген Адамовіч.**



Там, дзе працуе Соф'я Мяцеж, заўсёды парадак і чысціня.

А як вярнуся, разам пакажам гасцям гаспадарку.

— Зусім не сакрэт, што мы яшчэ мала здабываем канцэнтраваных кармоў, — расказвае аграном. — На закупку канцэнтратаў у мінулым годзе мы выдаткавалі больш трохсот тысяч рублёў. Сёлета ж пашырылі збожжавы клін. І яшчэ сёе-тое зробім...

— Трыста тысяч рублёў, — гэта нішто сабе капеечка! Адкуль жа такія грошыкі ўзяць?

— А ў кузні адкуём, кузня ж у нас свая, новая, — пажартаваў аграном. — Наша грашовая кузня — гэта калгасныя палеткі. Шырокі прастор для гаспадара!..

— Ну, вядома, зямля любіць, каб яе кожны год паілі і кармілі.

— Не толькі. Разумнага гаспадара наша зямля паважае. Вось Мікіта Сяргеевіч раіў сеяць культуры, найбольш выгадныя, якія даюць высокія ўраджаі.

— А хіба самім да гэтага дадумацца было нельга?

— Яно то так, але ж, ведаеце, традыцыя яшчэ нас здорава гняце. Сеялі мы авёс, а ён у нас не родзіць. Мы сёлета замянілі яго ячменем. Нават гэта дасць нам дадаткова 75 тон збожжа. Тое ж зрабілі і з азімаю пшанічкай...

— Пшаніцу, то яно можа не варта было...

Але аграном не даў дагаварыць. Ён паправіў рукой сваю прычоску і сказаў:

— Азімая пшаніца дае ў нас не больш 6 цэнтнераў з гектара, а жыта мы бярэм 16—17 цэнтнераў. Вось і падлічыце, колькі гэта можа быць дадаткова збожжа на двух сотнях гектараў?

Пакуль ішла гутарка з аграномам, у кантору вярнуўся старшыня і прывёў з сабою загарэлага юнака ў чорнай рабочай спяцоўцы, па-салдацку падстрыжанага.

— Знаёмся, Валодзя, — паказаў ён рукою на прысутных. — Гэта наш загадчык свінафермы, мой стары паплечнік Валодзя Карпучок. Мы з ім сябруем яшчэ са школы. Разам пачалі працаваць у калгасе...

— І добра сябруеце?

— Але. Хоць і кажуць, што я вельмі гарачы. Можа яно і так. Праўда, у сваёй працы я не спадзяюся толькі на сябе. Будучыня за імі, — паказваючы на Карпучка, сказаў Іван Мацвеевіч, — за моладдзю. Яна ў нас цяпер іграе першую скрыпку...

— Ды і вы не апошняя дудка ў капэле, — сарамліва дадаў Карпучок, няёмка цярэбячы ў руках шапку.

Карпучок у параўнанні са старшынёй выглядаў зусім хлапчуком. Нібы заўважыўшы гэта, Іван Мацвеевіч парашыў канчаткова развеяць наша сумненне. Ён падышоў бліжэй да хлапца, абняў яго і сказаў:

— Гэта нічога, што ён ростам не дагнаў мяне. Але ён кемлівы хлопец. Вось убачыце, які ў яго парадак на свінаферме. Ды і нагул тон у нашай працы зараз задае моладзь. Ці не так, Валодзя?

— Вядома, так. Нават сваю вёску мы назвалі Камсамольскай. Праўду кажаце: на ўсіх самых аператыўных участках — моладзь. І гэта зусім натуральна, бо высокая агратэхніка патрабуе і старання, і пісьменнасці... Але ж у нашай працы няма падзелу на старэйшых і маладзейшых. Працуем дружна.

— Дык вось што, Валодзя, — звяртаецца старшыня да Карпучка. — Збегай ты, браце, у гараж і скажы Харытончыку, каб завадзіў «казла». Паедзем на ферму, пакажаш нам сваю гаспадарку.

Карпучок адразу, па-салдацку, павярнуўся і знік за дзвярыма, а Іван Мацвеевіч загаварыў пра лазню.

Сапраўды, недалёка ад возера стаіць новы цагляны будынак. Здалёк ён больш падобен на жылое памяшканне. Але гэта лазня. Будзе свая лазня...

Пад самае акно пад'ехала машына, працяжна засігналіла. Усхапіўшыся, старшыня крыкнуў:

— Іду, іду ўжо! Ну, скажыце, такі порсткі, проста бяда. Як засігналіў, дык ужо адразу і бяжы...



— Маленькія ды ўдаленькія, — гаворыць Яўгенія Давідоўская, узважваючы выгадаваных ёю парсючкоў.

— Падобны на вас, — адказвае з-за акна Карпучок. — Вы ж таксама, як скажаце, дык адразу і рабі. Вы ж, як і ён, няўрымслівы!..

* * *

Кучаравыя бярэзінкі маленькімі чародкамі з двух бакоў абягаюць дарогу. На веснавым ветры яны весела шумяць сваім зялёным убраннем. А ўгары, пад бяздонным блакітным купалам, на ўсе лады звоняць жаўрукі.

## З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ



Я моцна люблю нашу слаўную савецкую моладзь. Лепшым юнакам і дзяўчатам нашай краіны ўласціва самаадданае служэнне народу, смеласць у выбары жыццёвай дарогі і настойлівасць у дасягненні пастаўленай мэты. Гэтыя якасці нашага сучасніка я і стараўся адлюстраваць у карціне «З горада», дзе паказана група маладых спецыялістаў, што прыехалі на вёску. Каб падкрэсліць веліч спраў савецкага чалавека, няўрымслівасць яго характару, стварыць абагульнены вобраз героя нашых дзён, я і ўнёс у карціну элементы дэкаратыўнасці і манументальнасці.

**Пётр ДАНЕЛІЯ.**

г. Брэст.

## З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ

Імкненне да ведаў, да вучобы ў нашых сучаснікаў такое вялікае, што кніга спадарожнічае савецкаму чалавеку заўсёды і ўсюды. Працаваць і вучыцца — сённяшні дэвіз нашых юнакоў і дзяўчат натхніў мяне на новую карціну. На поплаве каля Бярэзіны — калгасны статак, а дзяўчына, якая пасвіць яго, рыхтуецца да чарговых экзаменаў. Вучоба не замінае працы, а праца — вучобе. Гэтую думку і хацеў я выказаць у карціне «Завочніца».

**Уладзімір ЛАГУН.**



Рухавы «казёл» падскоквае па няроўнай, ямістай дарозе — едзем у вёску Сунаі. Тут працуе брыгада жывёлаводаў, якая заслужыла ганаровае званне камуністычнай. У брыгадзе — пераважна моладзь, учарашнія дзесяцікласнікі. Тут працуюць лепшыя даяркі Соф'я Каляда і Марыя Давідоўская, якія абяцаюць надаіць у гэтым годзе па 3 800 кілаграмаў малака ад каровы, а свінарка Соф'я Мяцеж — адкарміць 1 200 свіней, па 80 кілаграмаў кожную.

Абапал дарогі, як вокам акінуць, зазелянелі кукурузныя палі. Яшчэ толькі па два доўгія лісточкі трапечуцца на пульхных шэрабурых квадратах. Але кожнае каліва моцна ўчапілася за зямлю. Відаць, ні дажджы, ні вятры не перашкодзяць набраць сілу і ў канцы лета шумець кукурузе шырокімі лістамі і радаваць вока працавітых людзей.

Іван Мацвеевіч — прыхільнік усяго новага. Колькі ўвагі аддаў ён новай каштоўнай культуры!



Загадчык свінагадоўчай фермы Уладзімір Карпучок.

— Мы сеялі тры гатункі — «ВІР-25», «букавінскую» і «стэрлінг», — расказвае старшыня. — Першыя два гатункі далі шмат пачаткаў, а «стэрлінг» — больш зялёнай масы. Для нас найбольш выгадна сеяць «букавінскую», яна дасць найбольш пачаткаў з зярнятамі...

Іван Мацвеевіч хоць і вельмі крутога нораву чалавек, але вялікі акуратыст. Усюды адчуваецца гаспадарскае вока, самы маленькі брак у рабоце яму відзён яшчэ здалёк. Па дарозе ён часта спыняе машыну. На лесапілцы распякае нядбайных мужчын за тое, што ўсюды параскіданы каштоўны піламатэрыял, а зайшоўшы на млын, ушчувае мельніка за бестурботнасць.

Прыгадваюцца словы старога калгасніка Івана Давідоўскага, які даў свайму старшыні вельмі трапную характарыстыку:

— Хіба ў нашага старшыні што-небудзь прападзе? Бронь божа! Ён ведае, дзе і як ляжыць кожны каласок. А паспрабуй пакінь дзе-небудзь агрэх — распячэ, жыць не захочаш. Шуму і гвалту будзе, не абярэшся.

І праўда. Відно, з любоўю да свае зямлі працавалі тут людзі, кіруючыся адвечным законам прыроды: «Як чалавек да зямлі адносіцца, так і зямля да чалавека». Усюды ляжала пульхная зямля, усюды дружна цягнуліся да святла і цяпла ўсходы...

Спыніўшы машыну на шырокім двары малочна-таварнай фермы ў вёсцы Сунаі, мы пазнаёміліся з брыгадзірам маладзёжнай брыгады Яўгенам Адамовічам. Валодзя Карпучок і Яўген Адамовіч разам вучыліся і скончылі Пукаўскую сярэднюю школу. Яны засталіся ў сваім калгасе. Спачатку працавалі ў полі, на калгасных будоўлях, а цяпер — ужо вопытныя жывёлаводы. Хлопцы, можна сказаць, выраслі і ўзмужнелі, сталі майстрамі сваёй справы.

Іван Мацвеевіч спяшаўся ў Грозаў. Там ішла здача на мясазакуп бычкоў-пярэзімкаў. Ён развітаўся з намі, і машына, узняўшы густы пыл, знікла за павароткай.

— Вось мая неспакойная гаспадарка, — сказаў Яўген і паказаў на будыніны, якія адна пры другой стаялі на шырокім прагалку, скрозь зарослым бэзавымі кустамі і кучаравымі акацыямі.

— На гэтай ферме каля двухсот дойных кароў, — працягваў ён, — ды цёлкі і сёлетнія цяляты. Усіх разам больш за паўтысячы. Як бачыце, гаспадарка не малая. Гаспадарнічаюць тут пераважна дзяўчаты. Наша брыгада першая ў раёне заслужыла ганаровае званне.

У кароўніку на дошцы акуратна, рукою мастака выпісаны паказчыкі абавязацельстваў і штодзённыя лічбы надою малака кожнай даяркай. Як высветлілася, мастаком з'яўляецца сам брыгадзір Яўген Адамовіч. Яшчэ ў школе ён праявіў свае здольнасці, нават меў намер паступіць у мастацкае вучылішча.

Мы зайшлі ў пакой брыгадзіра, абсталяваны тут жа, пры кароўніку. На сценах — дыяграмы і плакаты аб перадавых людзях калгаса і раёна. На этажэрцы бібліятэчка заатэхнічнай літаратуры. На століку — свежыя газеты і часопісы. У гэтым пакоі праводзяцца нарады і сходы жывёлаводаў, заатэхнічныя заняткі.

Праз некаторы час у брыгадзіраў пакой сабралася моладзь. Бялявая дзяўчына ў лёгкім плацці, з ледзь накінутай на галаву хусцінкай, звярнулася да Яўгена:

— Чаму гэта пастух сёння затрымаўся? Сонца ўжо вунь дзе, а ён толькі пагнаў у поле. Ён жа заўсёды быў такі акуратны — хвіліна ў хвіліну.

— Можа гадзіннік сапсаваўся...

Я загаварыў з дзяўчатамі, пацікавіўся, ці даўно яны на ферме. Тоненькая Ніна Канчак, усміхаючыся зыркімі вачыма, сказала:

— Мы, можна сказаць, усе не так даўно сталі даяркамі. Гэтая ферма вырасла, як кажуць, на нашых вачах... Праўду скажу, былі каровы, але гэта былі толькі хвасты. Сапраўды таварнай фермай



— Вось дзе прыкласці камсамольцам свае рукі, — пра гэта думаюць хлопцы, спыняючыся ля зарослых сажалак на ўскраіне вёскі.

яна стала толькі за нейкія тры-чатыры гады...

— Што тут казаць, — абазвалася Марыя Давідоўская, дзяўчына, здымак якой бачыў я на Дошцы гонару. Усе мы прыйшлі сюды са школы. Гаспадарка была тады ў вялікім прарыве. У заняпад прыйшла і ферма. Выгляд яе быў несамавіты, як кажуць людзі: тры калы забіты, хварасцінамі абвіты, светам абгароджаны... Кармоў не хапала. Кароў кармілі саломай, а калі перападала сена альбо мякіна, дык гэта ўжо хіба толькі з восені. А пад вясну даводзілася стрэхі драць. Ну дзе ж тое будзе малако? Адным словам, гэта вельмі доўгая гісторыя і досыць непрыемная. Нават няма ахвоты ўспамінаць...

— Пра мінулае, сапраўды,

моладзь не жадае ўспамінаць, — расказвае Яўген. — Гэта Лаўрукові затрымаў нас тут. Раней кожны, хто канчаў школу, імкнуўся выехаць з вёскі. Як толькі выбралі Мацвеевіча старшынёй, ён сабраў нас і павёў прыблізна такую гаворку: быў я, кажа, вашым дырэктарам школы, некаторыя не асабліва мяне любілі. Быў я, па-вашаму, і добрым і кепскім. Але за маю строгасць, я ўпэўнены, мала хто крыўдзіцца. Прывык я да вас. Мне, шчыра кажучы, без вас зараз не абысціся. Дык вось, давайце працаваць разам, будзем сумесна наладжваць нашу калгасную справу. Я вас добра ўсіх ведаю, ведаю вашы здольнасці. Работы хопіць усім, толькі яе трэба палюбіць. Памеркаваў я і, ведаеце, пераканаўся, што мы будзем задаволены сяброўствам. Усё залежыць ад вас. Вы ж, як кажуць, ведаеце мяне, а я вас.

— Чалавек ён, праўда, шумлівы і строгі, — закончыў свой кароткі ўспамін Яўген.

— Але і адходлівы, — са смехам пачуліся галасы дзяўчат. — Горш, калі чалавек робіць табе крыўду спадцішка. Тады чорт яму дагодзіць і пападзе з ім у адну нагу...

— Няхай сабе шумлівы, — дадаў калгасны вартаўнік Нічыпар Скрыган, якому ўсё не цярпелася ўвязацца ў гутарку. — Але ж здолеў выхаваць сабе змену. Ягоныя вучні зараз добрыя калгаснікі. Працуюць так, што часам проста не налюбавацца...

— Ну, гэта ты ўжо занадта, дзядзька, — перапыняе яго Яўген. — Некаторыя дзяўчаты, мамчыны дачушкі, былі зафыркалі: што, маўляў, мы дзесяцігодку канчалі, каб свіней даглядаць ці гной варочаць?

Цяпер яны зразумелі сваю памылку і працуюць у калгасе нядрэнна...

Вечарэла. З балота і лагчын пацягнуўся шызы туман, сонца зачапілася за верхавіны дрэў. На кароўнік пачалі збірацца даяркі. На працу яны ішлі ў добрым, пашытым на сучасны манер, адзенні, амаль у кожнай на руцэ — гадзіннік. Вось Марыя Давідоўская. Яна скончыла дзесяцігодку, а цяпер вучыцца завочна ў Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце. Вучацца завочна ў вышэйшых навучальных установах і многія яе сяброўкі. Вучацца і Яўген Адамовіч з Валодзем Карпучком.

У гэтым калектыве я не заўважыў нічога паказнога. Шчыра і проста расказваюць дзяўчаты і аб перажытых цяжкасцях, і аб недахопах, якія яшчэ ёсць. Але кожны дзень абяцае радасныя творчыя перспектывы.

Увішная гарэзніца Марыя Давідоўская жыве клопатам усёй гаспадаркі.

— Па малаку мы выконваем не маленькі план, — кажа Марыя. — Некалі малако мералі квартамі, а цяпер мы яго возім тры разы на дзень па цэлай машыне. У гэтым годзе адкрываем сваю калгасную сыраварню. Зараз у кожнага калгасніка малака, хоць заліся. Многія здавалі лішкі малака на ферму. Але наш старшыня забараніў гэта. Ведаеце, былі скаргі, што прадукцыя атрымлівалася не зусім якасная, не зусім якасны выходзіў тварог. А справа ў тым, што яшчэ нашы вясковыя гаспадыні не зусім чыста мыюць посуд, дрэнна захоўваюць правілы гігіены...

— Ну, то раскажыце, дзяўчаты, нашаму госцю, як жа вы хацця працуеце, — прапануе Яўген Адамовіч.

Дзяўчаты пераглянуліся. Адна з іх, Воля Драбушэвіч, сказала:

— Стараемся, каб выканаць узятыя абавязацельствы да дня адкрыцця XXII з'езда КПСС — гадавы план малака і мяса.

— Абавязкова выканаем, — пацвердзіла гэтую думку Марыя Давідоўская. — Паша ў нас добрая, пасвім статак па канюшыне, хутка пачнем падкармліваць зялёнай кукурузай. Лета яшчэ наперадзе, самая багатая пара для ўдояў!..

Паназіраўшы, як дзяўчаты завіхаюцца ля сваіх «квятулек» і «падласак», можна было ўпэўнена сказаць, што слова сваё яны стрымаюць.

І як не стрымаць, калі іх праца





Звечарэла... Дружна працавалі маладыя калгаснікі і гэтак жа дружна едуць з поля дамоў.

добра ўзнагароджваецца. Перадавыя людзі калгаса з'яўляюцца ўдзельнікамі Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР. На іх грудзях зіхацяць залатыя і срэбныя медалі...

Не меншыя поспехі і ў свінаводаў. Ёсць такая старая прымаўка-пагудка: «Грошай шмат — хлявы будуй, хлеба шмат — свіней гадуй». Яна якраз дарэчы. Нядаўнія вучні-дзесяцікласнікі Насця Русаковіч, Соф'я Мяцеж, Марыя Карпучок, Яўгеня Давідоўская і многія іншыя асвоілі клапатлівую і нязвыклую працу на свінаферме і ўжо заваявалі добрую славу.

Брыгада, якая працуе на свінаферме, падмелася адкарміць для продажу дзяржаве дзве тысячы свіней. Сёлета выхад свініны будзе павялічаны ў два разы.

На ферме ўведзена вольна-выгульнае ўтрыманне свіней. У памяшканнях чыста і суха, свінні кормяцца ў асобных месцах — сталоўках.

Усе свінарнікі ўпрыгожаны зялёнымі галінкамі хвоі. Для чаго гэта, спытаецеся? Аказваецца, свежая зялёная хвоя паглынае аміяк і ачышчае паветра.

Валодзя Карпучок — загадчык свінафермы — расказаў, што сухі метад кармлення свіней дае добрыя вынікі.

— Мы нават маленькіх парасят, — гаворыць Валодзя, — прывучаем да сухога корму. Яны лепей развіваюцца, менш выпадкаў захворвання, добра прыбываюць у вазе...

Далей-болей, і гаворка з вытворчых тэм перайшла, як кажуць, на тэмы культурныя, аб тым, што яшчэ замінае ў рабоце.

— Рэдка, вельмі рэдка праводзяцца вечары ў нашым клубе, — гаворыць Ніна Канчак. — Часцей ён на замку. А чаму б там і тэлевізар не паставіць?

— Даўно ўжо не прыязджалі да нас артысты з Мінска, — дадае Тацяна Ліннік. — А гэта ж зусім недалёка. У нас свой пасажырскі аўтобус. Маглі б падвезці артыстаў.

— Хоць бы кіно ды танцы часцей бывалі, — заяўляюць у адзін голас дзяўчаты. — У нас жа ёсць свой духавы аркестр. І грошы ён добрыя каштуе, але рэдка, зусім рэдка, ён весяліць нас... Рэдка ў клубе бываюць мастацкія вечары. Настаўнікі мала праяўляюць актыўнасці ў гэтай справе, больш заняты ўлетку сваёй хатняй гаспадаркай.

Чарнавокая дзяўчына ў белай кофтачцы і ў сіняй кашміравай спадніцы з перахопленай шырокім поясам стройнай таліяй зусім адкрыта і шчыра выказала думку сваіх сяброўак:

— Наша работа, як бачыце, з аднаго боку, вельмі чыстая, бо мы маем справу з малаком. Але ж трэба і гной выграбсці, а пры дойцы, асабліва летам, каровы так нахвошчуць па тварах хвастамі,

што ўся прыгажосць прападзе. Хіба так цяжка пабудаваць на ферме душавыя пакойчыкі, каб кожная даярка ці свінарка мела магчымасць памыцца. Тым больш, што ёсць вадаправод.

— Трэба неяк зрабіць, каб і мы, свінаркі, мелі душ, — заяўляюць дзяўчаты, што працуюць на свінаферме. — Ды варта было б падумаць і пра тое, каб унармаваць рабочы дзень для тых, хто на ферме працуе...

Усё гэта слушныя заўвагі, і іх узялі сабе на заметку Яўген Адамовіч і Валодзя Карпучок.

На развітанне мы прайшлі па вёсцы, паглядзелі, як жывуць людзі. Вёска Пукава па ініцыятыве калгаснікаў перайменавана ў Камсамольскую. Яна набывае зусім новы выгляд. На самай прыгожай мясціне — школа, клуб, будуецца новая бальніца, камбінат бытавога абслугоўвання, ёсць свой магазін, лазня...

...Сядзіба малочна-таварнай фермы размешчана якраз на тэрыторыі былога панскага маёнтку. Тут усё перабудавана па-новаму. Кароўнікі і свінарнікі добра дагледжаны, абсталяваны вадаправодам і аўтапаілкамі. На месцы панскага палаца збудаваны школа і клуб.

Хочацца, каб маладыя гаспадары выкарысталі як след усё каштоўнае, што засталося ў спадчыну. Калісьці вакол сядзібы былі штучныя сажалкі. Яны ўжо заплылі глеем, вытокі віроў зацягнула гразёю, якую, дарэчы, можна выпратаць на палі як добрае ўгнаенне. Канавы, якімі злучаліся сажалкі між сабою, пазарасталі плюшнікам і іншай травою. Некаторыя ж сажалкі яшчэ жывыя, і скрозь густыя кусты зараснікаў альхі і вербалозніку блішчыць люстрам вада.

Каму ж, як не моладзі, трэба паклапаціцца аб тым, каб іх родныя мясціны былі прыгожыя. Маючы бульдозеры і экскаватары, зусім не цяжка прывесці і гэтыя сажалкі ў належны парадак. Давалі ж багаты прыбытак сажалкі пану Ёдку. Шмат рыбы і вадаплаваючай птушкі адпраўляў ён некалі ў крамы і рэстараны Мінска, Слуцка, Бабруйска. Чаму б не выкарыстаць і маладым гаспадарам такую магчымасць? І сама сядзіба папрыгажэе. Прыемна будзе адпачыць і пакупацца ў чыстых струменях азярца, берагі якога зарастуць серабрыстымі таполямі, што і цяпер жывасілам змагаюцца за жыццё, прабіваючыся праз густыя заraснікі...

Калгасны радыёвузел перадае новы канцэрт. Праз расчыненыя вокны гучыць чароўная мелодыя, і, здаецца, што гэта спявае ўся маладая вёска Камсамольская.

Перад ёю прастор шырокі, далі неаглядныя...

**Калгас імя У. І. Леніна Капыльскага раёна.**



**Вось яна вёска Камсамольская!**

## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**Чатыры гады запар пасля заканчэння школы Ліда Славашэвіч з поспехам кіравала звяном па вырошчванню кукурузы ў родным калгасе „Ленінскі шлях".**

**Ёй прапанавалі садова-агародную брыгаду. З вялікім натхненнем Ліда ўзялася за новую працу. Цяпер пад яе кіраўніцтвам працуюць людзі ў садзе, на гародзе, на плантацыях цукровых буракоў. Ды яшчэ брыгада пасеяла і апрацоўвае 10 гектараў ільну.**

**—Мы за гэтую брыгаду спакойныя, — гавораць у калгасе, — ёй жа кіруе Ліда Славашэвіч.**

Фота А. Дзітлава.



**Вось яны разведчыкі будучыні з Гродзенскага тонкасуконнага. Пасля працы сабраліся тэкстыльшчыцы ў сваім Палацы: Людміла Зярнова, Людміла Мешчаракова, Герой Сацыялістычнай Працы Марыя Чэкель, Валянціна Сапоцька, Валянціна Сямко, Вера Католікава.**

# РАЗВЕДЧЫКІ КРОЧАЦЬ

**Рэпартаж**

Побач завіхаюцца дзве работніцы. Абедзве ў чырвоных хусцінках. Гэта сяброўкі Лідзія Вішнеўская і Ганна Піхун.

Ганна Піхун пазней за іншых атрымала ганаровае права — працаваць у чырвонай хустачцы.

Раней, калі работніцы ішлі на заняткі ў школу камуністычнага выхавання, Ганна звычайна аднеквалася:

— Некалі мне. Дзіця ў мяне...

Дзяўчаты пагаварылі з Ганнай, акружылі яе клопатамі і ўвагай, і яна інакш паставілася да грамадскага жыцця.

— Як жа, — гаворыць жанчына, — у мяне ж дзіця, трэба ўмець яго выхаваць...

На Гродзенскім тонкасуконным камбінаце многа дзяўчат і жанчын працуюць у чырвоных хусцінках. Зойдзеш у цэх, і перад тваімі вачамі нібы мак цвіце... Шэрагі ўдарнікаў камуністычнай працы павялічваюцца. Спаборніцтва разгараецца.

Свежы лісток-«маланка» часта паведамляе, каму з перадавых работніц прысвоена званне «Лепшая ткачыха».

Тут заведзен такі парадак. Калі работніца ўвесь месяц перавыконвае норму, гэта адзначаецца. Той, якая дасягае высокіх паказчыкаў на працягу трох месяцаў, прысвойваецца званне «Лепшая ткачыха».

* * *

Ткачыха Раіса Варэнік ужо вось пяцьдзесят месяцаў запар удастойваецца такога ганаровага звання. Яна не адна. За ёй — Марыя Гусяціна, Марыя Іванова, Любоў Мінчык і многія другія. Спіс доўгі, аж 76 чалавек.

Раісу Варэнік на камбінаце называюць настаўніцай. Сапраўды, настаўніца... Яна сама восем гадоў таму назад прыйшла ў шумлівы цэх. Звычайна, каб асвоіць ткацкі станок, спатрэбіцца месяцаў шэсць. Раісе ж дастаткова было аднаго месяца, каб пачаць працаваць самастойна.

Ткацкі станок — вялікая машына, а ўся яе хітрасць — у маленькім чаўначку. Ад яго ж, дарэчы, і ўвесь грукат у ткацкім цэху. Ну, а колькі разоў за гадзіну чаўнок можа прабегчы праз аснову, або, кажучы словамі тэкстыльшчыкаў, колькі ўдараў ён можа зрабіць за гадзіну? Нарміроўшчыкі падлічылі: прыкладна, пяць з паловай тысяч. Гэта максімум тэарэтычны. А практычны? Планам ён вызначан лічбай 4 660 на канец сямігодкі, а на 1960 год — 4 300 уточын. Гэтага дасягнулі толькі асобныя ткачыхі. У брыгадах Парфёнава і Міхейкі ткачыхі даюць па 4 675—4 680 уточын за гадзіну. Блізка да тэарэтычных разлікаў, а ўжо калі гаварыць пра рубеж апошняга года сямігодкі, дык ён узят!

Сёння на камбінаце адзінаццаць брыгад, якія ўзялі вышыні сямігодкі.

* * *

Перадавікі — ударнікі камуністычнай працы, нібы тыя разведчыкі, крочаць наперадзе, пракладваюць дарогу ў будучыню. І шлях іх пралёг найкарацейшым чынам — праз свядомасць чалавека. Многім давялося змагацца з самім сабой, пераадольваючы звычкі мінулага, вызваляючыся ад цяжару старой маралі.

Усведамленне таго, што ты ў гэтым паходзе ўзмужнеў, стаў мацнейшы, што перамогу атрымлівае новае, камуністычныя адносіны да працы, дух калектывізму, — гэта акрыляе і натхняе чалавека; гэта і ёсць ні з чым непараўнанае заваяванне.

Не так даўно яшчэ можна было бачыць у ткацкім цэху такое: пасярэдзіне стол, каля яго табурэтка, відаць, для ўчотчыцы. Тут заўсёды тоўпіліся людзі — памочнікі майстра. Калі дзе-небудзь на камплекце здаралася затрымка, туды накіроўваўся «свой» памочнік майстра. Пакуль ён там поркаўся, астатнія сядзелі, склаўшы рукі. Цяпер сцэны гэтай адмежаванасці (думай аб сваёй брыгадзе, аб сваіх машынах)— разбурыліся. Калі здарылася, скажам, што-небудзь на камплекце Купрашэвіча, яму памагаюць і Міхейка, і Сёмін, і іншыя брыгадзіры. Развіваецца, умацоўваецца пачуццё локця, узаемная дапамога. Кожны адказвае і за сябе і за таварыша.

* * *

У паход за прадпрыемства камуністычнай працы выйшлі ўсе — дружным, згуртаваным калектывам. У першых радах гэтага паходу — прадзільшчыцы.

Лічбы, якія здаваліся гады два таму назад марай, сёння сталі рэальнымі. Заданні, запланаваныя на 1965 год, перавыкананы. Спачатку гэта зрабілі перадавікі-наватары, за імі рушылі ўсе працаўнікі.

980 кіланумароў на 1000 верацён у гадзіну — гэта найлепшы паказчык, якога дасягнула прадзільшчыца Марыя Іванова. А Любоў Мінчык на палепшаным абсталяванні дамаглася яшчэ большага: 1 013.

Тое, што дасягнута сёння наватарамі, заўтра становіцца рубяжом, якога дасягае ўвесь калектыў.

* * *

Як найбольш рацыянальныя прыёмы працы зрабіць здабыткам усіх? Аб гэтым думалі кіраўнікі прадпрыемства, камуністы і камсамольцы, перадавікі вытворчасці. І нарадзілася ідэя: школа! Школы перадавых метадаў працы дзейнічаюць у цэхах, на ўчастках. Настаўнікамі ў іх сталі і Марыя Ігнатаўна Іванова, і Любоў Сідараўна Мінчык.

Дзяўчаты застаюцца ў цэху пасля змены. Уключаць машыны. Стане кожная настаўніца на сваё месца і скажа: «Рабіце, як я!» І спакойна, без мітусні настаўніца ссуквае нітку, там пылінку змахне, на верацёны нібы і не глядзіць, а адразу бачыць, дзе абарвалася нітка... На слых яна вызначае, ці што?

Павучыўшыся, людзі смела бяруць далёкія рубяжы, а настаўніцы іх тым часам зноў наперадзе. І зноў жа дапамагае школа. Яе прайшлі амаль усе прадзільшчыцы камбіната.

* * *

Такі савецкі чалавек: навучыўся сам — памагае таварышу. Як тут не прыгадаеш беларускую народную прыказку: «Не той наперадзе, што абагнаў, а той наперадзе, што за сабой цягне».

Хочацца прывесці такую гутарку слесара Рамановіча са сваім таварышам:

**Вядомая ткачыха Раіса Варэнік — дэпутат Гродзенскага абласнога Савета. Яна знаходзіць час, каб параіцца з выбаршчыкамі, памагчы ім. На гэты раз дэпутат гутарыць з выбаршчыцай Антанінай Івановай** (справа) **— работніцай свайго цэха.**





Кончылася змена, але не расходзяцца дамоў прадзільшчыца Яўгенія Занеўская, памочнік майстра Пётр Папоў і прадзільшчыца Люба Мінчык. Трэба абмяняцца думкамі аб тым, як працавалася, што не ладзілася.

— Глядзі, Іване, колькі народу з кніжкамі валіць на заняткі! А некаторыя лянуюцца...

—«Некаторыя» — гэта я?.. — зразумеў намёк той.

— Хоць бы і так, — спакойна адказаў Рамановіч. — Паслухай, браток. Ты разважаеш так: навошта школа? Навошта тэхнікум? Навучыўся трымаць у руках зубіла і — слесар, і на гэтым кропку ставіш...

— Зразумей, Мікола: сям'я, дзіця. Перазабывалася ўсё. Думаць аб тэхнікуме— значыць зноў у сёмы клас засесці. Думаеш, лёгка?

— Ведаю ўсё, спачуваю...

Слесару Мікалаю Рамановічу прыгадалася ўсё ярка, нібы гэта было ўчора. Яго самога, дэмабілізаванага воіна, вось гэтак шчыра ўпрошваў узяцца за вучобу такі ж таварыш, які і сам вечарамі вучыўся ў сярэдняй школе. І Рамановічу некалі думалася, што тая ноша абарве плечы. Але падняў яе, пайшоў у сёмы клас, потым — у тэхнікум, і неўзабаве пераканаўся, што зусім гэта не цяжка, а нават прыемна. Жыць стала цікавей і працаваць лягчэй.

— Нічога, братка, я ўсё ж такі цябе ўламаю. Разам жа працуем, — сказаў з мяккай усмешкай Рамановіч свайму таварышу Івану Панасюку.

Цікавы факт: на камбінаце 19 слесараў-рамонтнікаў, з іх адзінаццаць — завочнікі ў тэхнікуме. Вучацца маладыя рабочыя Чарненка, Шатроў, Капейкін, Мірашнічэнка, Маўрын, Неплашчук...

— Хіба на сходзе галасавалі: усім завочнічаць?

— Можа і на сходзе, можа і галасавалі, — жартам адказваюць хлопцы, — толькі завадатар гэтай справы — Анатоль Мечыслававіч Куран, наш галоўны механік. Ён густ да вучобы прывіў усім нам...

...У маленькай канторцы інжынера Курана — вялікая этажэрка, скрозь застаўленая кнігамі. Амаль усе — па тэхніцы. Нехта прыйшоў у рабочай спяцоўцы, паклаў кнігу на этажэрку. Праз хвіліну ўбегла дзяўчына. Уся аж ззяла ад радасці.

— Анатоль Мечыслававіч, едзем!..

— Шчаслівага...

— Званіць будзем, — і знікла за дзвярыма.

— Напэўна, у дом адпачынку?

— Ды не, у Мінск паехала. На абарону дыпломнага праекта.

Дзяўчына гэта — прадзільшчыца Раіса Сарокіна. У яе ёсць добрыя паплечнікі, якія выправіліся ў дарогу па гэтай жа справе, — майстар Аляксей Ігнацьеў, рабочы Аляксей Гапонаў, партыйны работнік Міхаіл Купрашэвіч. Кожны ў душы ўдзячны таму ж Анатолю Мечыслававічу за падтрымку.



Прадзільшчыца Марыя Іванова — наватар. Сваё майстэрства яна перадае тым, хто толькі-толькі прыйшоў у цэх.



Кожны — і слесар Іван Панасюк, і слесар Мікалай Рамановіч — удзячны галоўнаму механіку Анатолю Мечыслававічу Курану (справа) за тое, што памагае ім у вучобе.

Праз вуліцу — невялікі двухпавярховы будынак: «Вучэбны камбінат». Тут займаюцца тэкстыльшчыкі па праграме тэхнікума. Выкладчыкі — свае інжынеры. Сярод іх — галоўны механік Куран, начальнік фарбавальна-аддзелачнай вытворчасці Іванова, галоўны інжынер Клячкоўскі, дырэктар камбіната Касцоў. Усе яны навучаюць рабочых на грамадскіх пачатках — без аплаты.

Многія тэкстыльшчыкі не абмяжоўваюцца ведамі, якія набылі на камбінаце. Яны імкнуцца далей. Ужо цяпер дзесяткі рабочых рыхтуюцца да паступлення ў ВНУ. Ім дапамагаюць студэнты педагагічнага інстытута. Яны арганізавалі своеасаблівы рабфак, і самі выкладаюць у ім.

І «Вучэбны камбінат», і школа камуністычнага выхавання, дзе займаецца многа моладзі, усё гэта падпарадкавана адной мэце — выхаванню чалавека будучыні.

Новы выдатны рух — вучыцца працаваць і жыць па-камуністычнаму, які нарадзіўся ў пярэдадзень XXI з'езда партыі, цяпер, перад вялікай, знамянальнай падзеяй — перад адкрыццём XXII з'езда КПСС, набыў велізарную сілу, стаў сапраўды ўсенародным.

Адзіным, згуртаваным строем крочаць змагары за сямігодку. І наперадзе, пракладваючы шлях усім, ударнікі і брыгады камуністычнай працы.

На тонкасуконным камбінаце першую сцежку ў будучыню праклалі прадзільшчыцы брыгады Віктара Шорына, потым у спаборніцтва за камуністычную працу ўступілі новыя сілы. Спачатку брыгадзе Віктара Шорына, а потым брыгадам Паўла Кузняцова, Аляксандра Парфёнава, Леакадзіі Аўгусціновіч, Марыі Гуцевай і іншым было прысвоена ганаровае званне калектываў камуністычнай працы. Больш двухсот работніц і рабочых удастоены пачэснага звання.

Многія з тых, хто пасеяў першыя зярняткі новага, сталі камандзірамі вытворчасці. Герой Сацыялістычнай Працы Марыя Чэкель працуе зменным майстрам. Брыгаду, якую ўзначальваў Віктар Шорын, называюць «шорынскай», хоць былы яе брыгадзір ужо — старшы майстар у прадзільным цэху.

У тэкстыльшчыкаў Гродна, як і ўсюды на прадпрыемствах, шырыцца спаборніцтва за дастойную сустрэчу чарговага, XXII з'езда КПСС. Змаганне ідзе за тое, каб праграму трэцяга года сямігодкі выканаць датэрмінова і даць 50 тысяч метраў тканіны звыш задання, дамагчыся новых поспехаў у павышэнні прадукцыйнасці працы, зніжэнні сабекошту прадукцыі.

Калектыў ясна бачыць мэту, ідзе да яе ўпэўненым, шырокім крокам. А шлях пракладваюць разведчыкі будучыні — брыгады і ўдарнікі камуністычнай працы.

**Аляксей СІНІЛАЎ.**

Фота **В. Дробышава.**

*Гары, камсамольскі аганёк!*

# КЛОПАТ ПРА ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ

Сонечным чэрвеньскім днём ціха шумяць дрэвы над быстрацечнай Віліёй. Недзе ў гушчыні зялёных вяршынь выводзяць свае няхітрыя мелодыі ўвішныя драззды, а з-за ракі, адтуль, дзе ўзнялася дуброва, даносіцца голас зязюлі... Ён крыху аднастайны, нават сумны... Ды яго ніхто і не чуе... Сёння тут перапляліся з шумам дрэў звонкія дзявочыя песні, звініць на ўсё наваколле музыка, далёка разносіцца радасны і бадзёры смех...

Сёння тут маладыя гаспадары Вілейшчыны сабраліся на традыцыйнае свята — Дзень савецкай моладзі.

Традыцыйнае... Такі ўжо звычай у нас, камсамольцаў, — усё лепшае ў жыцці і працы становіцца ў нас традыцыяй. Традыцыйнымі сталі сярод моладзі раёна працоўныя поспехі ў буднях сямігодкі. Свае лепшыя падарункі рыхтуе моладзь надыходзячаму XXII з'езду КПСС. Традыцыйным стала і тое, што рады працаўнікоў калгасаў і прадпрыемстваў раёна кожнае лета папаўняюцца сотнямі юных змагароў за здзяйсненне нашых планаў — планаў учарашніх дзесяцікласнікаў. Традыцыйным стала выхаванне моладзі ў самай найлепшай школе жыцця — у працы...

А пачалося гэта, здаецца, зусім нядаўна.

...Пасяджэнне бюро гаркома камсамола — будзённая справа. Звычайна, два-тры разы ў месяц збіраемся мы, каб абмеркаваць справы ў пярвічных арганізацыях раёна, намеціць планы работы. І настрой на такіх пасяджэннях бывае дзелавы, рабочы. Але на гэты раз ён ва ўсіх быў якімсьці прыўзнятым. Ні разу яшчэ нікога не слухалі члены бюро з такой увагай, як Зосю Глускую, сакратара камсамольскай арганізацыі арцелі «17 верасня». Зося расказвала аб тым, як камсамольцы арцелі выступілі запявааламі спаборніцтва за права насіць званне ўдарніка камуністычнай працы.

Знешне мала што змянілася. Засталіся тыя ж машыны, тыя ж вырабы, тыя ж людзі. А на работу ішлі, як на свята. І глядзіш, там работніца прыйшла на дапамогу сяброўцы, там з'явіліся кветкі на акне, там некалькі чалавек узяліся дапамагаць прыбіральшчыцам. І вось аб гэтым ідзе ўжо размова на камсамольскім сходзе. Складаецца і зацвярджаецца графік дзяжурстваў работніц, якія б сачылі за чысцінёй, палівалі кветкі. А як горача абмяркоўваліся брыгадныя справы, як радаваліся швейнікі ўдачам таварышаў, перажывалі за іх памылкі! Інтарэсы вытворчасці сталі дзяўчатам яшчэ бліжэй, праца — яшчэ больш любімай.

Цяпер тут кожны трэці малады рабочы марыць дабіцца пачэснага звання ўдарніка камуністычнай працы. Шасці работніцам яно прысвоена. Люба Герасімовіч, Аня Цярпіцкая, Люда Лаўрыновіч і другія і норму выконваюць на 110—115 працэнтаў, і кваліфікацыю сваю павышаюць, і паліт-школу наведваюць. Яны завадатары ў самадзейнасці, спорце, скрозь вядуць за сабой астатніх.

Камсамольцы арцелі — толькі невялікі атрад тых віляйчан, што выйшлі на разведку будучыні. 42 брыгады, фермы, два прадпрыемствы, тры цэхі і дзве змены ў раёне змагаюцца за права звацца калектывамі камуністычнай працы. 600 чалавек мараць стаць ўдарнікамі.

Дзесяткі передавікоў, цэлыя калектывы, якіх прыўзняло і акрыліла рашэнне працаваць пакамуністычнаму, убачылі перад сабой мэту, ясную і прыгожую.

Адной з першых у раёне прысвоілі званне калектыву камуністычнай працы змене кардоннай фабрыкі «Раёўка». На чале змены — Валянціна Крупская, член Мінскага абкома камсамола. Залатыя рукі ў рабочых гэтай змены, няспынна пульсуе тут творчая думка. Па прапанове рабочых перароблены гідраўлічныя прэсы, механізавана падача кардону ад папачнай машыны да гідрапрэсаў і да сушылак. Не было выпадку, каб змена выканала заданне ніжэй чым на 110 працэнтаў. Кожны з 34 яе членаў імкнецца авалодаць сумежнымі прафесіямі. І вось электраманцёр можа замяніць у выпадку неабходнасці слесара, папачніца — сушыльшчыцу, упакоўшчык — апаратчыка. Узаемадапамога, згуртаванасць сталі законам жыцця гэтага калектыву.

Змагаецца за права звацца прадпрыемствам камуністычнай працы і калектыў Рэчкаўскага кафельнага завода. Сярод рабочых тут 90 працэнтаў моладзі. А колькі задум у кожнага! Калектыў збіраецца выйсці на рубяжы апошняга года сямігодкі на два гады раней тэрміну. Кожны рабочы абавязаўся авалодаць дзвюма спецыяльнасцямі, кожны чацвёрты рашыў на працягу пяці год атрымаць сярэднюю адукацыю. Удасканаленне тэхналагічнага працэсу, чысціня, нязвыклая для прадпрыемства, дзе людзі маюць справу з глінай, кветкі на вокнах, — усё гэта зрабіла завод узорным у рэспубліцы. Тут наладжваюцца семінары па абмену вопытам, і многія спецыялісты прамысловасці будаўнічых матэрыялаў са здзіўленнем разглядваюць звычайную, але дасканалую прадукцыю — рэчкаўскую кафлю.

У гэтыя чэрвеньскія дні радасцю поўняцца сэрцы і ў маладых працаўнікоў чыгуначнай станцыі Вілейка. Ды і не толькі ў маладых. Передавому ў раёне калектыву прысвоена званне прадпрыемства камуністычнай працы.

Ажыццяўляючы велічныя планы сямігодкі, сказала сваё слова і калгасная моладзь. Добрая слава ідзе аб маладых жывёлаводах фермы калгаса «Рассвет». Тут амаль усе — камсамольцы. Многія прыйшлі па камсамольскіх пуцёўках. На іх ферме самыя высокія сярод калгасаў раёна надоі малака, а партрэт даяркі Веры Занковіч красуецца ў Мінску на Дошцы гонару абласной камсамольскай арганізацыі. Марыя Кабак, Марыя Занковіч, Аня Рагач, Соня Занковіч, Ірына Занковіч — цудоўныя дзяўчаты, якія па праву могуць ганарыцца сваімі працоўнымі поспехамі.

Выдатных вынікаў дасягнула летась звяно Ніны Хоміч — па 1 300 цэнтнераў зялёнай масы кукурузы з гектара сабрала яно на чатырнаццацігектарнай дзялянцы. Ніна сёлета завочна заканчвае сельскагаспадарчы тэхнікум.

Сакратар камсамольскай арга-

нізацыі саўгаса «Ільянскі» Іосіф Кібілка расказваў неяк аб тым, як даяркі камсамольска-маладзёжнай брыгады паілі захварэўшых кароў наварам з ільнянога семя, якое прыносілі з дому. Брыгада, дзе групкамсоргам Ірына Коглік, трымае па надоях першынство па саўгасу і раёну, а Франя Канецкая надаіла ад кожнай замацаванай за ёю каровы па 3 807 літраў малака, Ванда Лабецкая — па 3 445.

Жыць па-камуністычнаму. Многія толькі цяпер пачалі задумвацца, а што гэта значыць. Калі ты ні з кім не пабіўся, не напіўся, мінута ў мінуту прыходзіш на работу, цярпліва сядзіш на прафсаюзных сходах, ці значыць гэта, што ты жывеш па-камуністычнаму? Ты павінен быць чэсным да дробязей у адносінах толькі ўласнай работы і паводзін, ці павінен навучыцца заўважаць несумленнасць іншых, няхай сабе нават і маленькую, быць нецярпімым да яе? Старое ж учэпістае, яно яшчэ моцна трымаецца за душы многіх. І ў самых моцных калектывах здараюцца выпадкі, якія прымушаюць таварышаў аб жывучасці старых звычак.

Аднойчы член змены Валянціны Крупскай упакоўшчык Яўген Жукоўскі не выйшаў на работу. Былі ў яго на гэта некаторыя прычыны, якія адміністрацыя палічыла ўважлівымі. Адміністрацыя, але не таварышы. Змена сабралася на сход. А перад таварышамі не схлусіш, не пакрывіш душой. Давялося Яўгену прызнаць, што не меў ён маральнага права не выйсці на работу.

І змена пастанавіла — зняць партрэт Яўгена з заводскай Дошкі гонару. Не мае права чалавек, які пайшоў на здзелку з уласным сумленнем лічыцца перадавіком. Толькі праз некалькі месяцаў выдатнай працай Яўген зноў заслужыў давер'е таварышаў.

Быў і другі выпадак. Уладзімір Курэц неяк выйшаў на работу падвыпіўшы. Яўген Жукоўскі, што працаваў поруч з ім, патрабаваў, каб таго неадкладна адхілілі ад работы. Не таму, што хацеў за штосьці адпомсціць Курцу. Наадварот.

Для калектыву фермы саўгаса «Ільянскі» характэрна добрая рабочая гордасць за свае поспехі, характэрна яркае ўсведамленне сваёй чалавечай годнасці. І трапілася сярод даярак адна, якая часам абражала сябровак, сварылася з імі ні за што, ні пра што. Проста такі характар быў у жанчыны. Камсамольцы спрабавалі ўздзейнічаць на яе. Нарэшце не вытрымалі. Паставілі пытанне так — ганьбіш наш калектыў адыдзі ў бок, не перашкаджай ісці наперад.

Я спецыяльна не называю прозвішча гэтай даяркі. Цяпер яна вельмі перажывае, хоча зноў вярнуцца на ферму. Што ж, камсамольцы будуць ёй толькі рады, калі яна скіне груз звычак мінулага.

Ісціна, што кожны можа змагацца за права насіць званне ўдарніка камуністычнай працы, здавалася нам простай і яснай. Але аднойчы здарылася гісторыя, якая прымусіла нас задумацца.

Ёсць у саўгасе «Лукавец» брыгада механізатараў, якая змагаецца за права называцца камуністычнай. Варта паглядзець на працу лепшага кукурузавода раёна Іосіфа Гейна, яго брата Уладзіміра, Віктара Роўду, выпускніка тэхнікума механізацыі Івана Кісялёва, ды і на таго ж Франца Косціка, які, працуючы на камбайне, украў некалькі кілаграмаў збожжа і абмяняў яго на самагонку.

Як аб гэтым даведаліся таварышы па брыгадзе, аб чым яны гаварылі з Францам — застанецца, напэўна, вечнай тайнай. Вядома толькі, як рэагавалі механізатары — яны рашылі, што не маюць права нават змагацца за такое высокае званне. Франц патрабаваў, каб яго судзілі, выгналі з саўгаса, але каб брыгада мела права працягваць рух наперад.

Нам гэты выпадак даў багаты матэрыял для роздуму. На самай справе, ці кожны мае права змагацца за тое, каб насіць званне ўдарніка і члена калектыву камуністычнай працы? Мы часам цярпім у сваіх радах п'яніц і дэбашыраў, спадзяемся, што ўсеагульны ўздым захопіць і іх, што і яны перавыхаваюцца. Высветлілася ж аднойчы, што на чале адной з брыгад лесгаса, якая рашыла змагацца за званне калектыву камуністычнай працы, стаяў баптыст. І ён не адумаўся, не парваў з рэлігіяй, працягваў рэгулярна наведваць малітоўны дом. Толькі ўмяшанне райкома камсамола дапамагло выправіць такое становішча.

Фармальна аб'явіць сябе ўдзельнікам руху можа кожны чалавек, нават п'яніца і дэбашыр, хаця б дзеля таго, каб спекульнуць самым фактам удзелу ў спаборніцтве. Што рабіць з тымі, каго цягне назад занадта цяжкі груз старога? Пакінуць іх плесціся ў абозе? Патураць ім нельга, але ў кожным асобным выпадку трэба быць вельмі ўважлівым, трэба прыгледзецца да чалавека, які збіўся ў жыцці на крывую сцяжынку, прыгледзецца і ўзважыць, а ці нельга дапамагчы яму выйсці на шырокую і светлую дарогу.

Хочацца расказаць адзін выпадак з жыцця брыгады камуністычнай працы, якой кіруе Оля Гіль. Сакратаром пярвічнай арганізацыі камсамольцы Рэчкаўскага кафельнага завода выбралі Васіля Гіля. Прызнацца, гэтая вестка і ўзрадавала, і крыху здзівіла мяне. У памяці ўсплыло многа падзей, звязаных з імем Васіля Гіля.

Першы раз я пачуў пра яго гады два назад. Оля Гіль, невысокая жвавая дзяўчына, сакратар камсамольскай арганізацыі кафельнага завода, усхвалявана гаварыла нам:

— Не, не магу я змірыцца з гэтым. Камсамолец, а на папа вучыцца збіраецца. Ну, быў бы блазнюк які, туды яму і дарога. А то добры хлопец, толькі на яго бацькі здорава насядаюць, спанталыку збіваюць.

Здавалася, лёс Васіля Гіля не датычыў непасрэдна камсамольцаў завода — ён жа тады на ім не працаваў. Але ж хіба маглі людзі, якія ўзнялі сцяг барацьбы за званне брыгады, а потым і завода камуністычнай працы, прымірыцца з тым, каб наша грамадства страціла аднаго з сваіх членаў, каб хлопец дэзерціраваў з арміі людзей стваральнай працы і прымкнуў да аджываючай свой век купкі ашуканцаў і цемрашалаў.

Жэня Яхімовіч, Оля Гіль і другія камсамольцы ўступілі ў бой за Васіля, супраць веруючых бацькоў, супраць мясцовага папа, які ўмела і хітра апутваў хлопца. Адчуўшы падтрымку, хлопец знайшоў у сабе сілы супрацьстаяць бацькам, пайшоў працаваць на завод. Васіля вучылі, і хутка ён у дасканаласці авалодаў прафесіяй станочніка.

Трэба сказаць, што хоць Васіль і лічыўся камсамольцам, усё ж рэлігійная мараль яго бацькоў зрабіла ўплыў на погляды гэтага хлопца. Быў ён нейкі скрытны, недаверлівы і, напэўна, такімі лічыў усіх людзей.

Трапіўшы на завод, Васіль са здзіўленнем прыглядаўся да жыцця дружнага калектыву, да іх працы. Дзівіла яго і тое, чаго гэта Іван Палянскі, станочнік, з якім ён працаваў на пару, кожную вольную хвіліну кідаецца памагаць дзяўчатам-апраўшчыцам, чаго гэта і апраўшчыкаў, і станочнікаў турбуе брак, які выдае сушылка.

Такое было. Вуглы ў кафлі пры сушцы даволі часта трэскаліся. На сметнік выкідвалі часам за дзень да 200 штук кафлі. Гэта ўсхвалявала ўсю брыгаду. І калі, нарэшце, нарадзілася калектыўнае рашэнне, якое прынесла поспех, і брак знізіўся ў дзесяткі разоў, Васіль упершыню адчуў, што радасць калектыву — гэта і яго радасць.

Паступова пасля работы Васіль усё часцей схіляўся над кніжкамі і сшыткамі, памагаў вячэрнікам Сашы Згерскай, Міколу Рыжэвічу, Васіліне Згерскай ці рашыць задачу, ці разабрацца з граматычным правілам.

У дружным калектыве Васіль акрыяў душой. Хлопец пачаў добра зарабляць, прыадзеўся і ледзь было зноў не збочыў з прамой дарогі. Пачаў заглядваць у чарку, на танцах трымаўся задзірлівым пеўнем.

... Ніколі не думаў Васіль, што

ў рахманай, ціхай Ірынкі Яхімовіч могуць быць такія вочы — строгія, калючыя нават. Іншая справа Оля Гіль. Яна сакратар, брыгадзір. А астатнія? Што ім да таго, што ўчора крыху выпіў і ледзь не стукнуў, і не стукнуў нават, а так патрымаў загрудкі трошкі хлопца з суседняй вёскі? Хіба кране ён калі пальцам Косцю Згерскага, Ваню Палянскага і Міколу Рыжэвіча, з якімі працуе? Не, ніколі. За іх ён гатовы ў агонь і ў ваду. Дык чаму ж у іх вачах таксама пабліскваюць халодныя ільдзінкі асуджэння?

Шмат давялося Васілю пачуць у той вечар справядлівых і горкіх слоў ад людзей, якіх ён лічыў сваімі сябрамі і якія на самай справе былі яго сябрамі. Моўчкі слухаў хлопец і пра тое, што ён зазнаўся, і што з ім ніхто не будзе няньчыцца, — не маленькі, сваю галаву павінен на карку мець і разумець, што такое добра і што такое блага, а калі ён не даражыць гонарам брыгады, брыгада можа не даражыць і ім.

Цяжка перажываў Васіль гэты сход і вымову таварышаў. Што ж, суровы ўрок пайшоў яму на карысць. Хлопец пасур'ёзнеў, зразумеў, што ў яго ёсць не толькі правы, але і абавязкі.

І вось праз год гэтага самага Васіля Гіля камсамольцы Рэчкаўскага кафельнага выбралі сваім важаком. Яны не памыліліся, бо ў іх калектыве вырас ініцыятыўны, патрабавальны да сябе і да другіх чалавек.

Адзін з важнейшых запаветаў моладзі нашага раёна — вучоба, настойлівае павышэнне сваёй прафесійнай кваліфікацыі. Настае час, калі папаўненне ведаў робіцца асэнсаванай неабходнасцю рабочага чалавека. Не таму, што гэта з'яўляецца адной з умоў спаборніцтва за званне калектыву ці ўдарніка камуністычнай працы, а таму, што без вучобы цяжка, немагчыма паспяваць за тэхнікай сённяшняга дня. На фабрыцы «Раёўка» першымі ў змене Валі Крупскай авалодалі сумежнымі прафесіямі былыя дзесяцікласнікі Анатоль Чарапові́ч і Ларыса Пінчук.

Гарком камсамола многае зрабіў, каб як мага больш моладзі, і асабліва тых, хто выйшаў на разведку будучыні, прыцягнуць да навучання ў вячэрніх школах. У ліпені мінулага года мы сабралі камсамольскі актыў і накіравалі яго ў калгасы, саўгасы, на прадпрыемствы, каб выявіць усіх, хто жадае папаўняць свае веды. Запісалася звыш 750 чалавек. У выніку ў раёне адкрылася 11 сельскіх вячэрніх школ. Толькі ў саўгасе «Лукавец» пачалі працаваць дзве вячэрнія школы.

Але, на жаль, не ўсе з тых, хто пажадаў сесці за парту, атрымалі гэтую магчымасць. Мы імкнуліся арганізаваць дзесяцігадовую вячэрнюю школу пры кардоннай фабрыцы «Раёўка». Тых, што жадаюць вучыцца, было шмат, але не столькі, колькі патрабаваў раённы аддзел народнай асветы. Не хапіла, як нам сказалі, да поўнага камплекту. Школа так і не адкрылася.

Нам здаецца, што ў такіх выпадках нельга кіравацца толькі колькаснымі паказчыкамі, трэба ісці насустрач жаданню моладзі. Магчыма, частка віны ляжыць і на нас. Хіба не мог гарком камсамола звярнуцца да грамадскасці дзённай школы, да камсамольцаў-настаўнікаў? Прызнацца, спачатку гэтую магчымасць мы ўпусцілі, а калі спахапіліся, было позна.

Асабліва нялёгкае становішча ў жывёлаводаў. Па характару сваёй работы яны загружаны так, што не могуць наведваць школу. Не ладзіцца з вучобай у даярак з брыгады Ірыны Коглік, у даярак з вёскі Каралеўцы. Большасць калгасаў у нашым раёне эканамічна моцныя і, на маю думку, час пераходзіць да пазменнай работы даярак.

І другі бок справы. Чалавек наведвае гурток палітасветы ці бягучай палітыкі, а ў яго за плячыма дзесяцігодка. Што гэта, фармальнасць ці сапраўдная вучоба? Мне здаецца, першае. Выпускнік сярэдняй школы сам здольны весці такія гурткі.

Калі ідзеш па дарозе ведаў, нельга спыняцца пры любых абставінах. Для работніц Рэчкаўскага кафельнага завода Зоі Вашчанкі, Соф'і Палянскай, Аляксандры Яхімовіч сям'я стала прычынай перапынку ў вучобе. Такія выпадкі нярэдкія. Звычайна, усе думаюць, што перапынак часовы, а здараецца, што вучоба адсоўваецца ўсё далей і далей. Зразумела, маладым маці нялёгка, але ж калі яны рашылі жыць па-камуністычнаму, то сем класаў недастатковы багаж, каб увайсці з ім у камунізм.

Клопаты камсамольцаў Вілейскага раёна аб заўтрашнім дні свайго жыцця — жыцця па-новаму, па-камуністычнаму — адчуваюцца сёння ва ўсім. У тым, што камсамольцы калгаса імя Сталіна Кузьміцкага сельсавета арганізавалі школу перадавога вопыту па прыкладу нясвіжскіх камсамольцаў. У тым, што слесар лесазавода «Перамога» Часлаў Лемеш, якога народ выбраў дэпутатам Мінскага абласнога Савета, знаходзіць час і для вучобы завочна ў тэхнікуме, і з'яўляецца самым актыўным дружыннікам. У тым, што летась былы сакратар камітэта камсамола саўгаса «Вязынь» Уладзімір Благасветлаў, падрыхтаваўшы сабе замену, вырашыў пайсці працаваць у адстаючую паляводчую брыгаду і за кароткі час здолеў умацаваць там працоўную дысцыпліну. У тым, што кінамеханік Мікіта Анісенка перадаў свой участак другому, а сабе ўзяў больш аддалены, дзе амаль ніколі не выконваўся план. Ці варта гаварыць, што пайшлі яны на меншы заробак і больш складаную работу. Пайшлі таму, што так загадалі сэрцы.

Праца і жыццё старэйшых таварышаў — сталі прыкладам для пераймання сярод тых, хто яшчэ сядзіць за школьнай партай. Нядаўна ўсе 19 сёлетніх выпускнікоў Людвінаўскай сярэдняй школы на камсамольскім сходзе прынялі рашэнне — усім класам застацца працаваць у зверасаўгасе «Беларускі».

У Вілейцы, калі дэманструюцца дзіцячыя кінафільмы, вы не ўбачыце ў кінатэатры ні касіра, ні кантралёра. Іх абавязкі выконваюць вучні школы № 2. Эстафета камсамольскіх спраў пераходзіць з адной школы ў другую. Вучні Куранецкай школы па ўласнай ініцыятыве арганізавалі творчую лабараторыю па вырошчванню кукурузы на зерне. Можа, гэта дробныя факты, але яны радасныя. Іх шмат.

Рысы камунізма жывуць побач з намі. Яны адкрываюцца для тых, хто ўмее за будзённасцю спраў адчуць іх значнасць, убачыць вялікія мэты. Гэтаму вучацца камсамольцы Вілейшчыны. Надышоў такі час, што — прыслухайся і пачуеш, як заўтрашні дзень стукае ў дзверы.

**Казімір СМАЛЕНСКІ,**
**сакратар Вілейскага гаркома камсамола.**

# ПА СОЖУ І ПРЫПЯЦІ

Па карце маршрут уяўляўся нескладаным. Пытанне аб сродках і спосабах перасоўвання таксама не асабліва хвалявала: там, дзе не будзе паяздоў або спадарожных машын, скарыстаю стары, але надзейны спосаб — пайду пешшу.

Задумана — зроблена.

Да Магілёва дабраўся без асаблівых цяжкасцей... Ведаючы, што наперадзе яшчэ вялікая дарога, падоўгу ні ў Сянно, ні ў Оршы не затрымліваўся. Нічога нават не замаляваў... Толькі ў Магілёве зразумеў, што памыліўся. Каб наверстаць упушчанае і зрабіць хаця б некалькі эцюдаў, рашыў да Слаўгарада ісці пехатою... І не пашкадаваў.

Не абавязкова быць мастаком або паэтам, каб заўважыць прыгажосць узбярэжжаў Сожа — ярка-зялёных паплавоў, крутых абрываў, там-сям пераплеценых карэннямі дрэў, блакітнага палатна самой ракі, роўнядзь якой толькі зрэдку парушаецца бурлівым вірам ці ўсплёскам ненасытнага шчупака. Здаецца, спыніўся б і стаяў цэлы дзень, гледзячы на ўсю гэтую прыгажосць. Але час не чакае... Зрабіў некалькі эцюдаў і накідаў — і зноў у дарогу.

...У Слаўгарадзе надта цікавы рынак. Якраз быў выхадны дзень, і сюды з'ехаліся людзі амаль з усяго раёна. Сваю прадукцыю — свіней, гусей, курэй, качак — прывезлі сюды ў драўляных клетках мясцовыя калгасы. Насупраць проста на аўтамашынах вядзе бойкі гандаль рознымі таварамі райспажыўсаюз. Усё гэта здзіўляе яркасцю фарбаў — чырвоных, зялёных, белых... Не заўважаеш, як раскрываецца эцюднік і рука цягнецца да пэндзля... У гэтай шумлівай мітусні раблю замалёўкі пажылых жанчын у прывабных нацыянальных касцюмах, калгасніка, што на ўсе лады расхвальвае сваіх гусей... Дарэчы, аб гусях, дакладней, аб гусях-лебедзях... Прыкра было глядзець, як тут жа, неяк баязліва азіраючыся па баках, пажылы мужчына ў запэцканым клятчатым пінжаку таксама прапанаваў пакупнікам... гусей. На яго думку, гэта былі не гусі, а гусі-лебедзі... Намаляваныя на яркачырвонай пляме, якая па задуме аўтара з'яўляецца возерам, гэтыя гусі-лебедзі з вельмі выцягнутымі шыямі, нібы злавесныя кобры, плылі да сіняга берага, на якім сядзела танклявая паненка з блакітным тварам і з вачыма, як у тых залацістых карасікаў. Побач з паненкай на жоўтай траве, склаўшы галовы, ляжаць два сінія ласі.

Заўважыўшы ўсмешку на маім твары, новаз'яўлены прыхільнік мастацтва хуценька сунуў руку ў кішэню і забурчэў:

— У мяне патэнт...

Гутару з калгасніцай, якая набыла такі «мастацкі» твор.

— А што купіць, калі нічога лепшага няма. У мяне новы дом, сцены пустыя...

Сапраўды, як кажуць, на бязрыб'і і рак рыба! І ці не вінавата тут спажывецкая кааперацыя, у крамах якой не сустрэнеш добрых мастацкіх рэпрадукцый.





У Слаўгарадзе ж ёсць нямала прыхільнікаў сапраўднага мастацтва. Цудоўныя ўспаміны засталіся ў мяне ад наведвання Дома культуры, кінатэатра, маляўнічага парку над Сожам, дзе я з хваляваннем назіраў за тым, як весела і культурна адпачывае моладзь.

Са Слаўгарада ў Гомель даплыў на грузавой баржы. Прыстані, паромы, рыбакі, лодкі, баржы. І — прыгожыя, маляўнічыя берагі...

У вёсцы Прыбар мне прыглянуўся адзін цікавы стары чалавек. У яго твары, ва ўсёй яго сутулаватай постаці, у складзеных на каленях руках было штосьці невыказна мудрае, спакойнае. Я папрасіў старога, каб ён дазволіў напісаць з яго эцюд. Згадзіўся. Ён застаўся па-ранейшаму сядзець на прызбе, а я хуценька ўзяўся за работу. Тут жа мінут праз некалькі нас абкружылі калгаснікі, паціху спрачаліся — падобны ці не падобны дзед на таго, што на малюнку... Людзі ажыўлена загаманілі, пасыпаліся пытанні, размова зайшла аб мастацтве наогул. Людзі гаварылі аб ім, як аб рэчы даволі знаёмай, але якую яны яшчэ не зусім разумеюць. І мне падумалася: «Не за гарамі той час, калі адыдзе ў нябыт пэцканіна, накшталт лебедзяў з паненкай і ласямі».

На Петрыкаўшчыне — радзіме праслаўленага партызана дзеда Талаша — я пазнаёміўся з палескімі рыбакамі. На рыбацкі курэнь дабраўся вечарам. Рыбакі варылі юшку і рыхтаваліся да начнога лову. Яны сустрэлі мяне вельмі ветліва, пачаставалі прыпяцкай смажанай рыбай, расказалі, як яны яе ловяць... Праз гадзіну я ўжо адчуваў сябе сярод рыбакоў так, нібы быў даўно з імі знаёмы.

Лавіць выехалі надвячоркам.

Маторка цягне лодку з рыбацкімі снасцямі... Час ад часу ўспыхваюць агеньчыкі папярос, ціха плешчацца ў прыбярэжнай траве вада. Вось і месца лову. Хутка раскладваюць касцёр арцельшчыкі, паглядваюць на неба — там поўны месяц. А пакуль ён не схаваецца — добрага ўлову не будзе... Лепш пачакаць гадзіну-дзве. Рыбакі садзяцца вакол кастра. Хто заводзіць ціхую размову, а хто кладзецца спаць — проста на пяску, падсунуўшы пад галаву кулак ці кавалак бервяна...

І вось, як толькі схаваўся месяц, усе заварушыліся, хутка занялі свае месцы на лодках. Мне таксама давялося папрацаваць — пераганяў з месца на месца лодку і прымаў улоў. Праўда, спачатку ён быў невялікі. Нарэшце, рыбакі дабраліся да галоўнай, самай «ураджайнай» тоні. Яны прыкметна захваляваліся, заспяшаліся, бо з вопыту ведалі, што толькі ў пэўны час можна ўзяць добры ўлоў. Закінулі сець... Ёсць! Адразу выцягнулі столькі рыбы, колькі да гэтага ўзялі на ўсіх папярэдніх тонях. Рыба — як на падбор: ляшчы, язі, шчупакі, галаўні...

Рыбакі задаволены. Хутка сабраўшы сеці, плывем на базу. Тут рыбу замарожваюць, узважваюць, запакоўваюць і з падарожнымі параходамі адпраўляюць у Петрыкаў.

Рыбакі народ працавіты, на выгляд — нават суровы. Яны працуюць амаль круглыя суткі, адпачываюць, дзе прыйдзецца і як прыйдзецца. Я з задавальненнем пражыў сярод іх цэлы тыдзень, рабіў эцюды, асобныя накіды...

Але час не чакае. Развітаўся я з ры-

бакамі, пажадаў ім: «Лавіся, рыбка!» і рушыў далей.

...Вёска Пярэраўскі Млынок аказалася на дзіва «мастацкай». Пакуль я пісаў эцюды мужчыны-касца і цялятніцы Насці Козел, сабралася шмат людзей. Пазіраваць згодны ўсе — толькі малюй! Прыйшлося добра папрацаваць.

Цудоўныя людзі. І працаваць умеюць і адпачываць. Неяк з Турава прыехала мастацкая самадзейнасць, дык у клубе, як кажуць, не было дзе яблыку ўпасці.

І спяваць тут любяць — прыгожа, меладычна. Раненька-рана выходзіць моладзь на працу, а песні амаль усю ноч не сціхаюць. Задушэўныя, харошыя песні!

...Хвоенск. Нечым старажытным і дрымучым вее ад гэтай назвы. Але... Пры першым жа знаёмстве з пасёлкам такое ўражанне знікае бясследна. На лесаапрацоўчай базе, што размешчана тут, ні ноччу, ні днём не заціхае праца. Звіняць пілы, гудуць машыны, ускідваюць угару вязанкі бярвенняў пад'ёмныя краны. Людзі дужыя, працавітыя. З захапленнем назіраў я за тым, як адзін мужчына выцягваў з вады бярвенні. Ён працаваў, як сапраўдны волат. Рухі ўпэўненыя, мускулы напружаны, моцныя агрубелыя рукі, здавалася, гулялі з багром, як з цацкай. А колькі майстэрства патрабуецца плытагону, каб правесці вялізны плыт па рацэ!

Шмат цікавага і карыснага дало мне падарожжа па Сожу і Прыпяці.

Сапраўды, прыгожы наш край, прыгожыя ў ім людзі.

**Уладзімір ГОМАНАЎ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.**



# ЛЕГЕНДА АБ «СТРАЧАНЫМ ПАКАЛЕННІ»

Мы жывём у дні здзіўляюча хуткага росту грамадскай актыўнасці моладзі ва ўсіх сферах жыцця. Маладое пакаленне нашай эпохі — не толькі сведка, але і актыўны ўдзельнік тых каласальных змен, якія адбываюцца ў сучасным свеце і ўсё больш перацягваюць вагі сусветнай гісторыі ў карысць сіл міру і сацыялізма. Ахопленая сутаргамі страху, імперыялістычная буржуазія ўсё часцей ужывае, побач з адкрытым падаўленнем, сродкі падману і хлусні, сродкі ідэалагічнага закабалення і разбэшчання працоўных, і перш за ўсё моладзі. Асаблівая стаўка пры гэтым робіцца на выдуманую прадажнымі ідэолагамі буржуазіі тэорыю «страчанага пакалення». Сутнасць гэтай тэорыі заключаецца ў тым, што моладзь сярэдзіны XX стагоддзя аб'яўляецца «зрынутым» пакаленнем, пакаленнем, якое страціла ўсялякія ідэалы, завязла ў ціне індывідуалізму і эгаізму, страціла густ да пякучых пытанняў сучаснасці, адышло ад палітыкі. «Страчанаму пакаленню», гавораць буржуазныя палітыкі і філосафы, сацыёлагі і літаратары, журналісты і каталіцкія прапаведнікі, усё абыякава, бо яно не верыць ні ў палітычныя ідэі, ні ў сацыяльныя рэвалюцыі, ні ў якія грамадскія каштоўнасці. На іх думку, гэта моладзь — без мінулага і без будучага, без гісторыі і без мары — клапоцяцца толькі аб імгненнай удачы сучаснага існавання, адзіным яе богам з'яўляецца долар: долар-бацька, долар-сын і долар-дух святы.

Амерыканскі прафесар Майер у кнізе «Наша неспакойная моладзь», выдадзенай у 1959 г. у Вашынгтоне, гаворыць аб катастрафічным росце злачыннасці сярод моладзі ЗША і прызнае, што асноўнай прычынай маральнага ўпадку моладзі з'яўляецца «расшчапленне грамадства», кантрасты багацця і беднасці, усеагульны культ раскошы. З ранняга дзяцінства моладзь выхоўваецца ў духу схілення перад усемагутнасцю грошай і пагарды да працы. Яна бачыць, што праца — лёс «няўдачнікаў», затое ўдачлівы гангстэр — прадмет агульнай зайздрасці і захаплення. «Ідэал гэтых маладых людзей, — гаворыць Майер, — кадзілак і шыкоўная бландзінка, падобная да кіназоркі, а найкарацейшы шлях да гэтага ідэала — «работа» ў бандзе гангстэраў». Гэтая індывідуалістычная і драпежніцкая псіхалогія распальваецца рэкламай, ілюстраванымі часопісамі, бульварнай літаратурай, дэтэктыўнымі фільмамі, тэлебачаннем і коміксамі, якія заклікаюць моладзь жыць па прынцыпу — «Чорт з табою,

калі мне добра!». Іменна гэтае правіла хочуць узвесці ў ранг першага запавету для сучаснай моладзі буржуазныя тэарэтыкі.

У апошні час на старонках амерыканскага і англійскага друку ўсё часцей сустракаюцца словы «біт джэнарэйшн» — «разбітае пакаленне». У пяцідзесятых гадах нашага стагоддзя ў краінах капіталістычнага Захаду склаўся цэлы літаратурны напрамак, які ў Англіі называюць плынню «разгневаных маладых людзей», а ў ЗША — плынню «бітнікаў». Англійскія «разгневаныя» і амерыканскія «бітнікі» — гэта не хуткаспелая і хуткапраходзячая буржуазная мода, а грамадска-літаратурная з'ява, народжаная крызісам буржуазнай культуры і маралі, крызісам капіталістычнай ідэалогіі. У творах пісьменнікаў гэтага напрамку сучасная моладзь паказваецца «пакаленнем без аблічча», якое пакутліва шукае і ніколі не знойдзе неіснуючага выхаду з путаў капіталістычнага жыцця. У кнігах Кінгслі Эміса, Джорджа Осбарна, Джэка Керуака, Глендона Свартхаўта, Франсуазы Саган жывуць юнакі і дзяўчаты з разбітымі надзеямі і скептычным холадам у душы, нігілісты, якія адмаўляюць усё і ўсіх — ад палітыкі да любых каштоўнасцей чалавечай цывілізацыі, якая здаецца ім недарэчным ланцугом памылак і злачынстваў. Для іх пытанне аб тым, што рабіць, якім быць, куды і з кім ісці, — пакутлівае, невырашальнае пытанне.

Вядома, складаны і супярэчлівы рух «бітнікаў» нельга змясціць у пэўную жорсткую схему. Кожны аўтар у сваіх творах пасвойму вырашае праблемы, якія стаяць перад моладдзю. Але агульная рыса, характэрная для ўсяго гэтага напрамку, заключаецца ў тым, што тут жывуць побач пагарда да буржуазнага ладу жыцця і поўнае неразуменне таго, што можна супрацьпаставіць гэтаму ўкладу, як змагацца за сапраўды чалавечыя адносіны, за шчасце маладога пакалення.

Гэтая супярэчнасць ярка ўвасабляецца ў адным з першых і найбольш таленавітых твораў «разгневаных маладых людзей» — у рамане маладога англійскага пісьменніка Джона Уэйна «Спяшайся ўніз», які напісаны ў 1953 годзе і выдадзены ў рускім перакладзе летась. У цэнтры рамана лёс Чарлза Ламлі — маладога чалавека з універсітэцкім дыпломам у кішэні, — які апынуўся «ў джунглях пяцідзесятых гадоў нашага стагоддзя». Хутка ўсвядоміўшы фальш і подласць свету «людзей у белых каўнерыках», Чарлз вырашае выйсці з крывадушнага кола «рэспектабельных» буржуа і імкнецца «ўніз» па грамадскай лесвіцы, зблізіцца са светам простых працаўнікоў.

Чарлз адчувае неарганізаванасць і амаральнасць грамадства, дзе пануюць грошы. «Усюды гэтае павуцінне, — думае Чарлз. — Не, цянёты, ліпучыя, спрытна расстаўленыя. І ты ці павук, што зручна ўладкаваўся пасярэдзіне або зларадна схаваўся ў засадзе, ці муха, якая гудзе ва ўчэпістым павуцінні». Ён усведамляе, што акрамя павукоў і мух ёсць яшчэ восы, якіх нельга ўтрымаць у павуцінні, бо яны разрываюць яго, і павуку ў такім выпадку даводзіцца расстацца са сваім месцам. Аднак Чарлз не знаходзіць у сабе сілы, каб парваць павуцінне адносін буржуазнага свету, якое аблытвае яго. Аднаму з прадстаўнікоў гэтага пагарджанага ім свету, Хатчынсу, ён прызнаецца: «Як і вы, я аддаю перавагу паразітызму».

Гатовы пратэставаць, але не разбураць, Ламлі (а разам з ім і Уэйн) усяляк імкнецца набыць нейтральнасць, у якой ён марыць схавацца і мець «магчымасць быць над схваткай». І куды б ні закінуў яго лёс і кім бы ён ні працаваў — мыў вокны ці быў шафёрам аўтамабільнай фірмы, служыў санітарам у бальніцы або выкідайлам у начным бары, — усюды ён імкнецца да ціхай гавані нейтральнасці. Уся філасофская прамудрасць Чарлза выказана ў некалькіх словах другога героя рамана Блірні. «У нашу кампанію прыходзіць іменна той, — гаворыць Блірні, — хто шукае нейтральнасці. Хто не хоча ўдзельнічаць ва ўсёй гэтай бязглуздай катавасіі ні на тым, ні на другім баку. Не хоча траціць часу і сіл на тое, каб зубамі і кіпцюрамі нападаць і адбівацца». У гэтых словах — разгадка ідэйнай задумы рамана Уэйна.

Значна ярчэй рысы «бітніцтва» выступаюць у рамане маладога амерыканскага пісьменніка Глендона Свартхаўта «Там, дзе ёсць хлопцы». Героі гэтага рамана, — студэнты, якія з'ехаліся на канікулы ў Фларыду з усіх канцоў Амерыкі, — у страху перад складанасцю нашай эпохі імкнуцца адысці ад грамадскага жыцця, праклінаюць розум, кідаюцца ў абдымкі індывідуалізму і маральнай анархіі. Усе яны вызначаюцца выключнай разбэшчанасцю, праводзяць час у непрабудных п'яных оргіях. Іх зусім не цікавяць пытанні, звязаныя з будучай спецыяльнасцю. Галоўная гераіня рамана Мэрыт — студэнтка педагагічнага каледжа — лічыць сваю будучую прафесію шкоднай, таму што, на яе думку, кожны настаўнік толькі скоўвае волю дзяцей, перашкаджае развіццю іх індывідуальнасці. Мэрыт не прызнае ў жыцці ніякіх каштоўнасцей, акрамя свабоды сексу. У поўнай адпаведнасці з духам моднай у сучасных капіталістычных краінах індывідуалістычнай і амаральнай філасофіі экзістэнцыялізму яна заяўляе, што галоўным у жыцці чалавека з'яўляецца яго асабістае існаванне, што законы грамадскай маралі трэба ліквідаваць, як тормаз на шляху свабоднага задавальнення сексуальных інстынктаў індывідуума.

Тыповага прадстаўніка сучасных «бітнікаў» Свартхаўт паказвае ў вобразе Бэзіла, які няспынна паўтарае, што наш атамны век — не час для вялікіх і сур'ёзных спраў. Наш век — гэта век сексу, джазу і начных шынкоў, у канвульсіўных рытмах якіх індывідуум набывае сваю свабоду.

Глендан Свартхаўт не рашаецца цвяроза разабрацца ў сучаснай капіталістычнай рэчаіснасці і ўскрыць сацыяльна-палітычныя вытокі філасофіі «бітнікаў», паказаць прычыны маральнай разбэшчанасці сярод сучаснай моладзі ЗША. У канцы свайго рамана ён вуснамі Мэрыт заяўляе, што не варта змагацца з ідэямі Бэзіла. «Няхай Бэзіл, гэты цынік, але ў душы добры чалавек, гэты паэт шынкоў, ненавіснік, які шукае кахання, падарожнічае па зямлі, як Дыяген». Так, аўтар, пачаўшы з праўдзівага крытычнага апісання жыцця багемнай моладзі, прыходзіць да апраўдання маральнага разлажэння і дэградацыі моладзі, да апраўдання грамадскага ладу, што нараджае тое паскудства, якое ён крытыкуе ў пачатку рамана.

Гэтая непаслядоўнасць, адсутнасць дакладнай ідэйнай пазіцыі характэрна не толькі для Свартхаўта, але і для ўсіх пісьменнікаў «разбітага пакалення». Калі ў першых творах англійскіх пісьменнікаў Кінгслі Эміса («Шчаслівы Джым»), Джона Осбарна («Азірніся ў гневе»), вядучага прадстаўніка амерыканскіх «бітнікаў» Джэка Керуака («На дарозе» і «Людзі падзямелля») мелася вострая крытыка ў адрас буржуазнага грамадства, выказвалася агіда да эгаістычнай і крывадушнай буржуазнай маралі, дык у далейшым гэтыя пісьменнікі выявілі відавочныя рысы капітуляцыі перад руцінёрствам і забабонамі тых сацыяльных сіл, абурэнне і вострую незадаволенасць якімі яны выказвалі спачатку. Капітуляваў Джон Осбарн у сваёй музычнай камедыі 1959 года «Свет Поля Слікі», капітуляваў Кінгслі Эміс у рамане «Мне падабаецца тут», тое ж зрабіў перад уладай долара і Джэк Керуак, апошні раман якога «Доктар Сэкс» напісаны цалкам у духу мадэрнізму і дэкадэнцтва.

У сваіх першых раманах «На дарозе», «Людзі падзямелля», «Бадзягі» Дж. Керуак паказаў злосць і адчай моладзі, якая страціла надзею і вандруе па дарогах Амерыкі. Яго героі лічаць, што ўсе заваёвы культуры, усе дасягненні чалавечай працы, чалавечага генія не далі і не могуць даць шчасця людзям, што яны прывялі толькі да парога пагібелі свету, што чалавецтва знаходзіцца напярэдадні страшнай атамнай смерці. У сваім апавяданні «Час пік» Ке-

руак стварае абагульнены малюнак лёсу амерыканскай моладзі: «Усе няўпэўнена блукаюць сярод руін буржуазнай цывілізацыі і шукаюць адзін другога... Але ці ж вы не бачыце, што ўсе яны заражаны выхаваннем або хваробай стагоддзя. Гэта пачатак канца свету». Калі ж чалавек нічога добрага не атрымаў ад мінулага і яму няма чаго чакаць ад будучыні, дык ён павінен аддаць перавагу ўсім так званым «каштоўнасцям» жыцця маленькага імгнення сучаснага існавання. Такі бог, якому пакланяецца «страчанае пакаленне» сучаснай буржуазнай моладзі. Такая галоўная ідэя «бітнікаў», якую ніяк не можа прыняць прагрэсіўная моладзь свету.

Малады герой апошняга рамана Дж. Керуака «Доктар Сэкс» Джэк Дулуз рана расчараваўся ў жыцці, яго пачуцці і імкненні падпарадкаваны неўсвядомленаму страху. Яго душыць чаканне непазбежных няшчасцяў, усюды трызніцца здані сусветнага зла, якое пагражае людзям як праклянцце за зроблены першародны грэх. Раман называецца «Доктар Сэкс». Але ніякага рэальнага доктара Сэкса ў ім няма. Тут прысутнічае толькі цень звар'яцелага доктара Сэкса, якая праследуе Джэка і ў сне і на яве, паўстае перад ім у вялікім здані, з дзіркай замест сэрца, з вялізным капелюшом на доўгіх зялёных валасах.

Доктар Сэкс — гэта сімвалічны антыпод доктара Фауста вялікага нямецкага пісьменніка Гётэ. Керуак стараецца даказаць, што сярэдзіна XX стагоддзя — гэта не час для пошукаў сутнасці і зместу жыцця, якія хвалявалі гётэўскага Фауста. Калі Фауст разумны, дык Сэкс — вар'ят, бо, на думку Керуака, толькі вар'яцтва здольна адкрыць у нашым стагоддзі вочы на зло, якое пануе ў свеце.

Так рысы мадэрнізму, якія нагляданіся ўжо ў першых творах Джэка Керуака і перапляталіся з прагрэсіўнай крытыкай капіталістычнай рэчаіснасці, атрымалі сваё лагічнае завяршэнне ў бязглуздай фантазіі, што прапаведуе нігілізм і вар'яцтва.

Выказваючы вострае незадавальненне ўсім навакольным і крытыкуючы грамадскі лад буржуазнага жыцця, якое адбірае ў сумленнага маладога чалавека права на шчасце, але не робячы з гэтай крытыкі ніякіх вывадаў, не маючы яснай і дакладнай праграмы, «бітнікі» непазбежна павінны былі зайсці ў тупік. Яны павінны былі або зрабіць рэвалюцыйны вывад са сваёй крытыкі і прыйсці да рэвалюцыйнага адмаўлення існуючых парадкаў, або скласці зброю і капітуляваць перад буржуазным светам, перад яго атручанай ідэалогіяй. На жаль, большасць пісьменнікаў-«бітнікаў» не ўтрымалася на пазіцыях рэалістычнай крытыкі сучаснага буржуазнага грамадства, а пайшла па шляху капітуляцыі перад цёмнымі сіламі старога свету, непазбежная пагібель якога малюецца ў іх уяўленні як непазбежная пагібель усяго чалавецтва.

Вядомы англійскі літаратурны крытык і пісьменнік Кенэт Олсап у сваёй кнізе «Дзесяцігоддзе «разгневаных» вельмі правільна адзначае, што «разгневаныя маладыя людзі» «не столькі паўстаюць супраць старога ладу і парадкаў, колькі адмаўляюцца іх падтрымліваць». Для гэтай літаратурнай плыні, піша Олсап, характэрны «агульны інтэлектуальны нігілізм..., неўрастэнічнае пачуццё незадаволенасці і паражэнцтва, пакорнасць, як апошняе нетрывалае сховішча ад поўнай душэўнай панурасці».

Маральныя прынцыпы і ідэалы пісьменнікаў «страчанага пакалення» бязмежна далёкія ад нашага жыцця, ад ідэалаў нашай савецкай моладзі. Але нельга забываць, што «бітнікі» — гэта абяздоленая моладзь, якая з'яўляецца ахвярай капіталістычнага ладу. Жах і разгубленасць пісьменнікаў «страчанага пакалення» перад часам, намаляваныя імі вобразы скептыкаў, цынікаў, марнатраўцаў жыцця, — усё гэта мастацкае адлюстраванне найглыбейшага духоўнага крызісу капіталістычнага грамадства, якое ўжо не можа вылучаць ідэі, здольныя захапіць моладзь. Сацыяльныя вытокі гэтай грамадска-палітычнай з'явы — у раздражненні, нервознасці, няўпэўненасці ў заўтрашнім дні, якія так характэрны для маладой інтэлігенцыі буржуазных краін нашых дзён.

«Бітнікі» ў жыцці і літаратуры народжаны сучасным капіталістычным светам, дзе спадзяванні і надзеі моладзі натыкаюцца на сцяну падману і подкупу, дзе юнакі і дзяўчаты чуюць шматабяцаючую хлусню аб свабодзе і дэмакратыі і бачаць, як свабоду і дэмакратыю топча бот капітала.

Але толькі той, хто за некалькімі зламанымі дрэвамі не хоча бачыць цудоўнага дужага лесу, які не баіцца ніякіх навальніц, толькі той, хто глядзіць на сённяшні свет праз акуляры звар'яцелага ад страху перад будучыняй буржуазнага інтэлігента, можа сцвярджаць, што гэтыя спустошаныя, абыякавыя, сапраўды страчаныя людзі ўвасабляюць сабой наша маладое пакаленне.

Нават у ЗША, якія з'яўляюцца радзімай «бітнікаў», іх налічваецца толькі 100 тысяч чалавек — нязначная частка амерыканскай моладзі. Безумоўна, там значна больш так званых «маўклівых», якіх амерыканская прапаганда гучна называе «станавым хрыбтом нацыі» і якія моўчкі прыстасоўваюцца да панавання манаполій. Але ёсць і іншыя — гэта тыя, хто ў лютым мінулага года арганізаваў першыя сядзячыя дэманстрацыі негрыцянскіх студэнтаў супраць расавай дыскрымінацыі, дэманстрацыі, якія азнаменавалі сабой новы масавы рух, што аб'яднаў не толькі негрыцянскую, але і белую моладзь сённяшняй Амерыкі. Гэта тыя, хто смела выступае супраць атамнай і вадароднай зброі. Гэта тыя, хто стварыў у Нью-Йорку маладзёжную арганізацыю з хвалюючай назвай «Эдванс» — «Наперад!», якая абвясціла, што мэта яе дзейнасці — сацыялізм. Нездарма XVII з'езд Камуністычнай партыі ЗША запісаў у сваёй рэзалюцыі, што «моладзь уступіла ў новую фазу масавай барацьбы».

Буржуазную тэорыю «страчанага пакалення» ярка і пераканаўча выкрыў М. С. Хрушчоў у дакладзе «За новыя перамогі сусветнага камуністычнага руху». Мікіта Сяргеевіч адзначыў, што на Нарадзе прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый усяго свету, якая адбылася ў лістападзе 1960 года ў Маскве, падкрэслівалася асаблівая важнасць работы сярод моладзі. «Буржуазная прапаганда, — сказаў таварыш Хрушчоў, — распаўсюджвае выдумкі аб сучаснай моладзі, называючы яе «страчаным пакаленнем», паказваючы яе апалітычнай. Але факты апошніх рэвалюцыйных выступленняў у шэрагу краін сведчаць, што моладзь з'яўляецца вялікай рэвалюцыйнай сілай».

Якую б краіну з усіх пяці кантынентаў свету мы ні ўзялі б, шматлікія факты апошніх год абвяргаюць ілжывую тэорыю «страчанага пакалення», пераканаўча гавораць аб усё ўзрастаючай ролі моладзі ў вырашэнні самых важных, актуальных і жыццёвых праблем нашай эпохі.

Калі кубінскі народ са зброяй у руках выступіў супраць крывавай дыктатуры стаўленіка амерыканскіх імперыялістаў Бацісты, — асноўны касцяк паўстанцка-рэвалюцыйнай арміі склала моладзь. Калі народная рэвалюцыя на Кубе перамагла і кубінскі народ пачаў будаваць новае жыццё, у авангардзе стваральнікаў новага рэвалюцыйнага грамадства аказалася моладзь — маладыя рабочыя, сяляне, студэнты, салдаты. Правадыру кубінскай рэвалюцыі Фідэлю Кастра 34 гады, міністру ўзброеных сіл Кубы Раулю Кастра 29 гадоў, міністру асветы Арту 23 гады, камандуючаму народным апалчэннем Кубы Алменда 19 гадоў. Рэвалюцыйная Куба — гэта сімвал палітычнай актыўнасці моладзі, якая змагаецца за шчасце народа.

Сёння, калі ў актыўную барацьбу супраць імперыялізму і каланіялізму ўключыліся народы Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, моладзь гэтых народаў крочыць у першых шэрагах змагароў за нацыянальную незалежнасць.

Моладзь праяўляе сябе як сіла, здольная зрабіць магутны ўплыў на ход гістарычных падзей і ў краінах Заходняй Еўропы. Малады датчанін Іенс Эйзенхарт у

артыкуле, апублікаваным у часопісе «Моладзь свету», гаворыць, што вядомае пытанне шакспіраўскага прынца Гамлета «быць ці не быць?» ставіць па-свойму і наша пакаленне. «Мы маладыя і спадзяемся на мір, на лепшыя часы і шчасце для сябе і для ўсяго чалавецтва», — піша Эйзенхарт. А гэта значыць «быць» і з усёй рашучасцю і энергіяй маладосці змагацца за ажыццяўленне цудоўных перспектыў, якія сёння адкрываюць перад моладдзю вялікія заваёвы навукі і тэхнікі.

Маладыя англічане, французы, немцы гнеўна пратэстуюць супраць настойлівых спроб амерыканскай ваеншчыны пакрыць краіны Заходняй Еўропы густой сеткай стартавых пляцовак для вядзення ракетна-ядзернай вайны. Адзін з актывістаў маладзёжнага руху Заходняй Германіі на агульнагерманскім кангрэсе рабочай моладзі заявіў: «Лепш дзейнічаць сёння актыўна, чым заўтра радыёактыўна».

Рэалістычная літаратура капіталістычных краін з вялікай чалавечай праўдай малюе вобраз маладога героя нашага часу, якога не зламалі цяжкасці жыцця, які ідзе ў першай шарэнзе змагароў за мір, — за лепшую будучыню, за шчасце чалавецтва. Амерыканец Джон О. Кіленс напісаў таленавіты раман «Маладая кроў», героі якога гатовы змагацца за светлыя ідэалы. У барацьбе з цяжкасцямі і нягодамі фарміруецца іх характар, мужнее воля, яны ведаюць, супраць чаго і за што змагаюцца. Андрэ Стыль у рамане «Мы будзем любіць адзін аднаго заўтра» супрацьставіць скептыкам і цынікам маладых французаў, якія, трапіўшы ў пекла «бруднай» алжырскай вайны, не страцілі веру ў чалавецтва.

Жак Стэфан Алексіс, найбольш буйны прадстаўнік негрыцянскай літаратуры Антыльскіх астравоў, у рамане «Дрэвы-музыкі» малюе вобраз шаснаццацігадовага негра Ганаіва, які актыўна ўдзельнічае ў руху сялян супраць амерыканскай каучукавай кампаніі, а затым ідзе да рабочых на лесараспрацоўкі і становіцца на шлях палітычнай барацьбы.

Літаратура сацыялістычных краін, добра вядомая нашаму чытачу, у поўнай адпаведнасці з праўдай жыцця стварае вобраз нашага сучасніка — цікаўнага, смелага, які не баіцца цяжкіх дарог, будуе цудоўны гмах светлай будучыні — камунізма. У ёй нельга нават уявіць сабе чаго-небудзь падобнага «бітніцтву». Думкі і імкненні маладога чалавека сацыялістычнага свету, яго ідэалы народжаны няспыннай творчасцю, штодзённым рухам наперад, пастаяннай барацьбой за шчасце, якую вядуць народы сацыялістычных краін пад кіраўніцтвам камуністаў.

Юнакі і дзяўчаты нашай краіны, занятыя мірнай працай камуністычнага будаўніцтва, ідуць у першых шэрагах маладых змагароў за мір і шчасце народаў, за светлую будучыню, за камунізм. Малады савецкі чалавек, мары і спадзяванні якога не могуць зразумець буржуазныя ідэолагі і буржуазныя абывацелі, не шукае нейкай асаблівай сцежкі да шчасця, а здабывае гэтае шчасце ў працы і ў барацьбе разам з народам, з з партыяй, якая ўказвае шляхі пабудовы камунізма.

Вызначальнай рысай нашага часу з'яўляецца барацьба паміж сіламі сацыялізма і прагрэсу, з аднаго боку, сіламі імперыялізму і рэакцыі, з другога. Гэтая барацьба вядзецца не толькі ў галіне эканомікі, палітыкі, яна вядзецца і за розумы і сэрцы маладога пакалення, і ад таго, якія ідэалы і імкненні выбера моладзь, на які бок барыкады яна стане, у многім залежыць лёс нашага свету.

Характэрнай асаблівасцю нашых дзён з'яўляецца высокая актыўнасць маладога пакалення, яго зацікаўленасць у вырашэнні многіх пытанняў уладкавання свету.

Усведамленне адказнасці перад грамадствам прымусіла моладзь сярэдзіны нашага стагоддзя ўнесці свой уклад у вырашэнне праблем, якія стаяць перад усім чалавецтвам. Таму такі гарачы водгук і падтрымку ў маладых людзей розных нацыянальнасцей атрымала прапанова савецкай моладзі правесці ў Маскве ў ліпені 1961 года Сусветны форум моладзі. «Моладзь сярэдзіны XX стагоддзя і яе праблемы» — такая агульная тэма форума. У рамках гэтай тэмы прапануецца абмеркаваць шырокае кола пытанняў, асабліва блізкіх маладому пакаленню розных краін, і перш за ўсё праблемы захавання міру, мірнага суіснавання і раззбраення, барацьбы супраць каланіялізму, задавальненне патрэб рабочай, сельскай, студэнцкай моладзі, пытанняў выхавання і асветы, доступу моладзі да культуры, арганізацыі адпачынку, маладзёжнага турызму і спорту.

Пераважная большасць маладзёжных арганізацый свету з адабрэннем аднеслася да ідэі правядзення Сусветнага форума моладзі і прыймае актыўны ўдзел у яго падрыхтоўцы. Створан Савет Міжнароднага камітэта падтрымкі форума, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі розных маладзёжных арганізацый 44 краін.

Праўда, лідэры Савета дарослай моладзі ЗША, Федэральнага кола моладзі (ФРГ) і некаторых іншых маладзёжных арганізацый, моцна звязаных з кірункавымі коламі імперыялістычных дзяржаў, паранейшаму падтрымліваюць збанкрутаваную лінію «халоднай вайны», стаяць за раскол у маладзёжным руху, усяляк імкнуцца зганьбаваць ідэю правядзення Сусветнага форума моладзі.

Вялікая актыўнасць моладзі ў барацьбе за мір і дружбу, за нацыянальную незалежнасць, яе імкненне да супрацоўніцтва, выключная цікавасць і паўсямесная падрыхтоўка да прадстаячага Сусветнага форума — вось адказ маладога пакалення свету прыхільнікам «халоднай вайны», буржуазным паклёпнікам, якія спрабуюць пераканаць усіх, што сённяшняе пакаленне — гэта пакаленне «без перспектывы», «разбітае», «страчанае» пакаленне. І няма сумнення, што Сусветны форум моладзі, які будзе праходзіць у сталіцы нашай радзімы з 25 ліпеня па 3 жніўня, пакажа, што моладзь сярэдзіны XX стагоддзя, поўная сіл і энергіі ў барацьбе за мір, прадэманструе з'яднанасць міжнароднага маладзёжнага руху, нанясе сакрушальны ўдар па мізэрнай буржуазнай тэорыі «страчанага пакалення».

**Яўген БАБОСАЎ,**
**вучоны сакратар Інстытута філасофіі АН БССР.**



**Янка Купала і Ганна Караваева ў Чэхаславакіі. 1935 год.**
З фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы.

# ШЧЫРАЕ СЛОВА ПРА КУПАЛУ

*У 1935 годзе Чэхаславакію наведала дэлегацыя савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, у склад якой уваходзілі М. Кальцоў, А. Талстой, Я. Купала, А. Фадзееў, Г. Караваева і іншыя. Савецкія літаратары наведалі Прагу, Плзень, Карлавы Вары, Марыянске Лазне, Аламоуц, Брно, Злін, Брацілаву, Астраву, сустракаліся з працоўнымі Чэхаславакіі, з прадстаўнікамі чэшскай і славацкай культуры.*

*«Надзвычайна багатыя і разнастайныя ўражанні ад гэтай паездкі...— гаварыў потым Янка Купала.— З першых жа крокаў у Чэхаславакіі наша дэлегацыя апынулася ў атмасферы надзвычай шчырай прыязні да нас, да нашае бацькаўшчыны — Савецкага Саюза. На мяжы і на Пражскім вакзале нас сустракалі і бурна віталі лепшыя людзі краіны — прадстаўнікі літаратуры, мастацтва, грамадскасці».*



*Савецкія пісьменнікі і журналісты блізка пазнаёміліся з такімі дзеячамі чэшскай культуры, як І. Гонзл, Э. Бурыян, І. Ольбрахт, К. Томан, Й. Гора, Ф. Кубка, сустрэліся з маці паэта-камуніста І. Волькера.*

*«Прыезд дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў у Чэхаславакію, — пісала ў той час «Рудэ права», — стаў вельмі значнай палітычнай і культурнай маніфестацыяй... Ён яшчэ больш узніме цікавасць працоўнага люду Чэхаславакіі да сацыялістычнай культуры народаў Савецкага Саюза і паслужыць справе пашырэння чэшскай і славацкай літаратуры ў Савецкім Саюзе».*

*«Рудэ права» і іншыя газеты ў перыяд знаходжання савецкай дэлегацыі ў Чэхаславакіі змяшчалі на сваіх старонках пераклады лепшых твораў савецкай літаратуры, у тым ліку вершы Янкі Купалы: «Старыя акопы», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», «Дзве дзяўчыны», урыўкі з паэмы «Над ракой Арэсай». Пазней былі апублікаваны пераклады вершаў Андрэя Александровіча і Ізі Харыка.*

*Вядомы чэшскі пісьменнік Францішак Кубка, які часта сустракаўся ў тыя часы з Янкам Купалам, нядаўна апублікаваў свае ўспаміны аб ім у кнізе «Галасы з усходу». Ніжэй мы змяшчаем гэтыя ўспаміны.*

**Францішак КУБКА**

# ЯНКА КУПАЛА—БЕЛАРУСКІ БУДЗІЦЕЛЬ

У 1935 годзе Янку Купалу было пяцьдзесят тры гады. Ён і Аляксей Талстой былі старэйшымі членамі савецкай дэлегацыі. Але калі Талстога можна было чуць і бачыць усюды, дык Янка Купала заставаўся амаль незаўважным. Калі іх фатаграфавалі, ён хаваўся дзе-небудзь ззаду. Трэба было выступіць — ён гаварыў некалькі слоў «ад імя адроджанай літаратуры беларускага народа». За сталом прэзідыума ён займаў непрыкметнае месца, далей ад старшыні. Ён умеў хавацца. Выдавала яго толькі круглая светлавалосая галава ды ўважлівыя, разумныя вочы на ясным твары.

Аднойчы, калі ён быў адзін, я падсеў да яго і пачаў распытваць.

— Мая маладосць была не вельмі вясёлай, — сказаў ён ціха. — Я нарадзіўся на Віленшчыне, на зямлі, якая належала памешчыку. Зямля была чужая, і чужы чалавек кіраваў маім лёсам — гэтак жа, як на працягу многіх стагоддзяў лёс Беларусі вызначалі польскія і літоўскія шляхціцы. Усё было амаль так, як у часы прыгоннага права. Бацька мой памёр, калі мне было дваццаць год. Я пачаў працаваць на бровары — зарабляў на ўсю сям'ю. Я — самавук.

— З дзяцінства я марыў аб адукацыі, — працягваў ён са смуткам. — Чытаў. Маё юнацтва нагадвала маладыя гады Максіма Горкага, майго настаўніка і кіраўніка. Горкі, Някрасаў, Шаўчэнка і Міцкевіч — вось мой універсітэт. Я любіў кнігі і, каб увесь час быць сярод іх, стаў урэшце бібліятэкарам. Але яшчэ да гэтага пачаў пісаць вершы. Дата май-

го сапраўднага нараджэння — 1905 год. Я пісаў простыя вершы ў народным стылі. Вы ж, чэхі, прайшлі падобны шлях, толькі на сто год раней. Я перакладаў з рускай, украінскай і польскай моваў. Пазнаёміўся і з вашай літаратурай. Малыя славянскія народы наогул ведалі аб славянстве больш, чым вялікія. Калі пачалася Кастрычніцкая рэвалюцыя, я быў салдатам у Смаленску.

Для бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гімн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

З тых часоў, як Мінск стаў сталіцай Беларускай ССР, я там жыву. Я — паэт новай беларускай вёскі. Ясенін і Клюеў доўга нылі па старой вёсцы. Я ж не сумаваў па ёй ні хвіліны.

— Хай яна ідзе да д'ябла, тая старая, жабрацкая, забабонная, непісьменная беларуская вёска, — сказаў я сабе.

Паэт усміхнуўся.

— Палессе наша прыгожае. І робіцца яшчэ прыгажэйшым, калі пяцігодка кроіць яго, асушвае там балоты і перабудоўвае ўсё на новы лад, па-свойму:

І ляжаць канавы,
Тыя магістралі,
Па іх воды рэчкай,
Усё далей, далей...

— Цяпер, без паноў і памешчыкаў, Беларусь стала багатай краінай. Будучыя Янкі Купалы будуць нараджацца не на чужой зямлі, і не галеча будзе іх універсітэтам.

Пра сябе ён больш нічога мне не сказаў. Гаварыў ужо толькі пра Максіма Горкага і пра маладых беларускіх паэтаў, для якіх ён бы хацеў быць тым, кім для яго быў Горкі.

— Мы ўпэўнены, што і Беларусь дасць такіх паэтаў, імёны якіх пранікнуць ва ўсе куткі свету, як імёны рускіх паэтаў. Наша развіццё будзе шпарчэйшым. Мы адчуваем свае слабыя мясціны. Я ведаю, што мы толькі будзіцелі *. Мы толькі прайшлі дзяцінства свайго літаратурнага развіцця. Але грунт ужо ёсць. Гэта — народная лірыка і балада. Гэта — творы Якуба Коласа. І мая праца ад карамзінскага фальклору да крытычнага і сацыялістычнага рэалізму. Усё гэта — жыватворчая глеба для будучай вялікай беларускай літаратуры — паэзіі, драмы і галоўным чынам прозы, якая нам так патрэбна.

Паэт ахвотна ездзіў разам з усімі па Чэхіі, Маравіі і Славакіі, аднак вельмі часта адставаў ад дэлегацыі. То ў якой-небудзь чэшскай ці славацкай вёсцы гутарыў з сялянамі, то гадзінамі стаяў перад вітрынамі кнігарні, потым заходзіў у яе і аглядваў выданні і афармленне кніг. Але больш за ўсё ён любіў хадзіць па Празе зусім адзін. Ён адшукваў далёкую Віфлеемскую капліцу **, задумліва глядзеў на Градчаны з Карлавага моста, потым прыходзіў радасны, памаладзелы і гаварыў:

— Якія вы шчаслівыя, што вашы прадзеды, першымі з славян рушыўшы ў далёкі паход, дайшлі аж да гэтай бласлаўлёнай зямлі.

— Мы, і праўда, шчаслівыя. Толькі гэтае шчасце трэба было адстойваць крывёй!

— Баюся, — гаварыў ён, — што гэта не канец, што яшчэ прыйдзецца абараняць родную краіну — і вам, і нам...

Не думаў ён тады, што новая вайна ўжо так блізка і што ён яе не перажыве, як не думаў, што рука чужынца замахнецца на плён яго будзіцельскага жыцця.

Публікацыя і пераклад
з чэшскай мовы
**А. Мажэйкі.**

* Будзіцелямі ў Чэхіі называюць выдатных дзеячоў эпохі нацыянальнага Адраджэння (канец XVIII — пачатк XIX ст.) Й. Даброўскага, Й. Юнгмана, Ф. Палацкага, П. Шафарыка і іншых.

** У Віфлеемскай капліцы чытаў свае рэфарматарскія пропаведзі Ян Гус, вялікі чэшскі патрыёт, натхніцель нацыянальна-вызваленчага руху XV ст.



# ВЯЛІКІ МЫСЛІЦЕЛЬ, КРЫТЫК, ПУБЛІЦЫСТ

### 150 год з дня нараджэння В. Р. Бялінскага

*«Кожны твор, у якім бы там ні было родзе, добры ва ўсе вякі і ў кожную хвіліну, калі ён па свайму духу і форме нясе на сабе адбітак свайго часу і задавальняе ўсе яго патрабаванні».*

*«...літаратура абавязкова павінна быць выражэннем-сімвалам унутранага жыцця народа».*

*«Якім бы багатым і раскошным ні было ўнутранае жыццё чалавека, якой бы гарачай крыніцай ні біла яно знутры і якімі б хвалямі ні лілося цераз край—яно не поўнае, калі не засвоіць у свой змест інтарэсаў знешняга яму свету, грамадства і чалавецтва».*

*«Любіць сваю радзіму значыць — палымяна жадаць бачыць у ёй ажыццяўленне ідэалу чалавецтва і па меры сіл сваіх садзейнічаць гэтаму».*

**З выказванняў В. Р. Бялінскага.**

# СЮЖЭТ У АПАВЯДАННІ

«Сюжэт — гэта сувязі, супярэчнасці, сімпатыі, антыпатыі і наогул узаемаадносіны людзей — гісторыі, росту і арганізацыі таго ці іншага характару, тыпу», — так вызначыў сутнасць мастацкага сюжэта, яго сувязь з вобразнай сістэмай твора Аляксей Максімавіч Горкі.

Сюжэт — не застылая схема, не плён фантазіі мастака. Гэта адзін з элементаў формы літаратурнага твора, які цалкам залежыць ад зместу і закліканы быць сродкам пазнання рэчаіснасці, адлюстроўваць яе рух. Сапраўдны мастацкі сюжэт малюе не здарэнні, не займальныя эпізоды, а ўзаемаадносіны паміж людзьмі; падзеі, учынкі герояў у такім сюжэце падначалены мэце: як мага больш праўдзіва і ярка выявіць сутнасць чалавечага характару, істотныя рысы пэўнай гістарычнай эпохі, таго ці іншага кола людзей. Цяжкасць, з якой сустракаецца пісьменнік пры рабоце над сюжэтам, і заключаецца ў тым, каб знайсці найбольш праўдзівыя сітуацыі для выяўлення сваёй задумы, пры дапамозе сюжэта звязаць усе падзеі, усе ўчынкі герояў трывалым ланцугом неабходнасці.

Апавяданне заключае ў свае «цесныя рамкі» (В. Бялінскі) жыццёвы матэрыял, невялікі па аб'ёму, але глыбокі па зместу. Будова сюжэта ў апавяданні носіць іншы характар, чым, напрыклад, у аповесці ці рамане, якія ахопліваюць больш шырокія з'явы рэчаіснасці, але мэта яго адна: быць сродкам мастацкага пазнання жыцця, мастацкага аналізу псіхалогіі чалавека.

Яшчэ ў той час, калі раман, аповесць і апавяданне толькі станавіліся на чале ўсіх іншых родаў мастацкай літаратуры, В. Р. Бялінскі з уласцівай яму дальнабачнасцю заўважыў іх вельмі характэрную, адметную рысу: у творах гэтага літаратурнага роду талент адчувае сябе бязмежна свабодным. У артыкуле «Погляд на рускую літаратуру 1847 года» ён пісаў: «Раман і аповесць даюць поўную прастору пісьменніку ў адносінах пераважнай уласцівасці яго таленту, характару, густу, напрамку і т. д.». Уся наступная гісторыя развіцця празаічных жанраў пацвердзіла гэтую справядлівую думку. Бясконца многа, напрыклад, можна сказаць пра асаблівасці стылю зусім розных пісьменнікаў, якія працавалі ў рамках аднаго жанра — напрыклад, апавядання.

Савецкі літаратуразнаўца Е. Добін у сваёй цікавай кнізе «Жыццёвы матэрыял і мастацкі сюжэт» прыводзіць безліч прыкладаў, якія сведчаць аб сувязі класічных мастацкіх сюжэтаў з тымі ці іншымі жыццёвымі фактамі, падзеямі. Да першага раздзелу сваёй кнігі аўтар узяў эпіграфам словы А. М. Астроўскага: «Драматург не выдумляе сюжэтаў — усе нашы сюжэты запазычаны. Іх дае жыццё, гісторыя, расказ знаёмага, часам газетны артыкул».



Аляксей Кулакоўскі аднойчы зрабіў цікавае прызнанне. Аказваецца, яго роздум над сюжэтам аповесці «Нявестка» пачаўся з таго моманту, калі маці расказала яму пра аднаго чалавека з яе вёскі, старога і адзінокага. Ён хваліўся, што маладая нявестка вады яму нагрэла, сказала: «Папар, тата, ногі, кашляць не будзеш».

«... Адна дэталь з цёплай вадой, — піша А. Кулакоўскі, — у асноўным вызначыла ў маім уяўленні характар той дзяўчыны, якая потым стане нявесткай адзінокага чалавека. Гэтая дзяўчына павінна быць прыгожай, ласкавай і абавязкова разумнай... Вызначыліся таксама іншыя персанажы, і такім чынам з'явілася на свет аповесць «Нявестка».

На думку напісаць апавяданне «Галя» Янку Брыля навёў зусім нязначны, здавалася б, выпадак. Пісьменнік на адной з сустрэч з чытачамі расказваў, як аднойчы ён прыехаў пагасціць у родную вёску. Недалёка ад хаты, дзе ён жыў, па начах працаваў трактар. Бясконцы гул не даваў пісьменніку заснуць і спачатку проста раздражняў, але аднойчы навёў на такую думку: што, калі б да гэтага гулу прыслухоўвалася дзяўчына, якая з нецярплівасцю чакае трактарыста? Уявіліся персанажы, потым пачалі складвацца сюжэтныя сітуацыі, у якіх павінны праявіцца характары гэтых персанажаў, і ўрэшце атрымаўся адзін з цудоўных твораў сучаснай беларускай літаратуры.

Але нават тады, калі жыццёвы факт цалкам кладзецца ў аснову твора, пераўтварэнне фактычнага матэрыялу ў мастацкі сюжэт не адбываецца просталінейна, яно абумоўлена цэлым шэрагам абставін: і індывідуальным стылем пісьменніка, і сілай таленту, і, што вельмі важна, яго светапоглядам. Гісторыя літаратуры дае нямала прыкладаў таго, які складаны шлях праходзіць думка мастака нават тады, калі аснова сюжэта, яго касцяк цалкам запазычаны з жыцця. У гэтых адносінах шмат павучальнага ў шырока вядомай гісторыі напісання Л. М. Талстым рамана «Уваскрэсенне». Спатрэбілася амаль дзесяць год напружанай працы, пакутлівых роздумаў і няспынных пошукаў, пакуль пісьменнік знайшоў адпаведную форму для свайго твора, распрацаваў такі сюжэт, які перадаваў суровую праўду жыцця, а не проста праўду факта, і быў па сутнасці сваёй і яркі, і захапляючы, і так добра ілюстраваў талстоўскую філасофію самаўдасканалення. У выніку паявіўся раман, дзе цэнтр цяжару з маральнай сферы перанесены ў сферу грамадскую, дзе бязлітасна асуджаны ўвесь самадзяржаўны лад.

Звернемся, аднак, да фактаў сучаснай беларускай літаратуры. Янка Скрыган у «Слове да малодшых» («Маладосць» № 10, 1957 год) дзеліцца вопытам пісьменніцкай работы. Яго расказ — яркае сведчанне таго, як не проста «ўкладваецца» жыццёвы факт або жывы чалавечы характар у мастацкі сюжэт. Янка Скрыган прызнаецца: «Доўга і цяжка пісаўся «Паваротак ля сасны». Перада мною стаяла задача даць супярэчлівы характар. Для гэтага ў мяне быў вельмі добры прататып. Але яго вобраз быў значна шырэйшы за той, які мне трэба было даць у «Паваротку»... Я пісаў «Паваротак» тры разы. Не папраўляў, не перапісваў, а пісаў кожны раз занава, увесь час дамагаючыся таго, што мне было патрэбна. У першым варыянце Майбарада быў шырэй за замысел, у яго многа было тых рыс, якія пасля не вязаліся з паваротам яго натуры ў канцы апавядання. Душэўныя зрухі, калі ён даваў бабульцы жменю грошай, не рабілі эфекту, яны здаваліся занадта натуральнымі. Другі варыянт, наадварот, зрабіў Майбараду занадта драпежным, яго ўчынак здаваўся неверагодным, не ўласцівым натуры. Толькі трэці варыянт больш-менш супакоіў мяне».

На цяжкасці ў рабоце над сюжэтам не аднойчы скардзіліся і вялікія пісьменнікі мінулага стагоддзя, і нашы сучасныя мастакі. Адкуль гэтыя цяжкасці, чым яны выкліканы, у чым іх сутнасць?

* * *

Мастацкі сюжэт у апавяданні, як вядома, грунтуецца на драматычнай калізіі, псіхалагічным напружанні, а не на знешняй займальнасці падзей. Ступень гэтай напружанасці можа быць рознай, — гэта залежыць і ад

зместу самога жыццёвага матэрыялу, які лёг у аснову апавядання, і ад творчай манеры пісьменніка, ад яго індывідуальнай асаблівасці бачання свету. Янка Брыль, напрыклад, бачыць паэтычнае, незвычайнае ў самых. на першы погляд, будзённых рэчах. І не толькі бачыць, але і ўмее расказаць аб гэтым чытачу пры дапамозе сюжэтаў самых немудрагелістых з пункту погляду займальнасці. Каб намаляваць дзеда Вячэру (апавяданне «Надпіс на зрубе»), гэтага мудрага, нястомнага нават у глыбокай старасці чалавека, клапатлівага гаспадара, пяшчотнага бацьку і дзеда, пісьменнік не шукаў складаных сюжэтных хадоў. Нічога асаблівага, знешне яркага ў жыцці дзеда Вячэры не адбылося, пісьменнік расказаў аб адным самым звычайным дні яго жыцця. Але ў гэты дзень у душы старога змагаліся супярэчлівыя пачуцці: ён паспрабаваў пайсці насуперак сваім пераконанням, свайму сумленню, адступіць ад сваіх прынцыпаў, і не змог. Добры чалавеказнаўца, Янка Брыль здолеў пранікнуць у самыя патаемныя думы старога рыбака, адчуць самыя няўлоўныя рухі яго душы і на гэтым — на добрым веданні псіхалогіі чалавека — пабудаваць напружаны драматычны сюжэт.

Характар героя раскрываецца ва ўзаемаадносінах з іншымі людзьмі. Дзеда Вячэру трывожыць тое, што высокі, густы Пярэймаўскі бор, які падступае з поўдня да азёрнай затокі, намечаны на выруб і пакалечаны вінкелямі падсочкі. Ён хадзіў ужо са скаргай да раённага начальства, звяртаўся за дапамогай і да акадэміка Васіля Раманавіча, што жыве тут побач, на дачы. Васіль Раманавіч, хоць і паабяцаў памагчы дабрацца да такіх лесарубаў, але не вельмі спяшаўся дзейнічаць. Раззлаваўшыся на ўсё і на ўсіх, стары Вячэра бярэ пілу, сякеру, бутэльку пярцоўкі (каб «заліць вочы» лесніку) і адпраўляецца ў лес ссекчы якое дрэва дачцы на хату. Але ссекчы дрэва ў яго не паднялася рука. Усе гэтыя падзеі абмяркоўваюцца спачатку дома ў размове з сынам і нявесткай, потым дзед расказвае аб сваім настроі маленькай унучцы Ганначцы па дарозе ў Нівішча і нарэшце шчыра раскрывае душу перад дачкой Надзяй, для якой ён і збіраўся ссекчы дрэва. І ў кожнай з гэтых сюжэтных сітуацый пісьменнік не паўтараецца, а раскрывае характар свайго героя так, быццам асвятляе яго з розных бакоў.

Вось ён запальчывы, яршысты ў размове з сынам. Сын Іван не прыймае блізка да сэрца бацькаву трывогу наконт Пярэймаўскага бору і нават трошкі пасмейваецца з бацькі, які так ваяўніча быў накіраваўся ў лес, але з паўдарогі вярнуўся. Гэта і злуе старога. Пісьменнік перадае гэту сцэнку ў дыялагу, па-майстэрску лаканічным, яркім і дакладным.

«— Я ж і кажу, — гаварыў стары, старанна дрыгаючы сівой барадкай, — каб тая ручка адсохла, што галавы не слухае.

— Ты зноў пра падсочку?

— А што ж! Хіба гэта парадак? Увесь Пярэймаўскі бор падсочылі! Над самым возерам! Я яшчэ, шануючы вас, з голай с... бегаў, калі ён стаяў. Дзве вайны выстаяў, а цяпер вось знайшоўся дурань — на выруб яго!..

— Вы, тата, ешце, — ціха азвалася поўненькая, чарнабровая Маня. — Стаяў ён і будзе стаяць...

— Паваляць, дачушка! Год — два, і паваляць! На тое ж і падсочку зрабілі... А ты чаго вышкаляешся?

Іван, адрагатаўшыся, спытаўся:

— Дык ты яго пашкадаваць хацеў? З пілою?

Стары загарэўся, нават руку з кавалкам хлеба задзёр.

— Гатовае, што на дварэ ляжыць, кожны дурань можа ўзяць! Ты мне не тыцкай гэтым паленам пад нос! Сам здароў, ведаю, што раблю!..

— Ну і пярцоўка... Яна ў сваёй хаце п'ецца лепш...»

Але вось стары Вячэра едзе ў лодцы з любіміцай сям'і маленькай унучкай Ганначкай. Гэты сівы дзед у шэрай, як ралля, расхрыстанай на сухіх, загарэлых грудзях кашулі паўстае перад намі бясконца пяшчотным і ўважлівым. Які ўжо там субяседнік — пяцігадовая дзяўчынка: што зразумее, а што і не. Але дзеду карціць ранішняе здарэнне, ён не перастае думаць пра яго і нарэшце пачынае:



«— Жыве другі і сам не ведае, на якім ён свеце. Такі лес, унучачка, што душа радуецца. Над самым возерам, сасна ў сасну! А тут зрабілі падсочку!..

— А што гэта?

— Смалу пускаюць з сасны.

— А навошта?

— Лес гэты думаюць секчы. Крапівою б каторага, каб ты сесці паўгода не мог!.. Хто дзе ўздумае, як уздумае, так і кладзе гэты лес»...

Унучка не пярэчыць, і дзед шчыра разгаварыўся, паскардзіўся ёй і на акадэміка Васіля Раманавіча, у якім так расчараваўся. Не сказаў толькі пра свой нядаўні намер: ссекчы дрэва ў гэтым прыгожым Пярэймаўскім лесе.

Больш за ўсё хвалюе старога іменна тое, што ён ледзь не здрадзіў сваім жыццёвым прынцыпам. І ён ізноў пачынае тую самую гаворку з дачкой Надзяй:

«— Жывуць каторыя, — пачаў ён, прысеўшы каля вогнішча, — жывуць ды глядзяць, каб толькі дзе-набудзь урваць, адскубсці, пацягнуць... Чужому не скажу, дачушка, бо брыдка... І я табе гэтае палена не сваё хацеў прывезці, а таксама крадзенае. Учора такое злосці набраўся за тую падсочку... Я гаварыў ужо табе. Ды і на Васіля Раманавіча, што марудзіць... Ужо з Іванам да самай Дзікай Бабы падплылі. Лесніку Буглацкаму, падумаў, залію тым часам вочы якою-небудзь пярцоўкай і — як камень у возера... Але ўсцярог мяне бог на старасці год. Не наеўся ты, кажа, дык і не наліжашся. Няхай стаіць тая сасна ды богу дзякуе, што я хацеў ды мне хацець не даў».

Надзя па-жаночаму чула аднеслася да бацькавай споведзі і, кранутая яго шчырымі клопатамі аб яе ўдовіным жыцці, нават не стрымала слязы. А стары Вячэра больш-менш супакоіўся толькі тады, калі да канца выказаўся перад дачкой.

Як вядома, кампанентамі сюжэта, яго састаўнымі элементамі з'яўляюцца пейзаж, лірычныя адступленні, партрэты герояў. Характэрная асаблівасць дадзенага апавядання Янкі Брыля, як і многіх іншых яго апавяданняў, у тым, што ўсе гэтыя кампаненты арганічныя ў сюжэтнай канве. Партрэтныя замалёўкі, апісанне цудоўнага летняга ранку або прыгожага азёрнага пейзажу — усё гэта неад'емныя і актыўныя часткі сюжэта.

Узяць, напрыклад, партрэт. Пісьменнік не мае звычкі проста паведамляць чытачу, якія вочы, якія валасы, якая постаць у яго героя, — ён дае партрэтныя замалёўкі асобнымі штрыхамі, надзвычай арганічна звязанымі з сюжэтнымі сітуацыямі. Калі стары Вячэра ішоў на сямейны назіральны пункт, — аброслы бур'янам нямецкі дот, — аўтар зазначыў, што дзед неяк крыва стаўляў сухія загарэлыя ступакі, нібы на ўсякі выпадак стараўся лепш трымацца за зямлю. Але вось стары рыбак углядаецца ў водную гладзь, чакаючы сына, брыгадзіра рыбалавецкай брыгады, і пісьменнік дае яшчэ адзін яркі партрэтны мазок: «Пад казырком памятай кепкі, пад сівізной брывей — напружана жмурацца вочы. Яны нагледзеліся за век і на яснае сонца, якога так шмат бывае на крынічна-празрыстай азёрнай вадзе, і на сцюдзёную цемрадзь, калі вада і вецер — не разбярэшся: хто зверху, хто знізу! — здзекуюцца з упартасці чалавека. Ужо і стомленыя, але яшчэ ўсё па-рыбацку цярплівыя, быстрыя вочы знайшлі-такі ў вясёлым бляску залатой вады патрэбнае!»

Пісьменнік моцна валодае ўвагай чытача не толькі тады, калі ў драматычна напружаных сюжэтных сітуацыях раскрывае глыбіні чалавечай псіхалогіі, але і ў «апісальных» мясцінах свайго твора. Апавяданне «Надпіс на зрубе» пачынаецца, па сутнасці, з аўтарскага расказа аб герої, з невялікага экскурсу ў яго біяграфію. «Дзедава хата, — зазначае аўтар, — стаіць усімі вокнамі на возера, да сонца. За гумном (а гумны тут, па ўраджаю, маленькія) на высокім узгорку тырчыць аброслы бур'янам нямецкі дот, яшчэ з першай сусветнай вайны... Пакуль жыла старая Вячэрыха, яна часта ўзыходзіла сцежачкай на гэты дот і з-пад рукі выглядала свайго нястомнага Астапа. Пажыла яна, няма чаго грашыць, семдзесят сем гадоў. А вось ужо дзесяць мінула, як дзед, трохі старэйшы за яе, жыве адзін.

І толькі сёлета перастаў ён рыбачыць, адгрукаўшы на гэтай цяжкай працы не нейкія там трыццаць і тры гады, як той, што злавіў залатую рыбку, а роўна семдзесят пяць. Многія рыбакі не памятаюць нават, калі гэта дзеда Вячэру празвалі «Каралём вугроў»...

Цяпер ужо стары сам узбіраецца сяды-тады на тое ўзвышша, адкуль яго чакала калісьці Ганулля, і глядзіць таксама з-пад рукі, але куды быстрэйшым вокам, на любую ваду, усю ласку і ўсе капрызы якой ён вывучыў не горш, чым натуру сваёй нябожчыцы, а дно азёрнае — лепш, чым падлогу роднай хаты».

Аўтар паведамляе пра героя самыя, здавалася б, нейтральныя рэчы: дзе стаіць яго хата, які яго ўзрост, чым ён займаўся ўсё сваё жыццё. Але кожны радок так і свеціцца глыбокай аўтарскай сімпатыяй да старога рыбака, якая абавязкова ўрэшце перадаецца і чытачу.

А колькі адкрытага аўтарскага замілавання сваім героем вось у такіх радках:

«А дзед быў прыгожы...

Прыгожая была гэта шэрая, вельмі жыццёвая, натуральная прастата, гэтая яшчэ ўсё не растрачаная сіла, якую і не высушылі, і не прыглушылі дзевяць дзесяткаў больш катаржных, чым радасных гадоў. Прыгожы быў позірк светла-блакітных вачэй пад густымі, сівымі брывамі, вачэй адкрытых і чыстых, як само бясхмарнае неба, паўторанае ў крынічным люстры бяскрайняга возера. Прыгожы быў, урэшце, увесь гэты звычайны, будзённы малюнак: вялікая чорная лодка на вадзяной пустыні, у лодцы — шэры дзед і светленькая ўнучка, а за кармой, на буксіры, — доўгае сасновае бервяно і яшчэ даўжэйшы трохкутнік растрывожанай вады».

Янка Брыль, пісьменнік з ярка выражаным лірычным пачуццём, шырока карыстаецца такім прыёмам, як аўтарская інтанацыя. Яна памагае аўтару раскрыць задуму твора, паказаць свае адносіны да падзей, узмацніць эмацыянальнае ўздзеянне на чытача. Пры гэтым аўтарская інтанацыя праяўляецца зусім непрыкметна, без якой бы там ні было надакучлівасці. Экспрэсіўнасць, дынамічнасць аўтарскаму апавяданню надае незвычайная эмацыянальнасць мовы, уласцівае пісьменніку пачуццё гумару, нарэшце, майстэрства ў выбары адзіна патрэбнага слова, за якім чытач чуе гукі жыцця, бачыць яго фарбы, адчувае пахі.

* * *

Да ўнутранай, псіхалагічнай драматычнасці сюжэта імкнецца ў сваёй творчасці і Аляксей Кулакоўскі. Ён па-свойму бачыць свет, па-свойму разумее чалавека, мае свой уласны мастацкі почырк, але з Янкам Брылем яго зближае вось гэтае ўменне разгледзець чалавека (добрага ці дрэннага) у яго будзённых справах, пабудаваць сюжэт на псіхалагічнай калізіі, хоць, паўтараем, абодва гэтыя пісьменнікі ў сваёй творчасці карыстаюцца рознымі мастацкімі прыёмамі.

Кожнае апавяданне Янкі Брыля прасякнута гарачым лірычным пачуццём, за кожнай фразай, нават за кожным словам мы бачым аўтара, адчуваем аўтарскую інтанацыю. Часам сюжэт апавядання амаль цалкам трымаецца на эмацыянальнасці, глыбокім лірызме аўтарскай мовы (апавяданні «Дваццаць», «Асколачак вясёлкі», «Мой родны кут»). У творах жа Аляксея Кулакоўскага асабістыя аўтарскія пачуцці, сімпатыі і антыпатыі непасрэдна не выказваюцца. Пісьменнік быццам глядзіць на людзей і на падзеі аднекуль збоку і дае ім магчымасць самім гаварыць за сябе. Зразумела, гэта пісьменніцкая «нейтральнасць» уяўная: аб эстэтычных ідэалах аўтара яскрава сведчыць увесь твор цалкам. Таму ролю асноўнай «рухаючай сілы» ў сюжэтах Аляксея Кулакоўскага выконваюць трапная мастацкая дэталь, дакладна прадуманы дыялаг.

У апавяданні «Дванаццаты, жорсткі», напрыклад, няма незвычайных здарэнняў. У дарозе сустрэліся незнаёмыя людзі і некаторы час ехалі разам, але з іх размоў, з таго, як яны адносіліся адзін да аднаго, з іх паводзін, з нязначных, здавалася б, учынкаў паўсталі перад намі пэўныя чалавечыя характары. Вось пачатак гэтага апавядання:

«Паступова ўсё стала прыходзіць да звычайнага ў дарозе парадку.



Праваднiца ўскінула на верхнюю полку свой жоўты сцяжок, з якім нядаўна стаяла на пероне, і пачала хадзіць па купэ, збіраць плацкартныя білеты. Руплiва ўладкоўвалася ў сваім купэ адна ўжо даволі немаладая пара, якую ўсе прыкмецілі па тым, што яна зайшла ў вагон з чатырма вялізнымі чамаданамі і здаравенным куцахвостым бульдогам. На кручку суседняга купэ ўжо вісеў доўгі вайсковы балахон з капюшонам і каля яго стаяў, прыгладжваючы мяккія жаўтлявыя валасы, стройны лейтэнант. На ніжняй полцы гэтага ж купэ сядзела між клункаў дзяўчынка такога ўзросту, калі пяткі ног лёгка дастаюць рота. Каля яе нешта папраўляла і перакладвала ў клунках яе маці, зусім яшчэ маладая жанчына з гладкімі светла-русымі валасамі, заплеценымі ў дзве касы».

Тут прадстаўлены амаль усе героі апавядання, аднак няма ніводнага намёку на тое, якія гэта людзі і як да іх адносіцца аўтар. І праваднiца, і немаладая пара з суседняга купэ, і лейтэнант з жонкай пачнуць праяўляць свае характары толькі пасля таго, як уступяць у размову.

Пазнаёміліся суседзі па купэ Ярмолаў і Валодзя Мох. Пачуўшы прозвішча Ярмолава, Валодзя зазначыў:

«— У вас прозвішча, ого!.. Не тое, што маё — Мох. Здаецца, нейкі адмірал быў некалі ў нас з такім прозвішчам.

— Не адмірал, а генерал, — заўважыў лейтэнант.

— Ну, я ж кажу: нехта быў. А гэта мая спадарожніца жыцця, — паказаў Валодзя на жанчыну, — Зіна. А гэта — дачка».

Ужо з гэтай кароткай размовы так і патыхае пустой фанабэрыстасцю Валодзі. Яго ніколькі не збянтэжыла тое, што ён недзе нешта пераблытаў, а ў словах «мая спадарожніца жыцця — Зіна» гучаць наўмысная напышлівасць, іранічная насмешка, хоць аўтар ніяк не каменціруе іх і мы яшчэ нічога не ведаем пра Валодзю.

Аўтар дадасць некалькі сюжэтных штрыхоў, некалькі мастацкіх дэталей, якія характарызуюць адносіны лейтэнанта да жонкі, да сваіх бацькоўскіх абавязкаў, — і перад намі паўстане вобраз самаўпэўненага, абмежаванага эгаіста.

Не паспела яшчэ сям'я як след уладкавацца ў сваім купэ, як Валодзя Мох пайшоў да суседзяў гуляць у карты. Жонка просіць яго хвілінку патрымаць дзіця, пакуль яна дастане з клункаў ды пасцеле пасцельку.

— Зараз! — адказаў Валодзя.

Але ў сваё купэ не прыйшоў, і Зіна пачала варушыць клункі адна.

Або такі штрых. Дзяўчынка заснула, Зіна лягла побач і таксама задрамала. У гэты час поезд спыніўся на адным з прыпынкаў. Пасажыры пачалі снаваць сюды-туды па калідоры, а дзверы ў купэ, дзе спалі Зіна з Людачкай, былі адчынены. Валодзя Мох стаяў у калідоры, але яму і ў галаву не прыйшло праявіць клопат аб сваёй «спадарожніцы жыцця» і аб дачцы (яны ж усю ноч збіраліся — не спалі) і прычыніць дзверы. Пры гэтым пісьменнік застаецца верны сабе: ён ні адным словам не выдае ні свайго абурэння, ні асуджэння, ён проста расказвае, што ў калідоры стаялі Ярмолаў і Валодзя Мох; калі пачалі сюды-туды снаваць пасажыры, Ярмолаў (а не Валодзя!) павярнуўся, ціха прычыніў дзверы і зноў стаў побач з Валодзем.

Ну і нарэшце вельмі характэрная, вельмі яркая сюжэтная сітуацыя: на наступным прыпынку Валодзя лавіў сабаку, што ехаў у суседнім купэ (ён на пероне вырваўся з рук гаспадыні), таму нічога не паспеў купіць есці маленькай дачцы і бесклапотна расказваў аб гэтым, а калі жонка нясмела спытала, ці купіў ён што-небудзь, каб накарміць Людачку, нават раззлаваўся:

«— От, дзівачка! — сурова адказаў Валодзя. — Яшчэ пытае. Я ж кажу, што перад самым званком забег у буфет. А да гэтага не мог».

Трошкі з іншай інтанацыяй, з іншым адценнем, але зноў гучыць самаўпэўненае валодзева «Я ж кажу», якое так трапна характарызуе героя нават без аўтарскіх рэмарак.

У сюжэце заўсёды праяўляецца пісьменніцкая індывідуальнасць. Дапамагаючы пісьменніку раскрыць мастацкі вобраз, намаляваць характар, сюжэт так ці інакш сведчыць аб разуменні мастаком жыцця, выяўляе яго думкі аб людзях, аб грамадстве, аб жыццёвых супярэчнасцях.

Апавяданні Васіля Быкава, напрыклад, вызначаюцца тым, што яны пабудаваны на напружаных драматычных калізіях. Пісьменніку, відаць, лягчэй разгледзець чалавека, лягчэй намаляваць яго ў момант найвышэйшага напружання сіл, у вострых, яркіх сітуацыях. Такая будова сюжэта, калі драматычнае напружанне ў творы паступова ўзрастае і абавязкова мае сваю кульмінацыю, характэрна для большасці апавяданняў Васіля Быкава («На сцяжыне жыцця», «Уначы», «Дваццаты», «Страта» і інш.)

Гераіня апавядання Васіля Быкава «Страчаныя мары» Ірынка выйшла замуж, як ёй здавалася, за добрага, клапатлівага, вясёлага інжынера Вадзіма. Яна ні ў чым не можа папракнуць свайго мужа, і тым не менш радасны, светлы настрой часта беспрычынна саступае месца нейкай панылай незадаволенасці. Адкуль такое адчуванне? Ірынка зразумела гэта толькі тады, калі пазнаёмілася з былым аднакурснікам мужа — Анатолем, натурай актыўнай, чалавекам з багатай душою і рамантычнай закаханасцю ў жыццё. Яна зразумела, што раздражняла яе ў мужы: яго бяскрылы практыцызм, імкненне па-мяшчанску ўтульна, бесклапотна пражыць жыццё. Сустрэча з Анатолем — цэлая падзея ў жыцці Ірынкі, яна дапамагла зразумець галоўнае: трэба нешта рабіць, нешта перайначыць, інакш яна ўзненавідзіць сябе.

Цікава, што ў апавяданні «Дванаццаты, жорсткі» А. Кулакоўскага і ў «Страчаных марах» В. Быкава аднолькавы канфлікт: маладая жанчына адчула яшчэ няяснае расчараванне ў мужы, яна сустракаецца з чалавекам, які зразумеў бы яе парыванні і падтрымаў бы самыя высокія яе мары. Але як па-рознаму вырашана тэма, як па-рознаму распрацаваны сюжэты! Калі ў апавяданні «Страчаныя мары» сустрэча Ірынкі з Анатолем — кульмінацыя твора, якая дае паварот усім падзеям, то Кулакоўскаму сустрэча Зіны з лейтэнантам Ярмолавым спатрэбілася ў сюжэце для таго, каб адцяніць падгледжаны пісьменнікам у жыцці жаночы характар ва ўсёй яго супярэчлівасці. Зіна шчыра і глыбока кахае свайго Валодзю, яна дастаткова разумная, каб бачыць эгаізм і чорствасць мужа, саромеецца, калі той на людзях бывае грубы з ёю, але ўсё яшчэ бязмежна аддана яму і гатова дараваць усё, што б ні здарылася. Пакуль што Зіна далёкая ад думкі што-небудзь перайначыць у жыцці.

Зусім не выпадкова, што А. Кулакоўскі ўбачыў і намаляваў іменна такі характар, як у Зіны з яго апавядання «Дванаццаты, жорсткі». Зіна нечым нагадвае Ларысу з аповесці А. Кулакоўскага «Нявестка». І трэба думаць, што абодва гэтыя жаночыя вобразы — плён роздуму пісьменніка над жыццём, плён яго доўгіх назіранняў. У іх тыпізаваны рысы такой жанчыны, у якой надзвычай жывучае пачуццё любві. Нават калі яна канчаткова расчаравалася ў мужу, такая жанчына вельмі няпроста адважваецца паламаць святое святых — сям'ю і самааддана пераносіць любыя выпрабаванні лёсу.

* * *

Неяк у адным з артыкулаў аб жанры апавядання ў сучаснай беларускай літаратуры было заўважана, што апавяданні Івана Навуменкі «Сямнаццатай вясной» і «Ляпіцаў гай» чытаюцца з цікавасцю, раскрываюць багаты і хвалюючы ўнутраны свет герояў, хоць у гэтых апавяданнях і няма строгага сюжэта. Аўтар артыкула быццам бы і сам здзіўляўся, што без строгага сюжэта могуць атрымацца цікавыя апавяданні, і што ў мастацкай творчасці можна абысціся без такой фармальнасці, як сюжэт. У гэтым сцверджанні яшчэ раз праяўляецца шырока распаўсюджаная памылка — спрошчанае разуменне сюжэта мастацкага твора, як храналагічнай або лагічнай прычыннай паслядоўнасці ў перадачы падзей, фактаў, учынкаў герояў. Калі так разумець сюжэт, то, сапраўды, у названых апавяданнях Івана Навуменкі яго не знойдзеш. Аўтарская думка пераскоквае з адной падзеі на другую без храналагічнай або лагічнай паслядоўнасці. Узяць хоць бы апавяданне «Ляпіцаў гай» (у зборніку яно названа «Хлопцы — равеснікі»). Расказаўшы пра раённае сяло Бацькавічы, пра плошчу, засаджаную таполямі, і пра зялёны домік, дзе звычайна адзначаюцца знамянальныя падзеі, аўтар знаёміць нас са сваімі героямі — ляснічым Цішкам Драздом і настаўнікам Міколам Біцюгом. Героі апавядання толькі распачалі гаворку пра свае заняткі, як аўтар перапыняе яе і сам расказвае пра юнацкія захапленні сяброў: спробы стаць збіральнікамі фальклору, напісаць гісторыю родных Бацькавіч або ўзняць рэвалюцыю ў Балгарыі. Потым зноў ідзе размова сяброў у зялёным доміку і нарэшце — гісторыя Івана Ляпіцы. Так выглядае апавяданне, калі прасачыць за паслядоўнасцю падзей.

Але факт застаецца фактам: твор чытаецца з вялікай асалодай і захапляе чытача, хвалюе яго. Справа ў тым, што ў гэтым апавяданні ёсць сюжэт, строгі ў сваёй адпаведнасці задуме аўтара. Пасля доўгай розлукі сабраліся пад дахам зялёнага доміка сябры дзяцінства, якім цяпер па трыццаць, а дружбе іхняй па дваццаць гадоў. Сабраліся, каб падвесці вынікі зробленага. Кожны з іх заняты сур'ёзнай і вельмі карыснай справай, у кожнага ёсць што расказаць аб сабе, аб сваёй рабоце. Аўтар з добрай, лагоднай усмешкай успамінае юнацкія гады герояў апавядання, глядзіць на тыя часы вачыма дарослага чалавека, які шмат бачыў у жыцці. Усе эпізоды, што ў такой храналагічнай непаслядоўнасці размешчаны ў творы, маюць зусім ясную мэту: намаляваць няўрымслівую, часам наіўную, але высакародную ў сваіх імкненнях душу таго юнака, якога Вялікая Айчынная вайна прымусіла раней часу стаць дарослым. І перад намі вырастаюць людзі, здавалася б, непрыкметныя ў сваёй знешняй прастаце і сціпласці, але з багатым і чыстым унутраным светам.

Іван Навуменка ўмее прымусіць «паняцце свяціцца праз супярэчнасць» (У. І. Ленін). Вось гэта якасць у спалучэнні з глыбокім лірычным пачуццём і складае тое характэрнае, што адрозніваe апавяданні І. Навуменкі. Вельмі часта сюжэтная напружанасць яго апавяданняў грунтуецца на схопленых і раскрытых пісьменнікам супярэчнасцях. У апавяданні «Хлопцы-равеснікі», здаецца, ніякіх асаблівых мастацкіх прыёмаў не ўжывае аўтар, ён проста ад імя аднаго з герояў твора апавядае пра юнацтва сяброў. Пасля таго, як нічога не атрымалася са збіраннем народнай творчасці (аказалася, што песні, запісаныя Міколам ад знаёмых бабулек, надрукаваны ўжо гадоў восемдзесят назад), Мікола падбіў аднаго з герояў гэтага апавядання пісаць гісторыю родных Бацькавіч. Сябры з запалам узяліся за работу. «Але чым далей мы заглядвалі ў глыб сівога веку, тым справа аказвалася цяжэйшай. Па-першае, ніякіх рукапісаў, ці манускрыптаў, у нашых Бацькавічах не знайшлося. А сельсавецкі сакратар Жыкун проста прагнаў нас, калі мы ў імкненні да аб'ектыўнасці папрасілі паказаць царкоўныя кнігі з метрычнымі запісамі.

Адзінай крыніцай для нас, як для гісторыкаў, заставаўся мой васьмідзесяцігадовы дзед Атрахім. Але і тут нас напаткала няўдача. Справа ў тым, што мой родны дзед быў цвёрда перакананы, што раней было ўсё добра, а цяпер усё перавярнулася і стала горшым. Ён не хацеў слухаць ні пра трактары, ні пра заводы, а даказваў сваё. Довадаў у дзеда было не асабліва багата.

— Зойдзеш, бывала, перад вялікім пастом да Румана ці Ёткі, — гаварыў дзед Атрахім, — дык колькі хочаш бяры і тараноў, і селядцоў, і алею. І напавер давалі. А цяпер знайдзі таго тарана хоць за грошы. Богу душой не вінават, а прыходзіцца скароміцца...

У сваёй гісторыі мы збіраліся паказаць Ётку і Румана як бязлітасных эксплуататараў, мясцовых багацеяў і буржуяў. А мой родны дзед узносіў іх да неба. На грунце такога ўзаемнага неразумення прыйшлося нам разысціся з дзедам Атрахімам. Ён не мог для нас, гісторыкаў, служыць надзейнай крыніцай. Але факт застаўся фактам — гісторыя Бацькавіч не была даведзена да канца».

Няхітры расказ, пададзены праз успрыйманне аднаго з удзельнікаў апісаных падзей, але за гэтым расказам увесь час адчуваецца аўтар. Гэта ён, аўтар, паставіў людзей і рэчы ў такія адносіны адзін да другога, у якіх праяўляецца іх супярэчнасць, а праз супярэчнасць — сапраўдная сутнасць. Хлопцы абавязкова хочуць стварыць нешта вялікае і значнае. Сумленнасць іх натуры праяўляецца ў дасціпна заўважаным аўтарам імкненні да аб'ектыўнасці. Але юнацкая непасрэднасць і наіўнасць прыводзяць да таго кур'ёзнага становішча, калі якраз гэтае імкненне становіцца непера-

адольнай перашкодай на іх шляху. Юнакам у школе пераканаўча даказалі, што багацеі — бязлітасныя эксплуататары працоўнага люду, яны давяраюць настаўніку больш, чым дзеду Атрахіму, але пакольні дзед Атрахім не пацвердзіў гэтай ісціны ў адносінах да мясцовых буржуяў, хлопцы не змаглі напісаць гісторыі роднага сяла.

Высакароднасць душэўных парыванняў і разам з тым наіўнасць, якая ідзе ад маладосці і нявопытнасці, характарызуюць сяброў і ў эпізодзе з вывучэннем балгарскай мовы. Мікола некалі думаў прабірацца ў Балгарыю і падымаць там народ на рэвалюцыю. Юнакі сур'ёзна і падрабязна абмяркоўвалі Міколаў план, а Мікола выпісаў аж з Масквы балгарскі слоўнік. Добрай аўтарскай усмешкай прасякнуты расказ аб гэтых планах: «З-за вялікай адлегласці ў часе цяжка ўспомніць, наколькі далёка пайшоў наш Мікола ў балгарскай мове. Але мы памятаем — рэвалюцыйныя лозунгі ён ведаў добра. Ён вымаўляў іх з уздымам, з натхненнем, і русявая пасмачка валасоў спадала пры гэтым на яго высокі лоб. Мы верылі, што за ім, безумоўна, пойдуць балгары на смяротны бой...»

Але вось аўтар становіцца сур'ёзны. Тая сімпатыя, з якой аўтар адносіцца да сваіх герояў і якая ўвесь час так і праглядвала праз аўтарскую ўсмешку, раптам прарываецца напаверх:

«Вядома, Міколу не прыйшлося падымаць рэвалюцыю ў Балгарыі. Паднялі яе там і без яго. Але ж важна другое — Мікола ўсё-такі адчуваў, што рэвалюцыя балгарам трэба, і аб гэтым можна ўспамінаць нават і ў трыццаць год».

Такое ж перапляценне смешнага і сур'ёзнага, нават трагічнага ёсць у расказанай аўтарам гісторыі муляра Ляпіцы. Гісторыя Ляпіцы — адзін з сюжэтных ходаў, строга падначалены аўтарскай задуме. Пачалася вайна, у Бацькавічы прыйшлі немцы. Юнакі складалі планы бязлітаснай барацьбы з германскім фашызмам. Патрэбен быў толькі кіраўнік, чалавек з баявым вопытам. Такога чалавека хлопцы ўбачылі ў асобе былога кіраўніка раённага Асаавіяхіма Хвядоса Рэдзькі. Але як толькі яны намякнулі, што некалі ў Асаавіяхіме была сапраўдная баявая вінтоўка і што яны хацелі б яе атрымаць, Рэдзька замахаў рукамі на хлопцаў і збялеў, як палатно. Вось у гэты час і адбылася ў Бацькавічах гісторыя, якая прымусіла юнакоў пераацаніць свае погляды на рэчы, зрабіла іх больш сталымі. Не былы раённы асаавіяхімавец, а вясёлы муляр Ляпіца сваім гераічным учынкам дапамог юнакам.

Манера будаваць сюжэт так, каб «паняцце свяцілася праз супярэчнасць», з'яўляецца характэрнай для ўсіх лепшых апавяданняў Івана Навуменкі. Багата валодаючы пачуццём гумару, пісьменнік трапна заўважае жыццёвыя супярэчнасці і на гэтым будуе сюжэтныя калізіі.

Узяць, напрыклад, апавяданне «Прыпяцкая зона». Хлопец з багатай вёскі, размешчанай сярод пшанічнага прастору ў паўднёвай частцы раёна, пакахаў цудоўную дзяўчыну, узгадаваную на пясках Прыпяцкай зоны. Ён гатовы паступіцца і багаццем і прыгажосцю родных мясцін; каб быць разам з любай сэрцу Марыйкай. «А гэтыя двое маладыя і дужыя. Яны не пусцяць цябе ў заняпад. Расці і квітней, Прыпяцкая зона!» — заключае І. Навуменка свой твор. Пачынаючы апавяданне, аўтар апісвае тыя кантрасты і ў прыродзе, і ў гаспадарцы, якімі славіцца гэты цікавы раён. І як лёгка, з якім іскрыстым гумарам, з незатоенай сімпатыяй да пакрыўджаных прыродай мясцін падае гэтыя кантрасты Іван Навуменка!

«Палявая, стэпавая раўніна багацей за Прыпяцкую зону. У гэтым вельмі лёгка пераканацца, калі хоць раз пабываць на кірмашы ў раённым цэнтры...

Галоўную дудку на гэтым кірмашы іграюць, вядома, палявыя калгасы. Яны прывозяць не толькі пшаніцу, сала, масла, кормных япрукоў, індыкоў, курэй і гусей, розную садавіну і гародніну, яны з фанабэрыяй прадаюць тое, што ад веку не расло на забалочаных і пясчаных землях Прыпяцкай зоны. У ларках гэтых калгасаў пад канец лета можна купіць вінаграду, па смаку мала чым саладзейшага за журавіны, якіх процьма на прыпяцкіх імшарах. Аднак жа вінаград ёсць вінаград, тым болей, што яго сюды не прывозяць з-пад Адэсы...

Прыпяцкая зона прывозіць на продаж самае звычайнае, чым нікога не здзівіш. Яна гандлюе бульбай, грыбамі, сушанымі ягадамі, рыбай, бярозавымі венікамі і дрывамі. Растуць, вядома, і ў надпрыпяцкіх вёсках яблыкі і ігрушы. Але гэта звычайныя антонаўкі і бэры зімовыя, якім цяжка спаборнічаць, няхай сабе з недаспелым вінаградам і кавунамі, кожны з якіх па сваёй велічыні толькі крыху большы за кулак таго дзядзькі, што завіхаецца каля вагаў».

Некалькі трапных аўтарскіх заўваг — і звычайныя рэчы аказваюцца асветленымі з таго ўнутранага боку, які бачыць не кожнае вока. Аўтар, напрыклад, адзначае, што палявыя калгасы не проста прадаюць вінаград і кавуны, а прадаюць з фанабэрыяй. Гэтая фанабэрыстасць паварочваецца да нас сваім смешным бокам, калі мы даведваемся, што вінаград па смаку мала чым саладзейшы за журавіны, якіх процьма на прыпяцкіх імшарах, а кавуны па велічыні толькі крыху большыя за кулак таго дзядзькі, які іх прадае.

У строгай, арганічнай сувязі з задумай твора выступаюць у Івана Навуменкі і такія кампаненты сюжэта, як пейзаж, лірычныя адступленні. Характарызуючы розныя мясціны аднаго раёна ў апавяданні «Прыпяцкая зона», пісьменнік расказвае аб кантрастах у прыродзе. Ён піша: «Сонца ўзыходзіць на стэпавай роўнядзі неяк нечакана. Ледзь-ледзь заірдзее на ўсходзе вузенькая палоска, а праз якую-небудзь хвіліну ўжо ўсё наваколле заліта пераліўным, зіхатлівым бляскам. Гэта зусім не падобна на той мяккі, павольны ўсход, які можна наглядаць каля стуленай лясамі і хмызнякамі Прыпяці. Сонца паводзіць сябе тут зусім па-іншаму. Яно тут, як ветлівы наведвальнік, які ніколі не зойдзе ў хату, папярэдне не пастукаўшы ў дзверы. Спачатку лёгкая чырвань заіграе ў вершалінах далёкага бору, потым сонечныя зайчыкі, нібы прабуючы сваю моц, лягуць на спакойныя хвалі ракі, і толькі калі яна ўсміхнецца, ясна і прыветліва, сонца поўнай жменяй кіне свае праменні ў шыбіны вясковых хат...

А вазьміце вецер. Сярод палявога прастору ён свавольны і нахабны. Ён як хоча разгульвае па пыльнай дарозе, прыгінае да самай зямлі пшаніцу, прымушае кланяцца гордыя сланечнікі, уздзірае саламяныя стрэхі хат. Ля Прыпяці ж вецер куды асцеражнейшы. Ён тут калі і разыходзіцца, то з ім ёсць каму паспрачацца. Насупіцца і загамоніць лес, трывожна зашэпчуцца прыбярэжныя лазнякі, а разгневаная Прыпяць высока ўздымае свае празрыстыя хвалі, кідаючы іх адну за другой на нізкія берагі...»

Аўтар здолеў падкрэсліць у пейзажы іменна тое, што складае кантраст паміж стэпавай і лясной зонамі. А ўменне паглядзець на прыроду, як на жывую і разумную істоту, памагае дасягнуць значнага мастацкага эфекту.

* * *

Шмат цікавага можна было б сказаць аб творчасці Янкі Скрыгана, Міколы Лупсякова, Аркадзя Чарнышэвіча, адзначыць прыкметы творчай індывідуальнасці ў апавяданнях маладзейшых нашых празаікаў — Б. Сачанкі, І. Пташнікава, В. Адамчыка. Галоўнае тое, што апавяданне — жанр вялікіх магчымасцей ва ўсіх адносінах: і ў сэнсе мастацкага асваення свету, і ў сэнсе прастору для выяўлення творчых схільнасцей пісьменніка.

**Лідзія ГОЛУБЕВА.**



**Міхаіл Таль віншуе Міхаіла Батвінніка з перамогай.**

Фота Б. Турава.

# МІХАІЛ БАТВІННІК УЗЯЎ РЭВАНШ

Экс-чэмпіён свету Макс Эйве назваў матч-рэванш «двух Міхаілаў» — Батвінніка і Таля — «матчам XX стагоддзя». Гэтае вызначэнне трапна характарызуе велізарную зацікаўленасць літаральна мільёнаў аматараў шахмат усяго свету такой выдатнай падзеяй.

Яшчэ да пачатку матча шмат спрачаліся аб тым, хто пераможа. Прыхільнікі Таля (а на маю думкі іх было больш), перакананыя ў перамозе свайго куміра, тлумачылі такія прагнозы маладосцю, камбінацыйным стылем гульні, смеласцю чэмпіёна свету. Прыхільнікі Батвінніка верылі ў непахісную волю і логіку экс-чэмпіёна свету і на гэтай падставе сцвярджалі, што Батвіннік здолее паўтарыць аднойчы ўжо ўзяты рэванш у матчы са Смысловым.

Як бачым, прагнозы былі самыя процілеглыя. Гэта зразумела. Таль — малады, Батвіннік амаль у два разы старэй за яго. У Таля — схільнасць да гуманітарных навук (ён закончыў філалагічны факультэт Латвійскага дзяржаўнага ўніверсітэта). Батвіннік жа — доктар тэхнічных навук. Яшчэ з дзіцячых год Батвіннік вызначаўся сваёй сур'ёзнасцю і заўсёды лічыў самы строгі спартыўны рэжым неад'емнай умовай жыцця і вучобы кожнага шахматыста.

Як жа праходзіў матч-рэванш?

Ужо ў першай партыі Батвіннік зрабіў сур'ёзную заяўку на выйгрыш — ён перамог свайго партнёра. Потым Таль у другой партыі ўзяў рэванш і перамог Батвінніка, але Батвіннік адразу зноў перахапіў ініцыятыву.

Пачынаючы з трэцяй партыі, Батвіннік упэўнена захапіў лідарства ў матчы. Да дзевятай партыі разрыў, праўда, быў мінімальны, але потым нечакана ён стаў хутка расці, і перамогі Батвінніка адна за другой у дзевятай, дзесятай і адзінаццатай партыях матча, па сутнасці, вырашылі вынік паядынку. Батвіннік выйграў матч з лікам 13 : 8, атрымаўшы дзесяць перамог.

І вось упершыню ў гісторыі барацьбы за сусветную шахматную карону экс-чэмпіён свету яшчэ раз (!) вярнуў сваё званне. Да гэтага часу толькі А. Алёхіну ў 1937 годзе ўдалося рэваншыравацца ў матчы з галандцам М. Эйве.

У чым жа прычыны перамогі М. Батвінніка? Перш за ўсё — у яго грунтоўнай падрыхтаванасці да матча. Ён сапраўды здолеў вывучыць дасканала асаблівасці ігры Таля. Батвіннік іграў упэўнена, з непахіснай логікай нейтралізуючы ўсе спробы свайго вынаходлівага праціўніка заблытаць і абвастрыць ігру.

Наадварот, Таль быў зусім непазнавальны і далёкі, як неба ад зямлі, ад сваёй лепшай формы. Як відаць, Таль не рыхтаваўся сур'ёзна да матча, лічачы, што перамога прыйдзе сама па сабе. Таму і аказаўся ён заслужана, хоць і жорстка пакараны.

Нездарма Батвінніка называюць жартам «знішчальнікам маладых талентаў». Сапраўды, яго ранейшыя партнёры па матчах на сусветную карону — гросмайстры Д. Бранштэйн і В. Смыслоў — не дасягнуўшы поспеху ў паядынках з Батвіннікам, неяк непрыкметна «завялі» і пакінулі думку аб сусветным першынстве. Калі ж і Таль пакідае сваё жаданне зноў змагацца за сусветнае першынство, яго чакае таксама лёс папярэднікаў. Але калі ён цвяроза прааналізуе свае няўдачы, спыніць свае бясконцыя гастролі і будзе сур'ёзна працаваць у галіне стратэгіі шахмат, ён яшчэ не раз парадуе ўсіх нас.

Міхаіл Батвіннік зрабіў вялікі спартыўны подзвіг. Напомнім, што ў гэтым годзе ён будзе святкаваць сваё пяцідзесяцігоддзе. Наш чэмпіён свету — яркі прыклад спартыўнага даўгалеццяя. Яго шахматнае майстэрства заслугоўвае сапраўднага вывучэння.

***Аляксей* СУЭЦІН.**



# СЁЛЕТНЯЕ ПЕРШЫНСТВО ПА ШАХМАТАХ У БЕЛАРУСІ

**Склад удзельнікаў чарговага шахматнага першынства Беларусі быў, як ніколі, вельмі моцны. Упершыню чэмпіянат рэспублікі сабраў усіх беларускіх майстроў на чале з гросмайстрам І. Балеслаўскім і міжнароднымі майстрамі. Апрача таго, асаблівую цікавасць выклікаў удзел па-за конкурсам чэмпіёна Азербайджана, аднаго з мацнейшых маладых майстроў краіны В. Багірава, які, дарэчы сказаць, мае гросмайстарскі «бал».**

**Упершыню ў чэмпіянаце Беларусі для кандыдатаў у майстры была вызначана норма майстра (і, натуральна, для першаразраднікаў — норма кандыдата ў майстры).**

**На жаль, да гэтага часу рост шахматнай моладзі ў нашай рэспубліцы не адпавядае нарматывам майстроў. Барацьба за званне чэмпіёна рэспублікі адбывалася галоўным чынам паміж спрактыкаванымі шахматыстамі. Званне чэмпіёна рэспублікі зноў, у шосты раз, заваяваў майстар А. Суэцін. У гэтым турніры ён іграў вельмі востра і ў шасці партыях дамогся перамогі ахвярай фігур. Як і раней, другое месца атрымаў гросмайстар І. Баляслаўскі. У чэмпіянатах рэспублікі заўсёды не хапае яму той рызыкі і задору, які вельмі неабходны, каб стаць чэмпіёнам. В. Багіраву прыйшлося задаволіцца трэцім месцам.**

**Значнага поспеху дамаглася міжнародны майстар паміж жанчын К. Зварыкіна. Яна перавыканала «мужчынскую» норму на кандыдата ў майстры (што для жанчын-майстроў да гэтага часу было амаль недасягальна). Асабліва добра іграла яна супраць майстроў. Выйгрышы ў А. Сакольскага, А. Шагаловіча, Б. Гальдэнава і нічые з В. Багіравым і А. Ройзманам прынеслі ёй чатыры ачкі з васьмі магчымых! Цудоўны вынік!**

**Заслугоўвае ўвагі таксама поспех маладых першаразраднікаў: В. Гладкова (Гомель) і І. Волкава (Мінск). Яны па праву папоўнілі сям'ю кандыдатаў у майстры.**

**Чэмпіён Беларусі па шахматах Аляксей Суэцін дае сеанс адначасовай гульні з маладымі шахматыстамі Мінска.**

Фота А. Дзітлава.



# Гумар і сатыра

Мілан ЯРЫШ

# БЫЎ ПРАФЕСАР ЗАСНІДРОТАЎ ЦІ НЕ БЫЎ?

Мал. А. Кашкурэвіча.

На гэтае пытанне адказваю цвёрда: быў. Не думайце, што, заяўляючы так, я хачу ўступаць у палеміку са светапоглядам ідэалістаў ці матэрыялістаў; агнастыцызм з'яўляецца для мяне варожым, а з дэізмам я расквітаўся амаль што ў самым дзяцінстве.

Ёсць невялічкая легенда аб стварэнні чалавека, якая сярод многіх людзей вядома тым, што яе таксама цяжка даказаць, як і цяжка абвергнуць. Яе перавага, між іншым, у тым, што яна не прэтэндуе на тое, каб быць верагоднай. Аўтар нікога не хоча прымушаць паверыць у гэту легенду; наадварот, уся яна як бы з'яўляецца просьбай да лёгкаверных, каб яны не прыймалі за чыстую праўду аніводнага слова з гэтай неверагоднай, выдуманай і цалкам бязглуздай легенды.

Дык вось. Спачатку над сусветам лётаў дзядуля. Звалі яго Васіль Пракопавіч Заснідротаў, і ляцеў ён са сваёй жонкай Леакадзіяй Панцялееўнай, куды вёў іх сусвет, куды неслі іх фатоны. У міжгалактычную дарогу Васіль Пракопавіч не ўзяў нікога — а ні саюз пісьменнікаў, а ні нават якога-небудзь карэспандэнта. Не паладзіў з кімсьці ў акадэміі, пагрузіў у старую фатонную ракету сваю біяхімічную лабараторыю і сказаў: «Едзем, Леакадзія Панцялееўна, усё адно я тут не знаходжу нічога прыемнага, лепей кінем усё і паляцім».

Леакадзія Панцялееўна аж заплакала. Вядома, яна ніколі не мела магчымасці палюбіць транскантынентальныя палёты, а тым больш цяпер, калі ўзнікла пытанне аб палёце міжгалактычным. Аб вывучэнні сусвету яна мела зусім іншую думку, чымся меў яе муж: «Навошта траціць ілюзіі аб зорках?».

І цяпер яна хацела выкруціцца, каб не ляцець: «Ляці сабе, Вася, адзін. Дарэчы, я хацела пакласці табе грыбкоў у дарогу. Так... Прынамсі, не будзеш замінаць у хаце. Падзівішся на сусвет, толькі не баўся там доўга».

Але стары схапіў яе за руку, уцягнуў у ракету і на ўсе просьбы: «што я там буду рабіць?» — адказваў буркліва: «Час плыве ўсюды аднолькава!».

Пры першай касмічнай скорасці Леакадзія Панцялееўна трохі супакоілася і сказала: «Адчуваю сябе зусім добра, усё адно, як дома»; пры другой пачала азірацца, а пры трэцяй ужо ведала — стары зусім звар'яцеў і сапраўды збіраецца ляцець праз Галактыку.

Спачатку ўсё ішло нішто сабе. Стары рабіў неабходныя вылічэнні і наладжваў аўтаматычны палёт ракеты, а потым, калі не было чаго рабіць, Васіль Пракопавіч стаў ля акна і пачаў кідаць адну за другой вострыя заўвагі: «Зноў нейкая спіральная туманнасць. Сапраўдны хаос! Я гэта, пане-браце, хутка прывёў бы ў парадак, каб толькі не ставілі мне палкі ў колы!».

Леакадзія Панцялееўна, баючыся, каб стары не пачаў зноў пераказваць сваю лаянку з калегамі па акадэміі, амаль не дыхала і моўчкі выбівала са свайго паліто касмічны пыл, які абсыпаў яе, калі старая выходзіла наверх праветрыцца. А Васіль Пракопавіч задумаўся так глыбока, што нават не заўважыў некалькі астэроідаў, якія бязладна швэндалі па сусвеце. Нарэшце ён замкнуўся ў сваёй лабараторыі, а калі на працягу гадзіны не ўдалося ўстанавіць, куды ляцяць гэтыя астэроіды, то заняўся іншым вельмі цікавым доследам. А тым часам Леакадзія Панцялееўна задрамала, забыўшыся накруціць галактычны будзільнік. Колькі часу яна спала, невядома, але раптам пачула, што рыпнулі дзверы, увайшоў Васіль Пракопавіч і, як той змоўшчык, зашаптаў: «Ідзі сюды, Леакадзія Панцялееўна, у цябе вочы на лоб палезуць!» — «Га?.. Што..?» — «Кажу, вочы на лоб палезуць!».

І палезлі. «Ой, божухна! — усклікнула яна.— Ды тут жа нейкія бессаромнікі ў ванне плюхаюцца, голыя, нібы толькі што створаныя панам-богам!»

«Якім табе панам-богам?.. — запярэчыў стары,— гэта я іх стварыў з вуглевадароду. Хай вось яшчэ з тыдзень памокнуць у расоле, а потым дай ім штонебудзь надзець на плечы. Будуць звацца Адамам і Евай. І, дарэчы, кінь ты верыць у свае рэлігійныя забабоны».

Леакадзія Панцялееўна пакрыўджана ўздыхнула: «Эх, Васіль Пракопавіч, каб ты, як быў малады, менш ездзіў па кангрэсах ды радзей бываў на ўсялякіх там пасяджэннях, то мы ўдваіх гэты дослед даказалі б і без вуглевадароду. Гэтая Ева здаецца мне трохі дурнаватай і нейкай касавокай. Але я цябе папярэджваю, што калі ты пачнеш гуляць у святога духа, то гэтая дачушка ў мяне хутка вылеціць з ракеты!»

Тут я хацеў бы перасцерагчы ўсіх тых, хто пажадаў бы маю легенду каментыраваць ці, накшталт Томаса Мана, расцягваць на сотні старонак у выглядзе рамана, што гэта рабіць няварта, бо Леакадзія Панцялееўна сваё рашэнне выгнаць з ракеты толькі што створаных маладых людзей не мяняла, і галоўнай прычынай гэтага была даволі недвухсэнсоўна сказаная фраза — «гэта дачушка», пад якой мелася на ўвазе няйначай як Ева.

На другі дзень выявілася, што аніводнае з абмежаваных мяшчанскіх меркаванняў Леакадзіі Панцялееўны не спраўдзілася, хоць яны і былі прадыктаваны глыбокай жаночай мудрасцю і калектыўным вопытам цэлых пакаленняў раўнівых жонак.

Адам, як толькі выйшаў з ванны, адразу ж выявіў вельмі дзіўную пражорлівасць і, акрамя гэтага, праявіў цікавасць да тэхнічных цацак, якія былі прыдуманы яго творцай.

А Ева з самага ранку пачала круціцца перад люстрам і самавольна, на думку Леакадзіі Панцялееўны, больш чым патрабуе прыстойнасць, падкарацілa сукенку, а калі Васіль Пракопавіч прахозіў ля яе, зрабіла выгляд, што самлела.

«Ты гэтага болей не рабі, — сказаў ёй у адзін з касмічных дзён Васіль Пракопавіч: — Выпадкова ўбачыць Леакадзія Панцялееўна, бог ведае, што падумае».

«Ах, ён мяне не разумее,— уздыхнула Ева ўсімі сваімі высокімі грудзямі,— я такая пакінутая, такая няшчасная, я з задавальненнем вярнулася б назад у ванну з вуглевадародам». І яна заплакала, апусціўшы галаву на плячо прафесара Заснідротава.



Які б гэта быў мужчына, калі б ён у такую хвіліну не адчуў глыбокага жалю да кволага стварэння, што шчодрымі слязьмі крапіла яго сівую бараду! І не гледзячы на тое, а можа быць і з тае прычыны, што ў апошняе дзесяцігоддзе жыццё прафесара цалкам было прысвечана навуцы, Заснідротаў раптоўна адчуў у грудзях прыліў пачуццяў, якіх даўно ўжо не ведаў, і, пяшчотна пагладзіўшы Еву па валасах, сказаў: «Думаю і ніяк не магу дадумацца, дзяўчынка! Як гэта я стварыў табе ў сябры такога балбеса, якога электрычная лічыльная машына цікавіць болей, чымся... кхм!.. кхм!..»

Не палічыце за які аўтарскі намер тое,

што ў гэты момант у лабараторыю якраз увайшла Леакадзія Панцялееўна. На дакор крытыка, што гэткім спосабам я не зусім праўдападобна штурхаю наперад ход падзей, адказваю: раней ці пазней яна заспела б іх пры падобных абставінах, бо такія здарэнні бываюць і на вялікіх прасторах сусвету, не гаворачы ўжо аб малой ракеце.

І вось, калі Леакадзія Панцялееўна ўвайшла ў лабараторыю і з суб'ектывізмам, уласцівым большасці жанчын, ацаніла абстаноўку, то падумала, што падзеі ў сваім развіцці дасягнулі апагею. І тут трэба справядліва сказаць, што трымала яна сябе з годнасцю. Адкашлялася не вельмі гучна, але і не вельмі ціха, каб глухаваты прафесар здолеў пачуць, і калі такім чынам звярнула на сябе ўвагу і яго стварэння,— ускінула галаву і ўсхваляваным, але ўсё ж такі моцным голасам сказала: «Дарагі мой Васіль Пракопавіч, вы павінны вырашыць: або яна, або я».— «Так... але... — заікнуўся прафесар Заснідротаў, якога выводзіла з раўнавагі тое, што, нягледзячы на сваю абсалютную невінаватасць, ён усё ж у глыбіні душы быў засмучаны няясным адчуваннем нейкай віны,— не хочаце ж вы, мая дарагая, каб я гэтае няшчаснае стварэнне выкінуў у прастору, у цемру, на мароз?!. Ды і мае доследы далёка яшчэ не даведзены да канца...»

«Вашы доследы, мой дарагі,— адказала Леакадзія Панцялееўна,— перайшлі мяжу дазволенага, але я маўчала і нічога не гаварыла пра гэтыя твае стварэнні, асабліва пра яе. Як я ўстанавіла, хутка мы будзем пралятаць міма нейкай планетнай сістэмы, у якой абавязкова знойдзецца планета з добрымі ўмовамі для жыцця. Калі ваша старэчая бязглуздасць зайшла так далёка, што ўжо адступаць позна, і вы гэтай дзяўчыне штосьці набаяцалі, то высадзіце мяне з бедным хлопцам на адной з выбраных планет. Ён будзе мне той апорай, пры дапамозе якой у незнаёмым свеце я не буду станавіцца на калені, каб выпрасіць акраец хлеба».

Бедны хлопец Адам тады яшчэ зусім нічога не ведаў ні аб іншых планетах, ні аб розных рэчах, пра якія звычайныя мужчыны ведалі ці імкнуліся рабіць выгляд, што ведаюць. Ён з абыякавым выглядам ляжаў на канапе са штучнага валакна і абыякава жаваў сухую каўбасу, умацоўваючы свае клыкі і карэнныя зубы.

Але Васіль Пракопавіч, пакуль ракета мчалася да незнаёмай планеты, упарта адганяў ад сябе думку, каб дзесьці высадзіць з Адамам і Леакадзію Панцялееўну, хоць апошняя зноў і зноў яму напамінала пра гэта.

І вось, калі прафесар адчыніў люк ракеты і ўбачыў маляўнічую даліну, праз якую, булькочучы, бег ручаёк, і люстранае азярцо, і бананы, і гранаты, і, можна сказаць, усё, што трэба для жыцця, ён нарэшце прыняў рашэнне, а ў душы яго пасля гэтага, як гаварыла Леакадзія Панцялееўна, усталявалася цішыня і спакой...

Пэўныя змены адбыліся і ў душы Леакадзіі Панцялееўны. У яе зарадзілася спачуванне да гэтых, хай сабе трохі кансавокіх, але ўсё ж такі кволых стварэнняў. Не трацячы часу, кінулася яна бегаць па ўсёй ракеце, сабрала анучкі, шматкі, прынесла і зашчабятала: «Вось табе, дзяўчынка, трусікі, каб загараць, а вось парасон, што трапіў да мяне ад маёй прабабкі. Вазьмі сабе яго на ўспамін. Ну, тут і яшчэ ёсць сёе-тое. Маладыя ўсё павінны мець. Бачыце, як я пра вас клапачуся, дзеці. Ды не забудзь, дачушка, насушыць якіх-небудзь бананаў, хто яго ведае, што чалавека чакае. Так, Васілька? Ну, а нам пара ўжо стартаваць».

«Так...— пераступаючы з нагі на нагу, выціснуў з сябе стары, які, глянуўшы на Еву, што забаўлялася ля ручайка, адчуў, як нешта раптам укалола яго ў сэрца,— ды я думаю, што мы з дзяннёк пабудзем тут...».

Леакадзія Панцялееўна цягнула яго ўжо ў ракету:

«А чаго затрымлівацца? Час плыве ўсюды аднолькава!..»

Толькі цяпер зразумеў прафесар усю важнасць хвіліны і свой абавязак перад гэтымі маладымі бездапаможнымі людзьмі. Ён паклікаў іх да сябе і стаў павучаць.

Адам сяк-так слухаў, а Ева, сеўшы спіною да прамоўцы, боўтала нагамі ў ручайку і рабіла выгляд, што не цікавіцца прамовай, а тым часам прафесар Заснідротаў павышаным голасам гаварыў. «А і даў я вам, дзеці, усялякі злак і хлебнае зерне, якія толькі ёсць на планеце, і дрэвы з пладамі, і ўсё гэта будзе вашым харчам...»



Тут ён пачуў, што Ева падазрона пасвіствае. Не ведаючы, як яе супакоіць, прафесар стаў гаварыць толькі Адаму: «З кожнага дрэва дазваляю табе есці плады, але з дрэва пазнання дабра і зла не еш ніколі!» і, убачыўшы вялікія і даволі бязглуздыя вочы Адама, ён раптам адчуў, што ўсё, пра што ён гаварыў, было сказана дарэмна, і ўжо, хутчэй для свайго супакаення, чымся для карысці, дадаў: «І папярэджваю цябе, каб ты не капіраваў свайго творцу і не гуляў у тэрмаядзерныя рэакцыі, бо ты, чалавек, нават не ўяўляеш, што такое стронцый. Праз некаторы час я прыеду да вас хоць паглядзець, бо чуць я ўжо амаль нічога не чую!»

Як толькі ракета знікла за небакраем, Ева пакінула боўтаць нагой у ручайку, падбегла да Адама і запытала: «Дзе тое дрэва, з якога не дазваляецца есці плады?»

І слова нарадзіла слова. І размножыліся народы на планеце, як пясок у пустыні, як кроплі ў акіяне, і людзі расказвалі з пакалення ў пакаленне пра барадатага творцу і чакалі яго вяртання.

Ніхто з іх не мог і падумаць, што Леакадзія Панцялееўна ўпотай папсавала рычагі кіравання ракетай так, каб ужо болей ніколі не сустрэцца з незнаёмай планетай. І людзі на гэтай планеце чакалі творцу, чакалі доўга, але ўсё дарэмна. І таму, што чакаць доўга немагчыма, яны кахалі і размнажаліся, нібыта рабіць гэта загадаў ім дзядуля з доўгай сівой барадой.

І вось праз некаторы час многія перадавыя людзі прыйшлі да вываду, што чалавецтва значна палепшала б, калі б пераканалася, што ўсяго гэтага свавольства не мог нарадзіць адзін нейкі дзядок: адсюль вынікае, што ніколі ніякага дзядулі не магло быць і няма.

Вось так і ўзнікла пытанне, з-за якога паміж сабою на працягу стагоддзяў спрачалася вялікая колькасць людзей: «Быў прафесар Заснідротаў ці не быў?» Безумоўна, людзі на гэтай планеце ніколі нават краем вуха не чулі імя старога прафесара і называлі яго так, як каму хацелася.

Нягледзячы на тое, што спрэчнае пытанне вырашыць было немагчыма, жыццё ўсё-такі ішло, і народы планеты дасягнулі такога прагрэсу, што сталі здольныя на працягу аднаго дня знішчыць і сябе саміх і ўсю планету. А ўсё гэта зайшло так далёка таму, што калісьці нейкі прафесар, якому абрыдлі спрэчкі з калегамі па акадэміі, уздумаў ляцець у міжгалактычнае падарожжа, у якім дзеля цікавасці і жарту стварыў сваіх першых людзей Адама і Еву. І вось аж да гэтага часу спрачаюцца вучоныя. У многім пагаджаюцца, у многім не, але пытанне аб існаванні прафесара Заснідротава ніхто не адважыцца вырашыць а ні адмоўна, а ні станоўча.

І я сам, які яшчэ ў пачатку сваёй легенды так рашуча сцвярджаў, што прафесар існаваў, гавару цяпер шчыра і ўпэўнена: хто яго ведае? Усё можа быць.

Пераклаў з чэшскай мовы

**К. ПАЎТАРЖЫЦКІ.**



## ЗМЕСТ







Зацвілі гладыёлусы. Фотаэцюд І. Бяляева.



У. Лагун. Завочніца.



У. Стальмашонак. Экскаватаршчыкі.

